


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**8** (1018)

ЖНІВЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года

## ЗМЕСТ



**Уладзімір СЦЯПАН**

# НАСТАЎНІК

*(аповесць пра мастака)*

Сяргей Пятровіч Каткоў нарадзіўся 1 кастрычніка 1911 года ў вёсцы Скрыпіцына Пензенскай губерні. У кастрычніку 2011 года было сто гадоў з таго дня.

Пра многіх, хто нарадзіўся тады, — забыліся. Не дзіўна — сто гадоў вялікі тэрмін. А Сяргея Пятровіча памятаюць. Ён быў мастаком і настаўнікам. Засталіся карціны і вучні.

Я спрабую стварыць яго партрэт з фрагментаў, аскепкаў, з адлюстраванняў, з карцін, малюнкаў, фотаздымкаў, успамінаў, лістоў, чорна-белых кінакадраў... Фагменты часам складваюцца, як пазлы, а бывае, што пачынаюць спрачацца паміж сабой, супярэчыць, і тады мая праца спыняецца.

Разумею, што ўсё напісанае, — адно словы, што гэта толькі маё суб’ектыўнае бачанне чалавека, з якім і пашчасціла перастрэцца ў рэальным жыцці толькі двойчы. Аднойчы ўвосень 1973 года Сяргей Пятровіч пацiснуў мне руку на вуліцы, побач з Палацам піянераў, і спытаў, як мяне завуць. Другі раз, вясной 1974 года, я бачыў яго пад калонамі мастацкай вучэльні. Каткоў размаўляў з маім выкладчыкам Кімам Шастоўскім, які калісьці хадзіў да Сяргея Пятровіча ў студыю, у гурток выяўленчага мастацтва.

Упэўнены, што ён маё імя, толькі раз пачутае, і не згадаў бы…. А я Каткова запомніў.

Напэўна, Сяргей Пятровіч шмат разоў даваў сваім вучням заданне намаляваць гарадскі краявід або партрэт добра знаёмага чалавека «па памяці», а кампазіцыю «па ўяўленні». Тое, чым я цяпер займаюся, і будзе выкананнем двух заданняў: партрэт «па памяці» і «па ўяўленні».

---

*__Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)__ нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мастацкае вучылішча імя Глебава (1977) і Тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Служыў у войску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, займаўся кніжнай графікай.*

*Аўтар кніжак прозы «Вежа» (1990), «Сам-насам» (1990), «Адна капейка» (2012). Піша таксама вершы, п’есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

## На беразе Сены

Генадзь Хацкевіч, адзін з вучняў Каткова, паглядзеў мне ў вочы і сказаў, што Сяргей Пятровіч не памёр...

Мяне скаланула, я напружыўся, бо Хацкевіч казаў гэта абсалютна сур'ёзна. Так сапраўдны вернік кажа пра Бога. Напэўна, па выразе майго твару ён зразумеў, адчуў, што я зусім разгубіўся, таму і дадаў: «Я на свае вочы бачыў, як Сяргей Пятровіч прагульваецца па Парыжы, па набярэжнай Сены, побач са старым мостам...»

Менавіта ў Парыж, на думку Гены Хацкевіча, пераносяцца пасля зямнога жыцця ўсе добрыя мастакі. Менавіта Парыж робіцца тым святым месцам, дзе жывуць сапраўдныя жывапісцы.

Ні пра паэтаў, ні пра пісьменнікаў з музыкамі, ні пра артыстаў і архітэктараў, а толькі пра добрых і сапраўдных мастакоў сказаў Хацкевіч.

Гэтая метафара, якая вельмі ярка малюе вобраз мастака дваццатага стагоддзя, гэта выказванне вучня пра настаўніка мне запомнілася, засела і ў маёй памяці. Я не ведаю, ці марыў Сяргей Пятровіч пабачыць Парыж. Магчыма, што марыў, нават хутчэй за ўсё марыў, і можа быць, абмовіўся ў якой-небудзь не вельмі абавязковай размове з дзецьмі, стоячы на высокім беразе Бярэзіны, раскладаючы эцюднікі, выціскаючы на палітру фарбы, што хоча ўбачыць Парыж... А па свінцовай і цёмнай Бярэзіне, па высокай пасля дажджоў вадзе ў гэты час маленькі буксір цягнуў смаліста-чорную баржу, поўную абчасанага жоўтага бярвення. І чатыры хвалі цягнуліся за ім, як ніткі за іголкай.

Вучань запомніў словы, кінутыя настаўнікам, а потым, калі сам стаў дарослым, вярнуў, як падарунак, любімаму настаўніку яго мару. Перанёс яго ў далёкі Парыж, у горад мастакоў, і там пакінуў... Мне здаецца, што гэта сапраўдная ўдзячнасць — непадробная, шчырая, дзіцячая...

Сяргей Пятровіч пахаваны на Паўночных могілках у Мінску, у горадзе, дзе пражыў большую частку жыцця.

## Вясновая вада

У доме Сяргея Пятровіча ёсць невялікая карціна ў музейнай раме. Палатно вісіць на той самай сцяне, што і два старыя абразы, але на некаторай адлегласці. Абразы чырвона-карычневыя, а краявід Каткова — срэбна-шэры, як пярліна. Просты і немудрагелісты. Вада ракі, плямы снегу, цёмныя дрэвы, шэрае неба. Магчыма, гэта выпадковае супадзенне, што абразы вісяць каля ўвахода ў пакой, а краявід — у куце. На тым самым месцы, дзе павінны быць абразы.

Я заўсёды, калі бываю ў доме, гляджу на гэты дасканалы твор. Часам доўга і ўважліва ўглядаюся, а часам толькі слізгану позіркам па палатне, бо баюся заглыбляцца ў вільготнае вясновае паветра, баюся пераступіць цьмянае золата старадаўняй рамы і апынуцца там, дзе можна трапіць у халодную і цёмную веснавую ваду і намачыць ногі.

## Мужчынскі занятак

Калі мужчына з радасцю і задавальненнем прыбірае калядную ёлку, калі ён лічыць такі занятак важным і адказным, калі ён не шкадуе на гэта часу... То гэта сведчыць, што ён і ў цуды працягвае верыць, хоць нават і родным дзецям у гэтым не прызнаецца. Напэўна, толькі таму, што саромеецца.

Сяргей Пятровіч любіў прыбіраць ёлку, любіў важдацца як з крохкімі далікатнымі шклянымі цацкамі, так і са звычайнымі, зробленымі са шчыльнага кардону, а потым пафарбаванымі... Складаў з іх казачныя кампазіцыі і прыдумляў неверагодныя гісторыі. Спрачаўся, даводзіў, што менавіта гэтая цацка павінна ўпрыгожваць тую ці іншую зялёную галінку.

Цяпер ёлку прыбірае яго дачка Святлана Сяргееўна.

У яе шмат «старамодных» ёлачных цацак. Ёсць упрыгожанні, каб уздзець на вяршаліну дрэва. Яны падобныя да ледзяшоў, ёсць і вельмі прыгожыя зоркі, і шары, і ліхтарыкі, і гадзіннікі, шышкі, яблыкі і лялькі, якія яшчэ Сяргей Пятровіч купляў і прыносіў дамоў.

У гэтым годзе Святлана «старадаўнія» цацкі на ёлку не чапляла, можа, разбіць баялася?

## Першая прэмія

Ілья Рэпін напісаў карціну, дзе намаляваў маладзенькага чорна-кучаравага Аляксандра Пушкіна, які чытае свае вершы перад самім Гаўрылам Раманавічам Дзяржавіным. Справа адбываецца ў адным з залаў знакамітага Царскасельскага ліцэя. «...Старик Державин нас приметил и, в гроб сходя, благословил» — так праз гады напіша Пушкін, калі прыгадае той зімовы дзень. Строфы верша прысвеціць сябрам-ліцэістам.

Мне трапіўся іншы ўспамін пра прыезд старога Дзяржавіна ў знакаміты Царскасельскі ліцэй на экзамены па рускай славеснасці. Яго пакінуў малады Дэльвіг. Была зіма. Студзень месяц. Пад’ехала карэта. З яе з цяжкасцю вылез старэнькі і кволы паэт Дзяржавін — ён жа быны міністр юстыцыі, — у цяжкім футры, накінутым на плечы. Да вялікага паэта падляцеў усхваляваны малады Дэльвіг, які забаўляўся вершамі, каб стаць на калена і пацалаваць руку. Хацеў нешта ўзвышанае прамовіць, можа, і вершамі, але стары Дзяржавін, стомлены дарогай, нецярпліва спыніў яго самым будзённым, празаічным і жыццёвым пытаннем: «Браток, а дзе ў вас тут прыбіральня?»

Калі я размаўляў з вучнямі Сяргея Пятровіча, слухаў іхнія ўспаміны, то не адзін раз лавіў сябе на думцы, што дзеці памятаюць, як сваё захапленне і здзіўленне ад велічы настаўніка, так і тое, што настаўнік быў чалавекам звычайным, добрым, не пазбаўленым пэўных хібаў і слабасцей.

Аднойчы, яшчэ сямікласнікам, Сяргей Каткоў паказаў на выставе два эцюды. Творы тыя заўважылі, і малады мастак атрымаў адну з дзевяці прэмій, якімі заахвочвалі самых лепшых. Такую ж прэмію атрымаў на той выставе «АХРРа» ў Пензе і мастак Іван Сільыч Горушкін-Саракапудаў. Менавіта ён будзе выкладаць у Сяргея Каткова, калі той праз год паступіць у Пензенскае мастацкае вучылішча на педагагічнае аддзяленне.

Дарэчы, настаўнікам Горушкіна-Саракапудава быў знакаміты Ілья Яфімавіч Рэпін.

## Падрамнікі і рамы

Прыкладна гады за два да сваёй смерці Сяргей Пятровіч пачаў перабіраць і парадкаваць свае працы. Іх было шмат. Вялікія, маленькія, на палатне, на кардоне, на паперы. Справа гэта клопатная, а здароўя ўжо не было, каб выдзіраць цвікі, якімі палатно мацуецца да падрамнікаў. Ён папрасіў сына дапамагчы.

Удвух, за некалькі дзён, яны разабраліся з усім жывапісам, які захоўваўся ў майстэрні. Палотны паздымалі са старых падрамнікаў і згарнулі ў рулоны. Стэлажы, паліцы і майстэрня на другім паверсе дома апусцелі. Напэўна, майстэрня пачала здавацца вялікай, як дом, з якога вынеслі мэблю. Скажаш слова, кашлянеш, уздыхнеш цяжка — рэха адкажа, і пачуццё адзіноты з'явіцца і агорне...

Тыя рулоны з карцінамі паклалі пад сцяну ў маленькай каморцы, побач з майстэрняй, а зверху звалілі старыя рамы, падрамнікі, планшэты, рэйкі. Там яны і праляжалі больш за трыццаць гадоў.

Знайшла бацькавы палотны дачка Святлана. Дарэчы, прозвішча яна сабе пакінула бацькава — Каткова. Паглядзела і здзівілася. Карціны тыя — сапраўдныя, сумленныя.

Некаторыя палотны давялося чысціць, мыць... Старых падрамнікаў, тых, на якіх калісьці былі гэтыя творы, даўным-даўно няма. Пачаліся абмеры. Трэба было зрабіць амаль сто новых падрамнікаў і рамы. Святлана замовіла майстрам. Зрабілі, прывезлі, і, як часта бывае, шмат што пераблыталі. Да адных карцін падрамнікі не падыходзілі, а да іншых — рамы.

Атрымалася, што пасля таго, як усе працы да вялікай выставы былі падрыхтаваныя, засталося шмат рам і падрамнікаў.

Калі б я быў схільны да містыкі, верыў у прадбачанне будычыні, то падумаў бы, што рамы і падрамнікі засталіся не зусім выпадкова. Што гэта Сяргей Пятровіч перадае дачцэ прывітанне і кажа, каб яна пісала замест яго. А можа, не толькі Святлане, але і ўнучцы Зоі такім чынам дасылае сваё пажаданне.

Але я не містык, на жаль...

## Дзеці

Маладых мастачак Свету Каткову і Зою Літвінаву, якія малявалі на палотнах і кардоне нешта не зусім зразумелае, але незвычайнае і запамінальнае, тое, што прыцягвала яго ўвагу і выклікала цікавасць, Сяргей Пятровіч абзываў «ведзьмамі».

Вось так! Ні многа ні мала. Маленькая Святлана была яго дачкой, а высокая Зоя — яе сяброўкай. Здаецца, ужо тады ён здагадваўся і прадчуваў, што яны будуць здзіўляць сваім жывапісам, як дзве «вядзьмаркі».

## Натура

Нават калі б я і не ведаў, што ўсе краявіды і нацюрморты Каткова напісаны з натуры, то ўсё адно зразумеў бы гэта. Па тым, як пакладзены мазкі фарбы, па тым, як расце на дрэве лісце, па тым, як вецер моршчыць возера, па незвычайным колеры далягляду. У майстэрні, без натуры, мастак намаляваў бы далягляд манатонна блакітным, ды яшчэ і расплывістым...

Мне радасна ад таго, што і Сяргей Пятровіч лічыў: выразней за натуру нічога няма.

## Фотаздымак

Улетку ў вёску Андросаўка Куйбышаўскай вобласці, дзе знаходзілася ў эвакуацыі сям'я Каткова, прыйшоў чарговы ліст. У канверце было і яшчэ нешта, акрамя ў чатыры разы перакладзенай паперы. Там быў вузкі фота-

здымак. На ім Сяргей Каткоў у гімнасцёрцы і з букецікам белых палявых кветак. Рамонкі і нейкія дробныя, светлыя кветачкі. На першы погляд здаецца, што гэты здымак зусім пазбаўлены ваеннай суровасці і мужнасці. Маладзенькі салдат і кветкі. Мне не даводзілася бачыць такіх фотакартак. Зусім мірны здымак. А дата і подпіс страшныя: «10 ліпеня 1942 года. Дзеючая армія».

Хтосьці можа сказаць, што гэта сентыментальны здымак. Цынік абзаве яго пахабным. А я скажу, што фатаграфія мужная і суровая.

Можа, і на гэтую картачку глядзела яго дачка ў той далёкай Андросаўцы, калі стомленая мама расказвала ёй пра бацьку...

## Дзіцячыя малюнкі

Усе малюнкі сваёй унучкі Сяргей Пятровіч збіраў і складваў, а потым наклейваў на вялікія лісты паперы і кожны акуратна падпісваў. Тое ж самае рабіў і з сотнямі, тысячамі малюнкаў сваіх вучняў. Ён, як ніхто іншы, ведаў ім цану. Разумеў, што калі цяпер іх не захаваць, усе яны раней ці пазней зробяцца папяровым смеццем. І тады іх ніхто і ніколі не ўбачыць, не здзівіцца… Не заблішчаць ад радасці вочы і не пачнуць калаціцца рукі вядомага беларускага мастака, архітэктара, лекара, навукоўца... І яны — дарослыя людзі, не змогуць нават на пару хвілін стаць тымі школьнікамі, маленькімі мастакамі, для якіх звычайны пэндзлік — сапраўднае багацце. А калі да таго пэндзліка яшчэ дадаць альбом, ды скрыначку фарбаў, то... Здагадаліся... Гэта і называецца — шчасцем.

Каткоў захоўваў шчасце.

І іншая, не менш важная, педагагічная мэта была ў такім шчырым, пунктуальным і самаадданым збіранні малюнкаў. Сяргей Пятровіч марыў і рыхтаваўся да напісання кніжак-падручнікаў, па якіх дзеці змогуць вучыцца маляваць. Разумеў, што не ў кожнага ёсць такі настаўнік, як ён.

Напісаць кнігі не паспеў.

## Сакрэт

Бярэш акварэльныя фарбы, паперу, ваду і пэндзлік. Больш нічога і не трэба. Пэндзлік дакранаецца да вады, да фарбы, а потым да паперы. Адбываецца цуд, або фокус, тут як каму падабаецца. На паперы ўзнікаюць кучаравыя аблокі, спалоханыя ветрам дрэвы і кусты, неба, вада. Яблык, падобны да гарматнага ядра, да сонца, груша, якая нагадвае пудовую лямпачку. З’яўляюцца, нібыта з ніадкуль: чырвоны кубак і сіняя талерка, гліняны збан, кветка і апельсін, парашутыст і паляўнічы, краб і кіт, плямісты ягуар, вогненны тыгр і маленькая пташка.

Зорка, літара, хваля, вясёлка, кроў...

Ды ўсё, што заўгодна, спіс — бясконцы.

Той, хто пакажа дзіцяці гэты цуд, адразу ж у яго вачах зробіцца значным, не такім, як усе. Чараўніком, калі хочаце. Не жадаеце чараўніком, тады — штукаром...

А калі той штукар або чараўнік яшчэ і дзіця навучыць ствараць на паперы ўласны свет, то ён з чалавека значнага адразу ж ператворыцца ў вялікага.

Менавіта гэта і адбылося з Катковым. Усе яго вучні кажуць пра яго, як пра вялікага чалавека. А Сяргей Пятровіч навучыў іх усяго толькі правільна трымаць у руцэ пэндзлік, беражліва дакранацца да фарбы, не забываць мачаць пэндзлік у слоік з вадой і не браць той пэндзлік у рот.

Запэцкаеш твар — усе будуць смяяцца.

## Хто там?

Была ў Сяргея Пятровіча дзіўная якасць. Для сучасных педагогаў вельмі рэдкая. Заключалася яна ў тым, што Каткоў прыходзіў у дом да сваіх вучняў, каб спакойна пагаварыць з бацькамі пра будучыню іхняга дзіцяці, свайго вучня. Па сабе ведаю, як гэта няпроста. Час для такой сур'ёзнай размовы трэба знайсці, а яго заўсёды бракуе. А добрага выніку можа і не быць. Таму што бацькі заўсёды лічаць, што яны лепш за ўсіх ведаюць, якую прафесію трэба абраць для свайго нашчадка, каб яго жыццё было шчаслівым, цікавым і заможным. Але настаўнік малявання заўсёды знаходзіў час, каб сустрэцца з бацькамі вучня. А мог жа плюнуць на ўсё, узяць палатно пад паху і пайсці на эцюды або ў майстэрні зачыніцца і пісаць-маляваць сваё. Ды, у рэшце рэшт, мог пасядзець з сябрамі, выпіць, за жыццё пагаварыць...

А ён ехаў на ўскрай горада. У трамваі мерз, аўтобусаў на прыпынках чакаў... Прыходзіў і доўга пераконваў дарослых, што з іх сына ці дачкі можа атрымацца сапраўдны мастак. Каткоў як ніхто іншы разумеў, што потым, праз некалькі гадоў, а можа, і тыдняў, нічога не паправіш, назад не павернеш, і жыццё не пераробіш. Разумеў і тое, што чалавек павінен займацца тым, да чаго ў яго ляжыць душа.

Часцей за ўсё бацькі Сяргея Пятровіча слухалі: ён умеў пераконваць, бо верыў. І не перашкаджалі дзіцяці паступаць у мастацкую вучэльню, школу, інстытут.

Што яму было з таго?

На аднаго мастака рабілася на зямлі больш! На аднаго чалавека, расчараванага, незадаволенага жыццём, менш.

Цікава, ці згадваюць сёння знакамітыя творцы, як шмат гадоў таму ў бацькоўскую кватэру прыходзіў без запрашэння невысокі настаўнік малявання? Сяргей Пятровіч уздыхаў і нягучна грукаў у дзверы.

Ці падумаў тады хоць хто-небудзь, ці прыйшло каму ў галаву, што гэта «лёс яго стаіць у парозе і настойліва грукае ў дзверы»?

## Лацінскі надпіс

З усіх спраў, якімі займаўся Каткоў на працягу свайго не вельмі доўгага жыцця, галоўнай былі дзеці. Спачатку я думаў, што столькі мастакоў выйшла з яго студыі, з гуртка выяўленчага мастацтва толькі таму, што гэта было адзінае месца ў Мінску, дзе вучылі маляваць. Потым, калі размаўляў з вучнямі, зразумеў, што памыляюся. Студыі выяўленчага мастацтва і гурткі ў горадзе працавалі, выкладчыкаў хапала. Але Сяргей Пятровіч з'яўляўся асобай унікальнай. Ішлі менавіта да яго і гарнуліся да яго.

Ведаеце, што на срэбным даляры напісана? «Адзіны з многіх».

## Альбом для малявання

Каткоў вучыў дзяцей маляваць праўдзіва.

У мяне ёсць такі альбомчык для малявання. Маленькі, у кардоннай вокладцы, запэцканы, абтрапаны і пацёрты. На шэра-зялёнай вокладцы намалявана акварэльнай фарбай рамка, арнамент і пара сцяжкоў. Напісаны, як і належыць пісаць на сапраўднай кнізе, загаловак: «Свята ў Мінску». А на апошняй старонцы, зусім «па-даросламу» друкаванымі літарамі: «Мінскі Палац піянераў». Чытаецца, як назва выдавецтва.

З гэтага альбомчыка я даведаюся пра свята ў горадзе больш чым з самага разгорнутага фотарэпартажу на старонках часопіса або газеты тых гадоў. Ды і не толькі пра само свята, але і пра жыццё людзей. Дванаццаць акварэльных малюнкаў Радзевіча Валянціна, вучня чацвёртага класа школы № 60.

Вось маршыруюць салдаты, лунаюць чырвоныя сцягі, едуць па вуліцы танкі, над Домам Урада — салют, падобны на россып завялых гваздзікоў. Такі ж салют, толькі гваздзікі белыя, па-над тагачасным гатэлем «Беларусь». Вось зялёныя грузавікі гарматы цягнуць, а ў кузаве, як пешкі на шахматнай дошцы, салдаты ў зялёных касках...

Ёсць два малюнкі з выявай помніка Леніну на плошчы. Побач, як вусень, сунецца-паўзе калона дэманстрантаў са сцягамі.

На адным з малюнкаў адлюстравана студыя. Гэта мой любімы малюнак. Два акны, на падаконніках пудзілы птушак, тумба з цёмнай скульптурай каня, чатыры мальберты, за імі сядзяць дзеці. Над іх галовамі вялікая ўрачыстая жырандоля. Намалявана так, што, здаецца, можна пачуць, як шоргаюць алоўкі па шурпатай паперы, як сапуць дзеці. Магчыма, каб памер альбома быў вялікі, то і студыйцаў за мальбертамі змясцілася б на гэтым малюнку больш. Можа, і свайго настаўніка Валянцін Радзевіч намаляваў бы. Эх, шкада, замалы той дзіцячы альбомчык!

А апошняя карцінка зусім неверагодная. Яна як самы апошні і значны акорд гучыць. У пакоі за сталом сядзяць на табурэтках мужчына і жанчына. Яны п’юць гарэлку. Вялікая і празрыстая бутэлька ў руцэ мужчыны нахілілася над шклянкай. На тумбачцы — патэфон, на сцяне — радыё і люстэрка.

За гэты апошні малюнак пастаўлена рукой Сяргея Пятровіча пяцёрка. Альбомчык, між іншым, 1952 года.

Вось такі сацыялістычны рэалізм!

## Радзіма

Я не магу спытаць у Сяргея Пятровіча, што для яго — Радзіма? Калі б такая магчымасць была, то, думаю, што адказам на гэта кароткае пытанне было б маўчанне. Ва ўсялякім выпадку, у размове ўзнікла б паўза. Не ведаю, як доўга б мастак маўчаў, спрабаваў знайсці патрэбныя словы. Можа, мне зрабілася б няёмка і сорамна за сваё некарэктнае і ў нечым інтымнае пытанне.

Хоць адказ я ведаю. Для чалавека рускага па нараджэнні і выхаванні, па светапоглядзе, па жыццёвым вопыце, па...

У мяне ёсць шмат лістоў Сяргея Пятровіча, ёсць яго нататнікі з запісамі розных гадоў, ёсць яго фотаздымкі...

А самае галоўнае, што ў мяне ёсць камп’ютарны дыск, на якім сабрана больш за сотню жывапісных твораў. Калі іх ўсе праглядзець хутка, — так, быццам гартаеш кнігу, калі адзін малюнак змяняе другі, — то можна на свае вочы пабачыць адказ на складанае пытанне. Можна ўбачыць Радзіму Каткова.

Там будуць ручаі, азёры і рэкі (маленькія і вялікія), вуліцы Мінска і пагоркі Лагойшчыны, пляжы Палангі і горы ў Крыме, рэкі Сібіры, палявыя кветкі і дарогі са сцежкамі, яблыкі, грыбы і вінаград, залатагаловыя сланечнікі, велічныя масты і сціплыя вясковыя кладкі….

Там будзе Радзіма! Каткоў амаль заўсёды пісаў тое, што яму падабалася, тое, што любіў і што яго хвалявала.

Упэўнены, што калі б я спытаў, за што ён ваяваў пяць доўгіх гадоў, то пра Радзіму Сяргей Пятровіч мог бы і не сказаць. З лістоў зразумела, што ваяваў ён за жонку Таццяну, за дачку Святлану, за зруйнаваны дом на прывакзальнай вуліцы ў Мінску… За дом, у якім жыў да вайны, і за той дом, які марыў пабудаваць.

## Пра што не скажа Святлана Каткова

Пра тое, што Сяргей Пятровіч часам бываў моцна п’яны і злаваўся на савецкую ўладу за глупствы, якія гэта ўлада робіць. Праўда, ён звычайна маўчаў, не скардзіўся, нікога сваімі праблемамі не «грузіў».

Не скажа і пра тое, што бацька не любіў хлусні мастакоў, адчуваў сябе перад ёй абяззброеным і бездапаможным. Як на словах, так і ў сваіх творах.

Пра тое, што яму падабаліся высокія жанчыны. Што ў іх прысутнасці ён раставаў і гатовы быў дараваць ім нават глупства. У кожнага ёсць слабасці.

Пра тое, што Каткоў рускі і нарадзіўся ў Пензенскай губерні, што не прымаў дзялення мастакоў па нацыянальнай прыкмеце. А калі і дзяліў, то толькі па таленце і заслугах.

Пра тое, што ўсе дзеці, незалежна ад таго, хто бацькі, для яго аднолькава любімыя. Ні нацыянальнасць дзіцяці, ні сацыяльнае становішча яго бацькоў для Сяргея Пятровіча значэння не мелі.

Пра тое не скажа, што Каткоў зрабіў для беларускага мастацтва больш чым многія народныя і заслужаныя. Больш чым акадэмікі, прафесары і дацэнты... Быў ён усяго толькі настаўнікам, кіраўніком студыі выяўленчага мастацтва ў Палацы піянераў.

## Фікус і пальма

Я часта праходжу па вуліцы Кірава. Там паштовае аддзяленне, дзе я атрымліваю пасылкі, бандэролі і грашовыя пераводы. Добрая ціхая вуліца Мінска. На ёй, — насупраць паштовага аддзялення — Палац піянераў. Той самы, дзе месцілася знакамітая студыя выяўленчага мастацтва Сяргея Пятровіча. У яе хадзіла вельмі шмат маіх знаёмых. Цяпер яны мастакі, архітэктары, лекары, пісьменнікі — некаторыя вядомыя. Палац піянераў змяніў шыльду. Па-над уваходам збудавалі нешта са шкла і металу. За шклом, на другім паверсе, стаяць велізарны фікус і пальма. Раней яны стаялі ў вестыбюлі і на іх можна было дзівіцца і з вуліцы.

Яны, напэўна, памятаюць Сяргея Пятровіча. Можа, калі ён, апрануты ў белы вайсковы кажух, абуты ў валёнкі, праходзіў праз вестыбюль, спыняўся, сціскаў у левай руцэ зімовую шапку, а правай дакранаўся да цёмнага і шчыльнага, нібы з цыраты, ліста фікуса. Мружыў вочы і спяшаўся да дзяцей.

Мне трапілася некалькі старых дзіцячых малюнкаў таго самага фікуса. Тады ён такім вялікім яшчэ не быў.

## Недзе ў Парыжы

Архітэктар Леанід Левін расказваў, як у Парыжы, у майстэрні Барыса Заборава, яны выпівалі за Сяргея Пятровіча. Абодва — яго вучні, наведвалі студыю адразу пасля вайны.

Усе майстэрні мастакоў вельмі падобныя. І не важна, у якім горадзе, у якой краіне і нават які час, якое стагоддзе за вокнамі. Майстэрню лёгка ўявіць.

Думаю, што не толькі Леанід Левін і Барыс Забораў успамінаюць свайго першага настаўніка, студыю, планшэты, мальберты, паперу на чатырох канцылярскіх кнопках, пах фарбы і голас Сяргея Пятровіча.

Майстэрні ў мастакоў падобныя, а вось краявіды за вокнамі заўсёды розныя.

## Лісты з вайны

Не ведаю, ці ёсць хоць адзін чалавек, які думае пра тое, што праз шмат-шмат гадоў яго лісты будуць чытаць. Тады, калі не будзе ўжо ні яго, ні таго, каму тыя лісты адрасаваныя. Нармальныя людзі пра гэта не думаюць.

Чытаць чужыя лісты небяспечна. Яны могуць лёгка разбурыць той вобраз чалавека, які склаўся. У прыватнай перапісцы заўсёды шмат асабістага, нечаканага. Чытаеш, і амаль заўсёды адчуваеш сябе тым сумна вядомым «трэцім лішнім». А яшчэ чытанне чужых лістоў нагадвае вывучэнне медыцынскага дыягназу. Ведаеш, што ў чалавека баліць, што яго турбуе, на што ён скардзіцца, якія мае надзеі.

Так, вобраз моцнага і ўпэўненага мужчыны руйнуецца, але ад гэтага Каткова пачынаеш паважаць яшчэ больш. Бо і ў яго баліць гэтак жа, як і ў цябе. І ён не ведае, чым гэты боль суняць, як ад яго пазбавіцца, дзе ад яго схавацца. І ён хоча, каб хутчэй усё дрэннае скончылася, хоча ў Мінск, да жонкі і дачкі, якую нават не бачыў... Але боль свой ён хавае, бадзёрыцца, верыць, што напісаным словам зможа падтрымаць і блізкіх. Бо і ім кепска, галадна і цяжка жыць. І таму ён піша пра што-небудзь лёгкае, вясёлае і прыемнае. Расказвае, як яго накармілі трафейнай тушонкай і шакаладам. Піша, што пасля такога пачастунку тыдзень не будзе есці...

Вечар. Цішыня. На стале, спехам збітым з негабляваных дошак, ліст пакамечанай паперы і хімічны аловак. Каткоў сядзіць на скрыні ад снарадаў. Ён смяротна стаміўся, хочацца есці і спаць. Але правая рука бярэ аловак, левая прыціскае паперу. З'яўляюцца першыя словы: «Добры дзень, мая дарагая Танюша...»

Добра, што амаль усе франтавыя лісты Сяргея Каткова захаваліся.

## На сопках Маньчжурыі

Вайна скончылася. Германія капітулявала. Перамога. Салдаты едуць дадому. Яны радуюцца, што засталіся жывыя, п'юць гарэлку, спірт, віно з жалезных кубкаў, а то і проста з рыльца. Закусваюць, паляць. На гімнасцёрках зіхцяць узнагароды.

Салдат чакаюць. Усе вязуць падарункі: жонкам, нявестам, бацькам, дзецям... І Сяргей Каткоў едзе з Кёнігсберга ў Мінск. Толькі так здарылася, што няма ў яго падарунка для пяцігадовай дачкі. Замітусіўся, распераджываўся, што

з пустымі рукамі ў Мінск з'явіцца. Але сябар франтавы дапамог. Выцягнуў са свайго пакоўнага брызентавага заплечніка нешта вялікае і даў Каткову. Аказалася — гадзіннік трафейны, з ланцужкамі і гірамі. Павесялеў салдат: зараз і ён вязе дачцэ падарунак, ды не абы-які, а сапраўдны гадзіннік з зязюляй...

Нядоўга прабудзе Каткоў у Мінску, усяго толькі пару гадзін, а потым эшалон пойдзе далей, на Далёкі Усход. Для Сяргея Пятровіча вайна ў траўні 45-га не скончыцца. Яму яшчэ ў Маньчжурыю трэба... Але перадаць падарунак ён паспее. І гадзіннік з зязюляй будзе чакаць у Мінску, калі жонка з дачкой вернуцца з эвакуацыі.

А Сяргей Каткоў будзе глядзець, як выгінаюць цёмныя спіны вялікія сопкі, убачыць сакуру ў дробных кветках, крывыя хвоі, пагады… Будзе спяшацца намаляваць усё новае і нязвыклае. Зусім побач, на старой слівіне, нябачная зязюля гучна і аднастайна пачне лічыць дні.

Калі ў Маньчжурыі раніца, у Мінску ноч. І там зязюля на трафейным гадзінніку крыкне. Пяцігадовая дачка прачнецца.

Калі я гэта ўяўляю, мне робіцца радасна.

## Нататнік

Дробным і вельмі акуратным почыркам, роўнымі радкамі, чарнільнай самапіскай, у танных нататніках сотні запісаў. Яны пра тое, як трэба вучыць дзяцей маляваць. Кожны запіс — канкрэтная парада і назіранне.

Сяргей Пятровіч быў упэўнены, што паспее падрыхтаваць і выдаць некалькі невялікіх кніг. Малюнкі ж сабраныя і раскладзеныя па тэмах, засталося толькі напісаць тэкст. А дакладней — сабраць шматлікія запісы з дзённікаў і нататнікаў.

«...Чаму менавіта дзіця здатна адлюстраваць тое, чаго яно ніколі не бачыла, пра што і не ведала? Можа, таму, што яно — частка чалавечага роду і ў гэтым яго сувязь з велізарным чалавечым калектывам. Дзіцяці дапамагае папярэдняя праца і памяць усяго роду, усіх мінулых пакаленняў?

А можа, дзіця малюе зусім несвядома? Як чалавек з заплюшчанымі вачамі, або? Якія бясконцыя магчымасці ў дзіцячай творчасці?»

Не паспеў.

У тым, што такія кнігі патрэбныя дзецям і настаўнікам, ён не сумняваўся ніколі. На жаль, разабраць запісы, спарадкаваць і скласці з іх кнігу ўжо ніхто не зможа.

Ды і ці патрэбныя цяпер такія кнігі?

## Купалы

Каткоў дамовіўся наконт аўтобуса і абвясціў студыйцам, што праз тыдзень усе, хто жадае, змогуць паехаць на эцюды ў горад Полацк. Хваляванне і радасныя зборы. Дзеці ў адрозненне ад дарослых збіраюцца хутка. А хлопчыкі — хутчэй, чым дзяўчаткі.

Аўтобус пад'ехаў да Палаца піянераў і сталі загружаць эцюднікі, планшэты, тэчкі, кардонкі, паперу, чамаданы і торбы. Пачаліся заўсёдная барацьба і спрэчкі за лепшыя месцы. Так заўсёды: нехта каля акна хоча сядзець, а нехта наперадзе месца ўпадабаў, побач з шафёрам. Старэйшыя на задняе сядзенне ўладкоўваюцца, а нехта побач з настаўнікам... Разабраліся, супакоіліся, і аўтобус

пакаціўся з Мінска. Адразу за горадам неба зрабілася нязвыкла высокім, а далягляд расхінуўся, быццам шторы рассунуліся.

Я добра ведаю дарогу на Полацк. Яна самая звілістая і самая маляўнічая ў Беларусі. Лагойск, Плешчаніцы, Бягомль... Бярэзіну пераехалі, спыніліся, папілі вады з крыніцы. Пабегалі, пакрычалі, вадой халоднай хлапчукі дзяўчынак аблілі, праверылі, ці ўсе пасажыры сабраліся, і зноў паехалі.

У Полацку — Сафійскі сабор над Дзвіной і Спаса-Еўфрасіннеўская царква, купал якой тады блакітнай фарбай быў пафарбаваны. Іх дзеці і малявалі. І Сяргей Пятровіч працаваў побач са сваімі вучнямі. Некалькі дзён з раніцы да вечара па Полацку хадзілі і малявалі мінскія дзеці са сваім настаўнікам. Алоўкам і пэндзлікам прапорцыі сабораў вымяралі, на паперу пераносілі. Стараліся, каб падобна атрымалася.

Пасля той паездкі, як і прынята ў сапраўдных мастакоў, зрабілі справаздачную выставу ў сваім Палацы піянераў. Хваляваліся. Радаваліся.

Вось пасля выставы ўсё і пачалося. Прыйшлі чыноўнікі, зірнулі — і за галаву схапіліся. На дзіцячых карцінах цэрквы, ды яшчэ з крыжамі. Выставу хутка знялі, на Каткова даносы давай пісаць. Абвінавачванні ў рэлігійнай агітацыі на настаўніка пасыпаліся...

Гэта цяпер падобныя абвінавачванні смешнымі здаюцца. Гэта цяпер чыноўнікі з Міністэрства адукацыі самі ў царкву ходзяць і са свечкамі стаяць. А тады, у годзе 1967 ад нараджэння Хрыстова, прыйшлося камуністу Каткову тлумачальныя ў розныя кабінеты насіць, глупствы выслухоўваць і даводзіць, што памылачка атрымалася, не дагледзеў. Трываў, а што зробіш?

Дзецям, што ў Полацк ездзілі і цэрквы з крыжамі малявалі, Каткоў і слова не сказаў. За выставу тую заахвоціў. Каму пэндзлік, каму альбом, а каму і скрынку фарбаў падараваў.

## Саджанцы

Пабудаваў уласны дом у Смаргоўскім завулку...

Не! Не так трэба пачаць гэтую гісторыю.

Кажуць, што кожны мужчына павінен пабудаваць дом, выгадаваць сына і пасадзіць дрэва. Дык вось і дачка, і сын ужо былі. І вялікі дом ў 1956 годзе Сяргей Пятровіч будаваць пачаў. Праўда, па сённяшніх мерках, дом той маленькі, але хто тады так далёка ў будучыню зазіраў. Заставалася пасадзіць дрэвы. Гэтым ён і заняўся. Сам выбіраў саджанцы, сам капаў ямкі і сам саджаў. Саджанцы выбіраў самыя лепшыя. Дрэвы прыжыліся. Увесну на адной яблыньцы з’явіліся кветкі. Дрэўца маленькае і маленечкіх бела-ружовых кветак усяго некалькі. Але і гэта цешыла гаспадара. Неўзабаве пялёсткі абляцелі, з’явілася завязь і сталі расці яблыкі. Да канца лета на яблыньцы вісела чатыры прыгожыя яблыкі. Дзевяцігадовы сын мастака Сашка хадзіў вакол дрэва і глядзеў на гэтыя недаспелыя яблыкі. І здаваліся яны яму такімі смачнымі, што сліна запаўняла рот, слова мовіць замінала. Ён, вядома ж, адшчыкнуў бы адзін, але бацька забараніў. Хацеў, каб яблык паспеў, сокам наліўся. Хацеў пераканацца, што правільнае дрэўца выбраў, што не памыліўся...

Але хіба хлапчуку забароніш, хіба пацан можа ўтрымацца ад спакусы прывабнай, што так нахабна вісіць перад вачыма. Саша вырашыў не парушаць бацькоўскі загад-забарону і яблык прывабны не адрываць. Прыцягнуў табурэтку, залез на яе і адкусіў кавалак яблыка.

Не ведаю, салодкі ён быў ці кіслы. Сяргей Пятровіч убачыў на наступны дзень той пашкоджаны і сапсаваны яблык. Паказаў свайму сябру, дзіцячаму паэту. Пасмяяліся мужчыны, а на хлопчыка нават і не сварыліся.

Каля дома расце высокая груша, пасаджаная Сяргеем Пятровічам. Увосень цяжкія карычнева-залацістыя плады шумна падаюць у познія звялыя кветкі, у траву, а часам і на першы снег.

Саша цярэбіць ссівелыя вусы і як ні стараецца, а не можа ўспомніць смак таго знакамітага яблыка.

## Вялікі сад

У Пятра Каткова, бацькі Сяргея Пятровіча, была вельмі вялікая сям'я — адзінаццаць дзяцей. Калі нараджаўся сын, бацька саджаў яблыню ці грушу, а калі дачка, то сліву або вішню. З часам атрымаўся вялікі фруктовы сад. Шмат дрэў, а каб яны добра раслі, то іх трэба і даглядаць як след: паліваць, абрэзваць, абкопваць...

Гэта толькі гарадскія думаюць, што яблыкі і вішні на дрэвах самі растуць. Пётр Каткоў наняў аднавяскоўца, каб той дапамагаў яму вялікі сад даглядаць. Той дапамагаў. Але калі прыйшла ў вёску Скрыпіцына Пензенскай губерні калектывізацыя, то злыя і гультаяватыя зайздроснікі сказалі, што Пётр Каткоў — эксплуататар, а па-простаму — кулак.

Бацьку будучага мастака судзілі і адправілі туды, дзе і павінен знаходзіцца варожы савецкай уладзе элемент, гэта значыць — у турму. Ужо ніхто не памятае, колькі ён там адседзеў-адпрацаваў, пакуль высветлілася, пакуль разабраліся, што судзілі шматдзетнага селяніна дарма. Адпусцілі. Худы і змардаваны «эксплуататар» прыцягнуўся да роднай сястры. Тая жыла пры бальніцы, у Пензе. Яна ўзрадавалася, пасадзіла ледзь жывога брата за стол, пачала частаваць. Паеў Пётр Каткоў, але пасля турэмнага недаядання памёр ад завароту кішак.

Гэтую сямейную і страшную гісторыю пра свайго дзеда Пятра расказаў мне Саша Каткоў, а яму распавёў бацька. Я перагледзеў амаль усе карціны і малюнкі Сяргея Пятровіча, але нідзе не ўбачыў, каб ён усхваляў Савецкую ўладу, камуністаў, калектывізацыю...

А вось яблыні, грушы, вішні і слівы вельмі любіў маляваць.

## Зайздрасць

Ведаеце, які твор я лічу добрым? Такі, пра які хочацца сказаць ці падумаць: «Шкада, што яго зрабіў не я...» У Сяргея Каткова такія карціны ёсць.

## Мальберт

Мы разбіралі і парадкавалі са Святланай Катковай падрыхтаваныя да юбілейнай выставы карціны Сяргея Пятровіча. Прыдумлялі назвы, перапісвалі і ўдакладнялі памеры. Прыйшлося адсунуць груваскі мальберт, які стаяў каля сцяны і замінаў здымаць са стэлажа палотны. Святлана сказала, што гэта стары мальберт — Сяргея Пятровіча.

Я працягваў працаваць, перамерваць палотны, размаўляць. Але гаварыць пачаў крышку спакайней і цішэй, быццам у майстэрні быў яшчэ нехта.

Нябачны, але жывы.

## Дзіцячы часопіс

Васіль Вітка працаваў галоўным рэдактарам дзіцячага часопіса «Вясёлка». Ён захацеў палепшыць афармленне свайго часопіса і запрасіў на пасаду мастацкага рэдактара Сяргея Пятровіча Каткова.

Сяргей Пятровіч мог адмовіцца, спаслацца на занятасць: студыя выяўленчага мастацтва, дом трэба дабудоўваць, свае карціны пісаць, выкладаць у мастацкім вучылішчы і гэтак далей, і таму падобнае. Усе прычыны сапраўдныя, важкія, сур'ёзныя.

Але Каткоў пагадзіўся! З яго прыходам у «Вясёлку» на старонках часопіса пачалі з'яўляцца дзіцячыя малюнкі — жывыя і непасрэдныя.

Не ведаю, цешыла гэта рэдакцыю, радавала? Але тое, што гэта вельмі цешыла дзяцей, чые малюнкі там друкавалі, то гэта — дакладна.

Цалкам магчыма, дзеці, якія дасылалі карцінкі з гарадоў і вёсак, і не ведалі, што сваёй славай абавязаны Сяргею Пятровічу.

## Самая шакаладная цукерка

Мастакі, нават калі становяцца барадатымі дзядзькамі і страката апранутымі цёткамі, застаюцца ў нечым дзецьмі. Кіраваць такімі складана. Мастакі ўладу над сабой не прымаюць. Вельмі цяжка з імі ладзіць і дамаўляцца. Кожны ўяўляе сябе геніем, а сваю працу лічыць выключнай. І тут не так і важна, што гэта за твор: графічны аркуш з піянерамі, ці краявід з гмахамі новабудоўляў. Партрэт перадавіка вытворчасці, механізатара, ветырынара, ткачыхі, вучонага, або гэта стэнд з сацыялістычнымі абавязацельствамі і лозунгамі...

Здаецца, усе даўно знаёмыя паміж сабой, усе «браты па зброі» і браты па крыві, усе работнікі аднаго цэха... Але ж і заказы, а галоўнае — грошы, кожны атрымлівае асобна і ў бухгалтарскай ведамасці кожны ставіць свой асабісты подпіс, як і на карціне.

Шмат гадоў Сяргей Пятровіч быў старшынёй Савета мастацка-вытворчага камбіната Саюза мастакоў БССР. Сабачая праца, калі падумаць. Ворагаў нажываеш імгненна. Кожнаму ж не дагодзіш... Але Сяргея Пятровіча выбіралі на гэтую адказную пасаду зноў і зноў.

І не толькі таму, што многія з тых, хто атрымліваў на камбінаце заказы і выконваў іх, былі вучнямі Каткова. Хоць і гэта сваю ролю адыгрывала: ведалі, давяралі. Думаю, што галоўным і вырашальным было тое, што Каткоў умеў працаваць з дзецьмі. Умеў з імі ладзіць, улічваць і бачыць індывідуальнасць кожнага, умеў кіраваць кагалам вольналюбівых і непаслухмяных.

Ну, а размяркоўваць грошы, гэта як цукеркі дзяліць: заўсёды складана і цяжка, і заўсёды будуць тыя, хто палічыць, што менавіта яму недадалі, а вось таму — рудому і вушастаму далі лішнюю або самую шакаладную цукерку.

## Ціхім голасам

У 1970 годзе Сяргей Пятровіч атрымаў майстэрню на вуліцы Першамайскай, на самым апошнім паверсе, на дзясятым. Вышэй толькі неба. Майстэрня Каткова мела агульны калідор і сцяну з майстэрняй Віталя Цвірко. Шумлівага, вясёлага і аблашчанага ўладамі жывапісца. Мастакі сябравалі, і Цвірко часта клікаў Каткова на эцюды. У Цвірко была машына і шафёр. Мастакі складалі

ў багажнік усё неабходнае, выпраўляліся за горад. Знаходзілі прыгожае месца і пісалі.

Віталь Цвірко мастак вельмі добры. Хуткі, смелы, шырокі, з яркай індывідуальнасцю, з мастацкім нахабствам.

Каткоў спакайнейшы, больш асцярожны і павольны.

Зараз я часам параўноўваю творы гэтых двух майстроў, якія пісалі адны і тыя ж краявіды, якія стаялі ўсяго праз некалькі крокаў адзін ад аднаго. Работы Каткова мне бліжэй. Ёсць у іх дзіцячае захапленне прыродай, тое захапленне і здзіўленне, якія немагчыма падрабіць, якія не заменяць ні майстэрства, ні эфектнасць, ні смеласць, ні мастакоўскае нахабства.

Я не ведаю, якую малітву пачуе Бог першай, прамоўленую гарматным, важкім басам, ці прамоўленую ціхім шэптам, дзе нават і некаторыя словы гучаць неразборліва?

Пасля эцюдаў, у майстэрні, мастакі часам выпівалі і гаварылі пра нешта абсалютна нявартае, дробязнае і нязначнае…

За вокнамі стаяла вялікае мінскае неба. Часам на ягоным блакіце з'яўляўся маленькі крыжык ластаўкі.

## Саша Кішчанка

Сяргей Пятровіч сябраваў з Яўгенам Красоўскім і Мікалаем Тарасікавым. Але гэтыя мастакі былі яго аднагодкамі, розніца ў некалькі гадоў не лічыцца. І такое сяброўства мне зразумелае. Яно трымаецца на падобных жыццёвых каштоўнасцях, на падобных фактах біяграфіі.

Частым госцем у доме Каткова быў і Аляксандр Кішчанка. Сяргей Пятровіч называў яго Сашам. Хоць і розніца ва ўзросце прыстойная, і погляды на мастацтва розныя, а яны сябравалі. Выпівалі, шмат гаварылі і не толькі пра мастацтва, смяяліся, а выпіўшы, часам за сабакам па двары бегалі. Каб злавіць, абняць таго цуцыка і прадэманстраваць, як яны яго любяць. Хто мацней і гарачэй! Смешна, але сапраўдныя мастакі, яны — такія, нават у праявах сваіх пачуццяў.

Можа, Сяргей Пятровіч хацеў, каб Саша Кішчанка стаў яго зяцем? Ну, калі не Святлану ўзяў у жонкі, то Зою Літвінаву, якая Каткову як дачка была. А можа, калі гледзеў на маладога і таленавітага мастака, ён сябе згадваў, думаў пра ўласныя планы, якія не спраўдзіліся...

Аляксандр Кішчанка напісаў вялікі партрэт Сяргея Пятровіча. Калі я той партрэт успамінаю, то адразу ж і іншы твор Кішчанкі паўстае перад вачыма — «Партрэт маці».

Падобныя пачуцці рукой мастака вадзілі, калі ён гэтыя партрэты пісаў, вельмі падобныя.

## Дамавая кніга

У доме нумар шэсць па Смаргоўскім завулку заўсёды шмат народу жыло. Дзеці, блізкія сваякі, далёкія, сваякі сваякоў, сябры дзяцей, госці, мастакі з сем'ямі і людзі ад мастацтва далёкія... Усім хапала месца.

Калі разгарнуць дамавую кнігу, заведзеную ў 1959 годзе, то ахнеш. Колькасць тых, хто быў прапісаны ў розныя часы ў доме нумар шэсць, здзівіць.

Сяргей Пятровіч не мог адмовіць і амаль усім даваў згоду.

## Пташачка вылецела

Ёсць фотаздымак, на якім малады Сяргей Каткоў і яго жонка Таццяна. Плячо да пляча, глядзяць у аб'ектыў. Вельмі сур'ёзныя маладыя муж і жонка.

Дзеці, Святлана і Саша, калі сядзяць за сталом, маўчаць або размаўляюць, спрачаюцца ці нават сварацца... Вельмі падобныя на бацькоў. Гляджу на іх, успамінаю чорна-белую, яшчэ даваенную картачку, і разумею, што ў той момант, калі фатограф пстрыкнуў — «птушачка вылецела».

## Чорны раяль

Патэлефанавала Святлана Каткова і запрасіла на адкрыццё выставы Сяргея Пятровіча ў гістарычным музеі.

Я пераблытаў час, і мы ўсёй сям'ёй прыйшлі на дзве гадзіны пазней. Дзверы музея зачыненыя, у вестыбюлі вартаўнік у накінутым на плечы вайсковым бушлаце. І жонка, і дачка мяне аблаялі, абвінавацілі ва ўсіх смяротных грахах... Але праз некалькі дзён мы хадзілі па прасторнай і светлай зале, па той жа, дзе напярэдадні была выстаўлена калекцыя знакамітых слуцкіх паясоў...

У куце стаяў канцэртны раяль. На ім невялікі партрэт Сяргея Пятровіча, які напісала Зоя Літвінава, здаецца, што і свечка была побач з партрэтам. Так, сапраўды, стаяла васковая свечка.

Я здзівіўся, як шмат захавалася твораў і ў якім яны добрым стане. Толькі потым даведаўся, чаго каштавала Святлане падрыхтоўка выставы, колькі часу, нерваў, сродкаў... Гледачоў у той вечар аказалася мала, і я нават узрадаваўся, што прапусціў урачыстае і шумнае адкрыццё. І цяпер ніштo не будзе замінаць спакойна хадзіць па зале і глядзець карціны.

Некаторыя творы ўспомніў, бачыў амаль сорак гадоў таму на розных рэспубліканскіх выставах. Астатнія здзіўлена разглядаў, пераходзіў ад аднаго да другога, чытаў подпісы..

Калі сыходзіў з музея, то падумаў, што Сяргею Пятровічу пашанцавала з дачкой. Потым падумаў, што і Святлане пашанцавала з бацькам.

У чорным канцэртным раялі, як у начным спакойным возеры, адлюстроўваўся партрэт Каткова і некалькі лямпачак, яны мігцелі, як зоркі. Не, як яркажоўтыя гарлачыкі, якія так любіў маляваць мастак.

## Споведзь

Адзін мастак, сівабароды, у гадах, заціскаў каленямі далоні і расказаў такое. Гаварыў і глядзеў у запэцканую фарбай падлогу сваёй майстэрні. Гаварыў ціха, як сабе. Хоць навошта чалавек стане распавядаць нешта сабе самому, калі ён і так гэта ведае.

Дык вось мастак расказаў, як праз тыдзень беспрабуднай п'янкі, пасля бяссоннай ночы ногі самі прывялі яго на вуліцу Кірава да Палаца піянераў. Ён не быў там гадоў пятнаццаць. Як паступіў у мастацкую вучэльню, а потым і інстытут скончыў, але так і не заходзіў да свайго настаўніка. Ногі самі прывялі. Патаптаўся, шапку зняў і пайшоў у студыю. Некалькі дзяцей сядзелі за мальбертамі і малявалі нацюрморт з гіпсавай галавой.

Сяргей Пятровіч яго сустрэў так, быццам яны ўчора развіталіся, так, быццам гэты трыццаціпяцігадовы мужчына на заняткі прыйшоў. Прагаварылі да вечара. Віна выпілі тры бутэлькі. Потым пешкі дамоў да Сяргея Пятровіча пайшлі. Сыпаў дождж, а яны ішлі і гаварылі-гаварылі... Дакладней, гаварыў той мастак, а Каткоў толькі слухаў. Дайшлі да Смаргоўскага завулка.

Каткоў прывёў свайго былога вучня да сябе. Накарміў, спаць паклаў. Ноччу некалькі разоў уставаў, як да хворага дзіцяці.

А чаго той мастак да Каткова прыходзіў? Ды жыць не хацеў, жонка з сынам сышлі. Ва ўласным таленце расчараваўся. А калі насамрэч, як ён мне сказаў, а сам у падлогу глядзеў і хмыкаў, то заходзіў ён да Сяргея Пятровіча адно, каб развітацца.

Той мастак і цяпер жывы, карціны піша.

## Пах фарбы

1971 год. Святлана Каткова з дачкой Зояй на руках падымаецца на дзясяты паверх. Ліфт не заўсёды працуе, вось і даводзіцца пехам. Зоя і хадзіць навучылася ў майстэрні. Тупала паміж палотнамі, планшэтамі, дыхала пахамі алейных фарбаў, лакаў розных, растваральнікаў... Часам яна спала на вялікім балконе ў вазку, а мама Святлана з хроснай мамай Зояй Літвінавай працавалі.

Потым Зойка маленькая прачыналася і яе кармілі.

Нядзіўна, што і яна зрабілася мастачкай. Гэта як у цыркавых сем’ях, калі дзеці вырастаюць побач з арэнай, а вакол гімнасты, жанглёры, дрэсіроўшчыкі, цыркавыя жывёлы, пахі арэны і мільганне яркіх і пярэстых касцюмаў... Ці як дзеці тэатральных акцёраў пачынаюць сваё жыццё за пыльным аксамітам куліс.

Кім стане і што будзе рабіць унучка Сяргея Пятровіча Каткова — Зоя Луцэвіч — было прадвызначана.

Ды і куды падзецца з такімі генамі?

## Папяровы караблік

Сяргей Пятровіч вельмі любіў маляваць караблі, караблікі, лодкі, параходы, буксіры, баржы, байдаркі, плыты... Калі намалявалася панарама ракі, возера, мора, то абавязкова і лодкі там будуць. Што ж гэта за рака, мора, калі лодкі там няма?

Не пытаўся, але ўпэўнены, што з аркуша паперы Сяргей Пятровіч мог хутка змайстраваць не толькі шапку, каб дзіцяці на эцюдах сонца ў галаву не пякло, але і самалёцік з мудрагелістым хвастом, і, вядома ж, караблік...

Стаіць каля ручая настаўнік, а побач вучні-дзеці. Вясна, сонца яркае свеціць, на дахах ледзяшы зіхацяць, цені на снезе ўльтрамарынавыя, сінія, капяжы сыплюцца... Настаўнік і дзеці глядзяць, як плынь нясе белы папяровы караблік. Вось ён і знік за паваротам, за кустамі.

Цяпер і пра далягляд можна расказаць дзецям, пра тое самае месца, дзе ўсе паралельныя лініі ў адну кропку сыходзяцца…

А маленькі караблік плыве...

## Мара

У Сяргея Пятровіча была мара. Ён вельмі хацеў стварыць у Мінску музей дзіцячага малюнка. Ёсць жа такі ў сталіцы Арменіі...

Мне здаецца, што ў ім заўсёды было б весела і бесклапотна. А самае галоўнае, што экспазіцыю можна мяняць хоць кожны тыдзень. Бо дзеці малююць і малююць, а грошы за сваю творчасць не патрабуюць.

## Гонар

Сяргей Пятровіч ганарыўся сваімі настаўнікамі. Асабліва вядомым рускім мастаком Іванам Сілычам Горушкіным-Саракапудавым. Даведаўся я гэта ад вучняў Каткова, якія з гонарам кажуць пра свайго настаўніка — вядомага беларускага мастака Сяргея Пятровіча Каткова.

## Беларусь

Каткоў прыехаў у Беларусь маладым чалавекам. Служыў тут у войску. Застаўся. Ажаніўся. Жыў. Працаваў. Тут і пахаваны.

На пытанне, чаму застаўся, у мяне ёсць адказ. Думаю, што Сяргей Пятровіч Каткоў палюбіў Беларусь. Калі нехта мне не верыць, то няхай глядзіць карціны. Усе — ад даваенных да самых апошніх. Там гэта відаць.

І сваіх вучняў-студыйцаў ён ненавязліва, без абрыдлівага пафасу, без прыгожых слоў вучыў любіць Беларусь. Разумеў, што без любові мастацтва не бывае.

## Помнік

На краі парку Чалюскінцаў. За дзіцячай чыгункай. На вуліцы Макаёнка знаходзіцца Рэспубліканская школа-інтэрнат для адораных дзяцей. Школа носіць імя Ахрэмчыка...

Раней гэты інкубатар таленавітай моладзі выглядаў эфектна і рэспектабельна, вокны ва ўсю сцяну, шкляныя столі ў майстэрнях, жывыя кветкі і гіпсавыя скульптуры ў калідорах...

Ідэя стварыць гэту школу-інтэрнат прыйшла ў галаву Сяргею Пятровічу Каткову. Ён, магчыма, як ніхто іншы, ведаў, колькі па ўсёй Беларусі — у гарадах, пасёлках, вёсках — таленавітых дзяцей. Ведаў, што многія нават і не мараць стаць мастакамі і музыкамі. Няма ні магчымасці такой, ні сродкаў.

Напісаў Сяргей Пятровіч паперы, выклаў свае меркаванні, пайшоў па кабінетах чыноўніцкіх. Дайшоў да Пятра Машэрава. Патлумачыў, расказаў, пераканаў, што трэба, каб у нашай рэспубліцы такая школа была.

Пабудавалі! Адкрылі ўрачыста! Дзяцей сабралі з усёй Беларусі. А назвалі школу-інтэрнат па прозвішчы народнага мастака Беларусі Івана Ахрэмчыка, які і пальцам не варухнуў, каб гэтая школа была, каб дзеці беларускія там вучыліся.

Думаю, што сённяшнія вучні, ды і ўчарашнія выпускнікі, мастакі і музыкі, нават і не ведаюць, што ні Ахрэмчыка, а Сяргея Пятровіча Каткова павінны шанаваць.

Сумна, але, можа, гэта і праўда, што сціпласць упрыгожвае лепш, чым помнік...

## Паралель

У вялікага італьянскага мастака Джота ёсць цыкл фрэсак, якія распавядаюць пра жыццё хрысціянскага святога Францыска Асізскага. Лепшая з фрэсак тая, на якой немалады прысадзісты манах у цёмным плашчы, вяроўкай падпяразаны, стаіць пад дрэвамі і вучыць, размаўляе з птушкамі. А сюжэт такі. Святы Францыск гуляў дзесьці за горадам, убачыў мноства птушак, якія збіраліся ў чароды, каб ляцець за мора, на радзіму. Птушкі гучна свісталі, шчоўкалі, цвыркалі, спявалі. «Птушкі, сястрыцы мае, калі вы сказалі тое, што хацелі сказаць, то цяпер паслухайце мяне», — звярнуўся манах да птушак. Птушкі змоўклі, і манах пачаў гаварыць-прапаведаваць. Святы Францыск любіў усё жывое і ведаў мову птушак, жывёл і раслін. Вялікія і маленькія птушкі слухалі чалавека, слухалі яго ўважліва, выцягнуўшы шыі...

Калі я гляджу чорна-белыя фотаздымкі, кадры кінахронікі, на якіх зняты Сяргей Пятровіч Каткоў са сваімі малымі вучнямі ў студыі выяўленчага мастацтва або на эцюдах, то заўсёды ўспамінаю менавіта гэтую фрэску Джота з Верхняй царквы Сан-Франчэска ў Асізі.

Францыск верыў, што яго словы будуць пачутыя вялікімі і маленькімі птушкамі, а калі яны паляцяць, то разнясуць Божае слова па ўсім свеце.

Сяргей Пятровіч разумеў мову дзяцей.

Ды і падобны ён на сярэдневяковага манаха неверагодна.

## Зерне

Сыходзячы, мастак пакідае карціны. Калі мастак сапраўдны, то яго творы будуць працягваць жыць, а разам з імі і аўтар будзе працягваць існаваць праз час. Шмат хто пісаў свае карціны і казаў, што піша іх дзеля будучыні. А потым высвятлялася, што ў гэтай будучыні яны і не патрэбныя. Іншыя пра сваю будучыню не клапаціліся, а пісалі і малявалі, бо не маглі не пісаць. Іх карціны вісяць сёння ў музеях.

Ведаю, што будучыню прадбачыць немагчыма.

Але селянін, які кідае ў зямлю зерне, верыць, што яно ўзыдзе.



Анатоль ЗЭКАЎ

# РЭХА

## ПАСЛЯ ЛІЎНЯ

На стыку ліпеня і жніўня,
як бы падкраўшыся здаля,
зямлю памылі шчодра ліўні,
каб чыстаю была зямля.

Яны рупліва шчыравалі
без перапынку на абед.
Здаецца, так адшаравалі,
нібы паркетчыкі паркет.

Аднак не стала больш прывабнай
зямля,
          як і само сяло,
бо столькі друзу з-пад парканаў
раней нябачнага ўсплыло...

---

*__Зэкаў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у камсамольскіх арганізацыях, рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя», літаратурным рэдактарам часопіса «Вясёлка». Цяпер — у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Аварыя сумлення» (1996), «Лісты да цябе» (2005), «Чарнобыльскі вецер» (2006), «Промнік позірку твайго» (2008), «Пад кронай белых аблачын» (2013); сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Каханне на снезе» (2011); прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011); для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані (2003), «Мянтуз сярод мядуз» (2007), «Зязюля Гулюля» (2011), «Не казкі пра Сашку» (2013).*

## НАВАЛЬНІЦА НАД РАКОЙ

Пікамі-штыкамі асака
цэліцца ў нябёсы хмарныя.
З ліўнем заручоная рака
аж пад берагі цяжарная.

У затоцы сціхлі шчупакі,
ментузы на дно зашыліся.
А жахае так, бы ля ракі
гром з маланкай заблудзіліся...

## РЭХА МАЛЕНСТВА

Маё басаногае рэха
блукае па росных сцяжынах,
дзе бегаў у лес па арэхі,
дзе з братам збіралі ажыны,

дзе ў дуплах выпальвалі шэршняў,
а потым ад іх, ашалелых,
наўскач уцякалі паспешна
куды толькі вочы глядзелі,

дзе спорвалі гнёзды сарок мы —
за тое сябе дакараю,
бо й сёння, з гадоў тых далёкіх,
плач птушак душу раздзірае...

А рэха гукае мяне і гукае.

## БАЛАБОЛКА

Ты такая балаболка!
Без усякае прычыны
з толкам дзе,
а дзе без толку
балаболіш без супыну.
Роцік свой не закрываеш
аніколі ўжо нібыта.
Іншай я цябе не знаю
і прывык, аднак, калі ты
язычком усё мянташыш,
нібы ўеш з размоў вяроўкі...

Мне падумаць нават страшна:
ну а што,
як раптам змоўкнеш?



**Юлія ЗАРЭЦКАЯ**

# ДВОЕ З ДВАЦЦАЦІ ДВУХ...

*Аповесць*

## I

На вечар сустрэчы выпускнікоў у N. сельскую школу з 22 вучняў 11 класа 1995 года выпуску з'явіліся толькі двое — Ніначка Лапушынская і Ігар Варашкевіч. І наўрад ці прычынай таму былі нечакана моцныя маразы, якія скавалі зямлю і зрабілі паветра настолькі крохкім, што, здавалася, варта толькі выкаціцца аднекуль хоць якому гуку, як яно рассыплецца на дробныя калючыя часцінкі.

Мароз, можа, і перайначыў планы шмат каго з былых выпускнікоў на гэтыя выхадныя дні, але разладзіць іх дарэшты ўсё ж не мог. Ды і што тут казаць, калі нехта мудры даўно заўважыў: «Хто хоча рабіць — робіць, хто не хоча — шукае прычыны». Таму, вядома, калі б хто захацеў прыехаць, то знайшоў бы такую магчымасць. Любую машыну, якая не завялася, можна паспрабаваць «ажывіць» з дапамогаю акумулятара і зараднай прылады. А можна, калі аўто ўсё ж не завядзецца, адправіцца ў дарогу на аўтобусе, цягніку, электрычцы. Ці патэлефанаваць знаёмым, сябрам і папрасіць іх, каб узялі да сябе ў спадарожнікі. Ды ці мала як у наш высокаразвіты і хуткацечны час можна дабрацца туды, куды трэба…

Тут справа была ў іншым. Але ж што такое «іншае» прымусіла ажно дваццаць дарослых людзей з аднаго выпускнога класа не з'явіцца ў добра вядомы ўсім ім дзень — першая субота лютага — у школу, у сценах якой яны некалі правялі значны адрэзак свайго дзіцячага, падлеткавага і юнацкага жыцця, пакуль было невядома ні іх былым настаўнікам, ні Ніначцы з Ігарам.

---

*__Зарэцкая Юлія Францаўна__ нарадзілася 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Дунілавічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2000). Працавала рэдактарам, загадчыкам аддзела фельетонаў і пісьмаў, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». З 2009 года — галоўны рэдактар часопіса сатыры і гумару «Вожык».*

*Апавяданні друкаваліся ў беларускіх і расійскіх літаратурных часопісах, калектыўных зборніках «Памяць сэрца», «Падарожжа ў свет дзівосаў», «Пакуль б'ецца сэрца». Выйшлі кнігі «Шчаслівыя людзі» (2011), «Суседзі» (2013). Пераможца Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2011 года» ў галіне сатыры і гумару (2012).*

Калі і хацелася камусьці разбірацца ў тым, дык дакладна не былым вучням з іншых класаў. Тыя здзівіліся, калі ўбачылі, што з гэтага «юбілейнага» класа ў школу прыйшлі толькі двое — Лапушынская і Варашкевіч, крыху павохкалі ды разышліся. Маўляў, што тут скажаш: не змаглі як след арганізаваць сустрэчу.

Вось ужо хто сапраўды засмуціўся, дык іх колішні класны кіраўнік Ганна Станіславаўна Свірко. Яна, нягледзячы на тое, што ніхто з былых выпускнікоў 1995 года ёй не патэлефанаваў і не запрасіў на вечар сустрэчы, усё адно прыйшла ў школу. Па-першае, гэты клас хоць і не з'яўляўся адзіным «юбілейным»: былі выпускнікі і з дзесяці-, дваццаці- і нават з трыццацігадовым «стажам», а быў апошнім выпускным класам Ганны Станіславаўны — у тым годзе яна пайшла на пенсію. А па-другое, хлопцы і дзяўчаты маглі заматацца і забыць яе запрасіць або паспадзявацца на тое, што яна і так абавязкова прыйдзе: класны кіраўнік, няхай і былы, ёсць класны кіраўнік...

Выглядала Ганна Станіславаўна добра, нягледзячы на вельмі шаноўны ўзрост. Настаўніца была апранута ў прыгожы сіні шарсцяны касцюм, які прыдаваў ёй стройнасці, а сівыя, акуратна пастрыжаныя валасы і злёгку нафарбаваныя вусны і бровы — дзелавітасці. Працаваць у школу яна прыйшла у 60-х гадах мінулага стагоддзя і вучыла вельмі многіх, у тым ліку тых, хто пазней сам стаў настаўнікам і яе калегам.

Цяпер Ганна Станіславаўна стаяла ў доўгім паўпустым калідоры і шукала вачыма знаёмыя твары. З выгляду настаўніца здавалася ўпэўненай у сабе і спакойнай, але разгубленасць усё ж заўважалася. Крыху пастаяўшы ў адзіноце, яна не спяшаючыся пайшла ў актавую залу, дзе сабраліся былыя выпускнікі і настаўнікі.

— Ганна Станіславаўна, добры вечар! — падбегла да яе Ніначка Лапушынская, як толькі настаўніца зайшла туды. — Як вы сябе адчуваеце?

— Добры вечар, Ніначка, добра, — усміхнулася настаўніца, убачыўшы сваю былую вучаніцу. — Нязвыкла тут, праўда...

— Ой, ды нам усім старым выпускнікам тут чамусьці няўтульна, — згодна заківала галавой Ніначка. — Школа і вялікая, і прыгожая, і з выгодамі, а — нейкая не родная. Нібыта госць тут, быццам чужы... Хаця цяперашнім вучням у ёй добра вучыцца! Не тое, што некалі нам у старой: цесна, нязручна, а чамусьці ўспамінаецца...

— Я таксама часта ўспамінаю старую школу, сумую па ёй, — уздыхнула Ганна Станіславаўна. — І ўсіх вас помню. Але час ідзе, усё мяняецца...

Нядаўна ў вёсцы пабудавалі новую сучасную школу — вялікую, з мноствам класаў, кабінетаў, з актавай залай... І цяперашнія вучні нават не ўяўлялі, што ў ранейшай школе цепліліся печы, і вучням-старшакласнікам спачатку трэба было разгружаць брыкет, які прывозілі звычайна на сінім «ЗІЛе» ў двух прычэпах, а затым усю зіму штодня насіць да печак бачкі з палівам. Тады вучыліся ў дзве змены, бо не хапала класаў, і нават давялося аб'яднаць у адзін невялікі пакой кабінет завучаў і настаўніцкую.

Ганна Станіславаўна памятала, як разам са знікненнем асобнай настаўніцкай сярод выкладчыкаў незваротна знік і нейкі агульны настрой, дух, які лучыў розных па ўзросце, адносінах да жыцця і да працы людзей. Бо адно — пасядзець разам на перапынку або «фортцы», шчыра пагаварыць, пажартаваць, неяк адно аднаму раскрыцца, зблізіцца, і зусім іншае — толькі павітацца ды захапіць са стала стос сшыткаў. Так і са школай. Старая школа нябачна аб'ядноўвала цэлыя пакаленні былых школьнікаў, яе сцены бачылі і чулі столькі ўсяго — і сумнага, і смешнага — што гэтыя сцены абавязкова

належала б залічыць да «гістарычных каштоўнасцей». Новая ж школа была для выпускнікоў «пустой». Яна не выклікала ніякіх пачуццяў. Дзіўна прызнаваць, але гэта сапраўды так: сцены значылі вельмі шмат. Як заўважыў бы філосаф, духоўнае знаходзіцца ў прамой залежнасці ад матэрыяльнага. А ўспамінаць старую школу ў сценах новай неяк не атрымлівалася...

— Ніначка, — сказала Ганна Станіславаўна, — нешта я, акрамя цябе, нікога з нашага адзінаццатага пакуль не бачу. Позняцца, ці, можа, запрашэнні не атрымалі?.. А ты каго бачыла?

— Пакуль толькі Ігара Варашкевіча, — быццам просячы прабачэння ў настаўніцы, адказала Ніначка і паглядзела па баках, спадзеючыся ўбачыць некага з былых аднакласнікаў. — Мабыць, не заўважыла астатніх. Павінны абавязкова падысці. Вунь колькі былых выпускнікоў з усіх класаў!..

— Сапраўды, шмат. Напэўна, не заўважыла, — пагадзілася Ганна Станіславаўна. — Пасталелі, павырасталі, не ўсіх і пазнаеш... А вось тваіх аднакласнікаў, мой апошні адзінаццаты клас, думаю, усіх пазнаю, хоць многіх не бачыла ажно пятнаццаць гадоў. Гэта ж мой любімы клас!.. Як стала вашай класнай з пятага, дык і вяла да выпуску. Вас выпусціла са школы — і сама пайшла нарэшце на пенсію. На маіх вачах вы раслі, сталелі, сустракалі сваё першае каханне… Усе вы як мае дзеці. Пра кожнага думаю, перажываю: як склалася жыццё? Яно ж цяпер няпростае…

Ганна Станіславаўна, здаецца, выказалася. Змоўкла, зноў пільна агледзела залу і, не ўбачыўшы нікога са сваіх апошніх выпускнікоў, сумелася.

Тым часам Ганну Станіславаўну заўважылі і іншыя выпускнікі — хто маладзейшы, хто старэйшы — і паспяшаліся падысці да яе, каб павітацца. Дзіўна: дарослыя людзі, а перад былым класным кіраўніком, настаўнікам, міжволі нібыта зноў станавіліся вучнямі. Ганна Станіславаўна ажывілася, на яе твары з’явілася ўсмешка. Яна ўглядвалася ў твар кожнага, пазнавала, называла па імені і ні разу не памылілася. Распытвала, дзе хто жыве, працуе, як сям’я... І яны, дарослыя мужчыны і жанчыны, адказвалі, злёгку чырванеючы, не асмельваючыся падманваць. Прывіты інстынкт школьніка спрацоўваў, ці што?..

А зала шумела. Чуліся воклічы: маўляў, гэта ты, як змяніўся ці змянілася, смех, прывітанні… Раптам на сцэне нехта папрасіў цішыні, пачаўся святочны вечар. Вядучыя — хлопчык і дзяўчынка (на выгляд вучні пятага-шостага класаў), прыгожа апранутыя — хвалюючыся, прывіталі ўсіх прысутных і запрасілі да мікрафона дырэктара школы. З залы на сцэну падняўся, лёгка ўзбег па прыступках Аляксандр Васільевіч Буйноў. Ён кіраваў школай ні адзін дзясятак гадоў — яшчэ з таго часу, калі яна была невялікай, драўлянай, кожны год сустракаў няцямлівых першакласнікаў і праводзіў выпускнікоў. А былым вучням бачыць гэты сапраўды родны твар заўсёды было вельмі прыемна і шчымліва да слёз. Асабліва блізкім ён стаў для многіх выпускнікоў у гэтай новай тыповай цаглянай школе — нібы добрае «видение» са старога школьнага жыцця.

Любілі Аляксандра Васільевіча не толькі як настаўніка, але і як чалавека, які многім вучням на яве адкрыў і паказаў вялікі свет жыцця, іншыя, далёкія адсюль прасторы. У школе даўно дзейнічаў турыстычны гурток, у яго мог патрапіць любы жадаючы. Але як утрымацца ў ім? Як паказаць сябе надзейным таварышам, які ніколі нікога не падвядзе, з якім не страшна адправіцца ў сапраўдны паход? Для гэтага трэба было добра вучыцца, наведваць усе сходы гуртка, ведаць «турыстычную» тэорыю і ўмець прымяняць яе на практыцы... Вядома, усё гэта не так проста і ні кожнаму пад сілу, затое ўсе намаганні аказ-

валіся вартымі таго, каб патрапіць у лік тых шчаслівчыкаў, што збіраліся ў чарговае падарожжа не толькі па Беларусі, а і далёка за яе межы. Дзе толькі не пабывалі вучні, асабліва тыя, хто закончыў школу да 90-х гадоў, калі ўсе жылі ў адной вялікай краіне — СССР! І на Камчатцы, і на Кольскім паўвостраве, і ў Каракумах і Кызылкумах, і ў Крыме... Тады падарожнічаць было прасцей, цяперашнія вучні на такія адлегласці не замахваліся. Занадта вялікія выдаткі. Дзе ўзяць грошы? Раней школьнікі іх зараблялі, дапамагаючы калгасу. Зараз столькі не заробіш. Але ж не толькі ў геаграфіі справа! Вядома, далёкія падарожжы заўсёды вабяць. Аднак і свае родныя прасторы не менш прыгожыя і цікавыя.

Аляксандр Васільевіч, хоць гады і стараліся браць сваё, трымаўся ўпэўнена. Высокі, хударлявы, падцягнуты, з прамой спіной: шматгадовыя турыстычныя паходы вымушалі арганізм трымацца ў тонусе. І голас — нібыта нягучны, але чутны ўсім, з уладнымі ноткамі — быў ранейшым. Дырэктар традыцыйна прывітаў былых вучняў, падзякаваў за тое, што змаглі знайсці час, каб наведаць школу. Калі ж пачалі паказваць на экране слайды з турпаходаў, не вытрымаў і сумна заўважыў:

— Абстаноўка і ўмовы могуць быць рознымі: горы ці раўніна, спякота або холад, але вось тое, што аб’ядноўвае розных людзей, якія сабраліся разам, заўсёды адзінае: агульны настрой, дух, мэта. Калектывізм. Сягоння гэтае паняцце стала не актуальнае, не моднае. Ад яго крывяцца, як ад чагосьці, што патыхае нафталінам... Ну, гэта не дзіўна. Людзі з радасцю выкінулі на сметніцу гісторыі «савецкія» ідэалы і прынцыпы, не забыўшыся перад гэтым выцерці аб іх ногі. Маўляў, і Саюз быў несапраўдны, і ідэалы надуманыя, і мы дурні, што ва ўсё гэта верылі ды прытрымліваліся высокамаральных прынцыпаў. Але нічога, цяпер мы рэзка паразумнелі, вочы шырока адкрыліся і на мякіне нас не правядзеш. Гэтым разам будзем дзейнічаць ад адваротнага...

Чаму ён раптам, прывітаўшы ўсіх, пачаў з гэтага, многім было незразумела. І Ніначцы таксама. Можа, хацеў выпускнікам нагадаць былое? А можа, гледзячы на іх, адчуў настальгію? Хто ведае...

— Які саюз, якое грамадства, які калектывізм, якое братэрства? — працягваў Аляксандр Васільевіч. — Толькі індывідуалізм! Толькі я! Вецер перамен начыста выдзьмуў з мільёнаў галоў і жыццёвы вопыт, і гістарычнае мінулае, і народную мудрасць. Адзін у полі не воін. Адна галавешка і ў печы гасне, а дзве і ў полі гараць. Сям’ёй і гарох малоцяць... Так, сказаў неяк класік беларускай літаратуры: «Сіла, брат, у грамадзе». Ну і што з таго? А я буду ў адзіночку караскацца на гару, таму што так хачу. І калі залезу на вяршыню, то гэта буду я, а не «грамада». Мяжа паміж індывідуальным і эгаістычным бывае настолькі тонкая, што яе можна і не заўважыць. І на змену пакаленню «мы» вырасла пакаленне «я», не абцяжаранае ні духам калектывізму, ні вопытам суіснавання ў грамадстве, ні высокамаральнымі прынцыпамі...

Дырэктар змоўк, паглядзеў у залу, мабыць, чакаючы апладысментаў. Але іх не было.

— А мы ўсе, хто тут сабраліся, такія, як і былі — калектывісты, — заключыў ён. — Пакаленне «мы».

Зала заапладзіравала, зашумела: так яно і ёсць...

Затым вядучыя пачалі называць выпускнікоў. Першымі назвалі вучняў, якія скончылі школу пяць гадоў таму. Як звычайна, іх было шмат — ледзьве не ўвесь клас. Мабыць, школьныя повязі паміж былымі аднакласнікамі яшчэ не паспелі развязацца, і кожнаму хацелася даведацца, дзе хто, што і як, пахваліцца, чаго сам дасягнуў у жыцці. «Пяцігодкі» падняліся на сцэну, падзякавалі

настаўнікам, уручылі ім кветкі, а школе падарылі вялікую карціну, на якой было намалявана прыгожае возера.

Выпускнікоў з дзесяцігадовым «стажам», на здзіўленне, аказалася таксама шмат — ці не палова класа. Выглядалі яны больш самавіта, трымаліся спакойна. Папрасілі падняцца на сцэну свайго былога класнага кіраўніка — Ірыну Анатольеўну, настаўніцу біялогіі. Маладая, невысокая, з кароткімі цёмнакаштанавымі валасамі, яна засаромелася, але выйшла на людзі. Ёй уручылі букет белых ружаў. Не забыліся пра іншых настаўнікаў, што іх вучылі, у падарунак школе купілі футбольныя мячы.

Калі вядучыя аб'явілі клас, які скончыў школу пятнаццаць гадоў таму, зала прыціхла, узнікла няёмкая паўза. Ніначка (яна сядзела ў другім радзе, у першым — настаўнікі і, вядома ж, Ганна Станіславаўна) азірнулася, але нікога знаёмага з класа не ўбачыла, нават Ігара Варашкевіча. Вядучыя зноў запрасілі на сцэну былых Нініных аднакласнікаў. Няўжо няма ні аднаго выпускніка 1995 года? Ніначка ўзнялася з месца, глыбока ўздыхнула і зрабіла крок да прыступак, што вялі на сцэну. Затым асцярожна, нібы баючыся спаткнуцца, падышла да мікрафона.

— Добры дзень, добры вечар, — хвалюючыся, пачала яна. — На жаль, нас тут вельмі мала. (Па зале здзекліва пракаціўся лёгкі смех.) Ну так, я і Ігар Варашкевіч. Праўда, яго цяпер не відаць. (Смех, падобны ўжо на гул, прабег яшчэ раз.) Выбачайце, што без кветак і падарункаў, так атрымалася. Але мы вельмі ўдзячныя ўсім настаўнікам, што нас вучылі і выхоўвалі, нашаму класнаму кіраўніку Ганне Станіславаўне... — голас Ніначкі задрыжэў, яна ледзь здолела стрымаць здрадлівыя слёзы і прашаптала. — Дзякуй...

Ніначка не памятала, як спусцілася са сцэны, як села на сваё месца. І тым больш не чула, як вядучыя аб'яўлялі наступныя «юбілейныя» выпускі. Між тым, на сцэну выходзілі былыя выпускінікі іншых класаў, гаварылі цёплыя словы пра школу, дзякавалі настаўнікам, уручалі ім кветкі і падарункі.

Нарэшце вядучыя запрасілі на сцэну былых вучняў, што скончылі школу сорак пяць гадоў таму. Ніначка бачыла, як справа ад яе праз колькі крэслаў паднялася ўпэўненая ў сабе жанчына, апранутая ў чырвоную сукенку (яна, мабыць, і сабрала аднакласнікаў сёння разам), затым амаль выбегла на сцэну і базёра адрапартавала, што іх тут ажно адзінаццаць чалавек! Зала заапладзіравала: усе дзесяць выпускнікоў узняліся з месцаў, але на сцэну не пайшлі, толькі пакланіліся прысутным… Жанчына прачытала ў мікрафон кранальны верш пра школу, затым па памяці назвала па імені і па бацьку ледзьве не ўсіх настаўнікаў, якія вучылі іх.

Ніначка сядзела ўтрапёная, час ад часу пазіраючы на Ганну Станіславаўну, якая па-ранейшаму была ў першым радзе. Збоку яна бачыла: твар былой настаўніцы быў белы.

Апамяталася Ніначка толькі тады, калі віншаванні выпускнікоў скончыліся і пачаўся святочны канцэрт...

## II

Ігар Варашкевіч чуў, як абвясцілі іх выпуск — ён стаяў на калідоры недалёка ад увахода ў залу, але ісці нікуды не збіраўся. «Чаго я там не бачыў?.. Як былыя выпускнікі будуць замілоўвацца і сюсюкацца з настаўнікамі ды абліваццa слязамі, успамінаючы залатыя школьныя гады? А потым гваздзікі падораць і — да наступнай сустрэчы... Ды хто яны мне цяпер, гэтыя настаўнікі? Чаго я павінен слухаць іх занудлівыя: «А памятаеце?..»

Не, Ігар зусім не быў настаўніканенавіснікам, хоць асобныя педагогі значыліся ў ягоным «чорным» спісе. Ну, напрыклад, Людміла Фамінічна Казлоўская, якая магла раптам схапіць яго, пяцікласніка, за каршэнь ды стукнуць галавой аб дошку, калі Ігар не мог правільна рашыць прыклад. І нікому не паскардзішся, ніхто цябе не будзе слухаць, нават бацькі: «Мусіць, заслужыў, калі так». Даўно было, а помніцца… Яна ж аднойчы прымусіла яго з'есці цэлую талерку ненавіснай маннай кашы. Ігар, з цяжкасцю пераадольваючы ўнутраныя позывы, пад яе строгім наглядам запіхаў сабе ў рот глейкую масу з цвёрдымі камячкамі, і толькі тады, калі з'еў апошнюю лыжку, Людміла Фамінічна дазволіла яму нарэшце ўстаць з-за стала ў школьнай сталовай. «Ну вось бачыш, з'еў — і нічога з табой не здарылася, — кінула яму ўслед Казлоўская і дадала, як зараз разумее, апраўдваючы сябе: — Настаўнік заўсёды мае рацыю».

«У сильного всегда бессильный виноват...», — мог бы тады адказаць ёй Ігар, але, вядома, не адказаў. Па-першае, ён яшчэ не чытаў баек Крылова, а па-другое, што магло адказаць сямігадовае дзіця даросламу, чужому, надта строгаму чалавеку, тым больш настаўніку? Здарылася ж гэта амаль тры дзясяткі гадоў таму, калі для людзей аўтарытэт настаўніка быў недасягальны і непахісны. Гэта не цяпер, калі ледзьве не першакласнік намагаецца даказваць свае правы таму, хто яго вучыць, начыста забываючы пры гэтым пра свае абавязкі вучня.

— Ігароха, прывітанне! — раптам хтосьці ляпнуў яго па плячы, адарваўшы ад нярадаснага ўспаміну пра школу. — Як справы?

Ігар азірнуўся і ўбачыў Дзіму Матошку, старога знаёмага, які падышоў да яго.

Дзіма скончыў школу на год раней за Ігара, жыў тут, у роднай вёсцы.

— Нармальна! — Ігар працягнуў руку для прывітання. — Ого, а дзе пярсцёнак? У такую спякоту не носіш? — усміхнуўся ён, паціскаючы Дзіму руку і выразна паглядзеўшы на безыменны палец прыяцеля.

— Наогул не нашу, — адказаў Дзіма. — Няма чаго...

Ажаніўся Дзіма даўно, неўзабаве пасля заканчэння школы. І зусім не на той дзяўчыне, якую кахаў.

А тая дзяўчына, калі паглыбляцца ў Дзімава асабістае жыццё, ведала, што падабаецца яму. Дзіма ледзь не на кожным перапынку швэндаўся каля класа, у якім яна вучылася. Часта паклікаўшы для храбрасці сябра Сашку, Дзіма заходзіў у клас, балбатаў пра нешта з яе аднакласнікамі і ніяк не мог рашыцца падысці да яе, загаварыць, паглядзець у вочы. Баяўся, як хлапчук, хоць быў старэйшы за яе на цэлы год... Неўзабаве для яго празвінеў апошні школьны званок. У той дзень Дзіма асмеліўся: падышоў да яе, падарыў букет цюльпанаў і спытаў, ці могуць яны быць разам. Яна адказала, што не. Дзіма больш нічога не гаварыў. Павярнуўся і пайшоў...

Паступаў у пэдінстытут, але не здаў першы экзамен. Вярнуўся дадому. Пайшоў працаваць у фірму да прыватніка вадзіцелем. На наступны год зноў паехаў паступаць і зноў не здаў экзамены. Мара пра вучобу на фізрука ціха і безнадзейна знікла...

Неяк на танцах ён сустрэў Марыну. Яна была маладзейшая за яго на тры гады, нядаўна скончыла школу. Паступаць вучыцца далей не спяшалася: маўляў, ва ўніверсітэт і так не траплю, не з маім атэстатам, можа, здам дакументы хоць у тэхнікум на бухгалтара. А што? Вучыцца нядоўга, як-небудзь ды змагу потым чужыя грошы лічыць.

Запрасіў яе на адзін танец, другі... Праводзіў дадому. Вясёлая, дзелавітая, бойкая, Марына была зусім не падобная на першае каханне Дзімы. А калі яна

іншая, можа, і ён стане іншым? Больш упэўненым, нахабнаватым, незалежным. Чаму б не паспрабаваць? Трэба ж неяк наладжваць сваё жыццё.

Нечакана Марына зацяжарала. Дзіма не спалохаўся, не ўцёк ад яе. Ён нават узрадаваўся: «Ну і добра: ажанюся. Як кажуць, не хлопчык ужо. Марынка мне сына народзіць, ну, ці дачку — не важна. Я буду працаваць. Якая ўжо вучоба? Марынка і так вучыцца не вельмі хацела, няхай пасядзіць у дэкрэтным, а там бачна будзе...»

Так і атрымалася. Яны неўзабаве пажаніліся. Дзіма працаваў. Марына нарадзіла яму сына, а праз два гады — яшчэ аднаго...

І вось цяпер, праз адзінаццаць гадоў сумеснага жыцця, яна пайшла ад яго.

— Вы што, развяліся? — спытаў Ігар, усё яшчэ паглядваючы на Дзімаў, без пярсцёнка, палец.

— Ну, тыпу таго… — крыва ўсміхнуўся Дзіма.

— Добра, пойдзем, раскажаш, — Ігар лёгенька дакрануўся да яго пляча, і яны пайшлі ў школьную сталовую.

## III

Ужо хто-хто, а Міра Кавалеўская хацела абавязкова быць на гэтым вечары. Яшчэ ўвосень яна адзначыла ў каляндарыку на наступны год першую суботу лютага і не забывалася пра гэты дзень. Міра збіралася ўразіць сваёй знешнасцю і сваімі дасягнненямі ўсіх — і сваіх былых аднакласнікаў, многіх з якіх не бачыла з 1995 года, і настаўнікаў, і іншых знаёмых і незнаёмых людзей. Зрэшты, гэтае «мастацтва» яна асвоіла даўно і да апошняга часу валодала ім дасканала.

У сям'і, калі расла, Міра была бацькавай дачкой. Ці таму, што нарадзілася першай і бацька, які вельмі чакаў сына, адразу ж, як убачыў дачушку, перанёс на яе ўсю сваю пяшчоту, а потым — і мужчынскае выхаванне, ці таму, што з самых малых гадоў яна праяўляла ўпарты і незалежны характар. А яшчэ Міра сябравала з хлапчукамі. І хоць спачатку яны нават у думках не дапускалі, што дзяўчынка можа быць у іх камандзірам, але так і не заўважылі, як гэта здарылася. Праўда, завадатарам шасцігадовая Міра была ў першакласнікаў, але, як кажуць, сам факт...

Бацька Міры лічыўся значнай фігурай у раёне — старшыня калгаса. Дзяўчынка нячаста бачыла яго дома. У бацькі былі то бясконцыя клопаты на працы: пасяўная, сенакос, уборачная, паездкі ў раён, то бадзянні па лясах ды азёрах (ён быў заўзятым паляўнічым і рыбаловам). Маці — ціхая, сціплая жанчына — спачатку сядзела ў дэкрэтным перад нараджэннем Міры, затым з ёй. Потым паўгода папрацавала ў калгаснай канторы ў аддзеле кадраў і — зноў у дэкрэт. Неўзабаве нарадзіўся сын Іван.

Яна ва ўсім слухалася мужа, ні ў чым яму не пярэчыла, займалася дзецьмі, домам, гаспадаркай і, здавалася, была цалкам шчаслівая такім жыццём.

Міра ж хацела быць падобнай на бацьку: як ён, кудысьці заўсёды спяшацца, гучна, як камандзір, размаўляць па тэлефоне, аддаваць загады, сустракацца з самымі рознымі людзьмі...

Брат Іван быў ціхім, спакойным, шмат чытаў. Сястра, калі яны падраслі, любіла ўкалоць яго:

— Гэй, разумнік, што ты там новага вычытаў? Што Зямля круглая і круціцца? Або што зімой ідзе снег?

Спачатку Іван крыўдзіўся і спрабаваў пастаяць за сябе. Дзеці, бывала, нават біліся, калі сястра ўжо вельмі надакучвала сваімі падколкамі. Але ні ён, ні яна бацькам не скардзіліся. Яшчэ крыху падросшы, брат вырашыў не звяртаць на кепікі сястры і наогул на яе ніякай увагі. Міра спачатку настойліва працягвала пад'юджваць брата, але, бачачы, што гэта яго ніяк не кранае, адчапілася ад Івана. А калі Міры споўнілася чатырнаццаць гадоў, зусім перастала зважаць на брата — хлапчукі на школьных вечарах пачалі пісаць ёй запісачкі з намаляванымі сардэчкамі і запрашаць на павольны танец. Такая іхняя ўвага неймаверна ўзвысіла Міру ў сваім уяўленні аб сабе над аднакласнікамі, і яна занявесцілася…

Міра заўважала, што асабліва падабаецца Колю Танану, аднакласніку. Ён саромеўся глядзець ёй у вочы, але ўпотай назіраў за дзяўчынай на ўроках.

Аднойчы Коля нават паклаў на яе месца за партай галінку бэзу (Міра бачыла, як ён на перапынку крадком ламаў бэз за школай). А неяк асмеліўся паднесці яе партфель ад школы да скрыжавання дарог: дзяўчына ішла дадому далей прама, у канец вёскі, а ён збочваў налева, да сваёй хаты. Але Міры Коля зусім не падабаўся.

— Цямця-лямця нейкі, — чмыхала яна сяброўкам, калі тыя, сабраўшыся дзе ў купку, гаварылі пра хлопцаў, успаміналі ёй Колю. — Нават дахаты праводзіць баіцца. Навошта мне такі?

Так, Міры патрэбны быў іншы. Дзяўчына марыла пра рашучага, адважнага, моцнага хлопца. Ён павінен быў ведаць і ўмець усё на свеце і нічога не баяцца. Словам, быць падобным на яе бацьку.

Зразумела, што сярод аднагодкаў такіх быць не магло, і Міра закахалася ў старшакласніка. Сяргей вучыўся ў адзінаццатым класе. Ён быў высокім, блакітнавокім хлопцам, падабаўся дзяўчатам, хадзіў у паходы, займаўся ў спартыўнай секцыі.

Міра спачатку назірала за ім здалёку, а затым рашылася і на адным школьным вечары запрасіла яго на белы танец.

— Прывітанне! — смела падышла яна да Сяргея і працягнула руку. — Пойдзем танцаваць?

— Прывітанне, — ніколечкі не сумеўшыся, адказаў хлопец і дапытліва паглядзеў ёй у вочы. — Чаму не патанцаваць з прыгожай дзяўчынай? Знаёміцца не будзем: цябе Мірай завуць, а мяне, ты, безумоўна, ведаеш, Сяргеем.

— Ведаю, — спакойна кіўнула галавой Міра і, вытрымліваючы яго пагляд, дадала. — А яшчэ ведаю, што ты ў футбол добра гуляеш. Ну, і што на матацыкле ўмееш ездзіць, у мінулым годзе правы ўжо атрымаў.

— Ого, ды ў цябе на мяне сабраная цэлая база! — засмяяўся Сяргей. — А я пра цябе мала што ведаю: ну, давай, расказвай...

Міра адчула, што спадабалася Сяргею. Гарэзлівая, жвавая, яна, як кажуць, па слова ў кішэню не лезла, заўсёды шмат жартавала і магла, калі хацела, так каго ўкалоць сваім язычком, што той потым доўга не знаходзіў сабе месца.

У той вечар яны танцавалі не адзін танец. Сяргей правёў яе дадому. Адчувала, нават хацеў пацалаваць, але Міра выслізнула за веснічкі: «Бывай!..»

Пасля гэтага яны сталі часта сустракацца. Разам танцавалі на школьных вечарах, гулялі па вясковых вулачках. І ён больш не асмельваўся памкнуцца яе пацалаваць.

У школе Сяргей забягаў на перапынках да Міры ў клас, жартаваў, распавядаў нейкія гісторыі... Маці хвалявалася, што дачка сустракаецца з дарослым хлопцам, бацька быў спакойны: «Мірка — мая дачка. У яе ёсць галава на плячах». І ён меў рацыю.

Міра не страціла галаву, хоць закахалася, як ёй здавалася, па-сапраўднаму. Дзяўчына думала пра будучыню. Сяргею хутка здаваць выпускныя экзамены. Ён скончыць школу, паступіць у інстытут, з'едзе ў горад... І што далей? Ці будуць яны разам? Там столькі дзяўчат, і не раўня ёй — гарадскія, модныя, адукаваныя. І ён што, толькі пра яе будзе думаць, не пачне заглядвацца на прыгажунь?..

Але Сяргей, здаўшы школьныя экзамены на «чацвёркі», нікуды не паступіў. Марыў пра гістарычны факультэт, але на першым жа ўступным экзамене атрымаў «двойку». Вярнуўся назад, у вёску. Вырашыў рыхтавацца да паступлення на наступны год дома, самастойна. Каб не сядзець на шыі ў бацькоў, пайшоў працаваць у калгас на трактар (правы ён атрымаў у школе).

Міра гэтага ніяк не чакала. Як так? Яна ўжо ўяўляла сабе, як Сяргей будзе прыязджаць на выхадныя з горада — прыгожы, модна апрануты, будзе заходзіць па яе ў школу. Дзяўчынкі пачнуць зайздросна пазіраць на іх, перашэптвацца, ну і няхай! Знайдзіце сабе такога, як Міра!

А цяпер... Сяргей — трактарыст. Брудны, у замасленай вопратцы і ў кірзавых ботах. Такім, ці што, ён стане сустракаць Міру са школы? Ды і калі яму з ёй бавіцца: праца не будзе чакаць.

Яны не сварыліся, не гаварылі пра тое, што здарылася... Але Сяргей адчуў, што расчараваў Міру. «Ды хто яна такая? — у думках абураўся ён, заўважыўшы, як Міра пачынае яго пазбягаць. — Жыцця не ведае, катаецца як сыр у масле і яшчэ нешта з сябе строіць. Няхай праз пару гадоў, як скончыць школу, сама паспрабуе паступіць. Паглядзім, што з гэтага атрымаецца...»

Пакупова іх адносіны сышлі на нішто. Сяргей працаваў, па вечарах сядзеў над падручнікамі. Міра бегала з сяброўкамі ў кіно і на танцы, прыдумляла пацешныя сцэнкі на школьныя святы, заняла першае месца ў спаборніцтвах па бегу...

На пачатку лета Сяргей з'ехаў у Мінск на падрыхтоўчыя курсы, жыў там у нейкай сваячкі, дачакаўся ўступных экзаменаў і ўсё ж стаў студэнтам гістарычнага факультэта.

Міра, даведаўшыся пра гэта, крыху расхвалявалася. Сяргей, аказваецца, змог дамагчыся свайго. Хоць і не адразу. «Ну і добра, хай жыве ў тым Мінску, — вырашыла яна. — У мяне і так кавалераў хоць адбаўляй. Знайду сабе і лепшага».

Міра — невысокая, з доўгімі кучаравымі валасамі, пухнатымі вейкамі — сапраўды падабалася многім хлопцам. Але ўсур'ёз не сустракалася ні з кім: «Навошта? Усё роўна хутка паеду адсюль, буду жыць у горадзе. Там і трэба шукаць сабе кавалераў».

Атрымаўшы атэстат, Міра, круглая выдатніца, марыла паступіць у медыцынскі інстытут, стаць урачом. «Урач — паважаная прафесія. Да ўрача нават самыя важныя людзі звяртаюцца па дапамогу, чакаюць парады, ловяць кожнае ягонае слова. З такой спецыяльнасцю не прападзеш», — разважала дзяўчына. Але атрымалася інакш. Чамусьці разгубіўшыся, яна здала на «тройку» першы экзамен, і цяпер ёй, залатой медалістцы, замест аднаго прадмета трэба было здаваць яшчэ чатыры.

Міра, заўсёды ўпэўненая ў сабе, псіханула, заўпарцілася: «Калі так, не буду сюды паступаць!» Не дык не. Бацька супакоіў дачку: «У мяне на эканамічным у наргасе добрыя знаёмыя. Эканаміст — выдатная прафесія. Павер: эканамісты ўсюды патрэбныя. Не плач, усё будзе добра...»

Так Міра стала студэнткай эканамічнага факультэта. Вучылася яна добра, прадметы для яе не былі такімі ўжо складанымі. Вядома, калі хочаш вучыцца —

вывучышся. Міра ж хацела атрымаць вышэйшую адукацыю і знайсці прэстыжную работу. І яна ўпарта ішла да гэтай мэты.

Іншая справа — асабістае жыццё. З ім было цяжэй. На пятым курсе перад Мірай паўстаў сур'ёзны выбар. Трэба было вызначыцца, за каго выйсці замуж. Кандыдатуры меліся дзве.

Першая — Артур. Гэта быў гарадскі хлопец з прыстойнай сям'і, ягоныя бацькі працавалі ў адным навукова-даследчым інстытуце. Артур не піў, не курыў, выдатна паспяваў амаль па ўсіх прадметах. Міра вучылася з ім у адной групе. Ён прыгожа заляцаўся: дарыў кветкі, запрашаў на выставы, у кіно, праводзіў да інтэрната...

Другая — Аляксей. З ім яна пазнаёмілася на дні нараджэння сяброўкі. Ён таксама, як і Міра, прыехаў у горад з вёскі. Аляксей заканчваў пяты курс палітэха. Пастаянна ўдзельнічаў у нейкіх алімпіядах, нешта вынаходзіў. Амаль кожныя выхадныя хлопец ездзіў дадому. «Трэба дапамагчы маме. Яна ў мяне адна, — тлумачыў ён Міры. — Яшчэ і гаспадарку трымае...»

Міра разумела гэта так: сын адданы маці, ён ніколі не пакіне яе. «Не, мне такі сынок не патрэбны. Будзе толькі да матулі матацца ды мучыцца, як там яна адна. Да таго ж у яго ў горадзе — ні кала ні двара. А ў Артура прыстойныя бацькі, хлопец ён гарадскі, мае жытло, — разважала дзяўчына. — З Алёшкам, калі пайсці за яго, толькі і будзем ездзіць у вёску: то да яго маці бульбу садзіць, то да маіх бацькоў бульбу капаць... А жыць калі? Так век з вёскі не вылезеш. Засмокча, як балота, і не адпусціць. А з Артурам, калі з горада ехаць, дык толькі на дачу. А там якая праца? Адзін адпачынак: градка пятрушкі, градка агуркоў... За паўгадзіны прапалоць усё можна. Не, мужа трэба выбіраць з розумам!..»

Міра выбрала Артура. Вяселле згулялі вялікае, прыгожае, гучнае. І ягоныя, і яе бацькі пастараліся: усё толькі самае лепшае...

Маладыя пачалі жыць разам. Высветлілася, што на Артура апісана кватэра бабулі, якая памерла некалькі гадоў таму. Пакуль гэтае жыллё здавалі кватарантам. А цяпер, пасля вяселля, там пасяліліся маладыя. «Так ім будзе лепш, — палічылі Артуравы бацькі. — Калі стварылі сям'ю, дык няхай жывуць самі па сабе. Мы ім перашкаджаць не будзем». І, сапраўды, Артуравы бацька і маці не ўмешваліся ў сямейнае жыццё сына.

Але тым не менш жыццё гэтае чамусьці не заладзілася. Чым даўжэй Міра жыла з Артурам, тым больш разумела, што ён не той чалавек, якім яна сабе яго ўяўляла. Міры заўсёды здавалася, што муж — аснова сям'і, здабытчык. Ён заўсёды вырашыць усе праблемы, ведае, што і як лепш зрабіць. Прынамсі, такім быў Мірын бацька. Артур жа аказаўся іншым. Вырашаць сямейныя пытанні не ўмеў, а, хутчэй за ўсё, не хацеў. Адзінае дзіця ў сям'і, ён з дзяцінства прывык, што пра ўсё клапаціліся бацькі. Яго задачай было добра вучыцца і прыкладна паводзіць сябе. І ён вучыўся. А ў вольны час сустракаўся з сябрамі, хадзіў у кіно, гуляў у футбол...

Артур шчыра не разумеў, чаго хоча ад яго Міра. У іх жа асобная кватэра, ён працуе, прыносіць у дом грошы, Міра таксама нядрэнна зарабляе. Да ўсяго, ён быў не супраць, што жонка па-ранейшаму калі хацела, тады і сустракалася з сяброўкамі. А ён, у сваю чаргу, калі хацеў, тады і сустракаўся са сваімі сябрамі, як было раней. Дык што ім, яму і Міры, яшчэ трэба?.. Іншы раз цвік у сцяну забіць? Дык няхай Міра выкліча майстра. Ён жа, Артур, не павінен усё ўмець. Забіваць цвікі або рамантаваць унітазы павінны спецыяльна навучаныя гэтаму людзі, няхай яны гэтым і займаюцца...

Міры давялося ўзяць на сябе ролю галавы сям'і. Яна тэлефанавала, дамаўлялася, вырашала, аплачвала... «Мая дачка ўсё ўладзіць, усё вырашыць!» — ганарыўся яе бацька.

Міры спачатку нават падабалася яе гэтая роля. Яна была самастойнай, ніхто яе ні ў чым не абмяжоўваў, нічога ёй не ўказваў. Але нарадзілася дзіця, за ім — другое, і такое жыццё Міру стала абцяжарваць.

Тады яна паспрабавала перакласці клопаты па дому на плечы Артура. Але той нават не зразумеў, чаго Міра хоча.

— Ты з самага пачатку нашага сямейнага жыцця ўсё сама вырашала. Табе гэта падабалася. Што цяпер?

— А тое, што ў нас двое дзяцей — і я не магу, як раней, паспяваць усё рабіць сама!

— Ну, паспявай тады не ўсё. У чым праблема? — пярэчыў Артур. — Усё не можа быць ідэальным...

Але Міра хацела ідэалу. І не важна, што дасягнуць гэтай прывіднай дасканаласці было няпроста. Як любіў жартаваць яе бацька: «Усё будзе, як у лепшых дамах Парыжа і Ланд*о*на!»

Між тым, Міра паводзіла сябе так, што ніхто — ні яе, ні Артуравы бацькі, ні сябры — нават не здагадваўся, што яна незадаволеная сваім жыццём. Знешне ўсё выглядала выдатна: прыстойная сям’я, двое дзетак, свая кватэра, машына ў яе і яго, добрыя заробкі... І ніхто, акрамя самой Міры, не ведаў, чаго варта гэтая прыгожая карцінка яе з Артурам сямейнага жыцця!

«Так, я не кахала Артура. Выйшла замуж па разліку, — часам думала Міра пра сваё жыццё. — Меркавала, што так для мяне будзе лепш. Але ж я не ведала, выходзячы за яго, што ён акажацца такім цюленем!.. Затое Артур не ўмешваецца ў маё жыццё. Ён не камандуе, што і як мне рабіць, ні ў чым не кантралюе мяне, дык што яшчэ трэба? Хаця, калі шчыра, дык няхай бы зрэдку ўмяшаўся, нешта сказаў, нават забараніў... Часам здаецца, што я яму абыякавая. Цікава, ці кахаў ён мяне? Ці таксама ажаніўся, думаючы, што так яму будзе лепш?.. І ўсё ж — чаго мне скардзіцца? Артур не п’е, не курыць, не здраджвае... Але і я таксама, акрамя яго як мужчыны, нікога не маю. Сто разоў магла б здрадзіць яму, калі б захацела. Толькі навошта? Адны лішнія праблемы... Так, працую не там і не тым, кім хацела. Марыла стаць урачом, ды займаюся лічбамі. Ну і што? Ці шмат урачы цяпер зарабляюць? А я заўсёды маю прыстойны даход...»

І вось такой — паспяховай, маладой, прыгожай, якая ўдала выйшла замуж, нарадзіла дваіх дзяцей, якая можа дазволіць сабе адпачынак за мяжой ды яшчэ будуе дом за горадам — марыла з’явіцца Міра на сустрэчу выпускнікоў. Але гэтаму перашкодзіў выпадак...

Напярэдадні Новага года яна выпадкова сустрэла Аляксея. Сутыкнулася з ім у «ЦУМе». Ён быў не адзін, з жанчынай і хлопчыкам.

Аляксей адразу пазнаў Міру, радасна ўсміхнуўся, падышоў да яе, пазнаёміў са сваёй сям’ёй.

— Міра, гэта Ганна, мая жонка, — сказаў ён, гледзячы Міры ў вочы. — Ганнушка, а гэта Міра. Мы разам некалі вучыліся. А гэта мой сын, Уладзік.

— Вельмі прыемна, — разгублена адказала Міра, адчуваючы на душы нейкае далёкае, напаўзабытае цяпло.

— Вось заехалі падарункі выбраць, Новы год на носе.

— Чаму на носе? — здзіўлена прамовіў віхрасты хлапчук гадоў пяцішасці і пакратаў свой нос. — У мяне нічога няма.

Дарослыя засмяяліся.

— Вы паразмаўляйце, а мы з Уладзікам паглядзім, дзе Новы год схаваўся, — усміхнулася Ганна. — Будзем на першым паверсе. З Новым годам вас, Міра, усяго самага добрага!

— Дзякуй, і вам таксама, — падзякавала яна.

— Добра, любая, я хутка падыду, — адказаў Аляксей і ўважліва паглядзеў на Міру. — Як твае справы?

— Выдатна, — упэўнена адказала яна і тут жа паправілася. — Лепш за ўсіх.

— Ух ты! — засмяяўся Аляксей. — Малайчына! Усё як марыла?

— Так. Ёсць сям'я: муж, двое дзяцей. Працую ў адной вядомай фірме. Вялікая ўласная кватэра. Цяпер будуем загарадны дом, — як па спісе пачала пералічваць Міра. — А ты як?

— Добра. Сям'ю маю ты ўжо бачыла. Жывём пакуль з бацькамі жонкі, будуем сваё жыллё. Ганна працуе ў турфірме, у вольны час шмат падарожнічаем. Ды і проста на выхадныя любім махнуць куды-небудзь на Браслаў або Нарач... Учора так на лыжах і санках накаталіся, што ледзь хаджу. Ганнушка катаецца, як профі. Ужо і Уладзіка навучыла на лыжах трымацца.

Аляксей усміхаўся. Па яго вачах было відаць, што яму прыемна ўзгадваць, як яны ўсе разам каталіся. Напэўна, шмат дурэлі, жартавалі, смяяліся... Міры раптам стала невыносна тужліва. «А ў мяне ніколі такога не было. Ні-ко-лі! І не будзе ўжо. Іншая ў мяне сям'я, іншае жыццё, — з горыччу падумала яна. — А на яе месцы магла быць я. І ён, расказваючы камусьці пра мяне, называў бы мяне Мірушкай... Пралічылася ты, дарагая. Не на таго паставіла. Жыві цяпер і шкадуй». Нібы асудзіла сябе: маўляў, што ж ты так? Сапраўды, пралічылася…

Напэўна, гэтыя невясёлыя думкі неяк адбіліся на яе твары. Інакш чаму Аляксей стаў сур'ёзным, прыхільна паглядзеў на яе і ціха спытаў:

— Ты шчаслівая, Міруша?

Гэтае спагадлівае пытанне, мяккае «Міруша» і тое, што ён разгадаў яе настрой, адчуў душэўны стан, быццам абяззброілі Міру. Яна нібыта зняла з сябе цяжкія даспехі.

— Не вельмі.

— Чым я магу табе дапамагчы?

— Ды нічым, — з усмешкай адказала Міра. — Кожны сам каваль свайго шчасця. За што змагалася, на тое і напаролася... Добра, хопіць пра гэта! Будзь шчаслівы, беражы тое, што ў цябе ёсць, — сказала яна і, не развітваючыся, імкліва пайшла да выхада, пакінуўшы разгубленага Аляксея аднаго.

Пасля той сустрэчы ехаць на вечар Міра не марыла. Унутры яе быццам нешта зламалася. Пстрык — і ўсё тое, што рухала ёю, не працуе, як раней. Стоп, машына!.. А ў душы нешта шчыміць, пячэ, і гэты боль нічым нельга астудзіць.

Міра адчула, што стамілася хлусіць: бацькам, сябрам, знаёмым... Яна расчаравалася ў сабе, мужу, сваіх сямейных адносінах, да яе прыйшла страшэнная спустошанасць. Усё, чым Міра жыла, было ўяўным, прытворным, падробным. Прыйшоў час выбіраць: або працягваць хлусіць, або пачынаць новае жыццё — няхай простае, але сапраўднае...

## IV

…Школьная сталовая была даволі прасторнай. Злева ад увахода размяшчалася кухня (былі відаць вялікія пліты, кухоннае начынне), а насупраць увахода і справа стаялі невялікія сталы. Сёння іх саставілі парамі, і за адзін стол маглі свабодна сесці чалавек дзесяць. А калі пасунуцца і крыху шчыль-

ней прыціснуцца адзін да аднаго, як зрабілі некаторыя выпускнікі, то знаходзілася месца і яшчэ для некалькіх чалавек.

Цеснымі, вясёлымі кампаніямі вылучаліся «юбілейныя» выпускнікі. Недалёка ад увахода сядзелі «пяцігодкі» (тыя, хто скончыў школу пяць гадоў назад) са сваім класным кіраўніком Нінай Іванаўнай, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Гэта быў яе першы і таму самы дарагі сэрцу выпускны клас. І хоць Ніна Іванаўна ўжо ніякім чынам не магла ўздзейнічаць на гэтых, па сутнасці, яшчэ юных асоб, а ўсё адно па-ранейшаму старалася накіраваць іх, даць парады, як жыць, працаваць, паводзіць сябе сярод людзей. Яе слухалі і не слухалі — няхай, настаўніца ж…

Далей за імі, за сталамі ўладкаваліся старэйшыя выпускнікі. Сярод іх вылучалася тая няўрымслівая жанчына ў чырвонай сукенцы, якая выходзіла на сцэну, калі запрашалі выпускнікоў.

— Давайце падымем бакалы за нашых настаўнікаў, якія сапраўды сеялі разумнае, добрае, вечнае. І нездарма: іх насенне дало ўсходы, мы выраслі людзьмі... — чуліся яе словы.

— Во цётка разышлася! — сказаў Ігар Дзіму. — Ідэйная... Мабыць, на заводзе ў прафсаюзе сядзіць: на Першае мая на мітынгі агітуе, а летам арганізоўвае калектыўныя выезды ў лес у грыбы.

Ігар пашукаў вачыма вольныя месцы і накіраваўся да століка ў самым далёкім кутку. Тут сядзелі тры маладыя хлопцы і дзве дзяўчыны, яны весела пра нешта перагаворваліся.

Ігар і Дзіма павіталіся і прымасціліся збоку.

— Ну што, па маленькай? — спытаў Ігар, дастаючы з пакета бутэльку гарэлкі і простую закусь: хлеб з каўбасой. (Ён паспеў забегчы ў гардэроб і ўзяць там свой пакет.)

Кіраўніцтва школы, вядома, не ўхваляла выпіўку ў сценах навучальнай установы, але і забараніць не магло. Куды ж у мароз падзецца дарослым людзям, якія сабраліся тут з розных мясцін для таго, каб сустрэцца і пагаварыць? Ну, а тое, што размовы гэтыя суправаджаюцца ста грамамі, дык дзе вы бачылі іншае? Традыцыя такая: людзі садзяцца за агульны стол, выпіваюць, закусваюць і — размаўляюць, размаўляюць...

— Давай, — пагадзіўся Дзіма і пайшоў на кухню па шклянкі.

Яны выпілі, закусілі, агледзеліся.

— А твой клас дзе? — спытаў Ігар, не заўважыўшы Дзімавых аднакласнікаў.

— Пайшлі пакуль да Светкі Роліч, яна ж каля школы жыве. Бульбы там наварыла, катлет насмажыла... Пасядзяць, сказалі, крыху і сюды вернуцца.

— А ты што?

— Ледзь адгаварыўся. Сказаў, сустрэцца трэба з адным чалавекам. Маўляў, потым падыду.

— Са мной, ці што?

— Ды пры чым тут ты! — раздражнёна ўсклікнуў Дзіма. — Сказаў, каб адчапіліся — і ўсё. Пачнуцца размовы, роспыты… А я што скажу?

— Добра, праехалі. Давай яшчэ па адной.

Пасля трох «давай яшчэ па адной» Дзіма размяк.

— Разумееш, жылі і жылі, а яна раптам узяла і пайшла.

— Дурніца.

— Ды не, гэта я дурань. Нічога не бачыў і не заўважаў. Жонка раптам не сыходзіць.

— Ну, і чаго ёй не хапала? Дом у вас свой, машына, дзеці, ты працуеш...

— Сказала, што ўсё надакучыла. Сумна жыць.

— Ага, табе трэба было піць, нідзе не працаваць і яе з дзецьмі вакол хаты ганяць — тады, напэўна, было б весела, — злосна сказаў Ігар. — З раскошы шалее.

Ах, як хацелася прызнацца Ігару, што і ў яго ў сям'і тое ж самае і што жонка ўжо амаль сышла ад яго. Сказала ўчора, што падае дакументы на развод і што больш пра яго нічога не хоча чуць. Ну і, вядома, дакарала сябе: маўляў, дзе былі яе вочы, калі пайшла за яго замуж? Ёй жа, аказваецца, адразу было зразумела, які ён чалавек і ўсё такое іншае, ды пайшла... Ігар не прамаўчаў. Нагадаў, што замуж за яго яна не пайшла, а — пабегла, бо была цяжарная. І што ён жаніцца на ёй, мякка кажучы, ой як не хацеў! Упікнуў: «Забылася, як твой бацька прыехаў да маіх бацькоў і грукаў кулаком па стале, патрабуючы, каб я ажаніўся з табой?»

Добра, пажаніліся. Бацькі зладзілі вяселле. Ігар, скончыўшы па загадзе бацькі ваеннае вучылішча, у арміі не застаўся. Няма дурных!.. Хто разумнейшы ды хітрэйшы — на сябе робяць. Зарыентаваўшыся ў абстаноўцы, спачатку адкрыў невялікі ларок, дзе прадаваў дзіцячыя машынкі, затым заснаваў будаўнічую фірму. Жылі нармальна. Як жывуць двое людзей, якія не кахаюць адно аднаго і ніколі, мабыць, не кахалі і якіх звязвае, па сутнасці, толькі адно — агульныя дзеці. Хіба мала на свеце такіх сем'яў?..

— Ведаеш, яна калі першага сына нарадзіла, то вельмі змянілася. Папрыгажэла, расквітнела. Як кажуць, адчула сябе жанчынай... А я ж для яе ранейшым застаўся, — Дзіма сам не заўважыў, як вымавіў гэтыя словы.

Гэтае яго адкрыццё, упершыню прамоўленае ўслых і ад таго перайначанае са здагадкі ў бясспрэчны факт, які нельга абвергнуць, з якім не паспрачаешся, ашаламіла Ігара. Бо ўсё было сказана быццам пра яго Таньку. Калі яна нарадзіла дачку, то таксама змянілася, адразу неяк пасталела і — аддалілася ад яго яшчэ больш. А ён — пакрыўдзіўся, сцяўся, затаіўся. І на злосць ёй пачаў хадзіць паўлінам перад іншымі жанчынамі. Маўляў, не цэніш мяне — іншыя ацэняць. Хадзіць давялося нядоўга: ацанілі...

Яна не даравала яму, ён — ёй. «Хоць у чым я вінаваты? — не раз думаў Ігар. — У тым, што яна, не кахаючы, выйшла за мяне замуж? Дык навошта пайшла? І хто яе прымушаў са мной сустракацца? А што зацяжарала, дык гэта не мая віна...» Таня ж, мабыць, не магла дараваць яму тое, што сама набівалася выйсці за яго замуж. А калі стала ягонай жонкай, нават не спрабавала яго пакахаць, не хацела жыць у згодзе.

Што ж, нярэдка здараецца так: чалавек не хоча прызнаваць сваёй віны і ва ўсіх сваіх нягодах і душэўных пакутах гатовы абвінавачваць каго заўгодна, толькі не самога сябе. Нават таго чалавека, якога ён пакрыўдзіў. Недарэчна, але гэта так...

## V

Ніначка Лапушынская доўга ў школе не затрымалася: дома чакалі дзеці. А іх у яе было чацвёра. Старэйшы, дванаццацігадовы Сашка, яго пагодак Ілья, шасцігадовая Насценька і Ягор, якому месяц таму споўнілася два гадкі. Так, Ніначка была шматдзетнай маці. Ці марыла яна пра такое? Напэўна, у наш час гэта прагучыць дзіўна і незразумела, але — так. Дзяўчынай яна цвёрда ведала, што рана выйдзе замуж і ў яе будзе вялікая сям'я. Чаму? Напэўна, таму, што сама вырасла ў шматдзетнай сям'і (хоць у той час гэта не было дзівам і

чымсьці гераічным) — іх было шасцёра. Прывыкла клапаціцца пра малодшых (Ніначка была трэцім па ліку дзіцём), дапамагаць бацькам па гаспадарцы.

Вучоба ёй давалася нялёгка. Цяжка было зразумець трыганаметрыю, законы Ома, чарчэнне, а ўжо калі пайшла хімія, то і зусім стала сумна... І калі б не ўрокі літаратуры, Ніначка, здаецца, збегла б са школы. Яе бацькі вершаў ды раманаў не чыталі, не да таго ім было, але да кнігі адносіліся з павагай.

— Вучыся, Ніначка, вучыся, — казаў дзяўчынцы бацька, які працаваў у калгасе і круціў руль трактара не адзін год. — Бачыш, якія ў мяне рукі? Гэта табе не ў вучонага чалавека. Розніца вялікая...

Дзяўчынка глядзела на бацькавы рукі — вялікія, з патоўшчанымі суставамі, з мазутай, якая ўсмакталася ў скуру і не адмывалася нават у лазні — і на вочы яе міжволі набягалі слёзы. Ёй было шкада бацьку, які рана ўставаў, працаваў ад цямна да цямна і, здавалася, ніколі не ведаў адпачынку. Але і скаргаў ад яго Ніначка ніколі не чула.

— Эх, Рыхліцкія — гэта сіла! — казаў бацька, калі яны ўсёй сям'ёй збіраліся за сталом і абводзіў дзяцей позіркам, поўным ціхай радасці.

— Сія! — падтакваў трохгадовы Ванька, навучаны старэйшымі братамі, і ўсміхаўся, заўважыўшы, што смяюцца астатнія.

Яны і сапраўды былі сілай, калі разам. Няхай невысокія, сціпла апранутыя, але паспрабуй зачапі хоць аднаго з іх. Крыўдзіцелю не мінуць ліха! І толькі на ўроках кожнаму з іх даводзілася адказваць за сябе.

Калі Ніначка ўжо вучылася ў адзінаццатым класе, неяк у клубе яе запрасіў на танец Валерка Лапушынскі. Ён быў старэйшы за яе на чатыры гады, вучыўся ў сельгастэхнікуме на агранома і прыехаў да бацькоў на выхадныя.

Яны патанцавалі, крыху пагаварылі і разышліся. А праз два тыдні, калі Валерка зноў прыехаў у вёску, яны ўжо шукалі вачамі адно аднаго сярод пар, якія танцавалі ў клубе. Атрымлівалася, што закахаліся…

— Што ты пасля школы рабіць будзеш? — спытаў яе неяк Валера і ўсміхнуўся. — Вучыцца пойдзеш або, можа, хутчэй замуж выскачыш?

— А што лепш — парай, — гарэзна адказала Ніна. — Ты ж ужо дарослы, вялікі...

— Ну, нібыта старэйшы за цябе, пігаліцу, буду, — усміхнуўся ён. — І вось што скажу: вучыся. Замуж заўсёды паспееш. Хоць мой бацька кажа, што дзеўкі — тавар, які хутка псуецца...

— Ат, Валера, не кажы так больш, — пакрыўджана надзьмула вусны Ніна і сказала, як адрэзала. — Сам ты нясвежы! Жанчыны з гадамі толькі прыгажэюць! А я вазьму і выйду замуж. Вось так!..

— Выйсці замуж — не напасць, як за мужам не прапасці, — знарок нараспеў прамовіў Валера і паглядзеў на Ніначку.

— А я за такога пайду, каб не прапасці!

— І што, ёсць такія?

— Ёсць! — з выклікам адказала дзяўчына.

— Ну, і хто?

— Хто? — яна на імгненне задумалася і нечакана выпаліла. — Ты!..

Вяселле згулялі летам. Нінка, атрымаўшы ў маі атэстат, пра паступленне нават і не думала: вяселле на носе, а там — вядома што: пялюшкі ды распашонкі... Усё проста і зразумела.

«Не, ну чаму ў простых людзей усё так проста? — не вытрымае і ўсклікне які-небудзь «прасунуты» і адукаваны чалавек, які чытаў і Канта, і Фрэйда, і Маркеса, і шмат каго яшчэ. — Чаму яны не задумваюцца пра тое, што ім можа нешта перашкодзіць, што ўсё можа скласціся інакш, што яны могуць памы-

ляцца? Дурнотная самаўпэўненасць! З-за нейкай абмежаванасці, недахопу адукацыі, нежадання думаць...

Але і жыць так ім лягчэй. Яны не забіваюць сабе галовы рознымі «навошта» і «чаму», яны жэняцца, нараджаюць дзяцей, выціраюць ім насы і водзяць у дзіцячы сад, ходзяць на працу...»

Так, Ніначка не думала пра сэнс быцця: не было калі. То адны клопаты ды турботы, то іншыя… Спачатку нарадзіўся Сашачка, неўзабаве — Ільюшка. Муж Валера пасля тэхнікума пайшоў працаваць у калгас. Сям'і выдзелілі домік. Невялікі, праўда, з печкай і без вады ў хаце, але хіба гэта бяда? Дровы можна нарыхтаваць, вады — прынесці. Абзавяліся гаспадаркай: карова, свінні, птушкі...

Калі Сашку споўнілася тры гады, Ніна павяла яго ў дзіцячы сад, запісалася на курсы бухгалтараў. Не тое каб яе цягнула ў гэтую прафесію: трэба было нарэшце набыць хоць якую-небудзь спецыяльнасць. А тут у калгаснай канторы зноў памянялася маладзенькая касірка (не затрымліваліся яны чамусьці пасля размеркавання), вось галоўны бухгалтар, суседка, і прапанавала павучыцца на курсах. Ніначка паспела нават крыху папрацаваць, набрацца вопыту, а затым зноў пайшла ў дэкрэт...

Мужчыны напачатку спрабавалі пацвельвацца з Валеркі: маўляў, дзяцей рабіць — справа няхітрая... Але ён іх адразу асек: «Я дзяцей не раблю. Дзяцей нараджаюць. Яны — мае і Нініны. І я ім, а не вы насы выціраю, кармлю-паю ды жыццю вучу. І гэтым шчаслівы. Хай яшчэ хто толькі гаўкне!.. Зразумелі?» Зразумелі. І больш пры ім (за вочы, вядома, не-не, ды пасмейваліся) гэтую тэму не закраналі.

Валера, які сам вырас у невялікай сям'і (ён ды сястра), заўсёды марыў пра брата. Нават неяк хлапчуком папрасіў бацькоў, каб «купілі яму брацiка», але тыя чамусьці сумеліся і паабяцалі падумаць. А Валерка лічыў, што павінна быць па справядлівасці: у брата — брат, у сястры — сястра. Значыць, чацвёра атрымліваецца... У іх з Ніначкай так і сталася. Праўда, тры хлапчукі і адна дзяўчынка.

Ці лёгка жылося Ніначцы? Не, нялёгка. Ці зайздросціла яна сваім аднакласніцам, якія вучыліся недзе ў горадзе, заставаліся там працаваць, знаходзілі заможных мужоў і ездзілі адпачываць на мора? Чаго, як кажуць, грэх таіць, часам здаралася. А ці шкадавала Ніначка пра свой выбар, які некалі зрабіла ўчарашняй школьніцай і які прадвызначыў ёй лёс шматдзетнай маці? Не, не шкадавала.

Яна не мучылася думкамі пра няспраўджанае, была шчаслівай маці і не баялася сустрэцца ні з кім з аднакласнікаў. А вось яны, аказваецца, баяліся...

## VI

Здавалася, ужо хто-хто, а Віталік Кушаль не баяўся ў гэтым жыцці нічога.

Звычайна дзяўчынкі сталеюць раней, чым хлопчыкі. Непахісны закон прыроды. А вось Віталік пачаў задумвацца пра многія дарослыя паняцці дачасна, значна раней за сваіх аднагодак і тым больш аднагодкаў. Асабліва яго хвалявалі непарушныя маральныя асновы. Навошта людзі так шмат прыкідваюцца? Чаму хлусяць, крывяць душой? З-за чаго так мала кажуць шчырых слоў?

Віталік, напрыклад, вельмі стараўся не хлусіць, а гаварыць праўду. Але гэта чамусьці не заўсёды падабалася дарослым, ды і яго сябрам таксама.

— Ну што, Віталік, чаго сумны такі? Чаму ў футбол не гуляеш? — спытаў яго неяк фізрук Пётр Пятровіч, калі Віталікавы аднакласнікі ганялі па школьным стадыёне мяч.

— Не люблю футбол, — чыстасардэчна адказаў хлопец. — У мяне ад яго галава баліць.

— Ну, у мяне таксама шмат ад чаго галава баліць, — уздыхнуў Пётр Пятровіч. — Напрыклад, ад ...

— Ад гарэлкі, — падказаў Віталік. — У майго бацькі заўсёды ад гарэлкі галава баліць. Але што зробіш, калі сусед частуе: сам гоніць. А вы таксама ўмееце?

Фізрук аж папярхнуўся ад такіх слоў. Адкуль гэты смаркач ведае, што ён учора моцна «паддаў» і таму галава трашчыць так, быццам у ёй пасяліліся сарокі? І хто яму сказаў, што ён, настаўнік, дома сам гоніць самагонку?

Уцягвацца ў гэтую далікатную размову Пётр Пятровіч не стаў. Завядзі Віталіка да дырэктара — скажа там тое ж самае. Пётр Пятровіч і так стараўся сёння не трапляцца таму на вочы, далей ад граху. Пачні ўсё адмаўляць, дык гэты ж жаўтароты праўдалюб не спыніцца, будзе расказваць і расказваць...

— Жартуеш усё, — адказаў Пётр Пятровіч і рэціраваўся са школьнага стадыёна.

Вядома, Віталік казаў чыстую праўду. І ўсе вакол — і настаўнікі, і вучні — ведалі, што Пётр Пятровіч любіць выпіць і сустракаецца з Бахусам часцей, чым трэба. Ведалі, што ён сам гоніць дома самагонку (хоць у любой вёсцы гэта не лічыцца ніякім злачынствам, а жыццёвай неабходнасцю) і што калі б ні ягоная жонка, якая працуе ў школе завучам, месца фізрука замест Пятра Пятровіча даўно заняў бы нехта іншы.

Падобныя «выкрыцці» здараліся ў Віталіка кожны дзень. І ад таго, што ён сапраўды казаў праўду, дарослым было незразумела, як сябе з ім паводзіць. Але яны хутка знайшлі выйсце. Дарослыя сталі адносіцца да яго як да юродзівага ці блазна. Але, ёсць такі хлопец, вярзе нешта там такое, па ягоных словах, праўду, ну і хай: што з яго, дурнілы, узяць? Хіба разумны чалавек будзе так рабіць?..

Цікава, што такую зручную для дарослых пазіцыю ў адносінах да Віталіка, якая ставіла яго на прыступку ніжэй за астатніх дзяцей і якая дазваляла ўсім паглядаць на хлопца паблажліва і нават з некаторым шкадаваннем, неўзабаве пераналі і дзеці. Такім чынам своеасаблівую небяспеку для сябе, якую бачылі дарослыя і дзеці ў Віталікавым жаданні казаць праўду, яны быццам сунялі: маўляў, дурненькі...

Але ў чым Віталік быў вінаваты? Ды толькі ў тым, што называў рэчы сваімі імёнамі. Дрэнныя ўчынкі здзяйсняў не ён. Ён толькі казаў таму, хто іх зрабіў. Словам, да некаторай пары хлопчык быў «голасам сумлення» ўсіх і кожнага. А ці кожны з нас здольны ды і хоча яго чуць?..

Ці разумеў сам Віталік, што ён робіць? Мабыць, не зусім. У яго падлеткавым узросце ў многіх прачынаецца так званы юнацкі максімалізм, калі здаецца, што ёсць толькі чорнае і белае, а ўсе гэтыя паўтоны — хлусня, здзелка з сумленнем. Дык навошта падманваць, думаў ён, калі можна жыць «па праўдзе»?

У гэтым ягоным жаданні праўды пераплялося вельмі многае. І шчырае, чыстае імкненне жыць сумленна, і ідэалізаванае ўяўленне пра сутнасць жыцця, і эгаістычнае імкненне быць бясстрасным суддзёй усім і ўся, і ненаўмысная жорсткасць, што не дае права на памылку, і многае іншае — добрае і злое. І калі нават жаданне праўды не можа быць толькі дабром, дык і ажыццяўленне яго не можа прыносіць адно шчасце…

Закончыўшы школу і атрымаўшы атэстат, Віталік усур’ёз задумаўся пра тое, што яму рабіць далей.

«У клоуны няхай ідзе, там такія вельмі нават патрэбныя, — з’едліва сказаў неяк яго аднакласнік Ігар Варашкевіч, калі выпускнікі гаварылі пра тое, кім хто хоча быць. — Раптам у іх недабор?»

Ігар не любіў Віталіка (як, зрэшты, і многія, хто сутыкаўся з ім ці разам вучыўся). Нічога дрэннага той яму не зрабіў, калі не лічыць таго, што Віталік і Ігару ні ў чым не даваў спуску. Напрыклад, неяк аднакласнікі дапамагалі калгасу выбіраць бульбу, а Ігар ленаваўся паднесці дзяўчатам да капца поўны кошык бульбы. «Ты гультай! — выгаворваў яму Віталік. — Прытым бессаромны».

Ігара ён раздражняў адным знешнім выглядам. Віталік, напрыклад, мог прыйсці ў школу ў джынсах і пінжаку, пад якім была апранута цяльняшка, а на шыю начапіць бабачку. Або надзець фетравы капялюш, абуць кеды з рознакаляровымі шнуркамі, а на руку павесіць парасон-кій. Чаго варта было ў вёсцы хадзіць у такім выглядзе — здагадацца няцяжка. Але і пра сябе Віталік разважаў таксама шчыра: знешнасць у мяне так сабе — відавочна не мачо, ціхі троечнік — вучоба ішла нялёгка, натура не цэльная, супярэчлівая — хачу праўды, а сам не заўсёды чэсны...

— Можа, і пайду, — засмяяўся тады Віталік у адказ. — Але дакладна не ў ваенныя, як ты.

— Адкуль ты ўзяў такое? — насупіўся Ігар.

— Бо выбару няма — куды яшчэ цябе бацька-вайсковец адправіць? Шагам марш — і памаршыруеш як міленькі! Затое я — куды захачу!

Здарылася ўсё не зусім так. Бацька-ваенны сапраўды «паступіў» Ігара ў ваеннае вучылішча. А вось Віталік Кушаль вымушаны быў ехаць на вучобу ў Мінск у адзін з камерцыйных універсітэтаў. Ягоная маці, якая цярпела выбрыкі сына і спісвала ўсё на пераходны ўзрост, цвёрда заявіла, што гэта скончылася. Маўляў, дзяцінства прайшло — пачалася дарослае жыццё. Хопіць блазнаваць, час брацца за розум.

Віталікава маці праштудзіравала спіс недзяржаўных ВНУ (паступіць самастойна на бюджэт ён нізашто не змог бы) і цэны на навучанне, выбрала і месца вучобы, і прэстыжную тады спецыяльнасць — юрыст. Віталікаў бацька спрабаваў запярэчыць, што для іх сына гэтая прафесія не падыходзіць і наўрад ці той наогул зможа там вучыцца, але маці была непахісная: ён што, горшы за іншых? Грошы заплацім — вывучыцца.

Зразумець яе было можна. Многія бацькі, ахопленыя самымі добрымі намерамі і жадаючы ўберагчы сваіх дзяцей ад жыццёвых памылак, спрабуюць вырашыць за іх, чым ім займацца, з кім сябраваць і з кім жаніцца. Пры гэтым яны забываюць, што хоць некалі і падарылі сваім дзецям жыццё, але яно іх, дзяцей, уласнае. З іх памылкамі, іх выбарам, іх радасцямі і нягодамі.

Не правучыўшыся і семестра, яшчэ да здачы першай сесіі, Віталік Кушаль збег з універсітэта, наадрэз адмовіўшыся там вучыцца. Маці паплакала над сваімі няспраўджанымі марамі пра сына-юрыста і дазволіла Віталіку жыць так, як яму захочацца. Ён, натхнёны гэтай перамогай, пачаў шукаць сабе працу па душы: падпрацоўваў натуршчыкам, спрабаваў сам што-небудзь маляваць, здымаўся ў масоўках на кінастудыі, працаваў кур’ерам і расклейваў аб’явы. А затым трапіў у тэатр і — захварэў ім. Там усё было яго, нібыта ён у тэатры нарадзіўся і вырас. Амаль не дыхаючы, хлопец глядзеў, як іграюць акцёры, як рыхтуюць сцэну да спектакля. Яго ўзялі на работу прыбіральшчыкам. Віталік старанна мыў падлогу і разумеў, што ён хоча і гатовы сам быць акцёрам,

таксама пражываць на сцэне чужыя жыцці і спрабаваць сказаць публіцы пра нешта важнае. Але ў яго не было спецыяльнай адукацыі.

Якраз у гэты час адзін знаёмы, пачатковец-мастак, якога адлічылі на трэцім курсе за непаспяховасць, прапанаваў паехаць за мяжу, у Італію: «У мяне там сябар ужо гады чатыры жыве. Таксама, дарэчы, мастаком хацеў стаць. Усё ніяк не мог знайсці працу, а затым пашанцавала — разгаварыўся ў кафэ з адным чалавекам пра тое-сёе, а той аказаўся акцёрам. Ён і прапанаваў сябру пайсці на пробы: ім якраз чалавека не хапала. І — цуд! — усё «зраслося»!.. Падарожнічае цяпер па свеце з гэтым тэатрам і ловіць кайф. Нядаўна размаўляў з сябрам па скайпе, кажа, ім цяпер людзі патрэбныя».

Віталік, нядоўга думаючы, пагадзіўся ехаць у Італію. Давялося, вядома, паваждацца з афармленнем дакументаў, але ўсё ў гэтым жыцці так ці інакш можна вырашыць.

Адкрыты, эпатажны, часам залішне шчыры, Віталік хутка прыжыўся ў акцёрскай сям'і. Дзіўна, але ў яго нечакана выявіліся здольнасці да вывучэння моў. Спачатку хлопец размаўляў на ламанай англійскай мове, затым усё часцей пачаў устаўляць у сваю гаворку італьянскія словы і нават цэлыя сказы. А калі неўзабаве трупа адправілася ў Іспанію на гастролі, то ўжо «буэнос тардэс» ды «мучас грасіас» штохвілінна зляталі з ягоных вуснаў.

Так, Віталік знайшоў сябе. Бо акцёру на сцэне дазволена ўсё, што нельга рабіць простаму смяротнаму ў звычайным жыцці. Можна колькі заўгодна выварочваць душу навыварат і не баяцца чужога асуджэння. Можна быць самім сабой, і ніхто не разбярэ, дзе ты іграеш, а дзе жывеш. Дарэчы, і за мяжой хлопец змагаўся за праўду. Але наступствы былі мякчэйшыя. Людзі там больш памяркоўныя да тых, хто не падобны на іх.

Але чаго ж тады баяўся Віталік Кушаль? Чаму не захацеў сустрэцца з аднакласнікамі?

Вядома, ён мог прыехаць. Загадзя дамовіцца з кіраўніцтвам тэатра, у якім служыў, купіць білеты, даляцець і даехаць... Але яму здавалася, што гэта пустое. Які сэнс у такой сустрэчы? Яны, ягоныя былыя аднакласнікі, і ён — з розных планет. Яны ўжо ўсе напэўна пажаніліся, нарадзілі дзяцей, набылі жыллё, прасунуліся па кар'ернай лесвіцы і іншае, а што ён? Ні кала ні двара. Ну і што, што акцёр, што падарожнічае па свеце, што яму апладзіруюць? Пытанні ж на такіх сустрэчах задаюцца зусім іншыя: сям'я, праца, жыллё... Не, ён бы адказаў, безумоўна, праўдзіва, але так не хацелася гаварыць пра гэта.

Віталік і сам задаваў сабе такія пытанні, але адказу не знаходзіў. Не сустрэлася яму пакуль ягоная палавіна, не нарадзіла яму дзяцей, каб яны сядзелі ўсе разам за адным сталом ва ўласным доме і пілі чай, размаўлялі, смяяліся... І калі яшчэ сустрэне — невядома.

Так, сям'я — гэта добра, але ж і аднаму быць нядрэнна. І тое, што няма стабільнай працы і ўласнага жылля — таксама выдатна: ты не павінен кожны вечар у адзін і той жа час вяртацца ў адно і тое ж месца. Ты свабодны! Але за свабоду трэба плаціць...

## VII

У школьнай сталовай зрабілася шумна. Былыя школьнікі разняволіліся, расчуліліся і нібыта зноў сталі вучнямі. Не можа ж чалавек заўсёды трымаць сябе ў рамках, быць строгім і прыстойным: яму таксама зрэдку карціць расслабіцца, нават зрабіць якое-небудзь глупства або здзейсніць учынак, які

не адпавядае ягонаму ўзросту і становішчу. Так, напрыклад, няўжо нікому з дарослых дзядзькоў не хацелася часам, калі праходзіў паблізу вялікіх куч восеньскай лістоты, паваліцца ў іх, як у дзяцінстве, ці падфутболіць нагой? А дарослым цёткам хіба не хацелася часам, калі быў выдатны настрой і ярка свяціла сонца, ісці-ісці, а затым падскочыць высока, наколькі зможаш, ажно да самага сонца? Напэўна, хацелася...

У Дзімы заспяваў мабільнік.

— Так, Вася, ужо іду... Добра-добра... Хутка буду...

Дзіма адключыў тэлефон і ўздыхнуў:

— Трэба ісці, бо ўсё роўна не адчэпяцца.

— Ідзі, — сказаў Ігар. — Хопіць хавацца. Ніхто цябе там дапытваць не будзе. Ну, развёўся, і што? Яшчэ ажэнішся. Вяселле — не хаўтуры: адзначаць можна не адзін раз. Добра, пойдзем.

Дзіма прыбраў са стала сляды іх «балявання», склаў у пакет, і яны накіраваліся ў гардэроб, каб апрануцца. Затым прайшлі па пустым калідоры — былыя выпускнікі і настаўнікі разбрыліся па класах, былі хто ў сталоўцы, а хто ўсё яшчэ ў актавай зале — выйшлі на вуліцу. На двары было цёмна, зімовы вечар ляжаў над зямлёй, а ганак ярка асвятляўся электрычнымі агнямі. Ігар і Дзіма ступілі на яго і нібы спатыкнуліся: заўважылі адзінокую, апранутую ў паліто, жанчыну. Прыгледзеліся — Ганна Станіслаўна.

— Добры вечар, — машынальна, як школьнікі, павіталіся яны і паспрабавалі абысці яе бокам.

Ім стала няёмка, што яны выпілі, і настаўніца можа гэта заўважыць. Дзіўна, але так: перад настаўнікамі, няхай і былымі, усе, нават вельмі дарослыя людзі, чамусьці адчуваюць сябе вучнямі. Пасталеўшы, былыя школьнікі разумеюць, што жыццё — складанае, і настаўнікі — людзі не ідэальныя і не бязгрэшныя, а ўсё ж... Можа, таму, што настаўнік — гэта чалавек, які імкнуўся цябе чамусьці навучыць, зычыў дабра? І калі ты падсвядома адчуў гэта, то будзеш век удзячны яму. І яшчэ, можа, таму, што ведаеш: настаўнік памятае цябе дзіцём, падлеткам, юным, не вельмі кемлівым і разумным. Памятае твае горасці і радасці, зрэшты, памятае такім, якім ты быў некалі, і гэта цябе, дарослага, ставіць у няёмкае становішча. Цяпер ты іншы — разумны, дарослы, вопытны, а тады... І няхай мінула шмат гадоў, ты ў яго памяці застаўся школьнікам, такім, якім быў. Бо памяць людская — асаблівая матэрыя, над якой ніхто не мае ўлады: якім захочаш нешта ў ёй пакінуць, такім яно і застанецца...

— Добры вечар, добры вечар, — адказала ім Ганна Станіслаўна і пажартавала. — А выраслі як, зусім дарослыя!

Хлопцы ўбачылі яе твар, бледны, нечым ці то засмучаны, ці то занепакоены.

— Анягож, — сказаў Дзіма. — Выраслі. Ды так, што хутка і нашы дзеці на вечар сустрэч будуць хадзіць.

— Ну што вы, — махнула рукой Ганна Станіслаўна, і, здаецца, бледнасць знікла з яе твару, ён ажывіўся. — Вы яшчэ зусім маладыя, у вас цэлае жыццё наперадзе. А дзецям вашым яшчэ расці і расці.

Некалькі нібыта звычайных слоў паміж былымі вучнямі і іхняй колішняй настаўніцай і — адчуванне адчужанасці, і нейкі пякучы сорам перад ёй, зараз такой адзінокай, здаецца, нікому не патрэбнай на ганку новай школы: а дзе ж яе выпускнікі?.. Ганна Станіслаўна маўчала, затым перавяла позірк углыб двара, дзе ў цемры ледзь угадваліся абрысы старой драўлянай школы, якую так і не разбурылі, пабудаваўшы новую, і ў якой зараз быў ці то склад, ці то майстэрня...

Ігару раптам стала так сорамна перад старой настаўніцай, што захацелася праваліцца скрозь зямлю: Дзіма праз хвіліну сыдзе, а ён застанецца сам-насам з Ганнай Станіславаўнай. І тады, вядома, яна пачне распытваць: як сям'я, як дзеці, як работа? Ну гэта яшчэ, як кажуць, паўбяды. Затым Ганна Станіславаўна абавязкова пацікавіцца, чаму ён не выйшаў на сцэну з Ніначкай Лапушынскай і чаму іх клас не сабраўся сёння разам? «Не, ну гэта справядліва? — абураўся Ігар сам сабе, пакуль Дзіма таптаўся каля Ганны Станіславаўны, наважваючыся хутчэй пайсці. — Яны, былыя аднакласнікі, чорт ведае чаму не прыйшлі, а адказваць павінен я. Адкуль мне ведаць, чаму іх няма? Ды я многіх пасля школы ні разу не бачыў!..»

— А ты, Ігар, куды цяпер? — спытала Ганна Станіславаўна і злёгку кранула яго за крысо паліто.

— Дадому, напэўна, — паціснуў плячыма Ігар і паправіўся. — Ну, у сэнсе, дадому да бацькоў.

— Мог не ўдакладняць, — неяк змушана ўсміхнулася Ганна Станіславаўна. — Тут у цябе іншага дома няма.

— Ага, дзіўнае гэтае слова — дом. Дзе жывеш, дзе вучышся, дзе працуеш — там заўсёды ёсць дом. І няхай гэта пакой у інтэрнаце, або кватэра ці дом, якія здымаеш, ты ўсё роўна кажаш: «Паеду дадому». А потым збіраешся да бацькоў — ці зблізку, ці здалёку — і зноў кажаш: «Паеду дадому». Затым жэнішся, з'яўляецца ўласнае жыллё, а ты зноў за сваё: «Паеду дадому». Ну і дзе тады, атрымліваецца, сапраўдны дом? — было незразумела, жартуе Дзіма ці кажа ўсур'ёз.

— А дом, хлопчыкі, там, дзе цябе чакаюць, — чамусьці нягучна сказала Ганна Станіславаўна. — І там, дзе любяць. І наўрад ці ёсць іншае месца на зямлі, дзе вас чакаюць і любяць больш, чым у бацькоўскім доме. Шчаслівы той, у каго ён ёсць. Удвая шчаслівы той, каму ёсць да каго туды прыязджаць. Паверце мне. Пакуль жывыя бацькі, дзеці — усё роўна, колькі ім гадоў: шаснаццаць ці шэсцьдзясят — застаюцца дзецьмі. А вось калі чалавек страчвае і бацьку, і маці, ён, нягледзячы на тое, колькі блізкіх людзей яго акружае, становіцца сіратой на гэтым свеце.

Сказаўшы гэта, Ганна Станіславаўна зноў адвяла ад іх вочы, але паглядзела ўжо не на абрысы старой школы, а паўз яе, уздоўж доўгай цёмнай вуліцы. Здаецца, яна хацела разгледзець там нешта нябачнае і няўлоўнае яе былым вучням.

Ігар і Дзіма таксама замоўклі. Напэўна, яны падумалі пра сваіх бацькоў, пра родны дом, дзе іх заўсёды чакаюць і заўсёды ім рады, пра тое, што яны самі бацькі і пройдуць гады — іх дзеці пасталеюць, і дом, у якім яны вырастуць, будзе для іх бацькоўскім...

— Ну, я пабягу, — нібы абудзіўся Дзіма. — А то няёмка: чакаюць жа.

— Вядома, бяжы, — адазвалася Ганна Станіславаўна. — Нядобра прымушаць сябе чакаць. А мяне, спадзяюся, Ігар праводзіць: нам жа з ім у адзін бок. Нешта крыху нездаровіцца мне. Дык правядзеш, Ігар?

— Вядома, — кіўнуў той галавой і асцярожна падаў настаўніцы руку, каб дапамагчы ёй спусціцца з прыступак...

## VIII

Бываючы ў лесе, гуляючы сярод кашлатых елак або звонкіх бяроз, прадзіраючыся скрозь гушчар ці сустракаючы на сваім шляху гнятліва-маўклівае балота, нельга не заўважыць адну дэталь. Расце, напрыклад, нягеглая хваіна: і ствол яе тонкі, і ростам не выйшла, але так-сяк існуе ўжо не адзін год і

як быццам шчаслівая сваім лёсам. А часам бачыш: стаіць высокая, ды скрыўленая хвоя. І відаць, што пачынала яна расці прыгожа, роўна, і камель моцны, ды потым нешта з ёй здарылася: на нейкім выгіне быццам перагнулася, ствол пайшоў кудысьці ў бок, і ад усёй былой красы толькі і засталася аснова, па якой відаць, што лёс гэтаму дрэву быў наканаваны іншы. Так і лёсы людскія. Адзін пражыве няхай і небагатае, простае жыццё, але без рэзкіх пераломаў. А другі, якому ўсё спачатку ўдавалася ды ладзілася, затым быццам зламаецца, і жыццё яго пойдзе так-сяк накасяк.

У Віці Дубовіка менавіта так і атрымалася. Вырас ён у добрай сям'і: маці — настаўніца матэматыкі, бацька — галоўны інжынер у калгасе. Старэйшы брат Руслан не крыўдзіў малодшага, як гэта часта здараецца, а хутчэй апекаваўся над Віцем. Калі што, мог і біцца яго навучыць, і дапамагчы матацыкл адрамантаваць, і задачку па фізіцы рашыць. Хоць, што датычыць вучобы, Віця быў выдатнікам. Склад розуму меў матэматычны, дакладны. Бясспрэчна вылучаўся сярод сваіх аднакласнікаў на ўроках алгебры або хіміі, у дзявятым класе мог рашыць задачкі за адзінаццаты. І знешне адрозніваўся: высокі, стройны, добра складзены і развіты, з тонкімі рысамі твару (гэты тып цяпер, дарэчы, называюць андрагенным).

— Ты, Віцька, малаток! — з захапленнем гаварыў яму сусед па парце, паўнаваты, невысокі Антон Ліпніцкі. — Я гэтую задачу сам ні за што не рашыў бы.

— А табе і не трэба, — усміхаўся Віця. — Кожнаму сваё.

Паскудненькі і ўедлівы чарвячок ганарыстасці ўжо неяк непрыкметна пракраўся ў юнае Віцева сэрца і паспеў там асталявацца. Калі Ганна Станіславаўна гэта заўважыла і паспрабавала апусціць хлопца з нябёсаў на зямлю, ёй гэта не ўдалося. На той час Віця цвёрда намерыўся ўзяць ад жыцця ўсё, што яму трэба. Хлопец марыў стаць мільянерам і лічыў, што гэта можна цалкам ажыццявіць. Ён планаваў скончыць наргас, пайсці працаваць у банк, затым заснаваць сваю фірму і — та-да-да-дам! — мільён ужо ў кішэні.

Заўважце: Віця не хацеў выйграць мільён у латарэю, або ўкрасці, або атрымаць яго ў спадчыну ці іншым шляхам. Ён хацеў яго зарабіць сам. Хацеў, каб ягоны розум дапамог яму ажыццявіць сваю мару. Так, была ў гэтай мары і кропля ганарыстасці: мільянераў у вёсцы N. яшчэ не бачылі, і Віця павінен быў стаць першым і, магчыма, адзіным.

Але малады хлопец не меў горкага вопыту і не ведаў, што адна толькі наяўнасць розуму не гарантуе шчаслівага і паспяховага жыцця. Не ведаў, што на свеце ёсць шмат разумных, але не забяспечаных людзей, і што пытанне, якім любяць асякаць зусім не дурных асоб: «Калі ты такі разумны, дык чаму такі бедны?», будзе пасля зададзена і яму.

Уступны экзамен у наргас Віця, які скончыў школу з залатым медалём, з трэскам праваліў. І заданні не сказаць каб былі вельмі складаныя, але... Мабыць, гэтаму пасадзейнічалі і ягоная юнацкая бесклапотнасць (Віця зусім не рыхтаваўся да экзаменаў, мяркуючы, што школьную праграму не паспее забыць), і залішняя самаўпэўненасць, і хваляванне, якое раптам авалодала ім напярэдадні ад'езду ў сталіцу і якое толькі ўзмацнілася, калі Віця пераступіў парог інстытута і ўбачыў, колькі такіх маладых людзей, як ён, хочуць тут вучыцца. І адразу зніякавеў. Чарвячок ганарыстасці, які дагэтуль тачыў яго, адразу ж абвяў, сцяўся і стаў нейкім маленькім. Але, як кажуць, кожны кулік на сваім полі вялікі. Так і Віця: у вёсцы ён ого які, а ў сталіцы...

Віця, не здаўшы экзамены ў інстытут, атрымаў першы сур'ёзны ўдар і ўрок у сваім жыцці. У такой сітуацыі звычайна чалавек выбірае адзін з двух варыянтаў, якія паўстаюць перад ім. Першы — змірыцца, прызнаць, што ты

не такі разумны, як пра сябе думаў, перагледзець сваю самаацэнку, супакоіцца. Другі — не змірыцца з няўдачай, сабрацца і паспрабаваць даказаць усяму свету і сабе, што ты, можа, калі і не самы разумны, але напэўна не дурнейшы за іншых і ўсяго свайго даб'ешся.

Віця абраў другі шлях, шлях воіна. Ён разважыў, што няма сэнсу цэлы год чакаць новых уступных экзаменаў (тым больш, за гэты час шмат што з тэорыі можа прызабыцца) і вырашыў паступіць у тэхнікум. Мару сваю Віця проста так губляць не збіраўся: нездарма столькі гадоў насіў яе ў душы. Ды і сорамна было паказацца перад аднакласнікамі. Але ягонае дрэўца ўжо злёгку скрывілася...

У тэхнікум Віця паступіў лёгка. Вучоба яму таксама падалася нескладаный. Таму марнаваць на яе ўвесь свой вольны час хлопец палічыў непатрэбным. А што робіць студэнт, які жыве ў інтэрнаце і мае час і грошы (невялікія, вядома, і з бацькоўскіх заробкаў)? Ну, калі чалавек не працуе, значыць, адпачывае. Як адпачываюць студэнты ў інтэрнаце, ведае кожны, хто калі-небудзь дзе-небудзь вучыўся ды жыў у ім, і ўсё роўна, гэта было літаральна ўчора або некалькі дзясяткаў гадоў таму. Вядома, юныя навучэнцы, толькі што вырваўшыся з-пад бацькоўскай апекі, адразу пачынаюць адчуваць сябе цалкам дарослымі людзьмі, якія ведаюць гэта жыццё і разумеюць у ім, безумоўна, больш, чым іхнія таты і мамы са сваімі старамоднымі правіламі і прынцыпамі. Праз вольніцу жыцця без бацькоў праходзяць усе. Некаторыя, адчуўшы ўсё яе хараство, неўзабаве са здзіўленнем заўважаюць і заганы. Да таго ж, атрымаўшы ад самастойнага жыцця гузы рознай ступені цяжкасці, пачынаюць глядзець на яго больш цвяроза. Іншыя ж не зважаюць на ўсялякія ўмоўнасці і разумеючы, што дзесьці і ў чымсьці дзейнічаюць няправільна (няправільна нават з іх пункту гледжання, а не бацькоўскага), вырашаюць не спыняцца…

Як такое здарылася з ім, Віця і сам не заўважыў. (Зразумеў ён гэта значна пазней.) Хлопец захапіўся цяжкай музыкай, стаў адпаведна апранацца і жыць так, як яму хацелася. Да яго прычапілася мянушка Кароль, і ён спачатку нясмела, саромеючыся, а затым усё больш упэўнена пачаў да яе прывыкаць.

— Кароль, дапамажы з задачай, а то да заліку не дапусцяць, — прасіў Пецька, з якім яны жылі ў адным пакоі, і чуў у адказ паблажлівае: «Добра, давай».

— Кароль, пазыч да стыпендыі, вярну абавязкова!..

— Кароль, дапамажы «ўламаць» старасту, каб мне прагул не намалявала!..

— Кароль, пагавары на вахце, каб да мяне дзяўчат прапусцілі, у іх ніякіх дакументаў з сабою няма. Іванаўна цябе паслухае!..

І Кароль дапамагаў, пазычаў, дамаўляўся, арганізоўваў... Як кажуць, імя абавязвае.

Тэхнікум Віця скончыў сярэдненька: галава ўсё-ткі заставалася на плячах. А вось вучыцца далей і імкнуцца ажыццявіць сваю школьную мару не захацеў. Па многіх прычынах. Паўплывала асяроддзе: як кажуць, з кім павядзешся... Вучыліся ў тэхнікуме і даволі разумныя хлопцы і дзяўчаты, але ўсё ж большасць было тых, хто займаўся ў школе з неахвотай і пераважна на «траякі». Адсюль і агульны ўзровень, і настрой, і размовы... Ды і ў сям'і Дубовікаў не ўсё было добра: бацькі распачалі развод. Віця спусціўся з нябёсаў на зямлю, утапіў свае расчараванне і горыч у віне і вырашыў уладкавацца на работу.

Якраз у гэты час ён і сустрэў Іну. Прыехаў да бацькоў на выхадныя, зайшоў у краму, а там на касе — маладзенькая незнаёмая прадаўшчыца. Высокая, як ён, зграбная, валасы чорныя, а вочы — цёмна-карыя, бліскучыя, нібы каштаны. Закахаўся, як хлапчук.

Да гэтага Віця, вядома ж, сустракаўся з дзяўчатамі. Увогуле ён падабаўся ім. Некаторыя нават прызнаваліся, што кахаюць яго, але сам сур’ёзна нікога не кахаў. Захапляўся, сімпатызаваў, але каб каханне — вялікае і сур’ёзнае — не. Не здарылася неяк. А тут толькі ўбачыў дзяўчыну і адразу зразумеў, што прапаў. Сэрца ўзляцела кудысьці высока-высока, а затым упала і замерла…

— Дзяўчына, толькі вы здольны мне дапамагчы. Я не змагу сысці без яго, — сабраў сваю волю ў кулак Віця і паглядзеў ёй прама ў вочы.

Яна не апусціла бліскучых вачэй, злёгку ўсміхнулася куточкамі вуснаў.

— І хто ён?

— Ваш нумар тэлефона, — выдыхнуў Віця.

Дзяўчына звонка засмяялася.

…На працу Віця ўладкаваўся ў сваім райцэнтры — у банк касірам. Маладых у калектыве было няшмат: акрамя яго, яшчэ дзве дзяўчыны. Адна з іх нядаўна выйшла замуж, другая — збіралася. Гаварыць Віцю з імі не выпадала пра што: тыя толькі і трашчалі пра вяселлі, новых сваякоў і іншае. Касцяк калектыву складалі людзі сярэдняга і старэйшага ўзростаў: самавітыя цёткі з гулямі на галаве альбо завіўкамі ды дзядзькі, што любілі пагаварыць пра рыбалку, паляванне і машыны. Нудота!.. Не тое што з Інай. Яна аказалася вясёлай, таварыскай дзяўчынай, з якой можна было размаўляць пра ўсё на свеце. Іна марыла, што калі-небудзь зможа аб’ездзіць увесь свет, убачыць іншых людзей і іншае жыццё. Побач з ёй Віця акрыяў духам, у душы ажылі юнацкія мары. Ён падзяліўся з каханай сваімі планамі: адпрацаваць па размеркаванні, набрацца вопыту, паступіць завочна ў наргас, адкрыць сваю фірму...

— Прыкольна, — заўважыла Іна ў адказ. — Свая фірма, ты дырэктар, ёсць работнікі. Даў ім заданні, няхай выконваюць, а сам — гуляй. Можна паехаць куды хочаш...

— Галоднай куме адно наўме, — пажартаваў Віця. — Падарожжы, падарожжы... Каб фірма прыносіла грошы, трэба шмат працаваць. І дырэктару — у першую чаргу. Няўжо ты думаеш, што калі ён пачне гуляць, то яго падначалены Вася Пупкін будзе думаць пра тое, каб лепш і больш працаваць? Ха-ха, Вася будзе думаць: шэф гуляе — пагуляю і я. Зразумела?

— Зразумела, — уздыхнула Іна. — Але ж памарыць можна?

— Можна, — зноў усміхнуўся Віця і цмокнуў яе ў нос.

Толькі месяцы праз чатыры Іна зразумела, што цяжарная. Віця гатовы быў хоць заўтра ісці ў сваты, але маладыя вырашылі крыху пачакаць: Віцевы бацькі якраз павінны былі развесціся. «Ну, і праўда, як я з імі да цябе дадому прыйду, калі яны адно на адно нават глядзець не хочуць! Можа, няхай месяцдругі мінецца — супакояцца, тады і вырашым усё...» — казаў ён каханай.

Іна не настойвала, каб Віця сватаўся. Ёй здавалася, што ў іх яшчэ процьма часу — пажэняцца, паспеюць. Ды і трэба выбраць сукенку, скласці спіс гасцей, вырашыць, куды яны паедуць у вясельнае падарожжа... А праз пару месяцаў Іна зразумела, што не хоча такога недарэчнага вяселля, калі маладая, як шарык, госці гадаюць, на якім яна месяцы, а расфуфыраная цётка ў ЗАГСе строгім голасам пытаецца, ці згодна нявеста выйсці замуж за жаніха.

Іна ведала, што Віця яе кахае. І ён не кіне яе, не ўцячэ потым, не пакіне з дзіцем. Як быццам штамп у пашпарце гарантуе, што муж і жонка будуць жыць доўга і шчасліва!..

Хутка Іна нарадзіла сына. Віця быў шчаслівы. Маладыя знялі ў райцэнтры аднапакаёвую кватэру. Віця працаваў, дапамагаў Іне даглядаць дзіця, усё рабіў па гаспадарцы. Ягонай зарплаты ледзь хапала на аплату жылля, прадукты, пялёнкі-распашонкі... Добра, што дапамагалі Іміны бацькі. Віцевы да таго часу канчаткова развяліся. Іна ім не спадабалася.

— Пажаніцеся і жывіце як людзі. Хто яна табе? Ці мала ў цябе яшчэ такіх будзе. Мне што, перад кожнай загадаеш скакаць? — казала ягоная маці.

— Мама, у нас дзіця! — усклікаў Віця. — У мяне сын. Разумееш? І ніхто не прымушае цябе перад Інай скакаць. Хаця б гавары з ёю. А не пажаніліся мы сама ведаеш чаму.

— Дык я, значыць, і ў гэтым вінаватая? — узнімалася маці. — І бацьку, аказваецца, жыцця не давала, і вам таксама, як костка ў горле!..

— Мама, хіба я такое казаў? — спрабаваў пярэчыць Віця, але ўсё марна: маці была пакрыўджаная на ўвесь белы свет.

Апроч таго, бацька нядоўга гараваў і неўзабаве пачаў жыць з нейкай адзінокай жанчынай з горада. Дзіця ў яе даўно памерла маленькім, і з мужам яны ў хуткім часе пасля таго разышліся...

Вучыцца далей, атрымліваць завочна вышэйшую адукацыю Віцю не выпадала. Як, зрэшты, і ладзіць вяселле. Хто ж з грудничком на руках замуж выходзіць?..

Час між тым ішоў. Сяргейка павінен быў пайсці ў дзіцячы садок, як нечакана аб'явілася зводная Ініна сястра Віка. Гадоў пяць таму яна з'ехала ў Германію працаваць пакаёўкай у нейкім атэлі, і з таго часу тэлефанавала маці раз у год на дзень нараджэння. З Інай яны асаблівых зносін не мелі. Па-першае, яна была старэйшай за яе на сем гадоў, па-другое, Віка пасля заканчэння школы адразу паехала ў горад і нячаста наведвалася дадому. Якія тут размовы?..

А цяпер Віка, дазнаўшыся ў маці тэлефон сястры, патэлефанавала той. Сказала, што сумуе па бацьках, па Іне, настойліва запрашала наведаць яе. Уладкавалася яна нядрэнна, зарабляе прыстойна, маўляў, прыязджай: сама ўсё ўбачыш.

Іна загарэлася гэтай ідэяй. Адпачыць нарэшце ад хатняй руціны, кашакпрагулак-мыцця і іншага клопату, трапіць у невядомы, але такі цікавы свет. Апроч таго, Віка абяцала Іне, што аплаціць ёй дарогу туды і назад. Віця бачыў, як змянілася Іна — павесялела, узбадзёрылася, вочы зноў заблішчалі, як спелыя каштаны, і ён згадзіўся адпусціць яе на два тыдні. Разважыў так: няўжо не справіцца з трохгадовым сынам? Сваю мару стаць мільянерам ён, відаць, упусціў. Дык няхай хоць Іна крыху здзейсніць сваю.

Іна паехала. Але праз два тыдні не вярнулася. «Віка прадоўжыла мне візу яшчэ на два тыдні. Тут так класна! Справішся з Сяргейкам?..» — патэлефанавала яна яму. Віця ўздыхнуў і пачаў зноў чакаць. «Віка знайшла мне працу. Плацяць вельмі шмат. Змагу прыехаць праз паўгода. Згодны?..»

Віця быў не згодны. Сяргейка плакаў і сумаваў па маме. Але Іна іх ужо не чула. Яна жыла сваёй марай — аб'ездзіць увесь свет, пабачыць іншых людзей і іншае жыццё.

Вось так Віця застаўся адзін з сынам на руках. Што рабіць далей, ён не ведаў. Пра тое, каб аддаць Сяргейку яе бацькам ці яшчэ куды, нават не думаў. Але і спраўляцца аднаму з сынам было складана. Таму Ініны бацькі да пары да часу ўзялі ўнука. Яе маці дакарала сябе за тое, што не перашкодзіла Іне з'ехаць. Бацька перажываў, што выхаваў такую бессардэчную дачку.

Сяргейка стаў жыць і гадавацца ў іх. Вёсачка маленькая, дзіцячага садка няма... Хлопчык сумаваў па бацьку, усё радзей згадваў маці, называючы «мамай» бабулю. Віця прыязджаў да яго на кожныя выхадныя, забіраў да сябе на святы...

Мінуў год, другі. Іна тэлефанавала бацькам, перадавала прывітанні Віцю і Сяргейку і абяцала хутка прыехаць. Сын пайшоў у школу...

Цяжка сказаць, кім адчуваў сябе Віця. Падманутым мужам? Дык ён ёй не муж. Бацька дзіцяці, але не муж. Нібы вольны, але ў той жа час не. Ці то чакаць

Іну, ці то шукаць новую жонку. (А што тады рабіць з Сяргейкам?) І якім чынам? Падысці да першай дзяўчыны, якая падабаецца, ды сказаць: «Добры дзень, я буду вашым мужам. Але ў мяне сын, які павінен жыць з намі?» Ну-ну... Вядома, можа, якая-небудзь дзяўчына ці жанчына і зразумела б яго, і пагадзілася б стаць ягонай жонкай, але... Але ён нават і не спрабаваў кагосьці знайсці.

...Дрэўца скрывілася канчаткова, і выпрастаць яго ўжо не магло нішто. Прынамсі, Віця быў у гэтым перакананы...

## IX

— Як твае справы, Ігар? — спытала Ганна Станіславаўна, калі яны адышлі ад школы. — Як сям’я, работа?

«Ну вось, я так і ведаў. Цяпер трэба будзе расказаць, як я жыву і чым займаюся. Затым пойдуць роспыты пра аднакласнікаў: дзе і што? Ну, а потым, напэўна, пачне чытаць мараль: чаго нельга рабіць і з каго браць прыклад», — злосна падумаў Ігар і коратка адказаў:

— Нармальна. І сям’я, і работа, — і, каб не было больш пытанняў на гэтую тэму, дадаў. — І ўсё астатняе — таксама.

Гэтыя адрывістыя фразы, якія ён прамовіў, не пакідалі сумневу: размаўляць з настаўніцай пра асабістае Ігар не збіраецца. Ганна Станіславаўна адразу тое адчула, але заставалася знешне спакойнай. Усё ж прымусіць настаўніка нервавацца не так проста. Хаця, як ён заўважыў, ішла чамусьці не спяшаючыся і нават праз колькі крокаў на хвіліну прыпынялася.

— Ведаеш, Ігар, у настаўнікаў ёсць такая прыхамаць — яны назіраюць за лёсамі сваіх шматлікіх вучняў, колькі б гадоў ні прайшло з таго часу, калі яны скончылі школу. Зразумела, пра ўсіх ведаць не будзеш і за кожным не ўсочыш, але ўсё ж... «І навошта вам гэта трэба?» — відаць, хочаш спытаць ты, — і Ганна Станіславаўна паглядзела на Ігара, які ішоў побач з ёй.

Ён пастараўся застацца спакойным, нават усміхнуўся. Толькі ўсмешка атрымалася напружанай, слабой, ды і ў цемры настаўніца не бачыла яе.

— Ды не, — адказаў Ігар і зноў усміхнуўся, але ўжо па-сапраўднаму. — Не ведаю.

— А вось я хацела б спытаць пра гэта ў таго, хто ведае адказ, — сказала Ганна Станіславаўна. — Бо я сама не ведаю, навошта настаўнікі думаюць пра сваіх вучняў. Можа, таму, што ў школе вы былі дзецьмі — наіўнымі, слабымі, дапытлівымі. Часам, вядома, і дрэннымі, і шкадлівымі. Але ўсё ж дзецьмі. А любы нармальны дарослы заўсёды шкадуе дзіця.

— Гэта чаму? — не стрымаўся і хмыкнуў Ігар.

— Ды таму, што дарослы разумее ў жыцці больш. Ён ведае, што з часам пройдзе і дзіцячая наіўнасць, і вера ў цуды, што жыццё адкрыецца з іншага, не лепшага боку, што з’явяцца сінякі і гузы... Але гэта будзе потым. А пакуль дзіця, як і павінна быць, застаецца дзіцем, і гэта добра.

Прайшлі крыху моўчкі. Ганна Станіславаўна зноў прыпынілася. Наўкола панаваў паўзмрок, рэдкія ліхтары на слупах слаба асвятлялі вуліцу. Снег месцамі каляна блішчэў, нібы тоўчанае шкло. Стаяла цішыня. Ігар чуў частае дыханне настаўніцы, здавалася, ёй не хапала паветра. А яно было хоць і марознае, але чыстае.

— Толькі цяперашнія дзеці іншыя, не такія, якімі былі мы, — сказаў Ігар. — Яны ў сто разоў больш дарослыя, чым мы, калі былі ў іх узросце. І ім не мячык патрэбны, як, напрыклад, некалі нам, а смартфон. Яны не ў паход хочуць ісці, а ляцець куды-небудзь за мяжу. І казкі вашыя ім не патрэбны.

Ганна Станіслаўна маўчала, нібы абдумваючы, што адказаць, потым уздыхнула:

— Мне здаецца, Ігар, ты памыляешся. Казкі патрэбныя ўсім, нават дарослым. Дзеці любяць цуды. Так, час памяняўся, але гэта знешне. А па сутнасці людзі засталіся ранейшымі людзьмі — кожны са сваімі радасцямі і трывогамі, сумненнямі і засмучэннямі.

— Хм, вы лічыце, што час не мяняе людзей?

— Чалавечую натуру складана перайначыць. Яна не мяняецца стагоддзямі. Людзі і цяпер, калі здаецца, не да гэтага — свет так імкліва развіваецца — чытаюць кнігі, слухаюць музыку, глядзяць на скульптуры і карціны, створаныя сто ці нават тысячу гадоў таму і лічаць іх цікавымі. І разумеюць герояў, і суперажываюць ім.

— Ну, не ведаю...

Ігар замоўк. Ганна Станіслаўна крадком зірнула на яго: задумаўся, нешта відавочна не дае яму спакою.

— Сказаў бы я вам... Ды, баюся, не зразумееце.

— Я паспрабую, — без іроніі адказала Ганна Станіслаўна.

— Ну, дапусцім, чалавек па сутнасці мяняецца мала. Але ж як пераварочваецца ўсё вакол яго! Цяпер чалавеку вялікая раскоша стаяць паўдня перад карцінай у музеі і захапляцца майстэрствам мастака. Ці сядзець, як бабка на лаўцы, ды назіраць, як прылятаюць шпакі. Ды не можа ён сабе гэтага дазволіць!

— Чаму?

— Ды таму, што сучаснаму чалавеку трэба вельмі шмат паспяваць, шмат працаваць, шмат рухацца, — быццам някемлівай першакласніцы, тлумачыў настаўніцы Ігар. — Няма калі марнаваць час на глупствы, ад якіх не залежыць непасрэдна тваё далейшае жыццё і твой дабрабыт.

Ганна Станіслаўна іранічна ўсміхнулася. Яны збочылі, міма іх пранесліся дзве машыны, узвіхурваючы снежны пыл.

— Так, Ігар, цяпер усе спяшаюцца: бягуць, бягуць, бягуць... Няма калі нават спыніцца і падумаць: куды, навошта, чаму? Калі бяжыш, усё як быццам паскараецца, адну карцінку змяняе іншая, і хуткасць усё павялічваецца і павялічваецца... Але ж чалавек — жывая істота. Яму патрэбны адпачынак. Інакш не зможа далей бегчы. Жалезная машына і то ламаецца. Знос металу, як кажуць. А чалавек? Ён жа, з аднаго боку, моцны і разумны: лятае ў космас, стварае робаты, праводзіць вельмі складаныя медыцынскія аперацыі, хутка створыць і самога сябе. Але, з іншага боку, чалавек слабы, кволы, на яго можа паўплываць любая дробязь.

— Зразумейце, Ганна Станіслаўна: ён усё роўна павінен бегчы. Памятаеце, мы вучылі калісьці ў школе: «Времена не выбирают, в них живут и умирают...»? Мы жывём у такі час і павінны быць такімі, інакш, як кажуць, — на абочыну жыцця...

Ігар змоўк, а затым раптам спыніўся і рашуча вымавіў:

— Ведайце: для нас жыццё не мае вялікага сэнсу. Гэта папярэднікі рабілі ўсё з аглядкай, нібы са страхам: а што пра цябе скажуць іншыя, калі зробіш тое ці гэтае… Сучасны малады чалавек не цэніць жыццё. Ну, вядома, калі ў яго ёсць сям’я, дзеці, ён павінен пра іх клапаціцца, павінен жыць і гэтак далей. А калі чалавек адзінокі — чаго варта яго жыццё? (Ён не заўважыў, як пасля гэтых слоў настаўніца скаланулася, забыў, што яна адзінокая.) Ды нічога, па вялікім рахунку. І таму чалавек можа дазволіць сабе распарадзіцца ім, як яму ўздумаецца. Захоча — будзе жыць па рэжыме і пераходзіць вуліцу на зялёнае святло. А захоча — сядзе за руль аўто і паімчыць па сустрэчнай сто дваццаць кіламетраў у гадзіну. Гэта яго жыццё.

— Страшныя словы ты мне кажаш, Ігар, — уздыхнула Ганна Станіславаўна. — Як можна не цаніць жыццё? Няхай гэта гучыць цяпер пафасна, але ж вашы дзяды ваявалі за вас, за светлую будучыню, за яе аддавалі свае жыцці.

— Так, Ганна Станіславаўна, яны ў вайну паміралі. Таксама рабілі свой выбар. Але яны ваявалі за ідэю. Быў сэнс. Была мэта. Адна на ўсіх. І той, хто заставаўся ў жывых, цаніў жыццё. А што цяпер? Якая ў нас агульная ідэя? Ды ніякай. Кожны сам за сябе. Ну, а калі жывём у адзіночку, тады мне самому вырашаць, што і як рабіць.

Далей Ганна Станіславаўна ішла моўчкі. Ігар таксама маўчаў. Размова была цяжкай, няпростай. І пытанні не з разраду «два ў два», калі адказ вядомы і пэўны. Тут усё інакш. Ігар сказаў тое, што было ў яго на душы, і то, мабыць, не ўсё. І замест сардэчнай гутаркі з настаўніцай пра цудоўныя школьныя гады і роспытаў накшталт: «А як там Танечка (Ванечка, Пецечка і іншыя)?» атрымалася вось такая размова — жорсткая, адкрытая, прамая.

Першай маўчанне парушыла Ганна Станіславаўна.

— Вядома, Ігар, мне цяжка, ды і немагчыма зразумець ваша пакаленне. Я магу толькі здагадвацца, што вы думаеце, чым жывяце. Часам здаецца, што нават разумею, а часам гляджу на вас, як на прышэльцаў з космасу. Я дастаткова пажыла на гэтым свеце і дакладна ведаю адно: самае каштоўнае ў чалавека — не асабняк у дзесяць паверхаў і не машына самай апошняй мадэлі, а жыццё. А што такое жыццё? Гэта твая сям'я, дзеці, бацькі, сябры, блізкія. Усё, што з імі звязана. Гучыць банальна, але гэта так. Сэнс жыцця — само жыццё. Нічога разумнейшага не прыдумаеш.

— Ой, Ганна Станіславаўна! Ігар! — пачулі яны раптам звонкі голас Ніначкі Лапушынскай і павярнулі галовы ў той бок, адкуль ён даляцеў.

Ніначка, апранутая ў шэры спартыўны касцюм, стаяла на асветленым ліхтаром ганку свайго дома, махала ім рукой.

— Пачакайце, я зараз цяплей апрануся! — крыкнула яна і знікла за дзвярыма.

Яны спыніліся. Нетаропка падышлі да нізенькіх, да пояса, веснічак. Ніначка з'явілася праз хвіліну, на яе плячах быў пухавік. Падбегла да веснічак, адчыніла іх, падышла да Ганны Станіславаўны і Ігара.

— А я котку ў дом упускала, гляджу: нехта знаёмы па дарозе ідзе. А гэта вы! — усміхалася яна. — Ды што ж мы на вуліцы стаім? Холадна! Заходзьце да мяне ў госці, пасядзім, пагаворым. У школе ж неяк не атрымалася...

— Дзякуй, Ніначка, але я пайду дадому. Позна ўжо. Ды і стамілася крыху, — адказала Ганна Станіславаўна. — Можа, Ігар не адмовіцца пагаварыць з аднакласніцай? Шкада, вядома, што ваш клас не сабраўся сёння разам. Але ўжо як ёсць...

— Магла і я знайсці тэлефоны аднакласнікаў, абзваніць іх, сабраць разам, купіць кветкі. Ды ў мяне Ягорка хварэў, зусім не было вольнага часу... І ўсё ж сорамна за нас усіх, — павінілася Ніначка. — Настаўнікі прыйшлі, а мы, іх вучні, не з'явіліся.

— Значыць, не захацелі, — адрэзаў Ігар, якому не падабалася гэтая размова і тое, што Ніначка просіць у настаўніцы прабачэння за ўсіх. — Дарослыя людзі: хочуць — ідуць, не хочуць — не ідуць.

— Так, вы зусім дарослыя, — сказала Ганна Станіславаўна. — Жывяце, як лічыце патрэбным. У прынцыпе — гэта ж ваша жыццё. Але, калі ўдумацца, і не зусім ваша, ці не толькі ваша. Бо на яго таксама ўплываюць і вашы блізкія, бацькі, сябры... Вы сустракаецеся, размаўляеце і — непрыкметна мяняецеся самі і мяняюцца яны. Значыць, яны маюць дачыненне да вашага жыцця, яны — маленькая часцінка яго. А вы — да іхняга. — Ганна Станіславаўна ўсміхнулася. — Нешта

я загаварылася. Дзякуй, Ігар, што праводзіў. Далей я сама — мне ж зусім блізка. А ты застанься, зайдзі ў госці, калі аднакласніца запрашае.

— Ну, калі запрашае, дык зайду, — адказаў Ігар. — Праўда, з пустымі рукамі не ходзяць у госці.

— Нічога-нічога, — супакоіла яго Ніначка. — Ты ж не збіраўся. Але, можа, вас усё ж праводзіць дадому, Ганна Станіславаўна?

— Мне не цяжка, давайце праводжу і вярнуся, — сказаў Ігар.

— А я пакуль на стол збяру, — узрадавалася Ніначка.

— Ну, добра, — пагадзілася Ганна Станіславаўна. — Цябе, Ніначка, часта бачу, пагаворым яшчэ. Да пабачэння.

— Да пабачэння, Ганна Станіславаўна. Ігар, заходзь! Я буду чакаць.

— Добра, Ніна. Сказаў, што прыйду, значыць, прыйду, — стрымана адказаў Ігар, і яны з Ганнай Станіславаўнай пайшлі.

Спачатку зноў ішлі моўчкі. Мабыць, кожны думаў пра сваё. Да доміка Ганны Станіславаўны было ўжо недалёка. Ліхтар на слупе насупраць яго асвятляў частку гэтай невялікай цаглянай пабудовы. Адсюль, ад вуліцы, здавалася, што ў двух невялікіх вокнах, якія глядзяць сюды, гарыць святло. Ігар спахапіўся: дык жа Ганна Станіславаўна жыве адна! І дома яе ніхто не чакае…

Настаўніца асцярожна спытала:

— І ўсё ж, Ігар, як ты думаеш, чаму вы не сабраліся разам? Ваш клас быў вялікім — дваццаць два чалавекі, і толькі вы з Ніначкай прыйшлі ў школу. Што ж перашкодзіла астатнім?

— Не ведаю, — пацiснуў той плячыма. — Можа, што каму і перашкодзіла. А мне нічога не замінала, бо ў мяне ўсё о’кей. Жанаты, падрастае дачка. Ёсць свой бізнес, добра зарабляю. Чаго мне хавацца?

— А астатнія, па-твойму, схаваліся? Утойваюць нешта? — дапытвалася Ганна Станіславаўна. — Прабач, што нейкае дазнанне табе ўчыніла. Але мне ўсё гэта незразумела. Горка неяк...

— Навошта думаць за астатніх? У іх сваё жыццё, свае планы, ды і ўсё іншае. Не прыйшлі — значыць, не захацелі. І хопіць пра гэта, надакучыла, — шчыра прызнаўся Ігар.

— Прабач, што была дакучлівай, — сказала Ганна Станіславаўна. — Ты маеш рацыю: хопіць абмяркоўваць гэта. Тым больш, што мы ўжо прыйшлі. Дзякуй, што праводзіў, — і дадала. — Заўсёды буду рада цябе бачыць, не толькі зімой.

— Ды няма за што. Да пабачэння, Ганна Станіславаўна, — адказаў Ігар. Яму захацелася супакоіць, падбадзёрыць настаўніцу. — І не думайце вы пра нас, не забівайце сабе галаву. Усё ўрэшце можна выправіць. Сустрэнемся яшчэ ўсе разам.

— Дзякуй за добрыя словы. Да пабачэння, Ігар.

Ганна Станіславаўна пайшла па пратаптанай у снезе сцяжынцы да дома, але затым, зрабіўшы колькі крокаў, чамусьці азірнулася. Ігар стаяў, павярнуўшыся да яе спінай. Затым нібы прачнуўся, закурыў і пайшоў назад, у кірунку дома Лапушынскіх і школы.

## X

Ісці да Ніначкі Ігару не хацелася. «Ну, і пра што з ёй размаўляць? Мамачка з кучай дзяцей, вялікая гаспадарка і ўсё такое. А я жыву ў горадзе, маю свой бізнес... Але ж паабяцаў — трэба зайсці».

Праз дзесяць хвілін ён быў ужо каля дома Лапушынскіх. Толькі задумаўся, што лепш: пазваніць ці пастукаць, каб не пабудзіць дзяцей, як дзверы адчыніліся і на ганку з'явілася Ніначка, быццам вартавала яго.

— Заходзь, Ігарок. Малайчына, што прыйшоў, — ціхенька сказала яна. — Дзеці спяць. Распранайся, праходзь на кухню.

Ігар зняў паліто, разуўся, прайшоў за Нінай у пакой.

Кухня была вялікай, прасторнай. Як, зрэшты, і ўвесь дом. Лапушынскія паспелі пабудаваць яго па льготным крэдыце, і паўгода таму перасяліліся з цеснаватай, без усялякіх выгод драўлянай хаткі ў гэты катэдж.

— З наваселлем цябе, — сказаў Ігар і прысеў за стол. — Прабач, што без падарункаў, не рыхтаваўся.

— Нічога, зойдзеш наступным разам з гасцінцамі, — пажартавала Ніначка. — Ты ж часта ў бацькоў бываеш, ды і жывеш не ў Маскве.

— Але, — пагадзіўся Ігар. — А муж дзе? Не будзе супраць, што я тут з табой ноччу сустракаюся?

— Не, што ты, — усміхнулася Ніначка. — Ён дома, наверсе. Закалыхваў Ягорку, ды сам з ім і заснуў. Стаміўся за дзень на працы.

— А ты быццам не стамляешся? Чацвёра дзяцей усё ж, гаспадарка...

— Ёсць трошкі. Але ж гэта маё жыццё, мая сям'я, мае дзеці. Сама так захацела. Затое і шчасця ў чатыры разы больш, — пажартавала Ніначка і спытала. — Чай? Кава? Прабач, мацнейшага нічога няма. Валера мой не п'е, а з мяне піток яшчэ той.

— Кава. Гарэлкі я і дома вып'ю, — таксама аджартаваўся Ігар.

Усталявалася няёмкая паўза.

— Ніколі б не падумала, што з усяго класа толькі мы з табой прыйдзем, — уздыхнула Ніначка.

— Я таксама, — сказаў Ігар. — Атрымліваецца, двое нас — шчаслівых жыццём. Астатнія баяцца чамусьці на людзі паказацца.

— Ты сапраўды так думаеш?

— Жартую, вядома. Хоць у кожным жарце, кажуць, ёсць доля праўды...

Закіпеў чайнік. Ніначка насыпала ў кубкі кавы, наліла кіпеню, пасунула да Ігара вазачку з цукеркамі і пячэннем.

— А ты ведаеш, што Віталік Кушаль жыве недзе за мяжой, артыст?

— Так, чуў, — Ігар кіўнуў галавой. — Ну, ён заўсёды быў крыху дзіўнаваты. Вось і знайшоў занятак па сабе.

— Не дзіўнаваты, а асаблівы, — заступілася за Віталіка Ніначка. — Гэта ж вельмі складана: іграць на сцэне. Я ні за што не выйшла б на падмосткі. А калі і адважылася, то, напэўна, усе словы забылася б.

— Ну, калі яму так падабаецца, няхай людзей забаўляе, — стаяў на сваім Ігар. — Тым больш, што нейкія дурні яму за гэта яшчэ і грошы плацяць.

— Навошта ты так? Мы ўсе розныя. Кожны шукае занятак па душы. Я вось, напрыклад, рада, што Віталік знайшоў сябе.

— Глупства ўсё гэта. Работа павінна прыносіць грошы. Мужчына абавязаны забяспечваць сям'ю.

— Вядома, так павінна быць. Але не заўсёды атрымліваецца. Што рабіць, калі, напрыклад, у цябе спецыяльнасць цікавая, работа падабаецца, але не дае вялікага прыбытку?

— Пакласці свой інтарэс на палічку і ісці на нармальную работу, — Ігар быў катэгарычны. — Каго цяпер цікавяць твае таленты? Трэба зарабляць грошы.

— Мабыць, нездарма кажуць, што ўсіх грошай не заробіш.

— Але імкнуцца да гэтага трэба, — усміхнуўся ён. — Гэта мая думка. Не пі, як Сашка Гарбоўскі, не распускай жонку, як Віцька Дубовік — і ўсё будзе о’кей.

Ніначка задумалася, паківала галавой:

— Складана разважаць пра чужое жыццё. Тут і ў сваім не заўсёды можаш разабрацца.

— Сапраўды, — пагадзіўся Ігар. — Маеш рацыю.

— А каго ты яшчэ ў горадзе сустракаеш? — пацікавілася Ніначка. — Там жа нямала з нашага класа асталявалася.

— Чалавек восем дакладна, — адказаў Ігар. — Танька Салодкіна працуе настаўніцай хіміі ў школе, Марынка Балошка — выхавацелькай у дзіцячым садку. Мая малая, дарэчы, у яе групу хадзіла.

— І як Марынка?

— Ды ніяк. Кажуць, выпівае... Я, праўда, нічога такога не прыкмеціў, але яна ўсё ж на рабоце была. А вось дома... Муж у яе нейкі мутны: нідзе не працуе, пераязджаюць пастаянна з месца на месца. Цяпер вось тут атабарыліся.

— Ведаеш, я чула пра яе такое, але неяк не хочацца верыць. Яна ж такая вясёлая, кампанейская была, выдатніца.

— Ну, Танька таксама выдатніца была. І што? Вышэй за настаўніцу ў школе не скокнула. Замуж выйшла, дзяцей нарадзіла і — баба бабай, шчыра кажучы.

— А кім жа яна павінна быць — мужчынам? — з усмешкай сказала Ніначка. — Нарадзіла дзяцей, гадуе іх... Я для цябе таксама, напэўна, вясковая баба, так? — і адкрыта паглядзела на Ігара.

Ён не сумеўся.

— Ты — не. Табе можна і расслабіцца: куча дзяцей, каровы-свінні-куры, агароды ў дадатак... Звычайнае вясковае жыццё. А яна сядзіць у горадзе, дзе ўсе выгоды, муж у Расію на заробкі пастаянна матаецца — жывуць заможна. Вось і расплылася, як цеста ў дзежцы. Ты вунь стройная, як дзяўчынка.

— У мяне «фітнэсу» шмат, — усміхнулася Ніначка. — Некалі таўсцець. А хочаш, я школьны альбом прынясу? Паглядзім фатаграфіі, успомнім школу.

— Можна, — пацiснуў плячыма Ігар. — Калі нядоўга.

— Я зараз, — яна выйшла з кухні ў залу і праз хвіліну вярнулася з альбомам у руках. — Нядаўна глядзела яго, не паспела ў шафу схаваць. Толькі давай школу прыгадваць, а то, атрымліваецца, мы з табой нагаворамі ды плёткамі займаемся: тая п’е, гэтая абабілася...

Ніначка прысела побач з Ігарам, адкрыла альбом.

— Глядзі, вось мы ў першым класе. Як нас мала! Толькі адзінаццаць чалавек было: шэсць дзяўчынак і пяць хлапчукоў.

— Так, у мяне таксама такая фотка ёсць. Я на ёй надзьмуты нейкі, як індык!

— Разбудзілі рана, — ціхенька засмяялася Ніначка, — вось і незадаволены. Затое потым не сумаваў. Хуліганісты быў. Памятаеш, як у першым класе свой буквар у лужыне незнарок утапіў? А затым з Антонам пабіўся, бо ён у твой партфель каштанаў накідаў?

— Было такое, — усміхнуўся Ігар. — Нас потым яшчэ Ірына Аляксандраўна абодвух у куты паставіла.

— А я таксама адзін раз у куце стаяла! — як маленькая, пахвалілася Ніначка. — Памятаеш, мы зімой з горкі каля школы на перапынках каталіся і часта нават званка не чулі? Вось я так палову ўрока і прасоўгалася. Калі ж нарэшце ў клас з’явілася — наўпрост у кут і патупала... А вось мы ў пятым класе. Бачыш, нас ужо пятнаццаць.

— Так, прыезджыя прыбавіліся: Сашка Гігола, Віталік Есьман, Галька Фурсава... Яны, праўда, доўга не затрымаліся. Год-другі пахадзілі ў школу — і іх бацькі зноў некуды пераехалі. Гігола маленькі быў, памятаеш, а задзірлівы. На цыгана падобны.

— Памятаю. Нікому, нават старшакласнікам, не хацеў саступаць. Паб'юць яго, а ён усё роўна горды ходзіць: затое з вялікімі біўся, не з вамі, малечай.

— Ага, ён першы сярод нас, хлопцаў, і курыць пачаў. Гледзячы на яго, і мы сталі дымам душыцца.

Ніначка гартала тоўстыя старонкі альбома.

— Стой, вунь фотка з турзлёту! Мы там яшчэ першае месца ў спаборніцтвах занялі, памятаеш?

— Памятаю. Віця Дубовік камандзірам быў, Танька Салодкіна за палаткі адказвала, а ты лепш за ўсіх у лесе арыентаваўся...

— Ух ты, адзінаццаты клас! Выпускны. Дзяўчынкі наперадзе, мы — ззаду. Банты, белыя фартухі, касцюмы, гальштукі... Прыгажуны! — не стрымаўся Ігар. Было відаць, што яму падабаецца гэтае простае чорна-белае фота, зробленае ў далёкім 1995 годзе.

Тады яны, выпускнікі, вядома, здагадваліся, што адбываецца нешта важнае і сур'ёзнае. Заканчваецца бесклапотнае жыццё, калі ўсе іх турботы — зрабіць урокі ды перамагчы на спаборніцтвах. А дома чакае абед, кот Васька, веласіпед...

Неўзабаве пачнецца іншае жыццё, дарослае. Ім і хацелася, каб гэта хутчэй адбылося, і было страшнавата: ці справяцца, ці атрымаецца ўсё так, як задумвалі? Двойку ў дзённіку выправіць лёгка. А вось калі цяпер выбраць не той шлях, нічога затым не зменіш. Як жа ведаць наперад, які выбар правільны? Як не памыліцца?..

— Так, мы такія прыгожыя, юныя. Усё яшчэ наперадзе. Ніхто не ведае, што з ім здарыцца праз год, два, тры... А нас ужо чакаюць і радасці, і няўдачы, і клопаты, — задуменна прамовіла Ніначка.

— Гэта і добра, што ніхто не ведае сваёй будучыні. Ведаў бы, што балюча ўдарышся — сядзеў бы і не высоркваўся. А жыццё тым часам ішло б міма... Ну, не атрымаў бы па мордзе, і што? Ужо лепш перажыць дрэннае — і рухацца далей.

— Як жартуе мой старэйшы сын: «А хто вам сказаў, што будзе лёгка?» — заўважыла Ніначка. — Падхапіў дзесьці гэтыя словы, і сам добра не разумее, пра што яны, але ўсё роўна паўтарае. Маўляў, я ўжо дарослы, сёе-тое разумею ў жыцці. А яму — дванаццаць гадоў. Смех, дый годзе...

— Ага, самі такімі былі... — Ігар паставіў пусты кубак на стол. — Дзякуй, Ніна, за пачастунак, за размову. Позна ўжо, пайду. Ды і табе заўтра рана ўставаць.

— Пачакай, Ігар. Я ж нават не спытала, як ты? Як сям'я, работа?

— Нармальна, Ніна, — коратка адказаў ён. — Працую, кручуся. Дачка падрастае. Хутка ў школу пойдзе.

Ігар цвёрда трымаўся сваёй пазіцыі: ніхто не павінен ведаць і нават здагадвацца пра тое, што сапраўды адбываецца ў яго сям'і. Ну, занаравілася Танька. Але нічога: як падала дакументы на развод, так і забярэ назад. Якое яна мае права рабіць з яго нейкага няўдачніка, дурня?

Ён і ў школу прыйшоў толькі таму, каб усе бачылі: у Ігара Варашкевіча жыццё склалася як мае быць. Каб здзівіліся, захапіліся, нават пазайздросцілі. Ігар даўно намаляваў сабе карцінку паспяховага чалавека і вельмі хацеў, каб на ёй, у цэнтры, сярод прыгажуні-жонкі, вясёлых дзяцей (шыкоўнага дома

і аўто на заднім плане) красаваўся яго шчаслівы твар. Карцінка атрымалася. Але як у даўнейшых фотаатэлье, дзе размаляваная кардонка была адна на ўсіх, а ад цябе патрабавалася толькі ўставіць свой твар у пусты круг. Прыгожая карцінка, толькі і ўсяго...

## XI

Паша Гарбоўскі ніяк не мог вырашыць: ісці яму на вечар сустрэчы выпускнікоў ці не. З аднаго боку, схадзіць хацелася. Усё ж цікава было б убачыць былых аднакласнікаў, сустрэцца, пагаварыць, даведацца, што ў каго і як... А з іншага — ну, куды яму ісці? Што ён раскажа пра сябе?..

У класе Паша Гарбоўскі нічым асаблівым не вылучаўся. Хіба што ростам — метр семдзесят дзевяць. Хоць высокіх хлопцаў у класе хапала і без яго: узяць, напрыклад, таго ж Віктара Дубовіка, або Міцю Адамковіча, ці Валерку Мальца. Толькі яны, у адрозненне ад яго, былі яшчэ і моцнымі. А Паша, як ні стараўся, і аднаго разу не мог падцягнуцца на перакладзіне. Колькі ні гаварыў фізрук Пётр Пятровіч, калі аднакласнікі здавалі нарматывы па прадмеце: «Ну, Паша, давай! Што ж ты? Вунь нават Света больш за цябе падцягнецца!», а ўсё дарэмна. Хлопцы хто паблажліва, хто здзекліва пасміхаліся з яго, дзяўчынкі весела рагаталі. Ох, як ненавідзеў Паша і гэтыя ўрокі фізкультуры, і вечна падвыпітага Пятра Пятровіча, і аднакласнікаў, і — сябе. Але што ён мог зрабіць, калі сілы не хапала?

Яшчэ ў дзяцінстве Паша шмат хварэў, рос кволым і слабым. Маці старалася ўсяляк аберагаць сына ад усяго кепскага. Хлопчык рос без бацькі. Той страшэнна піў, і бацькі развяліся, калі Пашу было два гады. У дзіцячы садок ён не хадзіў. «Менш будзе сярод розных дзяцей — менш падчэпіць інфекцый, менш будзе хварэць», — лічыла маці. Таму Паша сядзеў дома пад наглядам прабабкі Юзэфы. Яна прыехала да праўнука з далёкай вёскі, дзе жыла адна. Пашавы дзед і баба памерлі даўно, таму дапамагаць маці больш не было каму.

Гэтыя дзве жанчыны акружылі хлопчыка такой мяцярынскай любоўю, што яму было не прадыхнуць: абувалі-разувалі, апраналі-распраналі, кармілі з лыжачкі... Кажуць, каханне сляпое, а матчына любоў сляпая ўдвая. Маці здаецца, што ўсё, што яна робіць для свайго дзіцяці, усё, чым ахвяруе — толькі на карысць яму. Але часта аказваецца, што такая залішняя мацярынская любоў толькі шкодзіць...

Калі памерла прабабка, Пашу было восем гадоў. Маці засталася адна. А праз некаторы час да яе пачаў заходзіць адзінокі мясцовы мужчына — Іван Пятровіч, які ніколі не быў жанаты. Незразумела, чаму той не звярнуў увагу на жанчыну раней, калі і яна, і ён былі маладзейшымі? Можа, не хацеў жыць пад адным дахам разам з яе бабкай Юзэфай? А можа, меў на прыкмеце якую іншую, да якой так і не асмеліўся пасватацца? Хто ведае... Адным словам, Пашава маці была не супраць, каб да яе прыходзіў Іван Пятровіч, неўзабаве яны распісаліся ў сельсавеце і сталі жыць разам — утрох.

Але Пашу айчым не спадабаўся. Можа, таму, што той, прыйшоўшы ў іх дом, лёг у ложак побач з яго маці, а тая пачала менш увагі звяртаць на сына. Яна стала часцей глядзецца ў люстэрка, прыбірацца, нястомна клапаціцца пра Івана Пятровіча і нават пакрыквала на сына, калі ён круціўся пад нагамі.

Іван Пятровіч стараўся пасябраваць з хлопчыкам, але марна: той не хацеў з ім нават размаўляць. Што толькі не рабіў айчым!.. Хацеў навучыць пасынка забіваць цвікі, пілаваць, габляваць... Той на ўсё глядзеў панура, ды і ўмяшала-

ся маці: навошта гэта? Зноў прачнулася яе бязмежная любоў да сына. Пашанька ж можа застудзіцца, ударыць малатком па пальцы, не дай бог, зламаць...

Магчыма, калі б у Івана Пятровіча былі свае дзеці, ён паводзіў бы сябе інакш: дамогся б свайго, выхоўваў бы пасынка як будучага мужчыну. І, напэўна, як кажуць, падабраў бы той самы запаветны ключык да сэрца хлопчыка, які адамкнуў бы яго.

Але, баючыся, што яго, калі раптам што з хлопчыкам здарыцца: параніць палец, ударыць ручку або ножку, адразу абвінавацяць — маўляў, вядома, сваіх дзяцей не было, чаго чужога шкадаваць? — адступіў. Ці мала ён пакутаваў з-за таго, што не спазнаў, як гэта — быць бацькам? Іван Пятровіч схаваў свой боль яшчэ глыбей у сэрца і нічым не выдаў пякучай крыўды за адхіленую пасынкам бацькаву любоў.

...І вось цяпер Паша, яго пасынак, сядзіць у сваім пакоі, пакутуе ад адзіноты і запівае яе віном. Адкуль яна ўзялася на яго галаву? Былі ж аднакласнікі, прыяцелі, знаёмыя. Паша скончыў школу, адслужыў у арміі, вярнуўся ў родную вёску і... А вось далей нічога не адбылося. Пасля «дэмбеля» ён пагуляў месяц, другі, трэці...

Маці шкадавала: маўляў, няхай сынок адпачне, набярэцца сіл. Пашка адпачываў, сустракаўся з прыяцелямі, хадзіў на танцы. Ну, а што за адпачынак без бутэлькі? Ён і сам не заўважыў, як пачаў выпіваць без нагоды. Маці спачатку не хацела бачыць відавочнага (на ўсе заўвагі мужа, што Паша п’е, толькі адмахвалася: ну, няхай вып’е трошкі, усе ж так робяць!), а затым... Эх, вочы б не бачылі, як яе добры, далікатны хлопчык, якога яна аберагала ад усялякіх бед і няшчасцяў, ператварыўся ў ціхага п’яніцу і лайдака. За што ёй гэта? Чаму?..

Тымі ж пытаннямі «за што» і «чаму», але толькі да самога сябе і свайго няўладжанага жыцця пакутаваў і яе сын. Чаму адны вывучыліся, іншыя ажаніліся, трэція знайшлі работу, а ён, Пашка, у свае трыццаць гадоў нічога не мае? Ды таму, што вырас без бацькі, што маці пастаянна апекавалася, што айчым зусім чужы, што жылі небагата, што вучыўся дрэнна... Сапраўды, было шмат прычын, чаму Пашка Гарбоўскі не дасягнуў у сваім жыцці большага, але пакуль ён не знойдзе смеласці прызнацца самому сабе ў галоўнай, сядзець яму ды піць напрапалую...

## XII

Ігар ішоў да бацькоўскага дома і курыў. «Ат, неяк не так я сабе ўсё гэта ўяўляў, — разважаў ён. — Думаў, інакш будзе. А тут гэтая размова з Ганнай Станіслаўнай, і Нінка яшчэ ў дадатак».

Ніначка, развітаўшыся і правёўшы яго да дзвярэй, раптам сказала:

— Не перажывай, Ігар. Усё наладзіцца.

— Што наладзіцца? — здзівіўся Ігар, а сэрца моцна застукала. Здаецца, ён нават злёгку пачырванеў.

— Жыццё... Наогул усё, — збянтэжылася Ніначка. — Заўсёды трэба думаць пра добрае.

— Нават пра выдатнае, — знайшоўся Ігар і перапыніў гэтую далікатную размову, зразумеўшы, што аднакласніца адчувае: хваліцца ён сваім жыццём, а яно ў яго не вельмі...

«Ну, адкуль яна магла ведаць, што ў мяне нядобра ў сям’і, што Танька нравіцца? Захацела «ўзяць на понт»?.. Не, Нінка не такая, яна сумленная. Значыць, убачыла, заўважыла. Але ж я трымаўся, ні разу не паскардзіўся на жыццё, маў-

ляў, у мяне ўсё як мае быць... Таму і не паверыла? Не бывае ў сям'і, каб усё ішло так спраўна! Так, напэўна, тут я пракалоўся. Ну, і добра. Гэта толькі яе здагадкі. Я таксама, напрыклад, пра многіх сёе-тое здагадваюся. Ну і што?»

Ігар падышоў да дома, кінуў недакурак у снег і ціхенька адчыніў дзверы. Усе — маці, бацька, бабуля, якую ўзялі на зіму з маленькай, на пяць хат, вёскі — ужо спалі. Хоць маці, напэўна, усё ж не спала. Яна заўсёды так, яшчэ калі Ігар хадзіў у школу: не магла заснуць, пакуль ён не вернецца дадому пасля танцаў або з якой гулянкі. Вось і цяпер, мабыць, ляжала ў ложку і прыслухоўвалася, калі ж бразнуць дзверы, калі прыйдзе сын.

Ігар зайшоў у свой былы пакой, уключыў святло. На гадзінніку была палова першай ночы, але спаць не хацелася.

Ён адчыніў дзверцы невялікай кніжнай шафы, што стаяла тут яшчэ з яго школьных часоў, дастаў альбом з фотаздымкамі. Затым сеў у крэсла, выключыў верхняе святло, запаліў настольную лямпу. Не спяшаючыся пачаў гартаць старонкі.

«Вось тая фотка, дзе мы ў першым класе. Адзінаццаць вучняў: я, Віцька Дубовік, Віталік Кушаль, Нінка Рыхліцкая, Таня Салодкіна, Марынка Балошка, Валера Малец, Міця Адамковіч, Пецька Шкорнік, Пашка Гарбоўскі, Міра Кавалеўская. У Віталіка ў руках гладыёлусы ў букеце вышэй за яго самога. Шыю цягне, як гусь. А Марынцы два такія велізарныя банты прычапілі, што ёй, здаецца, ажно цяжка трымаць галаву. Пацеха...

Вось фотка з пятага класа, сёмага, дзясятага, — перакідваў Ігар старонкі альбома. — Адзінаццаты клас, выпускны... Дваццаць два чалавекі: дзесяць дзяўчат, дванаццаць хлопцаў. Бацькі, настаўнікі, дырэктар школы... Усе такія сур'ёзныя, задумлівыя, ніхто не ўсміхаецца. Хвалююцца, відаць... Эх, дзе вы, гады маладыя? — наўмысна ўздыхнуў Ігар і закрыў альбом. — Было — і прайшло».

Ён устаў, паклаў альбом назад на паліцу кніжнай шафы. Затым распрануўся і лёг у ложак. Не спалася.

«Ну, чаго ты, як маленькі, — усміхнуўся сам сабе Ігар. — Расчуліўся, ці што? Дык малады яшчэ нюні распускаць, жыццё наперадзе. Так, не ўсё добра. А ў астатніх, думаеш, яно склалася, як ім хацелася? Як жа! Не ў цябе аднаго касякі. Спі давай, мысліцель...»

...Не спалася ў гэтую ноч і Ганне Станіславаўне. Шмат чаго перадумала, пакуль сон усё ж не змарыў яе. Душу паліла крыўда. Не разумела, чаму яе былыя вучні, у якіх некалі была класнай, не прыйшлі на сустрэчу выпускнікоў. Не разумела, і ад гэтага крыўда стрэмкай усё глыбей і глыбей упівалася ў сэрца.

«І ўсё ж: чаму яны не прыйшлі? Я і мае калегі былі дрэннымі настаўнікамі? З намі не хочацца сустракацца? — разважала Ганна Станіславаўна. — Не, не скажаш такога, што дрэннымі. Ніякіх сур'ёзных непаразуменняў у нас з вучнямі не было. Заўвагі, вядома, мы ім рабілі, запісы ў дзённіках пакідалі, на школьных сходах бацькам казалі, хто як вучыцца і паводзіць сябе, прасілі, каб пагаварылі з тымі, хто ленаваўся або кепска сябе паводзіў, але ж не сварыліся, не канфліктавалі. Значыць, справа не ў нас, а ў іх саміх. З гэтым больш складана. Як іх зразумець? У многіх ёсць сем'і, дзеці, нармальная работа, жыллё... Што не так? — яна ўздыхнула. — Але, нездарма кажуць: самага галоўнага вачыма не ўбачыш...»

Тут Ганна Станіславаўна не памылялася і была зусім блізкая да ісціны, да таго, каб разгадаць, чаму ж на вечары сустрэчы адсутнічалі дваццаць вучняў з 11 класа 1995 года выпуску. Усе яны так ці інакш жылі нармальна. Ніначка Лапушынская выйшла замуж і нарадзіла чацвярых дзяцей, Віталік Кушаль

ажыццявіў сваю мару і стаў акцёрам, Ігар Варашкевіч займаецца бізнесам, Таня Салодкіна вучыць у школе дзяцей... Атрымалі вышэйшую адукацыю і засталіся жыць у Мінску, знайшлі там сабе работу Міра Кавалеўская, Юля Гінько, Андрэй Лешчык, Сняжана Роліч, Валера Малец. Валера нават адкрыў сваю фірму па вытворчасці ПВХ-вокнаў, паступова раскруціўся, купіў кватэру...

Але кожнага з іх — і таго, хто добра ўладкаваўся ў жыцці, і таго, хто спадзяваўся на лепшыя часы — аказваецца, тачыў чарвячок незадаволенасці. Кожнаму з іх здавалася, што ён дасягнуў не так і шмат, мог бы дасягнуць і большага. Ад бацькоў, ад агульных сяброў і знаёмых яны ведалі пра жыццё адзін аднаго. Сёй-той перапісваўся ў сацыяльных сетках, перазвоньваўся, размаўляў па скайпе... І, вядома, малявалі чужыя жыцці зусім не такімі, якімі тыя былі сапраўды.

Так, у Віці Дубовіка, напрыклад, не склалася асабістае жыццё. Але ў іншых таксама былі свае непамыслоты. Перад Ігарам Варашкевічам маячыў развод, Валера Малец здагадваўся, што жонка яму здраджвае, у Сняжаны Роліч дактары выявілі нейкія плямы на лёгкіх, у Вікі Сычанковой не было дзяцей. Не мела сваёй фірмы і вялікіх грошай Таня Салодкіна, Ленка Камека працавала даяркай на ферме, Алег Маслюк — рабочым у лясгасе, Міця Адамковіч круціў баранку прыгараднага аўтобуса. Не прыдбалі свайго жылля і жылі ў інтэрнаце Юля Гінько (а ў яе было ўжо трое дзяцей), Андрэй Лешчык, здымалі кватэры Сняжана Роліч, Антон Сяйцоў, Наташа Скрэнт...

Але ж яны жылі! Вучыліся далей, жаніліся, разводзіліся, працавалі... Што ў гэтым ганебнага?

«Вядома, часы мяняюцца. І людзі таксама, — думала Ганна Станіславаўна. — Але ж каб так — з ног на галаву! Хаця... Шмат што цяпер адбываецца наадварот. Цэніцца не сціпласць, а нахабства, не адукацыя, а дастатак, не сям'я, а свабодныя адносіны... Такі паток інфармацыі абрыньваецца на чалавека, што лёгка разгубіцца. Так, просты чалавек адчувае сябе часам недасканалым. Бачыць прыгожае чужое жыццё па тэлевізары і параўноўвае з ім сваё. А яно звычайнае: сям'я, работа, дзеці, побыт... Але ж гэта і ёсць сапраўднае жыццё! Усё астатняе — толькі прыгожая карцінка, якая не мае да рэчаіснасці ніякага дачынення... Атрымліваецца, пабаяліся паказацца адзін перад адным сапраўднымі, такімі, якія ёсць: у нечым неўладкаванымі, з нявырашанымі праблемамі і клопатамі? Намалявалі, стварылі сабе нейкі прывідны ідэальны вобраз і, не дасягнуўшы яго, палічылі за лепшае адсядзецца дома?..

Якое гэта глупства! Крыўдна і не разумна. Як хочацца закрычаць ім усім: «Дарагія мае вучні! Вы сапраўдныя, і жыццё ў вас сапраўднае. Цяжкасці бываюць ва ўсіх, нават у каралёў або прынцаў, мільярдэраў і магнатаў, гэта нармальна. Перастаньце, кіньце глядзець на таго, хто на карцінцы — гэта пустое, міраж... Збярыцеся разам, успомніце школьныя гады. Вам жа ёсць пра што пагаварыць адзін з адным...»

Ганна Станіславаўна цяжка ўздыхнула. У акно нясмела зазірнуў світанак...

## XIII

Да сябе дадому Ігар ад'язджаў у нядзелю. Добра выспацца ён так і не змог. Спачатку ніяк не атрымлівалася заснуць, затым, калі сон усё ж змарыў яго, мроілася ўсялякая бязглуздзіца... Вось ён вучыцца ў школе, Людміла Фамінічна выклікала яго да дошкі. Ён ніяк не можа рашыць задачу, цярэбіць у руцэ мел і на лбе выступаюць кропелькі поту... А вось на школьным вечары.

Іграе музыка, танцуюць пары. Яму вельмі хочацца запрасіць на танец Віку, якая вучыцца ў дзявятым класе, але ён ніяк не можа рашыцца. І раптам да яе падыходзіць Валера Малец і нешта кажа на вуха... А вось мроіцца апошняя школьная лінейка, яны ўсім класам цёплай майскай раніцай стаяць каля школы, а затым пад словы, што чуюцца з дынаміка: «Когда уйдем со школьного двора...», пакідаюць пляцоўку...

...Ігар спакойна вёў машыну, за акном мільгалі знаёмыя краявіды — палі, лясы, вёскі, і чамусьці ўвесь час у думках вяртаўся ва ўчарашні дзень. «Не, усё ж дарэмна не падняўся на сцэну разам з Нінкай. Хацеў жа, каб усе ўбачылі сур'ёзнага, дзелавога, паспяховага Ігара Варашкевіча, а сам, як малы, схаваўся. Недарэчна неяк атрымалася, па-дзіцячы, — уздыхнуў ён. — Трэба было кветак купіць, падарунак які-небудзь: не збяднеў бы. Затое выглядаў бы салідна».

Ігар уявіў сябе на сцэне з букетам, вялікай скрынкай з падарункам у яркай упакоўцы і крыва ўсміхнуўся: «Не, гэта ўсё ж не для мяне. Сюсюкацца ды дзякаваць усім настаўнікам за тое, што вучылі і выхоўвалі, у мяне не атрымаецца. Вучылі, бо ім грошы плацілі, работа ў іх такая, не за бясплатна ж яны гэта рабілі. А што датычыць выхавання, дык мы не без бацькоў раслі, хапала мараляў і дома...»

Наогул навошта думаць пра пражытае? Як кажуць, было — і сплыло... Пра заўтрашняе трэба думаць, а не старое ўспамінаць».

Сапраўды, калі будзеш стаяць адной нагой у мінулым, у будучыню далёка не пойдзеш. Але ж успаміны — справа іншая. Яны не замінаюць чалавеку рухацца наперад, а толькі прымушаюць задумацца пра тое, што было. Пра нешта пасумаваць, нечаму ўсміхнуцца, за нешта пачырванець і пакаяцца... Між тым, сучасны чалавек не хоча думаць. Не, ён думае, але хутчэй пра рэчы матэрыяльныя: як больш зарабіць, дзе і што купіць. Што зробіш — пакаленне спажыўцоў. Думаць няма калі. Потым, можа, і задумаецца чалавек пра штонебудзь вечнае. Але гэта потым...

«І з Танькай трэба неяк пагаварыць. Не разводзіцца ж нам сапраўды!.. Чаго ёй хочацца? Усім забяспечваю, машына свая, шмотак поўныя шафы... І жывём не як калгаснікі: асабняк вунь які пабудаваў. Што яна лепшае знойдзе?.. Я, вядома, не ідэальны муж, чаго там таіцца. Але і не самы горшы — гэта дакладна... А што ёй кахання не хапае, дык мне, можа, таксама іншую хацелася. Але пажанілі нас, дык пажанілі. Варка вунь затое нарадзілася. Не паспею і вокам міргнуць — школу скончыць. Эх, бяжыць час, — пакруціў Ігар галавой. — Уцякае...»

Таня сустрэла Ігара няласкава:

— Ну што, нагуляўся?

Ён хацеў адказаць, як звычайна: маўляў, не твой клопат, але стрымаўся.

— Навошта ты так, Тань? Я ж з аднакласнікамі ездзіў сустракацца, сама ведаеш.

— І як, сустрэўся?

— Не.

— Чаго гэта? — з'едліва спытала яна. — Да школы не дайшоў, заблукаў?

— Дайшоў, Таня, дайшоў. Іншыя не дайшлі.

Таня прымоўкла. Затым уважліва паглядзела на мужа.

— Што, нікога не было?

— Але, я і Нінка Лапушынская.

— Чаму?

— Ну, ты, не раўнуючы, як Ганна Станіславаўна: чаму? Замучыла мяне сваімі развагамі. Не захацелі — і не прыйшлі.

— Дзіўна неяк, — паціснула плячыма Таня. — У вас жа вялікі клас быў, нібыта дружны.

— Нібыта, — усміхнуўся Ігар. — Мы вось з табой таксама нібыта сям'я, а сапраўды не зразумела што.

— Нічога, хутка зразумееш: развядзёмся — усё стане на свае месцы, — Таня паглядзела на мужа, і ў яе вачах бліснулі льдзінкі.

Ігар падышоў да яе бліжэй, захацеў узяць за руку, але яна адскочыла, як ад агню.

— Таня, прашу цябе: выкінь гэта з галавы. Давай усё дрэннае забудзем. Пачнём жыць нанова. Абяцаю, я ўсё для гэтага зраблю, — Ігар гаварыў так шчыра, што цяжка было не паверыць. Але і верыць таму, хто не аднойчы цябе падманваў, вельмі складана, часам проста немагчыма: не хочацца ў чарговы раз падманвацца.

— Хіба я магу табе верыць?

— Цяпер можаш. Я многае перадумаў. Павер мне, Тань. Не хачу губляць тое, што ў мяне ёсць. Раней хацеў, каб мне ўсе зайздросцілі і ўсё для гэтага рабіў. А цяпер хачу проста жыць, не на паказ, разумееш?

Таня маўчала. Яна нібы не пазнавала мужа. Ігар сапраўды задумаўся пра сваё жыццё. Апроч таго, яны даўно не размаўлялі адно з адным вось так, проста, пра свае думкі і перажыванні.

— Паспрабую зразумець, — адказала Таня. — Хоць і складана...

— Ну так, складана. Але і проста, — ажыўлена адгукнуўся Ігар. — Як жыццё. Ты думаеш, што яно складанае, а яно простае, як два ў два: жыві, нараджай дзяцей, радуйся кожнаму дню...

— Дзіўны ты нейкі. Быццам падмянілі, — задуменна прамовіла Таня. — Думаў, мабыць, пра нешта. Я таксама падумаю, добра?

— Добра. Але толькі памятай, што я абяцаў... Хутка буду, з'езджу ў магазін па цыгарэты і вярнуся.

Ігар выйшаў на вуліцу. Адкрыў дзверцы машыны, сеў у яе і нібыта гара з плячэй звалілася. «Усё ж паверыла мне! Захацела падумаць. А калі так — напэўна, ёсць пра што. Значыць, толькі пагражала разводам, але не хацела ад мяне сыходзіць. Не зусім ёй абыякавы, нешта яшчэ трымае... — ён уздыхнуў. — І сапраўды, чаму б не паспрабаваць жыць інакш? Мы ж маладыя яшчэ, можна ўсё выправіць. Вось Нінка жыве проста, небагата, а шчаслівейшая за нас. Бо ёй затлумляцца няма калі. Яна, мабыць, цяпер і не ўяўляе, як гэта з адным дзіцем: сумна!.. Эх, гора — не бяда, жыць можна», — усміхнуўся Ігар і завёў машыну...

Вяртаючыся дадому, ён зноў падумаў пра ўчарашні вечар, пра свой клас, які не змог ці не захацеў сабрацца разам. «Не, мы ўсё-ткі павінны ўбачыцца адзін з адным! Чаго баяцца? Мы ж не злачынцы якія-небудзь. Так, розныя, але, як кажуць, хто на каго вучыўся... І Ганну Станіславаўну трэба будзе паклікаць. Дзіўна, але ў такім узросце яна разумее сёе-тое і ў сучасным жыцці».

Пад нагамі прыемна парыпваў снег. На душы было неяк светла, чыста. Верылася, што многае ў жыцці можна яшчэ выправіць, зрабіць, сказаць тое, што трэба...

Ігар ішоў па дарозе і не ведаў, што сёння ўвечары іх настаўніца Ганна Станіславаўна памерла. І ў гэты самы час вырашалі, дзе паставіць труну: у яе невялікім доме, дзе яна жыла адна, або ў старой школе, каб з ёй змаглі развітацца былыя вучні...



Сяргей ПАНІЗНІК

# У ПАДЗЕІ ЁСЦЬ НАДЗЕЯ...

* * *

*«Ды каліна-маліна*
*Ўсе лугі забяліла…»**

У падзеі ёсць надзея.
І кудзеля маладзее:
Упрыгожыў умалот
Мой фальклорны харавод.

Будні дзень сышоў з дарогі.
Без аўтэнтыкі парогі,
Без кахання пад вярбой
Сцёк і вечар з варажбой
Пад затупаныя ногі.
ПОМНЮ! Сёння я з табой.

Быў жа фэст, было маленне
На малодзенькіх каленях.
Пад харугвамі — і мы.

* З песні Ядзвінні Кісляк (у дзявоцтве Панізнік), запісанай у 1968 г. у м. Лявонпаль.

***Панізнік Сяргей Сцяпанавіч** нарадзіўся 10 мая 1942 г. у вёсцы Бабышкі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Магілёўскае медвучылішча (1962) і факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА ВМФ (1967). Працаваў фельчарам, ваенным журналістам, рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, у выдавецтве «Юнацтва», вучоным сакратаром Літаратурнага музея імя Янкі Купалы.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Кастры Купалля» (1967), «Палявая пошта» (1972), «Крона надзеі» (1975), «Чало і век» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982), «Мацярык» (1985), «Стырно» (1989) і інш. Апублікаваў кнігі дакументальнай прозы: «Пасля вогненных вёсак...» (1980), «Браніслава» (1985), «Освейская трагедия» (1990) перавыдадзена ў 2013 годзе.*

*Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны, Ганаровай граматай Парламента Рэспублікі Беларусь, ордэнам Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі. Дыпламант міжнароднага літаратурнага конкурсу ЮНЕСКА. Лаўрэат Літаратурнай прэміі ім. У. Калесніка.*

…На пялёстачках зімы
Летуцелі святлацені
З вёсламі каля кармы.

Ад падзеі да падзеі,
Дзе яшчэ жылі надзеі, —
Песціў я з табой лугі.
ПОМНЮ! Пожанькі глядзелі:
Мы на плечыкі тугі
Кужаля вянок уздзелі…

Перавяз быў не тугі.
…Але й сёння дарагі.

## САЛАВЕЙКУ НА ВЕЙКА

***«Цераз рэчачку, цераз быструю гібка кладачка ляжыць»[*].***

Сцяжыначка мая — з-пад салаўя:
Без песні салаўінай быў наіўны,
Не наліўны, як яблык, і не ніўны…
У абручах маркоціўся ўдвая
Я на папары з гаркатой каліны.

З-пад салаўя — даліна і твая:
Пераглядала росаў перакосы
І вываратні ў русле ручая…
Ты босая была.
І я быў босы.

Пупышыліся дні з-пад салаўя.
А бераг зваў, наколькі стаў пасільны.
І салавейка — той, што быў зазыўны,
Зноў цёхкае, аж гнецца каляя:
Ідзе твой апрытомнены пасыльны.

---

[*] З песні Альжбеты Панізнік, запісанай у 1968 г. на хутары Бабышкі Міёрскага р-на.



Мікола ЛОБАН

# ПАЭМА МАЙГО МАЛЕНСТВА*

## Святло рамантыкі

На другі ці на трэці дзень майго вяртання ў родную вёску да мяне падышоў загадчык хаты-чытальні Шэйпак і папрасіў памагчы яму аформіць бібліятэчку хаты-чытальні. Мне хацелася чым-небудзь заняцца і я з задавальненнем даў згоду папрацаваць. Мы з тыдзень сядзелі ў яго на кватэры, апрацоўвалі дасланыя для бібліятэкі кнігі: ён ставіў на кнізе шыфр, а я запісваў кнігі ў спецыяльны журнал. Запаўняліся на кожную кнігу і бібліятэчныя карткі. Усё як у сапраўднай саліднай бібліятэцы. У асноўным гэта была беларуская літаратура, за невялікім выключэннем — кніжачкі маленькага фармату. Зараджалася вялікая беларуская літаратура, тая хваля, якая нарадзіла хвалю шасцідзясятых гадоў. Я меў шчасце патрымаць у руках яшчэ цёпленькія, толькі што з друкарні першыя кнігі многіх беларускіх паэтаў і празаікаў: «Хвоі гавораць» і «Пачуцці» Кузьмы Чорнага, «На зломе» Янкі Нёманскага, «Веснаход» Міхася Чарота, «Сцежкі-дарожкі» і «Голы звер» Міхася Зарэцкага, «Байкі» і «Біблію» Кандрата Крапівы; першыя паслярэвалюцыйныя выданні твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Цішкі Гартнага, Алеся Гурло. Я стаў самым актыўным чытачом чапліцкай бібліятэкі і праз непрацяглы час перачытаў усю яе мастацкую літаратуру. Праўда, яе было вельмі нямнога, змяшчалася яна на дзвюх паліцах шафы. Летам гэтага ж года я самастойна заахвоціўся чытаць газеты.

Пошта прыходзіла ў хату-чытальню вечарам, і к гэтаму часу самыя заядлыя чытачы газет і часопісаў ужо сядзелі за шашкамі і шахматамі. Я не толькі чытаў, а і ўпершыню стаў падпісчыкам «Беларускай вёскі». У гэтым годзе і ў гэтай газеце я ўбачыў сваё першае друкаванае слова. Гэта была невялічкая нататка пра тое, што гіне без догляду чапліцкі былы валасны садок. Яна была падпісана маім псеўданімам — «Зоркі». Пасля гэтага мне як селькору пачала прыбываць карэспандэнцыя. У адным з пакетаў я знайшоў бланкі квіткоў для распаўсюджання газеты «Беларуская вёска». Я з сваім таварышам, які таксама быў селькорам, вырашылі дамагчыся, каб кожная хата выпісвала «Беларускую вёску». І дамагліся. У 1926 і 27 гадах не было ў Чаплічах двара, куды б ні прыходзіла гэта газета. У дзвюх ці трох хатах з намі не хацелі гаварыць і проста праганялі. То каб дамагчыся стопрацэнтнасці, мы выпісвалі ў гэтыя хаты газету за свае грошы, за тыя грошы, якія нам давалі на пошце ў якасці працэнтаў. Якую карысць давала такая падпіска, я не ведаю, але адзін з тых

* Заканчэнне. Пачатак у № 7, 2014 г.

працiўнiкаў газет аднойчы, гэта ўжо нам расказаў сам лiстаносец, калi ён па хваробе два днi не насiў газет, заявiў прэтэнзiю: «Чаму аж два днi газета не прыходзiць, што гэта робiцца?! О-о-о!» Значыць газету чакаюць.

Да газеты «Беларуская вёска» штомесяца прыходзiў лiтаратурны дадатак «Чырвоны сейбiт», у якiм друкавалiся пачынаючыя, побач з вядомымi ўжо пiсьменнiкамi. Гэты дадатак, вiдаць, адыграў у маiм жыццi вельмi значную ролю, ён умацаваў у маёй свядомасцi цягу да лiтаратурнай творчасцi. Я пачаў пiсаць вершы, i не толькi вершы, а i вялiкую паэму, i мне думалася, што можна напiсаць вялiкi твор, не маючы нiякага папярэдне складзенага сюжэта, iдэйнай задумы, што твор можна выцягнуць, выпрасцi з першай удалай фразы. Так у мяне i атрымлiвалася. Калi я знаходзiў сабе ўтульны куточак, дзе-небудзь за склепам, i пачынаў пiсаць, то я ведаў, пра што я буду пiсаць, што сёння будуць рабiць мае героi. Нараджалася рамантычная паэма з героямi, падобнымi на Сцёпку i Аленку, на Сымона-музыку. Па форме ж верша яна нагадвала хутчэй «Новую зямлю». Сказаць, што гэта безназоўная паэма была, побач з вершамi, маёй спробай пяра, будзе няпраўдай. Пачаў я з апавяданняў, маленечкiх замалёвак яшчэ ў 1921 годзе. Назбiралася ў мяне iх, можа, з дзесяць. Я начыста перапiсаў iх, пераплёў у выглядзе зборнiка. Толькi першае з iх помнiцца да гэтага часу — «Бясснежная зiма». Сапраўды, той год зiма была на дзiва бясснежная. Нешта да каляд снегу не ўпала нi парушынкi. Гэта было дзiўна, i мне захацелася пра гэта напiсаць. Праз год цi праз два я раптам пачаў пiсаць п’есу. Якiя тут я выдаў дзiвосы, ужо не помню, але перапiсаў п’есу друкаванымi лiтарамi i як i апавяданнi, сшыў у выглядзе кнiжачкi. Усе гэтыя дзiцячыя забаўкi загiнулi, калi я праз два гады паехаў на вучобу.

## Пошукі жадання

Маці ўгаварыла мяне год адпачыць ад вучобы, i я лёгка згадзiўся з яе прапановаю: сапраўды, чаму не зрабiць перапынак, калi ўсё жыццё было наперадзе, калi мне ўсяго было 15 гадоў. Убачыўшы, што я не паехаў вучыцца, наш хатнiк папрасiў мяне папрацаваць бiблiятэкарам у хаце-чытальнi. Я згадзiўся, гэта работа многа часу не адбiрала — гадзiны па тры два разы ў тыдзень. Чытачамi бiблiятэкi былi ў асноўным вучнi сямiгодкi, у якой у гэтым годзе зноў быў адкрыты шосты клас. 1927 год быў, як мне здаецца, вяршыняй нацыянальнага адраджэння. Выпускалася тры тоўстыя часопiсы: «Полымя», «Узвышша», «Маладняк», тонкiя iлюстраваныя часопiсы: «Чырвоная Беларусь», «Малады араты», мноства лiтаратурных дадаткаў, альманахаў. Сотнi юнакоў i дзяўчат цягнулiся ў лiтаратуру. Культурнае жыццё забурлiла. Гэта адчувалася не толькi ў сталiцы, а i ў iншых, буйных i самых маленькiх, гарадах i ў вёсцы. Усюды чулася беларуская мова, i на вулiцы i ва ўстановах, гаварыць па-беларуску было прыкметай высокай культуры: было модна, беларуская мова набыла сапраўдную дзяржаўнасць.

Нейкiм чынам, сам ужо не помню, у 1936 годзе трапiла ў мае рукi маленькая, у адну шаснаццатую лiста, яшчэ новенькая беларуская кнiжачка: «Практычны расейска-беларускi слоўнiк» М. Гарэцкага i М. Байкова Я вучыўся ў сёмым класе. I ў маёй юнацкай свядомасцi ўжо заварушылiся неабыякавыя пачуццi да роднага слова. Названая кнiжачка прыцягнула маю асаблiвую ўвагу: яна была не тым, з чым ужо сустракаўся, а нечым новым для мяне — слоўнiкам. Да гэтага я сутыкаўся з «вёртэрбухам» у канцы падручнiка па нямецкай мове i добра ведаў яго прызначэнне: забыў слова з папярэднiх параграфаў —

шукай яго ў «Вёртэрбуху». Кніжачка ж, якую я трымаў у руках, была нечым зусім іншым, проста слоўнікам без якіх бы там ні было тэкстаў для чытання. Дзівосы! Каму ж такі голы слоўнік патрэбен? Адкрываю якую папала старонку: изба — хата, кровать — ложак, кружка — конаўка, лишать — пазбаўляць, личность — асоба, лишь — только, отец — бацька, почва — глеба... Бягуць словы парамі, зверху ўніз, як за рукі пабраўшыся. Дзіўна. Навошта гэта? Паяўляюцца і першыя па-дзіцячы наіўныя этымалогіі. Прыцягвае маю ўвагу апошняя вычытаная пара: почва — глеба. Чаму гэтыя словы раўназначныя? А таму — дагадваюся — што як адно ад «потчевать» — частаваць, карміць, другое ад «хлеб» — «почва» корміць і «глеба» дае хлеб, значыць таксама корміць. Першая мая этымалагічная здагадка так мне спадабалася, што я, спадзеючыся знайсці яшчэ і яшчэ нешта падобнае, не адарваўся ад слоўніка, пакуль не прачытаў яго ўвесь, як паэму. Прачытаў не бог ведае з якою карысцю, так проста ад нейкага першага здзіўлення. І тым не менш з карысцю для сябе: ва мне пачало прарастаць зернетка майго трывалага захаплення, якое каштавала мне трыццаці пяці гадоў жыцця.

Наступныя чытанні былі ўжо мэтанакіраваныя; першае, што я лічыў карысным для сябе, — гэта вывучыць усе словы, якіх я не мог пачуць ні ў школе, ні ў сваім таварыстве, але якія сустракаў у літаратуры і былі незразумелыя, напрыклад такія, як абарыген, абстракцыя, адэкватна, адаптацыя, ажыятаж, акведук, алітэрацыя, алчны, альянс і многія іншыя. Я пачаў выпісваць іх у асобны сшытак. Выпісаўшы некалькі соцень слоў, я адумаўся, навошта гэта рабіць, я ж усё роўна не буду іх ведаць. Трэба, каб хто растлумачыў. А хто? Хто-небудзь з настаўнікаў? Патрэбу маю вырашыў наш чапліцкі настаўнік Васіль Сяргеевіч Бабейка. Ён растлумачыў мне некалькі першых з майго вялізарнага спіску слоў і сказаў, што так ніхто не робіць, слова пазнаецца ў кантэксце. Я не патрапіў яшчэ запытаць, а што яно такое кантэкст, як Васіль Сяргеевіч, заўважыўшы маё замяшанне, дадаў: «У абкружэнні іншых слоў, не асобна ўзятае слова, а ў звязку з іншымі словамі. Трэба часцей сустракацца з незразумелым словам у газеце, кніжцы — і яно само ўвойдзе ў твой абыходак, раскрыецца ва ўсіх сваіх значэннях».

Ясна, трэба чытаць, чытаць і чытаць. Чытанне — панацэя ад усякай інтэлектуальнай немагаты. Гэтыя словы я сёння вымавіў, а не тады, калі я толькі нешта аддалена падобнае пашукаў. У гэту хвіліну я адчуў перад сабою хоць, можа, і не тупік, то ва ўсякім выпадку непралазны зараснік перашкод, праз які трэба сілаю прадрацца. А як я перад сабою ніякай лексікаграфічнай мэты пакуль што не ставіў, то мой імпэт у гэтым кірунку паступова пачаў астываць. Слоўнікі мяне цікавілі пастолькі, паколькі цікавіла мова як сродак славеснага мастацтва. Я ўжо даўно спрабаваў свае сілы ў пісьменстве і даўно стаў адчуваць сваю непадрыхтаванасць. Я з зайздрасцю чытаў і перачытваў Коласаву «Новую зямлю», гэту абсалютную вяршыню на небасхіле беларускай літаратуры. І вядома ж, мне самому хацелася так напісаць, як напісаў Колас. Калі раўняцца, то на самае лепшае. І я з вялікай настойлівасцю выкручваў з сябе нейкае нікчэмнае перайманне. Усё ўпіраецца ў талент. А хто сказаў, што ён у цябе ёсць? Жаданне — яшчэ не талент. Талент — нешта біялагічнае, ад прыроды дадзенае. Яго не здабудзеш, не купіш, не знойдзеш. Талент — шчасце рэдкае, і мне вельмі хацелася быць уладальнікам гэтага рэдкага шчасця. Але як яго агледзець у сабе? Хай бы мне хто сказаў, як цыганка, глянуўшы на руку.

Параду Васіля Сяргеевіча не забываю: збіраю капейкі на газету, каб часцей можна было сустракацца з незразумелым словам «у кантэксце». Выпісваю не што-небудзь, а «Праўду», чытаю фельетоны Сасноўскага і Кальцова. Нічога

не разумею, але чытаю, бо мне трэба часцей сустракацца з незразумелым словам у кантэксце. Чытаю сумленна, ад загалоўкаў да тэатральных аб'яў. На мяне абрынаецца патоп слоў. І да мяне, я адчуваю, ужо сёе-тое прыстала. І няпраўда, што я нічога не разумею, я ўжо добра разбіраюся ў падзеях сённяшняга дня. Па тэлеграмах, змешчаных у «Правде», і па карыкатурах Дэні і Мора я ўжо добра ведаў, хто такія і чаго варты такія дзяржаўныя дзеячы, як Чан Кайшы, Пілсудскі, Чэмберлен, Чэрчыль, Мусаліні, Гувер, Антанеску. Да адных ведаў прыставалі іншыя. Калі я стаў бібліятэкарам, у мае рукі пачалі трапляць мноства свежых газет і часопісаў. Чытва стала хоць адбаўляй.

## Хлапец з Еўліч

Летняй парою, ні то ў чэрвені, ні то ў ліпені 1927 года, да мяне прыйшоў хлопец з Еўліч, прыблізна майго ўзросту з бландзіністай, прывыклай прычоскай і блакітнымі вачамі. У той год я толькі пачынаў свае валасы драць уверх. Ён быў босы, у крэмавай вышыванай сарочцы, без шапкі і з дабраватым кійком у руках. Я ўжо ад Змітра Герасімовіча, які вучыўся ў Мінску ў педтэхнікуме, наслухаўся пра маладнякоўцаў, што ўсе яны ходзяць з палкамі і носяць беларускія вышываныя сарочкі. Таму, убачыўшы гэтакім гэтага еўліцкага хлопца, мне адразу падумалася, што ён або сам маладняковец або спрабуе пісаць. А калі ён запытаў зборнік Алеся Гаруна «Матчын дар», то я і зусім ўпэўніўся, што гэты хлопец мае прамое дачыненне да літаратуры. З вялікім задавальненнем я б яму даў пачытаць гэты зборнік, але ён быў у некага на руках. Хлопец пашкадаваў, што няма Гаруна, і ўзяў пайшоў сабе назад у свае Еўлічы. Я не ведаў, што хлопец яшчэ раз прыйдзе, я б сыскаў к яго прыходу гэту кнігу. А ён, счакаўшы дзён тры, зноў паказаўся на чапліцкім выгане.

— Маё прозвішча Крысько[27], Цімох Крысько. Жыву ў Еўлічах, вунь мая хата за поплавам на ўзгорку. Там у мяне маці, бацька, сёстры, браты. Можна, я буду прыходзіць па кніжкі? Ахвота чытаць. Добра вам, усё на месцы: і бібліятэка, і чытальня, і сямігодка. А ў Еўлічах нічога няма. Трэба ў горад, бліжэй да бібліятэк. Паступаеце куды?

Мне было непрыемна, што я вымушаны быў яшчэ раз расчараваць гэтага хлопца. На гэты раз я яму паабяцаў сыскаць кнігу і захаваць яе да яго прыходу. У той дзень я перагледзеў увесь сшытак запісаў і знайшоў «Матчын дар». Кніга была ў адной настаўніцы. Яна ляжала ў яе ўжо месяцаў два. Я быў вельмі рады, што кніга не прапала і што я буду мець магчымасць даць яе гэтаму еўліцкаму хлопцу. Але хлопец больш не прыйшоў. Я вельмі шкадаваў, што ён не прыходзіць і да апошняга трымаў яму кнігу. Так, не пазнаёміўшыся нават, мы разышліся. Потым я даведаўся, што ён паступіў вучыцца ў слуцкую прафшколу.

На гэты раз мы развіталіся надоўга. Блізка году не бачыліся. Мая цяга да літаратуры падмацоўвалася дружбай з еўліцкім хлопцам. У 1928 годзе летам я зноў сустрэўся з ім, толькі на гэты раз сустрэўся як з вядомым паэтам. У літаратурным дадатку да бабруйскай акруговай газеты «Камуніст» «Вясне» быў надрукаваны яго верш «Ваявалі ў полі». Надрукаванне верша па маім уяўленні тых дзён — гэта было прызнаннем, а яго аўтар станавіўся для мяне ледзь не богам. Гэты «бог» стаяў каля мяне з тым самым кіёчкам і ў той самай вышыванай сарочцы і важна, быццам яму не шаснаццаць, а ўсе сорак, і разважліва пытаў: «А вы што-небудзь пішаце?» Я адказаў нешта няпэўнае і быццам расчараваў яго, бо ён пасля гэтага сказаў: «А я быў упэўнены, што вы пішаце».

«Спрабую», — адказаў я, каб падтрымаць яго першапачатковую думку. Хай будзе, што я пішу. «Можа б, што пачытаць далі?» Не, у мяне нічога такога не было, каб можна было паказаць яму, тым болей сапраўднаму паэту.

— Не-е-е, можа, калі-небудзь, а зараз — няма нічога.

Мы прайшлі па чапліцкім поплаве аж да самай канавы, якая была мяжою з чаплевіцкім палеткам, за якім відзён быў і хутарок, ці, хутчэй, купка хатак старога еўліцкага сяла. Мы паселі на насыпе рова, каб яшчэ пагаварыць. Наўкола стаяла ліпеньская любата: кнігаўкі матляліся над мокрым балоцістым лугам, спутаныя коні выхоплівалі ногі, быццам пробкі з бутэлек, і ўсё цвіло жоўтым кураслепам. Калі размова перапынялася, Цімох раптам пачынаў чытаць вершы Купалы, Багдановіча, Гаруна, Ясеніна. Ён многа ведаў на памяць вершаў, і я яму зайздросціў. Я не мог гэтым пахваліцца. Помню, той дзень мы дамовіліся разам схадзіць у Слуцк. Проста так без дай прычыны, пагуляць нядзельным днём. Гадзін у дзесяць раніцы я зайшоў да яго, і мы пайшлі па шашы, цераз Селішчы. Па дарозе нам натрапіўся магазінчык, дзе, акрамя ўсяго іншага, прадавалася і гарэлка ў бутэльках любога памеру. Мы перамігнуліся і ўзялі самую маленечкую, чацвяртушачку. Ішлі па абочыне шашы. Недзе за Селішчамі, каля Івані зноў перамігнуліся — поўная згода абодвух. Мы збочылі ў жыта, раскаркавалі бутэлечку і без усякай закусі, не скажу, каб з вялікай ахвотай — тут было больш бравады, чым сапраўднага жадання, — па-брацку раздзялілі гэту кроплю чортава зелля. Гэта было, можна сказаць, і ў яго, і ў мяне першае далучэнне да балаўства дарослых, першым крокам дарослasці. Лёгкае, прыемнае ап'яненне прыйшло адразу, мы ішлі і многа смяяліся. Што з гэтай паходкі ў Слуцк яшчэ запомнілася, то гэта сустрэча з Яўхімам Коханам, знаёмым Цімоха па прафшколе, паэтам, які, лічылася, вельмі добра пачынаў. Чалавекам трагічнага лёсу. У нас не было запланавана сустрэчы з ім — жыў ён у Навадворцах, вёсцы пры Слуцку, на той бок ракі. Сустрэча была выпадковай, на Чортавым мастку. Гэта, з першага ўражання, быў маладзейшы за нас вясковы сарамлівы хлапец. Я чытаў яго вершы ў «Вясне» і, здаецца, у «Чырвоным сейбіце». Шэрай гадзінай мы яшчэ хадзілі па летнім садзе. Цімох з Яўхімам наперабой дэкламавалі ясенінскага «Чорнага чалавека».

## Сустрэча з Мінскам

Пагуляўшы год, я ў наступным наважыў паступаць. Куды? У Віцебскі электрамеханічны тэхнікум. Што і чаго? Ну як жа: поўным ходам ідзе індустрыялізацыя краіны, будуюцца металургічныя і трактарныя заводы, узводзяцца магутныя па тым часе электрастанцыі. Хто не ведае ленінскіх слоў: «Сацыялізм — гэта савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны»? Калі атрымліваць спецыяльнасць, то вагавітую. Праз некаторы час я атрымліваю паведамленне, што я дапушчаны да іспытаў. Іспыты пачнуцца 1 жніўня. Часу яшчэ было многа, але я запытаў маці пра грошы на дарогу. Яна адказала: «Якія ж грошы? Няма грошай, тата захварэў, можа, у бальніцу давядзецца класці, то трэба, каб рублёў колькі было». Я сам усё гэта разумеў і больш пра гэта гаварыць не стаў. Віцебск быў далёка, білет каштаваў дорага. Я вырашыў паслаць пісьмо ў тэхнікум з просьбай пераслаць мае дакументы ў Мінскі палітэхнікум. Па сваёй юначай наіўнасці я спадзяваўся, што канцылярыя Віцебскага тэхнікума, атрымаўшы маё пісьмо, адразу ж і перашле дакументы ў Мінскі палітэхнікум. Тут я ўжо не чакаў ніякіх паведамленняў, іх, я думаў, можа і не быць, бо проста на гэта аставалася мала часу. Я выпрасіў у маці на дарогу

грошай — сюды каштавала на многа менш — сеў у поезд і паехаў у Мінск. Першы раз на поездзе, першы раз далей Слуцка. Цераз ноч я ў Мінску. Куды мне падацца ў сваім зрэб'і са сваёй лубяначкай? У Дом селяніна. Там такія, як я, і плаціць нямнога. Уладкаваўся ў гэтым доме і хутчэй у палітэхнікум. Як абухам агрэлі мяне па галаве: ніякіх маіх дакументаў тут няма. Мяне гэта так усхвалявала, што я гатоў быў зараўці ад крыўды. А дзяўчына, якая давала мне гэту даведку, толькі злёгку ўсміхнулася з дзеравеншчыны і не стала мяне выслухваць. У мяне яшчэ хапіла розуму звярнуцца да старшыні прыймовай камісіі, што мне рабіць у такім выпадку. Той адказаў, што я і сам ведаў: браць білет у Віцебск і ехаць здаваць экзамены, калі я не хачу страціць год. Але такі «выхад» мне быў не па кішэні, і мне давялося змірыцца і вярнуцца дадому. А калі так, то я вырашыў ноч пераначаваць, паглядзець горад: дзе тая рэдакцыя «Беларускай вёскі», Дом пісьменніка, каб пастаяць на вуліцы — можа, хто з пісьменнікаў выйдзе, — дзе той «Пляц волі», як тады пісалі, БДТ-1 — хоць бы паглядзець будыніну, а не пабыць на спектаклі; Белпедтэхнікум, адкуль мне здавалася, павыходзілі ўсе беларускія пісьменнікі — і тут я пастаяў — можа, хто выйдзе ў вышыванай сарочцы і з кійком; БДУ і ВПІ, якія былі за межамі маіх мараў. Быў і на Траецкай гары з яе вялікім базарам, абышоў кнігарні, пабыў у гістарычным музеі, паездзіў на концы... Але самым, бадай, большым маім шчасцем было тое, што я пабачыў Янку Купалу. Ні каля дома пісьменніка, ні каля рэдакцый, ні каля педтэхнікума, дзе я стараўся больш пацерціся, а проста на вуліцы, на вуліцы Леніна, каля кнігарні. Ён, не спяшаючыся, апіраючыся на пасашок, у плашчы светлага колеру і капелюшы ішоў у бок Савецкай. Сумненняў ніякіх, выліты Янка Купала. Так, ён выглядаў на свае сорак пяць, а, можа, трошачкі і больш. Што я адчуў тады, убачыўшы гэтага вялікага чалавека? Як можна больш уведаць пра яго, перачытаць усе-ўсе яго творы. І наогул больш прыхіліцца да літаратуры, да беларускай мовы. Як я ні ашчаджаў грошы, усё ж адважыўся патраціцца на слоўнікі і на «Гісторыю беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага.

Забягаючы наперад, скажу, што мне пашчасціла тройчы бачыць Івана Дамінікавіча: другі раз на пасяджэнні пленума БелАПП у 1930 годзе і ў 1933 годзе ў вёсцы Таль Любанскага раёна, дзе я працаваў у школе: Янка Купала з Платонам Галавачом ехалі на фурманцы ў Любань. Гэта была, стаўшая вядомай у гісторыі паездка Янкі Купалы ў Камуну, вынікам якой была паэма «Над ракой Арэсай».

Уражанні, якія я атрымаў ад прабывання ў Мінску, вельмі ўзбагацілі мяне, пашырылі мой кругагляд. Я ўжо марыў аб тым, каб зарабіць грошай і купляць кнігі, выпісваць часопісы і кнігі. Ды і наогул мне трэба мець свае грошы. З вучобай жа не пакончана, я буду вучыцца. Я буду паступаць туды, дзе ў праграмах больш літаратуры. Педтэхнікум, а потым Вышэйшы педінстытут — вот мая дарога. І ніякія электрамеханічныя і політэхнічныя навучальныя ўстановы мяне больш не цікавяць.

## Бабка з дзедкам

Ішоў 1928 год. Наша сяло канчалі развёрстваць на пасёлкі. Сельская гаспадарка пераходзіла на шматпольны севазварот. Аграномы вучылі, як рыхтаваць насенне, угнойваць зямлю, утрымліваць жывёлу. Па вёсках ездзілі дзяржаўныя абозы па барацьбе са шкоднікамі садоў. Пачытвалі часопіс «Сам сабе агроном».

На нашу сям'ю насоўвалася няшчасце: бацька зусім занядужаў і ўжо не ўставаў, пакутліва чакаў смерці. Я баяўся да яго заходзіць: ён прасіў мяне, каб я што-небудзь зрабіў, каб яму не пакутаваць, а хутчэй памерці. У рэдкія хвіліны, калі яму рабілася лягчэй, ён падзываў мяне і падказваў, што ў прышчэпах адналетках ёсць некалькі дзічкоў, якія трэба прышчапіць, паачкаваць. Хай бы былі прышчэпленыя. Я яму абяцаў, што гэта абавязкова зраблю і тут жа ўзяў яго садоўніцкі крывы нож, навастрыў яго, каб можна было зрабіць гладкі зрэз, і пайшоў у сад. Для прышчаплення вочкам якраз была добрая нара. Зрабіўшы ўсё, як ён сказаў, я вярнуўся к яго ложку з гучком старой яблыні, каб ён пераканаўся, што я выканаў яго жаданне і каб яму спакайней было. У слуцкай бальніцы працаваў у тыя гады ні то галоўурачом, ні то проста ўрачом-кардыёлагам славуты Пірамінаў. Пра яго хадзілі легенды, якія падмацоўваліся тым, што ён быў страсным алкаголікам і лавеласам. Каля яго кватэры нядзельным днём стаялі сотні фурманак. Першы раз, калі я прывёз бацьку ў бальніцу, ён сказаў: «Палажу цябе, бацька, у бальніцу і паспрабую лячыць». Бацька астаўся. Праз месяц мы яго забралі. Ён быў вясёлы, жыццярадасны, дзе і дзелася яго назыскласць на твары, на нагах. На апошнім абходзе Пірамінаў яму сказаў: «Ніякай фізічнай работы. Фізічная работа для цябе — пагібель. Няхай дзеці робяць. Ты заслужыў адпачынак». Бацьку пайшоў семдзесят першы год. Але чалавек, які ўсё жыццё з любоўю займаўся фізічнай працай, які не ведаў, што такое вольная хвіліна, што такое нядзельным днём пасядзець з суседам на лаўцы, пагаманіць, у якога заўсёды знаходзілася работа: па гаспадарцы, у садзе ўсё зроблена — можна ехаць на поле каменне збіраць на склеп, ці вазіць з кавалёвай ямы — хіба такі чалавек уцерпіць не ўзяць лапату ў рукі, калі яна во стаіць такая знаёмая, такая родная? А можа, і нічога, можа, патроху можна і парабляць? Дзён з пяць паасцярогся, на шосты дзень узяўся за лапату. Ускапаў паўградкі і адставіў жалязняк у бок. Назаўтра яму ўжо не захацелася брацца за жалязняк, ён ужо адчуў сябе дрэнна, у наступны дзень яшчэ горш і з кожным днём усё горш і горш. Яму не хапала паветра, ён задыхаўся. На гэты раз Пірамінаў сказаў: «Нічога, бацька, не магу зрабіць, у цябе бычачае сэрца». Развязка наступіла ў спякотны дзень позняй восені. Я з Валодзем позна вечарам вярнуліся з Слуцка. У двор, накрыўшыся чорнай хусткай, выбегла маці.

— Тато ж памёр.

Нас гэта навіна не ўсхвалявала: слава богу спыніліся страшныя пакуты. Гэтыя некалькі месяцаў яго хваробы хварэлі мы ўсе. Стол у хаце быў адстаўлены, пакойнік ляжаў на шырокай лаве, накрыты новай посцілкай, з-пад якое відна была чыстая палатняная кашуля і ўсё тая ж мультанавая — набытак маладых гадоў — сарочка. На ногі надзеты былі цёплыя маміны шкарпэткі. Пахавалі назаўтра на старых чапліцкіх могілках, там, дзе пахаваны дзяды і прадзеды, дзе пахаваны яго браты Аніська і Іван. Цэлым родам у малінніскавым нерушы ляжаць Лабаны.

Атрымаўшы надзелы водрубамі[28], чаплюкі тым часам не надта накінуліся на навіну, нейкае прадчуванне няўстойлівасці адольвала іх. Зрэшты, былі такія, што ўжо спускалі салому са стрэх, ламалі вуглы, капалі калодзежы на новым месцы. Валодзя, спрогшыся з суседам, лупіў поплаў. А што я? На сямейнай нарадзе было вырашана: я павінен пайсці ў заработкі. А дзе іх узяць, гэтыя заработкі? Пачуў, што ў Чырвонай Слабадзе наймаюць торф капаць. Далекавата, дванаццаць кіламетраў у адзін бок ды дванаццаць кіламетраў у другі бок ды восем гадзін парабіць. Пайшоў, але больш за тыдзень не вытрымаў. Тым болей, што і заробак капеечны быў. Але ж што рабіць?

Каб не сядзець дома без дзела, я наняўся пісьманосцам на пошце. Зарплата была вельмі невялікая, але ўсё ж нейкія грошы ішлі. Мне трэба было абслугоўваць — разносіць газеты, пісьмы, тэлеграмы — Чаплічы, Танежычы, Чапліцкі двор, Пятніцы, Вялікую і Малую Альшанкі, Белае балота, саўгас Рачкавічы, Малышэвічы. Я павінен быў бываць у кожнай з гэтых вёсак тры разы ў тыдзень. Мне далі вялізазную паштарскую сумку, і якая б вялікая яна ні была, усё ж не змяшчала ўсёй пошты. Вельмі многа выпісвалася газет. Я вымушаны быў раздзяліць увесь маршрут на дзве часткі і хадзіць кожны дзень, чаргуючы то адну, то другую палавіну. Я вяртаўся з паходак без ног. Але нешта і прыемнае было ў гэтай рабоце: цябе людзі сустракалі як жаданага госця, ты прыносіў людзям радасць. Многія запрашалі абедаць. Асабліва гасціннай была ў Вялікай Альшанцы адна хата. У ёй жылі старычкі, якія часценька атрымлівалі пісьмы. І кожны раз, як я заходзіў да іх з чарговым пісьмом, яны ўсаджвалі мяне за стол. Я з задавальненнем прымаў іх запрашэнні: яны былі па-бацькоўску шчырыя, перакусваў у іх і трошкі адпачываў. Але вот аднойчы на вуліцы вёскі мяне злавіла суседка старых і сказала: «Барані цябе божа есці што-небудзь у гэтых старых, яны цябе абкрадуць і атруцяць». А я толькі выйшаў з іхняй хаты. «Да ну, — адказаў я, — жыў буду», — і не стаў больш слухаць гэту ябеду, пайшоў па поплаве ў Рачкавічы. Не адышоў я і метраў васемсот, як адчуў у жываце рэзкі боль, такі боль, што я не мог стаяць на нагах. Я вымушаны быў скінуць скураную сумку з плячэй і легчы на траву. Тым часам боль узмацняўся, мне здавалася, што я паміраю, што я атручаны. Я коўзаўся, стагнаў і крычаў. Але нікога блізка не было, каб мне чым памагчы. Хвілін праз дзесяць жывот як раптоўна забалеў, так раптоўна і перастаў. Я прыйшоў у Рачкавічы, у саўгасную кантору, здаў пошту. І пачаў даставаць квіток па якім я павінен атрымаць для свайго чапліцкага настаўніка дзесяць рублёў грошай. Квітка не аказалася. Дзе я яго мог вытрасці, хто яго мог узяць? Я добра помніў, што я яго ўзяў. Але ў такія хвіліны разгубленасці чалавек пачынае сумнявацца ў сваіх перакананнях, і часта сумненні перамагаюць перакананні. Так было і са мною, і я вырашыў спачатку праверыць дома, а потым заявіць аб прапажы квітка. Але назаўтра нехта грошы ўжо атрымаў. Мне асталося толькі паглядзець на подпіс. Дзесяць рублёў — гэта была поўная мая месячная зарплата. Я, нікому нічога не сказаўшы, аддаў сваю зарплату настаўніку. Больш да старых я не заходзіў, аддаваў пісьмы праз шчыліну дзвярэй, або проста кідаў у сенцах. Не, я і на адну хвіліну не мог падумаць, што ва ўсім гэтым хоць колькі вінаваты гэтыя добрыя, гасцінныя старыя, але ўсё ж нешта і спыняла мяне перад іх парогам. Цяпер, праз паўсотні год я думаю, што з жыватом у мяне была з'ява чыста псіхічнага характару, а з квітком выпадковае супадзенне. Пра гэта я таксама нікому нічога не сказаў, каб дарэмна не пакрыўдзіць старых. Не дай бог, калі б пра гэта даведалася тая суседка, што мяне папярэджвала, жыцця б ім не было.

## Лёнька Сякерыч

Ішоў 1929 год, першы год першай пяцігодкі. Аказваецца, пра разгортванне вёсак на пасёлкі і хутары ніхто не ведаў, гэта самаўпраўства наркома земляробства Прышчэпава і ўсіх тых, хто памагаў яму праводзіць гэту сталыпінскую палітыку, нават і Міхася Зарэцкага, бо ён ездзіў з Прышчэпавым па Беларусі і пісаў нарыс «Падарожжа на новую зямлю». Трэба ствараць калгасы, а не аднаасобніцкія пасёлкі і хутары, сацыялістычную гаспадарку, а не кулацкую.

Адсюль год вялікага пералому. Пераход да сацыялістычнай формы гаспадарання ў сельскай гаспадарцы. Барацьба з трацкістамі і правымі ўклоністамі ў партыі. Многа сходаў. Вядзецца растлумачальная работа па стварэнні калгасаў. Помніцца першы старшыня чапліцкага калгаса Іван Жаўтагірка. Чаму на яго ўпаў выбар? Быў серадняком, адукацыя — тры класы, член партыі, чалавек вельмі пасіўны. Падрыхтаваных старшынь калгасаў, вядома, тады не было, шукалі самародкаў, харошых ад прыроды арганізатараў. А іх не гэтак поўна было. У Чаплічах быў адзін чалавек, які найлепш адпавядаў такім запатрабаванням — гэта Кандрат Герасімовіч. Але ён быў беспартыйны.

У гэтым годзе я не стаў марыць пра далёкія навучальныя ўстановы. Да таго ж яшчэ канчаткова перацягнула мяне на свой бок філалогія. А раз філалогія, то і педагогіка. Толькі ў педагагічных навучальных установах чыталася мова і літаратура. І ўсе беларускія пісьменнікі неяк былі звязаны з навучальнымі ўстановамі такога профілю. Пры Слуцкім педтэхнікуме былі адкрыты двухгадовыя педагагічныя курсы. Я памеркаваў; ці варта паступаць у педтэхнікум, можа лепш на гэтыя курсы? Я адыгрываў два прапушчаныя гады і хутчэй такім чынам станавіўся на шлях самастойнага жыцця. Я так і зрабіў, прынёс свае дакументы ў педтэхнікум з просьбай дапусціць да іспытаў для паступлення на двухгадовыя педагагічныя курсы. У сувязі з рамонтам ці па якой іншай прычыне канцылярыя тэхнікума працавала не ў сваім будынку, былым камерцыйным вучылішчы па Пралетарскай, побач з кватэраю майго дзядзькі Паўла, а ў даўжэзным бараку на Востраве. Я прынёс дакументы і падаў мужчыну з чаплінскімі вусікамі, які сядзеў на галоўным месцы ў пакоі. Ён першы падняў на мяне вочы і як бы запытаў: ну, што скажаш, хлопча? Гэта дазволіла мне зрабіць крок уперад і пакласці на стол дакументы. Мужчына з чаплінскімі вусікамі перагартаў мае паперкі, прачытаў анкету і перадаў на суседні стол, жанчыне.

— Чакайце паведамлення, — сказаў мужчына і заняўся сваёй справай. Можа, не вельмі і запомніўся б гэты дзень, калі б не ўвайшла знаёмая мне па школе чорненькая цыбатая дзяўчынка. «Знаёмая» — толькі так гаворыцца, мы і двух слоў адно другому не сказалі, не ведалі ні як зваць, ні прозвішча. Пазнала і яна мяне і неабыякава секанула сваімі вострымі вачанятамі. Мне чамусьці захацелася памарудзіць колькі хвілін у гэтым пакоі. Мужчына з чаплінскімі вусікамі, каля якога я ўжо пастаяў, падгукаў гэту дзяўчынку да сябе, зусім як знаёмую: «Маркава, падыдзіце сюды». І яна падышла. Стаяла, як вярбінка, у цёмным квятастым без рукавоў плацці. Мужчына сказаў: «У тэхнікум не хочаце?» І я пачуў знаёмы-знаёмы грудны голас: «Не, не хачу, хачу на курсы». Я, мабыць, даўгавата без патрэбы затрымаўся, бо жанчына, якая запісвала мае дакументы ў кнігу, заўважыла: «З вамі ўсё». Я спахапіўся і выйшаў з пакоя. Вельмі ж хацелася, каб гэта дзяўчынка ўзяла ды дагнала мяне, і я прымаруджваў хаду, быццам раздумваў, ці ўсё зроблена ў гэтым доме, каб потым не вяртацца, далёка адышоўшы. Я ўжо ведаў і яе прозвішча, Маркава, і што яна паступае на тыя ж самыя двухгадовыя курсы, што і я. Можа стацца, калі пашчасліваць, што мы будзем бачыцца на курсах, будзем разам вучыцца.

Спраўджвалася пакуль што толькі маё сённяшняе жаданне: я не адышоў і ста метраў, як пачуў за сабою яе крокі. Азірацца не трэба было, я быў упэўнены, што гэта яе крокі. Яна насцігала мяне. Некалькі крокаў мы ішлі поруч, моўчкі.

— На двухгадовыя паступаеш? — зацікаўлена запытала яна.

— Ага, — ахвотна адказваю я.

— І я, — таксама ахвотна паведаміла яна. Мне паказалася, што гэта «і я»

трошкі афарбавана ў ружовы колер, яна трошкі давольна, як дзіця, якому яшчэ хочацца трымацца за нечыю руку. Сямігодка — была вядомая стыхія, а вот курсы, тэхнікум, куды з’едуцца студэнты з усіх бакоў, трошкі як бы пужала.

— Каленчыц прапанаваў мне ў тэхнікум падаваць...

Яна ўжо ведае нейкага Каленчыца.

— А хто такі Каленчыц?

— Ты не ведаеш? Гэта ж дырэктар тэхнікума. Гэты з вусікамі. Я не захацела. Чатыры гады? Вой! Я такая лянцяйка. Не вытрымаю. Я з мамаю жыву. У нас больш нікога няма. Бацька даўно памёр. Я яго не помню. Мы жывём тут, каля ракі, на Маставой. У нас была харошая кватэра на Манахава. Там былі такія вялікія вокны з цюлевымі гардзінамі. За бальніцаю. Там адно дрэнна было, што позна страшна хадзіць, вуліца цёмная такая. Цяпер смялей. Я часта хаджу да свае цёткі і позна вяртаюся. Яна жыве каля станцыі. У іх часта бываюць госці, дык цётка просіць ёй памагчы. У іх дзяўчат няма, у іх адны хлопцы: Ваня вучыцца ў Ленінградзе ў тэхналагічным інстытуце. Галавасты такі, разумны. Прыедзе на канікулы і ўсё жарты з мяне спраўляе. Даўгалыгай чарнушкай заве. А Грышка тут. На нейкіх курсах палітэканомію выкладае. Яму ўжо больш за трыццаць. Цётка яго абзывае старым халасцяком.

Яна гаварыла, гаварыла, гаварыла, не даючы мне ўставіць ніводнага слова. А калі мы павярнулі з Камсамольскай на Валадарскую, яна раптам паведаміла:

— А вот і мая кватэра...

Яна перабегла вуліцу, памахала мне рукою і схавалася за дзвярамі крайняй ад ракі камяніцы. Наколькі, мне помніцца з дваццаць сёмага года, тут была ні то бакалейная, ні то скабяная лаўка. Нэп скончыўся, лаўка ліквідавана і ператорана ў жылое памяшканне.

На гэты раз і ўсё з гэтай чорненькай, як муха, цыбатай і гаваркой дзяўчынкай. Не скажу, яна мне падабалася. Але пра яе я скора забыў.

Я вытрымаў іспыты і паступіў вучыцца на педагагічныя курсы. Атрымаў месца і ў інтэрнаце на Востраве ў знаёмым ужо мне бараку. Пакой метраў за дваццаць на шэсць чалавек са сталом пасярэдзіне і велікаватым, як на шэсць чалавек, ужо добра ўжываным чайнікам. Кожны прыязджаў з сваёй коўдрай і прасцінай. Койка, дошкі на койцы, з матрацам і падушкай, сцены, святло і цяпло — дзяржаўныя. За ўсё гэта дабро са стыпендыі вылічвалася нейкіх рублі два. Астатняя частка стыпендыі ішла на сталаванне, проста замест грошай выдавалі талоны на снеданне, абед і вячэру на ўвесь месяц. Найбольш было такіх, што атрымлівалі з дому торбамі сала ды каўбасы. А ў мяне з торбамі не атрымлівалася. Не прасіў я, і мне не прысылалі, у саміх было голадна: з калгаса нічога не атрымлівалі. Адзіны для мяне выхад быў, сабраўшыся хлопцаў шэсць, ісці нанач на станцыю грузіць вагоны. Хадзілі перад выхаднымі днямі. Тады была ўведзена пяцідзёнка: чатыры дні працавалі, пяты адпачывалі.

Мяне вельмі ўзрадавала тое, што некаторыя выкладчыкі мне былі добра знаёмыя, настаўнікі першай сямігодкі: гэта Козак, Наркевіч, Завусцінскі, Бржазоўскі. Яны, можа, і помнілі мяне, але, акрамя Козака, ніхто не падаў выгляду, што мяне ведае. На калідоры, калі я першы раз яго сустрэў і сказаў «Добры дзень, Майсей Ільіч!», ён адказаў: «А, Лобан, дзень добры. Вы ж дзе вучыцеся? Толькі паступілі. Прыемна, ведаеце, сустракацца з сваімі добрымі вучнямі». Мне чамусьці падумалася, што Майсей Ільіч захоча мяне прадэманстраваць перад групай. А я ж усё-ўсё забыў. Каб не падвесці Майсея Ільіча, я вышушаны быў вечароў тры пахадзіць у матэматычны кабінет і пагартаць

падручнікі па матэматыцы. І гэта было зроблена недарэмна. Тады ўводзіўся брыгадна-лабараторны метад. Студэнты групы дзяліліся на брыгады, па тры чалавекі ў брыгадзе. Атрыманае заданне тут жа рыхтавалі разам і, калі канчаўся адпушчаны час на падрыхтоўку, падводзіліся вынікі: выкладчык выклікаў аднаго з брыгады, ставіў пытанне, на якое выкліканы павінен быў адказаць. Адна і тая ж адзнака ставілася ўсім членам брыгады. Адзін адказваў за ўсіх і ўсе за аднаго. Нечым гэты, адвергнуты потым, метад карысны, ён прывучаў да самастойнай работы над кнігамі, трэба было кожнаму не завучыць, а разабрацца ў прачытаным. Калі прыйшоў час падагульняць падрыхтоўку першага задання, канечне ж, Майсей Ільіч выклікаў мяне. Я падышоў да дошкі, узяў крэйду і пачаў выводзіць нейкую алгебраічную формулу. Майсей Ільіч маўчаў і толькі ціскаў правай рукою пальцы левай рукі і ўглядаўся ў пазногці. Калі я скончыў вывад формулы, падкрэсліў яе і паклаў крэйду, Майсей Ільіч сказаў: «Вот так я хацеў бы, каб усе адказвалі. Сядайце, таварыш Лобан». У брыгадзе са мною былі яшчэ два хлопцы; Арцыховіч і Алешка[29]. Яны вызначаліся тым, што былі і здольныя, і ўмелі адказваць. Асабліва ў гэтых адносінах вызначаўся Антон Алешка. Ён быў выключна смелы, грубаватай натуры і з хрыплаватым (сіпаватым) голасам. Алешка канчаў слуцкую другую сямігодку, а родам быў з Балочыч, суседняй з Чаплічамі вёскі. Мы з ім неяк да паступлення на курсы сустракаліся ў Чаплічах. І цяпер ужо нешта пачыналася падобнае на сяброўства. Першы курс двухгадовых педкурсаў складаўся з трох груп: А, В, С. Наша група была С. Люба Маркава была ў В. Яна для мяне была нечым патэнцыяльным, заснуўшым, не паспеўшым нарадзіцца. Мала што некалі прайшлі некалькі кварталаў па горадзе, ад Вострава да Валадарскай. Хіба можна прыдаваць гэтаму значэнне. Зусім не цікавячыся і не сочачы за ёю, я заўважаў, што яна ўсё каля хлопцаў старэйшых курсаў. Дзе мне такому няўзрачнаму, непрыгожаму раўнавацца з імі. Мала таго, мне здавалася, што ні адна дзяўчына з усіх нашых трох груп курсаў і чатырох курсаў тэхнікума ні разу не спыніла на мне зацікаўленага позірку. У тэхнікумаўскім студэнцкім калектыве ўжо завязваліся шматлікія любоўныя гісторыі, ужо складваліся ўлюбёныя пары. Ужо да Маркавай заляцаўся адзін з самых цікавых хлопцаў на курсах, прыгожы, здольны актывіст, старшыня прафкома Кастусь Корбут. Ён, мне здавалася, быў камсамольскім і прафсаюзным важаком на курсах, усе — зноў мне здавалася — гатовы былі раўняцца на яго. Корбут грымеў, з Корбутам і выкладчыкі, і дырэкцыя лічыліся. Студэнцкая, камсамольская і прафсаюзная, арганізацыі былі сілай. Забягаючы наперад, скажу, што Корбут быў датэрмінова выпушчаны і як вельмі здольны і падрыхтаваны студэнт рэкамендаваны ў БДУ. Ці то быў дадатковы набор у сярэдзіне наступнага года, ці што, але Корбута на курсах нестала, ён апынуўся ў Мінску, ва ўніверсітэце. Ні ў кога гэты факт не выклікаў ніякага незадавальнення. Гэта было правільна. Праз некалькі год, калі я ўжо працаваў у школе, я сустрэў новы падручнік па… на вокладцы якога стаяла група прозвішчаў, чалавек шасці — аўтарская брыгада са студэнтаў. Такія бязглуздасці тварыліся адна за другой. Сярод прозвішчаў было і прозвішча К. Корбута. Дык вот гэты Корбут быў ухажорам Маркавай. Мае пачуцці да Маркавай яшчэ не прачыналіся.

У гэтым 1929 годзе, годзе вялікага пералому, у Слуцк прыехала нейкая опера, можа, мінская, можа, нямінская. Як у Слуцку на той час самая большая зала была ў педтэхнікуме, то яна выкарыстоўвалася як гарадскі тэатр. Прафком закупіў нейкую колькасць білетаў і раздаў студэнтам. Выпаў білет і на маю долю. Ішоў на спектакль як на дзіва, першы раз ішоў у сапраўдны тэатр, тым больш у оперу. Ставілі «Фаўста». Я ведаў, што опера пастаўлена

па аднайменнай трагедыі Іагана Вольфганга Гётэ, праўда, яшчэ не прачытанай мною, і што музыку напісаў кампазітар Гуно. З такой падрыхтоўкай я пайшоў слухаць оперу. Не больш адукаваная, відаць, была і ўся публіка. Адным словам, прасталюддзе прыйшло ў оперу слухаць «Фаўста». Музыка зайграла пры закрытым занавесе. Усё добра, паслухалі. Хоць музыка і дзіўная нейкая, оперная. Але вот адкрыўся занавес. На сцэне дзівосныя дэкарацыі, артысты ў няведама якім адзенні. Пачалі спяваць. Прыслухоўваюся, каб разабраць хоць адно слова. Ні божа мой. Музыка сабе іграе, артысты сабе спяваюць — чорт ведае што. Чую па зале прайшоў шумок, зарыпалі крэслы, загуло нецярпенне. І нарэшце прарвала:

— Спыніце музыку! Слоў не разабраць! — прагучаў адзінокі голас.

Дырыжор і артысты, напэўна, падумалі, што на спектакль пранік п’яны і зараз яго ўгамоняць. Чаго не бывае ў правінцыяльнай глушы. Не спыняць жа з-за гэтага дзеянне. Але тут у дапамогу «п’янаму» ламянула ўся зала:

— Спыніце музыку! — зараўла абураная публіка.

На гэты магутны шквал не звярнуць увагі ўжо нельга было. Дырыжор спыніў дзеянне і звярнуўся да публікі:

— Таварышы, ды хіба ж оперу можна ставіць без музыкі? Опера — музыкальна-драматычны твор, тут галоўнае музыка. А калі словы не даходзяць да вашага слыху, то гэта азначае, што оперу слухаць трэба рыхтавацца.

Прысаромленая публіка замоўкла і пакутліва даслухвала трагедыю.

1929 год быў годам поўнай ліквідацыі непісьменнасці. Студэнтам абавязкова патрэбна было ўключыцца ў работу па ліквідацыі непісьменнасці. У прафкоме і дырэкцыі складаліся спісы студэнтаў, якія павінны будуць працаваць. Аднаго разу падбягае да мяне Маркава і гаворыць: «Я запісала цябе з сабою ў адзін лікпункт. Згодзен?» Я згадзіўся з радасцю. Усё роўна хадзіць. А з гэтай дзяўчынкай хоць у самое пекла.

Памяшканне лікпункта было ў гарадской школе, на базары, у пачатку Копыльскай. Дамовіліся: яна будзе весці першыя два ўрокі, я — два апошнія. Першы дзень. Падыходжу хвілін за пяць да заканчэння ўрока. Люба перадае мне ўсё, што трэба перадаць: замкнеш, ключ і лямпу перадасі загадчыку, яго кватэра ў канцы калідора. Чаму пры лямпе займаліся? Тады ж было электрычнае святло?

Усіх лікпунктаўцаў чалавек з дзесяць. У асноўным дарослыя. Не ў асноўным — складалі дзве дзяўчынкі гадоў па пятнаццаць. Яны сядзелі за першай партай і былі самыя ўважлівыя вучаніцы. Арыфметыкай займаліся і чыталі па лемантары, выпушчаным спецыяльна для дарослых. Адзаймаўшыся, я, як і сказала мне Люба, замкнуў клас, занёс ключ і лямпу на кватэру загадчыка і вяртаюся па цёмным калідоры, каб выйсці на вуліцу. Раптам нехта кідаецца мне на шыю, адзін, другі, і абсыпаюць мяне пацалункамі. Спачатку ад страху, выкліканым нечаканасцю, я выгукнуў: «Га!», потым, зразумеўшы, што напад утварылі гэтыя дзве дзяўчынкі, і што яны прастытуткі, я ў жаху пачаў адгрэбвацца. На шчасце, яны задраліся паміж сабою, і я, выкарыстаўшы гэту хвіліну, пастараўся хутчэй знікнуць. Пра гэты выпадак я нікому нічога не сказаў, нават не сказаў і Любе. Паглядзім, падумаў, што далей будзе. Праз дзень я зноў быў на лікпункце. Мне Люба перадала класны журнал, які яна завяла. Мы павінны ведаць сваіх вучняў не толькі ў твар, а і прозвішча і дзе яны жывуць. Гэта патрабавала наша лікбезаўская педагогіка. З гэтай педагагічнай мэтай — ведаць кожнага, я зрабіў сваю пераклічку па журнале. Хто-хто, а гэтыя дзве падружкі на ўроках зафіксаваліся ў маёй памяці: Любарская і Цывіна. Я, вядома ж, на гэты раз больш увагі звярнуў на іх. Зусімашнія зялепухі.

Пара была халодная, прадвесне, усе сядзелі ў паліто, жанчыны ў цёплых хустках. Гэтак сядзелі і дзяўчынкі: Цывіна адзета была спраўней, у навейшым, а Любарская — вельмі бедна, паліто ў яе ўсё было ў дзірках. На гэты раз яны змянілі тактыку: вырашылі сустрэць мяне ў брамцы, калі я толькі выйду з двара. Тут было добра відно ад вулічных ліхтароў. Але стыль быў той самы: кожная даставала пацалаваць і цягнула ісці з ёю. Я груба адштухнуў адну і другую і пабег цераз базарную плошчу. Любарская ўвязалася за мною, куды я, туды і яна. І бегчы, каб уцячы, неяк няёмка было. Адчапіўся ад яе толькі падышоўшы да тэхнікума.

Мяне паводзіны дзяўчынак сталі сур'ёзна непакоіць. Трэба нешта зрабіць. А што зрабіць? Пайсці да бацькоў. Што яны дапамогуць? Я адчуваў яшчэ сваю педагагічную слабасць вырашаць такія складаныя пытанні. Першае, што мне прыйшло ў галаву — гэта прыгразіць міліцыяй. Падгаварыць трох-чатырох хдопцаў, пахаваўшыся запыніць іх і зацягнуць у міліцыю. Будуць баяцца больш так рабіць. Але гэта было і небяспечна — перастануць хадзіць на заняткі, і мы не зможам рапартаваць пра стопрацэнтную пісьменнасць на нашым участку. Добра, што я прызнаўся пра гэта Любе, яна рашыла мудра і лёгка: «Памяняемся часам: спачатку ты будзеш, а потым я». Гэта сапраўды быў добры выхад. У першы наступны дзень, адзаймаўшыся першыя гадзіны, я пайшоў у тэхнікум пасядзець у якім-небудзь кабінеце за кніжкай, а калі будзе хвілін пятнаццаць да канца Любіных заняткаў, я падбягу да школы і правяду познім часам Любу дадому. Можа, яна не будзе супраць такога майго джэнтльменства. Я так і зрабіў. Люба вельмі здзівілася, не чакала ад мяне гэтага і павяла мяне цёмнымі дварамі к мосту. Тады я падумаў, што яна саромеецца, баіцца, каб хто хаця не ўбачыў яе са мною. Гэта думка мне здавалася вельмі верагоднай. І я ўвесь час, пакуль мы ішлі, панікла маўчаў. Яна пацікавілася, чаго я такі сумны. І паабяцала заўтра мне нешта расказаць.

— А цяпер ідзі. Адзін па Востраве не хадзі.

Хоць апошні час на Востраве нічога да здарылася, аднак папярэджанне Любіна было абгрунтаванае. Справа ў тым, што па Слуцку хадзіла банда хуліганаў на чале з нейкім Сякерычам. Гэта банда не грабіла, не забівала, але любіла паздзекавацца, сінякоў насаджаць. Асабліва нераўнадушныя хуліганы былі да студэнтаў, не абміналі. Сам Сякерыч хадзіў з кастэтам і любіў часам злёгку памацаць ім галаву ў таго, хто яму не падабаўся. Трымаў ён сябе задзірліва і нахабна. Аднойчы па кабінетах прайшоў шапаток: Сякерыч стаіць каля пад'езда. Усе, каго застала ў кабінеце гэта хвіліна, баяліся паказвацца на вуліцу. Аднаго разу я позна заходзіў у тэхнікум, было гадзін каля дзесяці вечара. Каля галоўнага пад'езда стаяў у плашчы з настаўленым каўняром у кепцы малады плячысты хлопец. Рукі яго былі ў кішэнях плашча, і ў роце ён нервова перакочваў папяросу. Паказаўся ён мне такім валявым, прыгажуном, падобным на Маякоўскага ці на артыста Дугласа Фербенкса. Заўважыўшы мяне, ён спыніў:

— Слыш, ты ведаеш Любу Маркаву? — я кіўнуў галавою. — Пагукай яе сюды. Скажы, што брат яе, Ваня з Ленінграда чакае каля пад'езда. Ясна? Прабяжы па кабінетах.

Маркаву з яе галасочкам знайсці было няцяжка. Толькі я ўвайшоў, як пачуў яе на калідоры трэцяга.

— Ваня з Ленінграда прыехаў. Стаіць каля ўвахода.

— Праўда? — азвалася яна і закрычала: — Ванечка, міленькі! — і палящела ўніз, мінаючы па-хлапечы прыступкі.

Я тады не ведаў, што хлопец, які назваўся Ванем, не хто іншы, як той самы страшны Сякерыч. Пра гэта я ўведаў у той дзень, калі мне Люба паабяцала нешта расказаць. Мы сядзелі ў прыродазнаўчым кабінеце, у пустым, акрамя лабаранткі, і Люба мне расказала, што яшчэ з сямігодкі ведаецца з Сякерычам. Ён любіць яе, хварэе ёю, ні разу не дакрануўся да яе, ні разу ні абняў, не пацалаваў. Сказаў, што будзе чакаць, калі ёй стукне васямнаццаць. Кожны вечар прыходзіць сустракаць яе, калі не ў пад'ездзе, то непадалёку на вуліцы, каб правесці дадому.

— Ён ні разу не зайшоў да нас дадому, саромеецца мамы. Я ўцякаю ад яго, кажу яму, што не люблю, а ён не верыць: не можа гэтага быць. Вельмі раўнівы, не аднаго збіў хлопца, які, як яму здавалася, адважваецца пазаляцацца да мяне. І не дай бог які-небудзь здзек з мяне ці проста непавага — таму непаздаровіцца. Цяпер табе зразумела, чаму мяне не трэба праводзіць?

— Больш чым зразумела. Я ж не ведаў, што ў цябе такая выдатная ахова. Не буду, не буду больш.

Ад усяго, што яна расказала, мне стала прыкра на душы. Няўжо я палюбіў гэту дзяўчыну. Тое, што нядаўна было мне прыемным падарункам, раптам я ўбачыў, як яно ўцякае ад мяне. Не, кахання ў нас з ёю яшчэ не было, яно магло ўзнікнуць, але яшчэ не было. Любіна папярэджанне прагучала для мяне як папярэджанне нявольніцы, над якою стаіць моцная ўлада, і ўся яна поўнасцю падпарадкавана гэтай уладзе.

Тым часам надыходзіў Новы год. Студэнты тэхнікума і курсаў рыхтаваліся да навагодняга баль-маскараду: шылі чорныя маскі і самыя неверагодныя касцюмы. Люба пашыла сабе плацце на тэму «Электрыфікацыя». Гэта было бялюткае шаўковае плацце, усыпанае электрычнымі лямпачкамі, якія то запальваліся, то тухлі. Яе плацце мне здавалася самым прыгожым. У самы разгар навагодняга вечара ў спартыўную залу, якая была адведзена для танцаў, уваходзіць Сякерыч з гуртам хлопцаў, чалавек з пятнаццаць. З хвіліну моўчкі прыглядаліся. Потым главар гурту Сякерыч убачыў непадалёку студэнта, які сядзеў на крэсле, падышоў да яго, выбіў нагою з-пад яго крэсла і сеў сам. І вот тут адбылося тое, чаго ніхто не чакаў: да Сякерыча рашучым крокам падышоў наш Гайковіч, першакурснік — мы яго ведалі як харошага спартсмена, хлопца вялікай сілы — узяў Сякерыча адной рукой за лацканы пінжака, другою за штаніну, падняў яго над галавою, пранёс яго так да дзвярэй і, высадзіўшы яго спінаю палавіну дзвярэй, кінуў на падлогу лесвічнай пляцоўкі. Зрабіўшы гэта, Гайковіч звярнуўся да хлопцаў з яго гурту:

— А ну! Прашу! — і паказаў ім на дзверы.

Ашарашаныя тым, што толькі што здарылася, хлопцы моўчкі, адзін за адным пацягнуліся да дзвярэй. Ім далі спакойна выйсці за сваім лідарам. Але лідара на леснічнай пляцоўцы ўжо не было: ён пастараўся хутчэй уцячы ад мноства вачэй студэнтаў, сярод якіх была і Люба, і з вачэй сваёй жа банды, у якой, вядома ж, ён страціў аўтарытэт. Дзе і дзеўся пасля гэтага Сякерыч, ніхто яго больш у Слуцку не бачыў.

## Першыя радасці

Мяне захапіла літаратурная творчасць. 1929 год прынёс мне радасць у выглядзе пісьма Кузьмы Чорнага. Ранняй вясною я напісаў і даслаў у «Чырвоны сейбіт» дзве замалёвачкі: «У зырок» і «На паплавах» і недзе праз месяц атрымліваю... пісьмо, першае ў маім жыцці пісьмо, напісанае некім мне.

Я схапіў гэта першае ў маім жыцці прыйшоўшае па пошце з Мінска, абстуканае з абодвух бакоў паштовымі пячаткамі пісьмо з такой затоенай пякучай радасцю, што мне захацелася высока падняць гэтае пісьмо над галавою і закрычаць: «Глядзіце ўсе! Я атрымаў з Мінска пісьмо!» Мяне гэта пісьмо занадта хвалявала, каб так узяць раптам і распячатаць. У гэты момант я якраз паіў каня каля студні. Я засунуў пісьмо ва ўнутраны кішэнь пінжака і доўга насвістваў каню, як бы выпрабоўваючы сваю волю. Нарэшце я разрэзваю канверт і дастаю лісток з рэдакцыйнага блакнота газеты «Беларуская вёска», чытаю: «Паважаны тав. Касцяроўскі! (Касцяроўскі — было маім псеўданімам). Прачытаў дасланыя Вамі апавяданні. Напэўна, Вы чыталі Леаніда Андрэева, калі напісалі «У зырок». Гэта яшчэ не апавяданне, як не апавяданне і «На паплавах», гэта хутчэй замалёўкі з натуры. Яны яшчэ слабыя і друкавацца не будуць. Але ў Вас ёсць літаратурныя здольнасці. Чытайце Чэхава, Горкага, Мапасана, працуйце над сюжэтам. Вывучайце мову. Пішыце. К. Чорны». Я доўга ўчытваўся ў подпіс, хоць ён быў і вельмі выразны. Я не верыў, каб мне ды раптам напісаў такі славуты пісьменнік, як Кузьма Чорны. Гэты пісьменнік мне добра палюбіўся, я з любасцю чытаў яго кожны новы радок. Як ні глядзі, як ні круці, то подпіс Кузьмы Чорнага. Няўжо ў рэдакцыі «Беларускай вёскі» два Чорных? А раз у рэдакцыі адзін К. Чорны, і гэта той самы выдатны пісьменнік, то як падняліся ў цане яго словы «ў Вас ёсць літаратурныя здольнасці». Я не толькі завучыў на памяць гэта кароценькае пісямко, а і зафанабэрыўся — ну як жа, я маю каліва ад таго, што даецца «богам». Тыдняў праз два я пасылаю туды ж адно апавяданне і неўзабаве атрымліваю яшчэ адно пісьмо ад Кузьмы Чорнага. На гэты раз значна большае і яшчэ больш абнадзейваючае. На вялікі жаль, ні першае ні другое пісьмо не захаваліся. Ды і за пяцьдзясят год выветрыліся з памяці. І на гэты раз Кузьма Чорны не паабяцаў надрукаваць. А надрукавацца вельмі ж хацелася, завідкі бралі, бачачы, як адзін перад другім друкаваліся мае сябры Цімох Крысько і Яўхім Кохан. Я ўжо іх пачаў нават саромецца; прызнаныя паэты, а я старонкі не магу надрукаваць. Я выразна адчуў гэта. Аднойчы запрасілі мяне на пасяджэнне літаратурнага гуртка пры гарадскім клубе. Нехта з літаратараў павінен быў кіраваць: ні то з педтэхнікума, ні то з рэдакцыі газеты «Вясковы будаўнік». Але кіраўнік гуртка не з’явіўся і на гэтым дзейнасць гуртка, здаецца, і спынілася.

Неяк па літаратуры мы пісалі хатнюю работу. Я вырашыў напісаць невялічкае апавяданне. Праз некалькі дзён Бржэзоўскі раздаваў правераныя нашы работы. Мае лісткі ляжалі апошнімі. Дайшоўшы да іх, ён сказаў: «А вот найлепшая работа Лобана». Ён сам падышоў да мяне, сеў побач на лаўку і запытаў:

— Вы куды-небудзь пасылалі свае апавяданні?

— Пасылаў у «Чырвоны сейбіт», — пачырванеўшы, быццам злоўлены на непрыстойным учынку, адказаў я,

— І што ж?

— Нічога. Сказалі слабыя.

— Хто сказаў?

— Кузьма Чорны.

— Пісьмом? І больш нічога не сказаў?

— Сказаў, каб я пісаў.

— Ну вот, І я вам кажу, што вам трэба пісаць. Я хацеў бы пачытаць пісьмо Мікалая Карлавіча, калі можна?

Ну вядома, я не мог адмовіць Бржэзоўскаму, тым больш, што назваўшы Кузьму Чорнага па імя і па бацьку, як бы нагадаў, што ён асабіста знаёмы з

ім. У нас устанавілася нейкая дружба паміж настаўнікам і вучнем. Ён праяўляў вялікі ўдзел у маіх літаратурных справах. Тым не менш, каюся, я яму не паказаў апавядання, якое я паслаў перад Новым годам у «Вясну». З месяц не было адказу. Мне ўжо не цярпелася. І нарэшце недзе ў сярэдзіне лютага атрымліваю вялікае пісьмо ад Хвядоса Шынклера[30]. Па часопісах я ўжо ведаў гэта імя празаіка, пісьменніка чыгуначнай тэмы. Ён пісаў, што апавяданне «Трактарыстка» яшчэ слабае, такія і такія ў яго недахопы, але ў мяне ёсць літаратурныя здольнасці і, каб падмацаваць маю ўпэўненасць, гэта апавяданне надрукуюць у трэцім нумары «Вясны». Для гэтага я павінен памяняць назву. Так нарадзілася маё першае апавяданне, якое трапіла ў друк, «Веснавая радасць». Яно прынесла мне і радасць, і пакуту. Прысачыўшы, калі прыйдзе «Камуніст» з «Вясною», я закупіў у кіёску аж дзесяць экзэмпляраў газеты, прыбег сярод дня ў інтэрнацкі пакой, калі не было ні душы, і хапіўся чытаць. Божа, якая бездапаможнасць! Я пачырванеў ад сораму перад самім сабою. Цяпер мне хоць не паказвайся ў тэхнікуме — абсмяюць. Калі б можна было падслухаць, як будуць адзывацца студэнты пра маё апавяданне. Або каб з'ехаць на які тыдзень, каб усё забылася. Цэлы дзень і цэлы вечар я нікому не паказваўся на вочы і толькі позна вечарам я адважыўся вярнуцца ў інтэрнат. Падыходжу па сцежцы да барака з вялікімі асветленымі вокнамі і бачу: чалавек з шэсць хлопцаў згрудзіліся каля стала. Вокны былі адзінарныя, голас добра быў чуваць на двары, і я прыслухаўся — мне неяк адразу цюкнула, што чытаюць маё апавяданне. І праўда, словы з майго апавядання. Мала таго, што апавяданне было дрэнна напісана, але яно і дрэнна чыталася. У гэту хвіліну мне падумалася, што мне ці яшчэ рана пісаць, ці зусім не трэба пісаць. Гэта не горкаўскае «Макар Чудра», не...

Але адчуванне саманезадаволенасці паступова гасла, аставаўся арэол «славы». Нават чацвёртакурснікі і тыя былі да мяне падкрэслена ветлівыя. А свае аднакурснікі аднесліся вельмі па-рознаму: адны, мне здавалася, затаілі зайздрасць, другія рашуча грэбавалі мною, трэція асталіся такімі ж, як былі, да іх скуры не дайшло гэта ніякім пачуццём, чацвёртыя пацягнуліся да мяне. А Бржэзоўскі, сустрэўшы мяне на калідоры, абняў, павіншаваў і ўшчуў за тое, што я ўтаіў ад яго такую падзею. Атрымаў я і 13 рублёў ганарару, суму, роўную маёй месячнай стыпендыі. Усё гэта мне трошкі ўскружыла галаву. Жывучы ва ўмовах інтэрната, дзе ў адным пакоі жыло па шэсць і больш чалавек, пісаць не было ніякай магчымасці. А пісаць хацелася. Я вырашаю перайсці на кватэру. На Віленскай знайшоў невялічкі пакойчык за чатыры рублі ў месяц. Гаспадар папярэдзіў, што гэты пакойчык ён здае на дваіх. Я пагадзіўся і пасяліўся недзе ў пачатку красавіка. Спадзяваўся, што, можа, ніхто не знойдзецца, і я тады буду адзін. Тыдняў два так і было. Я меў нейкія гадзіны свабоднага часу, сядзеў за сваім невялікім столікам пры акне і вымучваў нейкае падабенства на мастацкія радкі. Так я выціснуў нейкую замалёвачку «Цішка» і надрукаваў у адным з наступных нумароў той жа «Вясны». Да мяне прыходзіў пасядзець пагаварыць студэнт другога курса тэхнікума Дзегцяроў. Ён таксама надрукаваў адзін верш у «Вясне». Мы пасябравалі, падоўгу гутарылі на літаратурныя тэмы. Нас абодвух захапіў часопіс «На литературном посту». Нам падабалася яго баявітасць. Як толькі ён паяўляўся ў бібліятэцы, мы захоплівалі яго і накідваліся чытаць. Помняцца артыкулы Ярмілава, Гросмана-Рошчына, Селіваноўскага, Сяльвінскага, Кіршона. Помніцца дыскусія аб «пераверзеўшчыне». Нечае выступленне было азагалоўлена: «Пераверзеў ці Плеханаў». Літаратурнае жыццё клекатала. Многа было незразумелага. Мы рабілі толькі першыя спробы пазнаёміцца з марксісцка-ленінскай філасофіяй, патрымалі

ў руках «Капітал», «Анты-Дзюрынг», «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм». У тыя гады вялікай папулярнасцю карыстаўся Плеханаў, і чатырнаццаты том яго твораў з вялікім захапленнем і карысцю для сябе я прачытаў. Грымелі і выдаваліся масавымі тыражамі ў «дешевой библиотеке»: «Тихий Дон», «Бруски», «Неделя» і «Комиссары», «Комсомолия», «Городок Окуров», «Мать». У Беларусі папулярнымі творамі былі «Спалох на загонах», «Цені на сонцы», «Босыя на вогнішчы», «Дзясяты падмурак». Шквал крытыкі абрынуўся на Сяргея Ясеніна, Уладзіміра Дубоўку за яго «І пурпуровых ветразей узвівы», Язэпа Пушчу за «Лісты да сабакі». У Беларусі лютавалі Бэндэ[31] і Кучар[32]. Янка Купала і Якуб Колас па іх міласці хадзілі ў кулацкіх паэтах. Тое ж самае і Кузьма Чорны і многія іншыя.

Але вот мінуліся два тыдні спакойнага на адзіноце жыцця. За гэты час я нічога не напісаў. І тым не менш яны прынеслі мне, можа, самую вялікую карысць — я зразумеў, што сапраўдная творчасць прыйдзе тады, калі ты ацежалееш грузам жыццёвых уражанняў і калі гэтыя жыццёвыя ўражанні не будуць мяшком, хаатычна напханым фактамі, а тады калі ты навучышся сваім розумам і вокам пранікаць у самую глыбіню жыццёвага «хаосу», навучышся заўважаць і глыбока разумець працэсы, якія адбываюцца ў ім. У розных людзей па-рознаму хутка ці замаруджана прыходзіць гэта падрыхтаванасць да мастацкай творчасці. Прыход яе залежыць ад інтэнсіўнасці жыцця, пазнанне жыцця павінна прыйсці не шляхам такога моднага «вывучэння жыцця», а шляхам непасрэднага жыцця, жыцця на разцы. Вядома, у тыя гады не было такога выразнага разумення сваіх цяжкасцей, але нешта я абмацваў у гэтым кірунку.

Але вот маё панства кончылася — стаў на кватэру курсант з нейкіх трох ці шасцімесячных курсаў. Тэхнікум тады кішэў студэнтамі і курсантамі. Школы раслі, як грыбы. У кожнай вёсцы — свая школа: аднакамплектная, двухкамплектная, трохкамплектная, чатырохкамплектная, пяцігодка, сямігодка. Настаўнікаў не хапала. І тады пры кожным тэхнікуме адкрывалася мноства розных курсаў па хуткаснай падрыхтоўцы настаўнікаў. Інтэрната для гэтакіх не было, яны павінны былі шукаць сабе кватэры па горадзе. Вот прыйшоў адзін такі і да мяне. Высокі, здаровы, мурло мурлом хлопец. З-пад Слуцка, ні то з Бранава, ні то з Хрэнава. Бацька падвозіў. Унёс два мяхі, зваліў пад ногі і пайшоў.

— Як вы з шамоўкаю? — запытаў хлопец. — Па сталоўцы ці варыце?

— Па сталоўцы, — адказваю я. — Вечарам і раніцай у гаспадыні кіпню можна разжыцца.

— То дрэнна ж. А каб варыць што, то не?

— Пагавары з гаспадыняй, можа, і згодзіцца.

Выйшаў пагаварыць. Згод. У яго і свая пасудзіна, маленькі чыгунчык. Сыпануў у яго жменю грэцкіх круп, уціснуў у чыгунчык кавалак вагою ў добрыя паўкілаграма сала і аддаў гаспадыні. Вот ужо сапраўды случак пазнаецца па торбе: калі ў торбе чалавека кавалак сала большы за акраец хлеба, то гэта случак.

— Люблю, каб каша ў сале варылася.

Першы раз я папрысутнічаў на яго трапезе. Упёр цэлы чыгунок і не аблізнуўся.

— Я б яшчэ гэтулькі з’еў, але дактары кажуць, што сала многа няможна есці. Што гэта казённая сталоўка — усё сухое. У нас, дзякуй богу, яда вядзецца. Кончыцца гэта, то яшчэ адзін кабанчык ёсць, пудоў на дванаццаць. Нічога, пераживецца.

Пасля гэтага мой хлопец, уздыхнўшы, што малавата, разгарнуў кадаўбец з маслам. Аблізаўшы лыжку ад кашы, ён ачэрпаў ёю, не шкадуючы масла, узваліў яго на таўставатую скібіну хлеба і пачаў, як тры дні галодны, умінаць хлеб. Я не вытрымаў ад галоднага болю пад лыжачкай і выбег з пакоя. Пасля гэтага я стараўся больш не прысутнічаць на гэтай дзікай кармёжцы.

Апошні раз Цімоха Крысько і Яўхіма Кохана я бачыў восенню дваццаць дзявятага года. Да нас у тэхнікум прыязджаў Барыс Мікуліч[33]. Да гэтага пра Мікуліча я ведаў толькі завочна. Ён таксама друкаваўся ў «Вясне». Але і не толькі, ён ужо трапляў і на старонкі «Маладняка». Наш выкладчык літаратуры Вярноў прадставіў нам у некалькіх словах маладога пісьменніка і даў яму слова. Яшчэ зусім юны высакарослы бландзін пачаў жвава кідацца па сцэне, размахваць рукамі і нешта вельмі разумнае гаварыць пра развіццё беларускай літаратуры ў апошнія гады. Мы менш слухалі, а больш назіралі за тым, як на галаве ў лектара то падымалася, то апускалася бялявая, як лён, раскошная і завітая прычоска. Потым выступіў Вярноў і замест таго, каб падзякаваць дакладчыку, стаў раскладваць яго: гэта эклектыка, а гэта вінегрэт. Назаўтра мы: я, Цімох Крысько і Яўхім Кохан, былі ў Барыса Мікуліча ў гасцініцы. Гадзіны сустрэчы былі прысвечаны мне. Я чытаў нейкія ўрыўкі, замалёўкі — і нічога цэлага. Па гэтай прычыне не адбылося ніякага абмеркавання. Усе рашылі, што гэта ўжо сапраўдная проза, але пара мне перайсці да закончаных твораў.

## Сустрэча з Кузьмой Чорным

Канчаўся навучальны год дзесьці ў ліпені. Перад канікуламі я неяк зайшоў у групу «Б». Каля стала стаяла Маркава і здалёку з нейкім размаўляла. Яна не звярнула на мяне ніякай увагі. А я мелькам зірнуў: яна была зямліста-шэрая і худая-худая. Я ніколі не бачыў яе такой. Яна хворая, — сказаў я сам сабе. Потым увесь чэрвень яе не відаць было. Толькі ў жніўні, нейкага жніўня, калі наш курс сабраўся ехаць у Мінск на сельскагаспадарчую выстаўку, я ўбачыў Любу. Яна была не падобная на тую, што апошні раз бачыў. Яна была вясёлая, жыццярадасная, з крывінкай на смуглым твары, памажнеўшая. Яна была ў акружэнні хлопцаў, многа гаварыла і смяялася.

Я быў самы большы знаток Мінска, усе астатнія былі першы раз. У Мінску ўжо хадзілі трамваі. Пакуль што толькі адзін маршрут, ад вакзала да выстаўкі, якая была на пустыры за горадам у спецыяльна пабудаваных павільёнах. Дзівам для нас быў камбайн, ён недалёка ад выстаўкі хадзіў па полі. Дэманстравалі яго ў рабоце і здымалі кінакарціну. Экскурсія наша працягвалася два ці нават тры дні. Мы з Антонам Алешкам наважыліся наведацца да Кузьмы Чорнага. А дзе яго шукаць? Напэўна, у «Беларускай вёсцы», рэдакцыя якой месцілася ў будыніне Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, на рагу Савецкай і Камсамольскай. Мы туды. У якія дзверы стукацца? Напісана: «Адказны рэдактар» — сюды, а куды ж яшчэ. Алешка сам смяльчак, а пхае мяне заходзіць першым. Адчыняю дзверы і бачу — сядзіць сам барадаты Шукевіч-Траццякоў за сталом. Так і так, кажу, Кузьму Чорнага шукаем. А ён так добра адказвае: «А ён жа во цераз вуліцу, у Доме пісьменніка сядзіць. Ідзіце туды». Такога ўдзеллівага ветлівага тону мы не чакалі. Просячы прабачэння, мы пастараліся як можна больш выказаць пачуцця ўдзячнасці гэтаму ветліваму дзеду. У Доме пісьменніка Алешка зноў штурхае мяне ўперад. На другім паверсе нехта нам падказаў, дзе можна знайсці таго, каго мы шукаем. Адчыняю дзверы — Зво-

нак[34] у вялізазных акулярах — значыць, рэдакцыя «Маладняка». Не сюды, але ж запытаць можна. Аж і Кузьма Чорны тут. Справа ад дзвярэй. Дзве рэдакцыі ў адным маленькім пакойчыку: «Маладняк» і «Узвышша». Мяркуючы па тым, як аўтары аднаго часопіса лаялі аўтараў другога часопіса, можна было падумаць, што гэта два лагеры, паміж якімі праведзена нейтральная палоса з дзвюма лініямі акопаў і дротам загарод. Аказваецца, гэтыя два лагеры — вот яны, у выглядзе двух сталоў у адным невялічкім пакойчыку. І ніякай страляніны паміж імі няма.

— Мы прыйшлі, каб паказаць вам свае апавяданні, — на гэты раз ужо з меншай смеласцю вымаўляю я.

На дзіва Мікалай Карлавіч быў падобен на таго, якім я яго ўяўляў. Нізкаватага росту, мажнаваты бландзін з густой прычоскай.

— Ці не са Случчыны будзеце?

— Са Случчыны, — узрадавана і наперабой адзін перад адным адказваем мы.

— Я бо бачу, што ў вашай гаворцы нешта слуцкае ёсць. А з якога сяла там? З Чапліч? З Балочыч? О-о-о! Гэта ж адной воласці з Боркамі. Некалі я ў Чапліцкую воласць па метрыкі хадзіў. Давайце, хлопцы, выйдзем, а то мы перашкаджаем Звонаку вершы рэдагаваць. Мы з задавальненнем пасмяяліся і пайшлі за Мікалаем Карлавічам. Ён усадзіў нас на канапе, што стаяла каля акна ў пярэднім пакоі і ўзяўся чытаць, напісанае ад рукі Алешкава апавяданне. У мяне не было нічога новага, і я даў пачытаць сваю «Веснавую радасць». Як прысуду чакалі, калі Мікалай Карлавіч скончыць чытаць і рэкне слова.

— Ну што ж, хлопцы, будзеце пісаць. А гэтыя апавяданні яшчэ слабыя, ім не хапае яшчэ таго, таго, таго і таго. Яшчэ навучыцеся, вы яшчэ маладыя. Вы дзе вучыцеся, ці як? У тэхнікуме? О-о-о, дык добра ў вас жа там Базыленка Ганна выкладае. Нядаўна надрукавала ў «Маладняку» вялікае і ніштаватае апавяданне. Я вашых выкладчыкаў трохі ведаю. Адукаваныя людзі. А вы часам Касцяроўскага з Чапліч не ведаеце?

Алешка, вядома, нічога не ведаў, ведаў я. І я адчувальна пачырванеў і прызнаўся:

— Гэта я.

— О-о-о, я бачу — нешта ўспамінаецца. Рука як бы яго. А чаго ж гэта мы перакінуліся ў «Вясну»?

— Не дарос да «Чырвонага сейбіта», — адказаў я.

— Ну, глупства. Усе недараслі. Трэба дарастаць. Адным словам, хлопцы, пішыце і дасылайце.

Мікалай Карлавіч устаў, усхапіліся і мы, падзякавалі і развіталіся. Выйшлі на вуліцу, як мыла з'еўшы. Кожны з нас спадзяваўся, што нашы апавяданні зробяць чорт ведае якое ўражанне на Чорнага. Аж гэтага не адбылося і ў той жа час кожны з нас маліўся на яго. Яго слова для нас было неаспрэчнае, чыстая, дыстыляваная праўда. Антон ішоў, прыгнуўшы галаву, глядзеў у сваю душу і яхідна ўсміхаўся. Потым узяў лісткі апавядання, разадраў іх напалам, яшчэ напалам і ўсё, што было ў руках выкінуў у смеццевую ўрну.

— Усё гэта глупства, пане дабрадзею, — прамовіў ён і, пацёршы руку аб руку, як бы стараючыся абабіць з іх тое, што яшчэ магло на іх астацца ад гэтага літаратурнага балаўства, запытаў ужо зусім пра другое:

— Дзе нашы? Куды мы ідзём?

Не, так лёгка ад літаратурнай заразы ніхто не пазбаўляўся. Нямала выпадкаў такіх, калі людзі ў маладосці нічога не абяцалі, здаваліся сапраўднымі графаманамі, у сталыя гады раптам выяўлялі свой сапраўдны высакаякасны

творчы патэнцыял. Пісьменнік пачынаецца не абавязкова ў дваццаць ці ў дваццаць пяць год, ён можа пачацца і ў трыццаць, і сорак, і ў пяцьдзясят. Прычынай гэтаму — мільён фактараў. Але гэта галіна псіхалагічных даследаванняў, як навуковых, так і мастацкіх.

## Яшчэ сустрэчы

Прыехала да нас маладзенькая выкладчыца літаратуры Ганна Базыленка, якую прыгадваў нам пры сустрэчы Кузьма Чорны. Гэта была танюсенькая, беленькая і яшчэ зусім юная жанчынка. Яна выкладала беларускую літаратуру ў тэхнікуме і на курсах, толькі не на нашых. Яна арганізавала літаратурны гурток. Чалавек з дваццаць сабралася на арганізацыйны сход. Кіраўнік Ганна Базыленка, стараста — я, як самы зацікаўлены. Помню Ганна Базыленка паставіла на абмеркаванне раман Юрыя Лібедзінскага «Нараджэнне героя». На той час ён толькі быў надрукаваны, самачытаўся і абмяркоўваўся ў газетах. Даклад даручылі зрабіць мне. Даклад я зрабіў, абмеркаванне адбылося. Усё гэта было зроблена вельмі няўмела, але тым не менш было карысным. Спрабавалі свае сілы і ў гэтым напрамку.

Позна восенню, нядзельным днём з Сёлак, дзе быў наш, другакурснікаў, інтэрнат, я ішоў у бібліятэку памяняць кнігі. Падыходжу, а там... Што такое? Па ўсіх калідорах стаяць, сядзяць з клункамі, з дзецьмі людзі, сяляне ў сваіх даматканых курціках, світках, у лапцях. На калідорах гразішча. Некага сустракаю з сваіх студэнтаў, пытаю. Кулакі, іх сёння ноччу забралі. Вывозяць. А што з імі будуць рабіць? Поціск плячэй. Ніхто не ведаў, які чакае іх лёс. Думалася, што гэта проста прымусовае перасяленне на якія-небудзь неабжытыя землі, туды, дзе няма яшчэ калгасаў. Каля кожных дзвярэй аўдыторый, дзе таксама размяшчаліся кулакі, стаялі з вінтоўкамі нашы хлопцы. Давялося і мне пастаяць. Вінтоўкі ў нас былі вучэбныя, з ваеннага кабінета і без усякіх патронаў. Кулакі не збіраліся ўцякаць, мірна сядзелі на падлозе. Відаць, сапраўдных і небяспечных кулакоў трымалі асобна. А гэта былі кулакі, якія мелі трошкі больш, чым беднякі: зямлі чвэрць, скажам, не ленаваліся рабіць, мелі хлеб з салам і пару кароў. Чуваць было потым, што завозілі іх на Поўнач еўрапейскай часткі Саюза, а таксама ў Сібір. Па дарозе іх многа вымірала, асабліва дзяцей. Гадоў праз сорак пасля гэтай страшнай падзеі надарыўся чалавек, які расказаў мне пра сябе. Ён сын кулака, раскулачанага ў трыццатым годзе і высланага ў тым жа годзе ў Сібір. Раскулачванне рабілася без суда, у адміністратыўным парадку.

— Нас вывезлі зімою ў тайгу і сказалі выгружацца. Стаяў саракаградусны мароз. «Вот ваш дом, рабіце і жывіце». Ні пілы, ні сякеры. Пагібель. Нас было чацвёра: бацька, маці і двое дзяцей — мне шэсць, сястрычцы пяць. Бацька гаворыць маці: «Бяры за рукі дзяцей і ідзі на сабачы брэх, а я вас пакіну. Са мною вам цяжэй будзе. Пастукайся ў хату. Калі папытаюць хто там, хай дзеці голас пададуць. Дзяцей упусцяць. А сама — як ведаеш. Так усё і было. Нас потым у дзіцячы дом уладкавалі. І вот як бачыце. А пра маці і бацьку мы так больш нічога і не ведалі. Не скажу, нам быў поўны давер, мы з дзіцячага дома. Паканчалі інстытуты, кандыдаты навук.

У Чаплічах на самым пачатку было раскулачана чатыры сям'і. Праўда, усе яны былі сапраўды кулацкія.

Наступаў цяжкі трыццаць першы год. Недаяданне, перанаселенасць у інтэрнатах прывялі да таго, што многія студэнты старэйшых курсаў захвор-

валі на сухоты, знаходзіліся пад наглядам дактароў з тубдыспансера. Кіраўнік спартыўнага гуртка, які я актыўна наведваў, раптам, не зразумела чаму, патрабаваў даведку ад доктара, ці можна займацца спортам. Пайшоў да доктара. Змералі тэмпературу, а ў мяне 39. Доктар абслухала, абстукала мяне і кажа: «Давядзецца вам з вучобай развітацца». І напісала ў тэхнікум аб неабходнасці майго датэрміновага выпуску. У адносіне гаварылася, што такі і такі студэнт хварэе парокам сэрца і туберкулёзам. Дала яна мне і накіраванне ў мінскі тубдыспансер на кансультацыю і рэнтген. Мая паездка на рэнтген у Мінск супала яшчэ з адной патрэбай ехаць туды. Наш літгурток атрымаў запрашэнне прыняць удзел у рабоце II пленума БелАПП[35], які адбудзецца 12—16 мая. На пасяджэнні гуртка па прапанове Ганны Мартынаўны Базыленкі было вырашана паслаць мяне. Да пленума яшчэ быдо тыдні два, і я мог пабыць яшчэ дома. Урач наказаў пабольш есці масла, мяса, яек, мёду, дыхаць свежым паветрам. Дома не толькі нічога гэтага не было, але не было і хлеба, і бульбы. Жылі на рыжай жытняй зацірцы. Была карова, але каровам, як і людзям, не было чаго есці, і яна з падсохлым вымем ледзь перастаўляла ногі па яшчэ голым, як бубен, поплаве, шукаючы чаго з’есці. Людзі раскрывалі хлявы, рэзалі чорную салому на сечку, запарвалі яе і пустую давалі жывёле; хадзілі з мяшкамі па Крошні, сярпамі выжыналі ў кустах па каліву жоўтую вішу, яшчэ раз перакопвалі леташняе бульбянішча ў надзеі знайсці хоць гнілую бульбіну на крухмал. 1930 год не быў годам засушлівым, ён быў годам суцэльнай калектывізацыі. У наступныя гады калгаснікі, навучаныя горкім вопытам 30-га года, больш будуць аддаваць увагі прысядзібным участкам. Адзінкі сялянскіх сямей упарта супраціўляліся. Іх абкладвалі непамернымі падаткамі і калі яны не здольвалі выканаць, раскулачвалі, забіралі коней, кароў, увесь інвентар, абразалі зямлю па вуглы. Ставілі сям’ю ў безвыходнае становішча. Яна вымушана была шукаць дзе заработку на самых цяжкіх работах, куды дазвалялася браць падкулачнікаў. Прыехаўшы дадому, я нікому нічога не сказаў. Ні маці, ні брат, ні сястра нічым дапамагчы мне не маглі. Насуперак парадам дактароў я выходзіў у сад, раздзяваўся да трусоў і лажыўся на сонца загараць, раз-пораз устаючы зрабіць дыхальнае практыкаванне. Што мне было рабіць? Мне здавалася, што трэба не толькі быць на сонцы, а напоўніцу глытаць яго, каб сонца пранікала ўсярэдзіну, у нутро, трэба піць сонца. Далежваўся да пацямнення ў вачах. Страшна было, што я рабіў. За вясну дзве скуры злезла з мяне. Я свядома ішоў напрапалую, або тое, або тое.

Прыйшло 11 мая, я сабраўся і паехаў у Мінск на пленум БелАПП. У Доме пісьменніка мне сказалі, што рэгістрацыя ўдзельнікаў пленума ў Доме селяніна, на рагу вуліц Карла Маркса і Чырвонаармейскай. Заходжу ў няскляпістую трохпавярховую будыніну. На першым паверсе ў невялічкім пакойчыку многа людзей. Гамана стаіць. Разгледзеўся — чарга да стала. Стаў у чаргу і я. Перабіраю вачамі прысутных — не пазнаюцца, усё прыезджыя. Тым часам людзі падыходзяць, займаюць чаргу за мною. Чалавек, што сядзіць за сталом, чую, патрабуе ад кожнага камандзіроўку. Усе дастаюць аднолькавыя паперкі і разгортваюць іх перад рэгістратарам. Той спісвае з яе ў сшытак тое, што яму трэба і выдае квіткі. Чарга падыходзіла, і я пачаў хвалявацца; у мяне ж няма гэтай чортавай камандзіроўкі, дзе яе трэба ўзяць? У педтэхнікуме мне, апрача грошай, нічога не далі. Я ж не ведаў, што патрэбна нейкая камандзіроўка. Мне даходзіла, што гэта дакумент, які сведчыць, што чалавек прыехаў не на пагулянку, а нехта яго паслаў з пэўнай патрэбай. Падышла мая чарга — я і кажу: няма ў мяне камандзіроўкі.

— А адкуль вы прыехалі? — пытаецца рэгістратар.

— З Слуцка, з педтэхнікума.

На гэтыя непярэліўкі падыходзіць да стала высокі чарнявы чалавек з глыбокімі і добрымі, як у Шынклера, вачамі — запомніліся з партрэта, змешчанага ў «Вясне», — бярэ мяне за плечы і гаворыць:

— Не Мікола Лобан? Нічога, зараз усё ўладзім. — Ён азіраецца: — Міхась Ціханавіч[36], патрэбна дапамога. У хлопца камандзіроўкі не аказалася.

Міхась Ціханавіч палажыў руку на маё плячо:

— Не дадзім, не дадзім у крыўду, — пажартаваў ён і тут жа пачаў дыктаваць за мяне:

— Мікола Лобан, Слуцк, Белпедтэхнікум, член літгуртка, празаік. Вось і ўсё. Бяры, хлопча, квіток, а то туды — мелася на ўвазе гасцініца — без яго не пусцяць. Са мною было такое. Ведаю. — І тут жа расказаў нейкі смешны выпадак, як ён сам нядаўна некуды ездзіў, не ўзяўшы сам у сябе камандзіровачнага пасведчання, і як яму давялося паўночы пакутаваць у вестыбюлі на тапчане, пакуль пад раніцу не абмацаў у сябе ў кішэні пячатку і не напісаў сабе пасведчанне. Пад канец гэтага апавядання Міхась Ціханавіч рассмяяўся і дадаў: — Так што, хлопча, без камандзіровак, бывае, і мы спрабуем ездзіць.

Мне тады падумалася, што нічога падобнага з Міхасём Ціханавічам не здаралася, што ён гэту гісторыю на хаду прыдумаў, каб падняць мой дух. Непрыемнае адчуванне, выкліканае здарэннем з камандзіроўкай, у мяне як ветрам здзьмула, і я ў вясёлым настроі пайшоў уладкоўвацца ў гасцініцу. І ўвесь гэты дзень, і наступныя дні мне шанцавала. Я нават падумаў: гэта ж шчасце, што са мною здарыўся такі выпадак — ён памог мне пазнаёміцца з такімі цудоўнымі людзьмі і пісьменнікамі, як Міхась Лынькоў і Хвядос Шынклер, а праз іх і з іншымі ўдзельнікамі пленума.

На пленум прыехала вялікая маскоўская дэлегацыя: Серафімовіч, Гладкоў, Ісакоўскі, Лаўрынёў, Матэ Залка, Бруна Ясенскі, Уладзімір Лідзін. Пленум праходзіў у залі Дома пісьменнікаў. Невялікая зала была амаль поўнасцю запоўнена. Маскоўскія пісьменнікі сядзелі на другім-трэціх радах. У прэзідыўме з масквічоў сядзеў толькі Бахмеццеў. Побач сядзелі Бэндэ, Александровіч, Лынькоў, Бранштэйн, Ізі Харык, Клімковіч, Платон Галавач... За плячамі ў мяне, на самай апошняй лаўцы, здавалася, баязліва, каб як найменш заняць месца сядзелі Якуб Колас, Янка Купала, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Максім Лужанін, Кузьма Чорны. Справаздачны даклад рабіў сакратар БелАПП Янка Ліманоўскі, празаік, вядомы сваёй адной кнігай «Над абрывам», у якой змяшчаліся, здаецца, тры аповесці. Пасля Ліманоўскага далі слова Бэндэ. Чалавек яшчэ ў самай сіле, хоць і не першай маладосці, з лысінкай. Ён быў у зелянцовай, нізка падпяразанай шырокай папругай суконнай гімнасцёрцы, такой, як у той час насілі кіруючыя партыйныя работнікі, латыш па нацыянальнасці. Выйшаўшы на трыбуну, ён пачаў шукаць нешта ў кішэнях штаноў. Была выцягнута насавая хусцінка, і ён пачаў доўга і грунтоўна смаркацца. Гаварыў ён па-беларуску з акцэнтам. Мне тады здавалася, што гэта гаварыў сам літаратурны бог. Адначасова ён выклікаў і страх сваімі рэзкімі, катэгарычнымі, неаспрэчнымі суджэннямі. Доўга, скорагаворачна, спачатку па-руску, потым па-ўкраінску выступаў украінскі крытык Барыс Каваленка. Урэзалася ў памяць выступленне Алеся Кучара, які бегаў па авансцэне і граміў, абзываючы кулацкімі, творы Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі. У вачах стаіць Матэ Залка, высокі, чорны, у чорным скураным паліто мужчына гадоў сарака, славуты генерал Лукач, герой грамадзянскай вайны ў Іспаніі, венгерскі пісьменнік; Аляксандр Серафімовіч, які здаваўся ўжо зусім старым, адзеты ў вельмі

танны шэры пінжачок з выпушчаным напаверх каўняром белай сарочкі, без гальштука, ён гаварыў з трыбуны сваім ужо старэчым голасам, але яшчэ цвёрдым, грудным. Хацелася паслухаць яшчэ каго, але больш з маскоўскіх пісьменнікаў ніхто не выступаў.

Назаўтра раніцай Хвядос Сяргеевіч ужо наведаўся ў выдавецтва, і калі я прыйшоў на ранішняе пасяджэнне, ён ужо трымаў у руках стопку сваёй кнігі «Запіскі інструктара Томана» і тут жа адну з іх падпісаў мне. Ад яго ж даведаўся, што пасяджэння не будзе, а ўсім пленумам пойдзем на станцыю сустракаць Аляксея Максімавіча Горкага. Кіраўніцтва БелАППа ўжо выехала ў Негарэлае, каб сустрэць Горкага на пагранічнай станцыі. Нас прапусцілі на перон, дзе мы занялі месца каля самага пуці. Людзей прыбывала, рабілася на пероне цесна. Мы ўжо нават пабойваліся, каб, калі будзе падыходзіць поезд, не сапхнулі на рэльсы. Будзінскі, адказны рэдактар «Звезды» — «Звезда» тады была рускай газетай — некалькі разоў падымаўся на трыбуну і супакойваў натоўп. Трыбуна была зроблена спецыяльна для Аляксея Максімавіча. Але яна не спатрэбілася. Кур’ерскі поезд Негарэлае — Масква павольна падышоў к перону. Не вядома было, з дзвярэй якога вагона пакажацца чалавек, які для кожнага быў больш, чым родным. Я кідаў вачамі па вагонах то ў адзін бок, то ў другі, баючыся, хаця б ні хвіліны не прапусціць. Але хвіліны ішлі, а Аляксей Максімавіч не паказваўся з вагона. Што ж такое? Не прыехаў? Хворы? Ужо напружана заскрыгалі вагонныя счэпы і стала прыкметна — поезд рухаўся. Расчараванню не было канца. Не, такога не можа быць, гэта вагон падкочваюць бліжэй к трыбуне, каб насупраць. Ну, ясна, праз такое натоўпішча не праб’ешся, чаго добрага і задушыць можна. Ніякія меры не ўратуюць, калі ціскануць. Гэтая імправізаваная трыбунка паляціць. Тым часам поезд не спыняўся. Адзін вагон ужо мінаўся, пачынаўся другі. І ў адчыненым акне гэтага другога вагона, прама перада мною я і ўбачыў і пачуў Аляксея Максімавіча: «Дорогие товарищи!» З-за крыку натоўпу больш нічога не можна было пачуць, ды ён, здаецца, ад хвалявання больш нічога і не прамовіў, толькі ківаў галавою.

На нейкае імгненне натоўп як быццам падаўся за вагонам, але… гэта была ўжо толькі падсвядомая інерцыя. Вагон хутка аддаляўся.

Вячэрняе пасяджэнне я вымушаны быў прапусціць з-за тубдыспансера. Я ледзь не крычаў з радасці: у мяне ў лёгкіх нічога не знойдзена, рэнтгенаскапія чыстая! Было такое адчуванне, быццам я нанава на свет нарадзіўся. Усё мне было люба і міла.

Вярнуўшыся ў тэхнікум, я сабраў літгурткоўцаў і зрабіў справаздачу аб сваім удзеле ў рабоце пленума БелАПП. Слухалі з вялікай увагай мой няўмелы расказ, і я адчуваў, зайздросцілі мне. Я і сам адчуваў сябе на нейкім светлым узлёце. Той жа вечар мы літгуртком схадзілі яшчэ на вячэрні сеанс у кіно, каб на наступным пасяджэнні абмеркаваць карціну. Я сядзеў побач з Ганнай Мартынаўнай, і пакуль не пачаўся сеанс, усё расказваў ёй пра пленум. Потым я сарамліва праводзіў яе цераз увесь горад дадому. Яна жыла на прыватнай кватэры на Фарскай з мужам, выкладчыкам эканомгеаграфіі і палітэканоміі Гурыновічам. Для мяне ў тыя дні Базыленка была, здаецца, ідэалам дасканаласці ва ўсіх адносінах, і, божа мой, што б я ні зрабіў для яе!

Вучэбны год, а з ім і курсы былі на сконе. Заняткі, падагульненні, практычныя ўрокі яшчэ ішлі поўным ходам. Я не стаў выкарыстоўваць сваё права на адпачынак: не хацелася астацца ўбаку ў гэтыя самыя хвалюючыя дні парад расстаннем, перад работай, перад апошнім крокам у самастойнае жыццё. Яшчэ пройдзе месяц-другі, і мы распырхнёмся па школах Беларусі, урыемся ў

работу і толькі зрэдку будзем, усё больш і больш забываючы, успамінаць адзін аднаго. Мы ўжо адчувалі сябе дарослымі, нашпігованыя педагагічнымі сістэмамі класікаў, Каменскага, Песталоцці, Русо, Ушынскага, Коласа, спрабавалі самі выказваць свае погляды, спрачацца з вялікімі. З вуснаў у нас не сыходзілі імёны Лабановіча і Эміля. Было бліжэйшае наша будучае і страшнаватым, і ў той жа час светла-рамантычным.

## Любка

Я ніколі пра яе не думаў і не ўскладаў нікіх надзей. Калі і было што ў маёй душы, то яно выглядала нейкай утопленай гаметай, ад якое не зыходзіла ніякіх жыццёвых імпульсаў. І вот гэта забытая гамета раптам здрыганулася, праз яе прайшоў электрычны ток.

А здарылася гэта цёплым летнім днём сярэдзіны ліпеня. Усё наўкруга цвіло і пахацела. На курсах ужо ніякіх заняткаў. У кабінеце дырэктара засядае камісія па размеркаванні выпускнікоў па раёнах. На камісію выклікалі кожнага паасобку, выслухвалі пажаданні, матывіроўкі. Часам аднаго і таго ж выклікалі двойчы, калі што не ладзілася з месцамі. Некаторыя на камісію прыходзілі парамі, заяўлялі аб тым, што яны хочуць пажаніцца. Перад такой прычынай нішто не магло ўстаяць. У сувязі з гэтым было многа нечаканасцей: тое, на чым раней толькі іранізуючы гадалі, цяпер праяўлялася наяве. Тэм для размоў у гэты дзень было да нельга.

Мая чарга на камісію была яшчэ не скора, і мы з Навумовічам, маім блізкім сябрам, спакойна сабе гулялі па вуліцы паблізу тэхнікумаўскай будыніны. Як заўсёды, пра нешта спрачаліся, быццам хацелі абавязкова даспрачацца, не пакінуць пытанне адкрытым. Але вот тэхнікумаўскія дзверы ляпнулі і там паказалася Люба. Яна была ў сваім нам ужо добра вядомым белым плацці ў ружовую палосачку з такім жа пасачкам. Яна заклапочана бегла да нас. З нейкай адлегласці прамовіла:

— А цябе, Федзя, па-мойму, нехта шукае?

Навумовіч перапытаў і сваім доўгім крокам адлучыўся ад нас. Калі ён адышоў досыць далёка, Люба прызналася:

— Я яго падманула, каб ён нас пакінуў удваіх. Нядобра?

Я адказаў, што такі хлопец, як Федзя Навумовіч, за такое глупства не пакрыўдзіцца. Адказаў крышачку ўсхвалявана. Астаючыся адзін на адзін з гэтай дзяўчынай, я заўсёды прыкметна хваляваўся, а сёння хваляванне было выключнае. Можа, таму, што яна сама падышла да мяне, што адаслала Навумовіча, каб астацца ўдваіх? А можа, таму, што яна сёння была не такая, як заўсёды, лапатуха, а нейкая стрыманая, заклапочана-дзелавая і нават задуманая? Чаму раптам захацелася ёй астацца адной са мной?

Мы непрыкметна прайшлі некалькі крокаў моўчкі. Яна павінна была пачынаць нейкую размову, для гэтага і Навумовіча спраўадзіла.

— Ты ведаеш, што цябе ў Любанскі раён прызначаюць?

Я пакруціў галавой, што азначала — ад цябе чую.

— А ты? Згодзен?

— Я? Я не выказваў ніякіх сваіх прэтэнзій. Куды пашлюць. Паеду ў Любанскі.

Мы зноў некалькі крокаў прайшлі моўчкі. Я чакаў, што яна яшчэ хоча сказаць. Галоўнае яшчэ ж не сказана.

— А куды мяне пашлюць, цябе не цікавіць?

— Цікавіць, чаму ж не. Я яшчэ не паспеў запытаць. А куды цябе?

Яна зноў зрабіла паўзу, на гэты раз самую вялікую, і, не адказаўшы на маё пытанне, запытала напраста:

— Ты б хацеў са мною ў адну школу?

Вымавіла яна гэты надвойны айсберг, не падымаючы вачэй і, відаць, моцна хвалюючыся. Мой адказ не павінен быць мнагаслоўным: так ці не і ўсё. Гэта маленькае слова будзе апошнім, і ад яго будуць залежаць многія-многія дні, месяцы, гады будучага жыцця. Яна добра разумела, што прапанавала мне, і я не менш добра разумеў, што мне прапанавалася.

— Хацеў бы. — Я прамовіў гэтыя словы ціха, хрыпла, шэптам, як вялікую таямніцу, як святое абяцанне.

Наступіла растармажэнне — і мы ўзварухнуліся.

— Цяпер пачакаем там, на калідоры. Павінны скора выклікаць. — І мы пабеглі, ухапіўшыся за рукі.

Аказваецца, чарга ўжо мінулася, і мне асталося ўвайсці даведацца, ці не памянялася што. Люба чакала мяне на калідоры з дзяўчатамі. Яна была вясёлая-вясёлая. Калі я выйшаў з камісіі, яна схапіла мяне пад руку, і мы пабеглі ўніз па прыступках на вуліцу. Мы былі радасныя, як дзеці. Нехта сустракаўся нам, нехта нешта пытаўся ў нас, а мы ці не чулі, ці адказвалі неўпапад. Для мяне, акрамя Любы, у гэтую хвіліну нічога не існавала. Наш свет раптам стаў вузенькі-вузенькі, я і яна. А ўсё, што не-я і не-яна, усё гэта знешняе, у тумане, за шкляным каўпаком — як быццам бачыш, але не чуеш. Ад раптоўна нахлынуўшага шчасця мы былі ўсхваляваныя і разгубленыя, нервова азіраліся. Нам у гэтую хвіліну хацелася некуды туды, дзе няма людзей, дзе мы будзем адны-адны. Не хапала ў горадзе парку для моладзі. Слуцкае каханне хавалася ад трэцяга ненавіснага вока на старым цяністым могільніку сярод мармуровых пліт і язмінавага паху. Нас туды не цягнула, нас цягнула на раку, на высокі бераг, на луг, на поле. А пакуль… мы ішлі да Любы дадому. Яна хоча пазнаёміць мяне з мамай і накарміць маміным абедам. Дзе яны жылі, я ўжо ведаў: некалі ж Любу адзін раз праводзіў. Ідучы, мы ўжо складалі планы нашай будучай работы. Можа, гэта былі нават не планы, а нейкія мары: каб школа была такая і такая, настаўнікі такія і такія, каб асобны пакойчык быў, дзе жыць… А што, калі ўзяць нам ды з’ездзіць на разведкі? Думка гэта абаім спадабалася: хоць за свет, абы ўдваіх. Ды яшчэ такім цудоўным ліпеньскім днём.

Невялікім смельчаком я ўвайшоў за Любай у іхнюю хату. Непрыемная гэта хвіліна першага знаёмства з мамамі-татамі, якія будуць глядзець на цябе як на патэнцыяльнага зяця, глядзець ацэначна, ці варты ты іх дачкі, ці такога яны чакалі.

Яна стаяла пасярод пакоя і насцярожана глядзела на нас. Нізкарослая, таўсматая, чорная з шэра-зямлістым колерам твару. Нельга было не прызнаць у ёй Любіну маці.

— Мамачка, гэта мой Колька, якога я даўно-даўно люблю, яшчэ з чацвёртага класа.

Я ведаў, што Люба бывае трошкі рэзкая, што яна не вельмі перабірае, што сказаць, але каб адразу такое… А можа, і нічога, гэта ж мілы жарт і толькі.

— Маўчы ты, сараматніца! — засмяялася маці і замахнулася на яе.

Мне здалося, што мне цяпер найлепш умяшацца:

— Яна жартуе. Нас проста прызначылі ў адзін раён, і мы згаварыліся паехаць разам паглядзець школы.

А маці быццам не чула мяне:

— Каб ты здарова была, мая дочачка. Яшчэ паспееш замуж. Кавалераў у цябе і было і будзе. — І, нібы ўспомніўшы пра мяне: — Заходзьце, даражэнькі, садзіцеся. Любачка яшчэ дзіця горкае. — І зноў да Любы: — Першы раз ты ў шэсць гадоў замуж выходзіла. Ты помніш?

— Цяпер, мамачка, мне не шэсць. Цяпер я ўжо магу дзяцей раджаць. Зразумела? Вазьму і нараджаю табе цэлы ўзвод. Вот будзе клопатаў табе! Садзіся, Колька, і не саромся. Мы з мамаю заўсёды так гаворым.

— Не, дочачка, сама нараджаеш — сама і гадаваць будзеш. Хапіла мне і таго, што я цябе выгадавала. Неставала мне яшчэ і тваіх дзяцей гадаваць. Можа, ты думаеш, я ўхваста за табою на тваю Любаншчыну палячу? Не дачджэш. Ест у мяне куды дзецца. І адзінокая не буду. Прохаравы завуць не дазавуцца… Трэба было тут аставацца, у Слуцку. Што табе месца тут не хапіла б? Гэдак усе цябе любяць.

— Ды я іх усіх не люблю, мамачка. Апрыкралі мне ўсе твае Прохаравы, Драздоўскія, Яніслаўскія. Я хачу сама пажыць, самастойна, як усе людзі жывуць.

— Худая, як быліначка, і яна сама хоча пажыць, — заплакала маці. — Яшчэ мо, дасць бог, нажывешся і сама. А пакуль што нікуды ты не паедзеш! Не пушчу я цябе! Я сама пайду да дырэктара — што гэта такое, каб адну дачку і тую забіралі ад мацеры. — І раптам, спахапіўшыся: — Аставайцеся і вы тут, даражэнькі, дваім весялей будзе. — Пасля некалькіх слязін і слоў крыўда Любінай маці раптам перамянілася. — Дзіця яшчэ горкае, Любка, што была ў шэсць, тое і ў васямнаццаць. Пацеха адна. — Яна некуды спяшалася, выхоплівала з тумбачак, то з аднае, то з другое розную яду, ставіла на стол. — Паешце, дзетачкі, а я пабягу, — гаварыла яна і, здавалася, была ўжо задаволеная ўсім, што зрабілася, у тым ліку і тым, што дачку накіроўвалі ў нейкі малазнаёмы палескі раён.

Калі мы асталіся адны, я адчуў большую скаванасць, чым да гэтага. Мне здавалася, што калі хлопец астаўся з любай дзяўчынай сам-насам, то ён павінен паспрабаваць хоць бы абняць дзяўчыну, калі не пацалаваць. А гэта для мяне быў самы цяжкі ў свеце крок. Я яшчэ ніколі ў сваім жыцці не абнімаў, не цалаваў дзяўчыны. Ад аднаго ўсведамлення гэтага ва мне ўсё трымцела. Я так некалькі разоў падыходзіў да яе, кожны раз даючы сабе слова гэты раз ужо абавязкова абняць. І не адважваўся, у гневе на самога сябе адыходзіў. Потым мы сядзелі на круглым, накрытым рэдчыкам, сталом і корпалі відэльцамі тое, што там было настаўлена. Потым яна, завязаўшыся фартухом, клапатала каля мыцельніка, бразгала талеркамі і не пераставала нешта расказваць пра нейкіх мацерыных знаёмых, якія мне зусім былі не ў галаве. Не, я яе пацалую каля ракі. Там ёсць стромыя сыпкія берагі. Ёй трэба будзе руку падаць, а я тады вазьму і прыгарну яе да сваіх грудзей і пацалую. Трэба, каб гэта здарылася нечакана. Найлепш, калі такія рэчы адбываюцца нечакана. Потым Люба пасадзіла мяне на крэсла і загадала глядзець у процілеглы ад яе кут, пакуль яна будзе пераадзявацца ісці на рэчку.

Рака была — во яна, каля самай іхняй камяніцы. І паўсотні крокаў не было да яе. У час веснавых паводак вада падыходзіла ледзь не да самага падмурка. Але каб прайсці да яе высокіх з шыпшыннікам берагоў, туды, дзе яўрэйскі могільнік, і яшчэ далей, на луг, трэба было абысці па Крывасёлках к прафшколе і там толькі выйсці к берагу. Усё ж узбярэжжа да прафшколы тут было або мокрае, або паперагароджанае платамі агародаў.

Мы ішлі паўз дашчанік могільніка па вузкай, як аднаму прайсці, добра ўтоптанай, павялістай сцежцы. Процілеглы бераг тут быў нізкі і шырокі. За ім

на адлегласці да ігрушавых садоў, выглядвала верхнім паверхам тэхнікумаўская будыніна. Трошкі лявей і бліжэй, перад садамі, блішчала белакаменная палкавая школа, а яшчэ лявей стаяў чуб манастырскага парку.

Люба ішла наперадзе і спявала:

Гоша мілы, мілы, малю
Прыязджай, я цябе і такога
І бязногага люблю.

Мы селі на самай броўцы каля кусціка шыпшынніку і паспускалі ўніз ногі. Сядзелі і сляпілі вочы яшчэ гарачым надвячокавым сонцам. У вачах плыло многа-многа сонцаў, жоўтых, зялёных, сініх, і машкарэча на ціхім рачным люстры алоўкам абводзіла іх. У палкавым парку за ракою гарэлі каштаны. Яшчэ быў дзень, яшчэ высознае сонца свяціла людзям, звярам, дрэвам, траве, жыту — усяму, што жыло, расло, пладзілася.

У размове мы абыходзілі тэму нашых адносін, пра гэта думалася, але не гаварылася. Калі б у кампаніі, то можна было б пажартаваць пра каханне, пра жаніцьбу, а калі сам-насам, калі толькі паміж намі, шчыра, то нешта трэмкае стрымлівала нас. Тое, што Люба пры маме такое сказала пра яе каханне да мяне, то гэта ж, вядома, дзіцячая бравада і сур'ёзна ставіцца да гэтага не выпадае. Я разважаў: прапанова яе паехаць у адну школу можа быць растлумачана і так, што яна проста пабойваецца адна ехаць і добра, калі побач будзе свой, ужо даўно знаёмы чалавек, які ў цяжкую хвіліну зможа і плячом памагчы і паслужыць прыбежышчам. Але калі б так, то ці не прасцей ёй было проста астацца ў Слуцку ці ў Слуцкім раёне? І пры чым тут маё накіраванне ў Любанскі раён? Але ж яна дзеля нечага цікавілася пра мяне.

Мне хацелася дачакацца да цемені, каб потым доўга, да самых жаваранкаў, абняўшыся, блукаць по полі паміж высокіх жытоў. Люба таксама не падганяла ісці дадому. Яна падабрала пад сябе калені, нацягнула на іх плацце і палажыла галаву на складзеныя рукі, акурат, як васняцоўская Алёнушка, і запела:

Девушку из маленькой таверны
Полюбил суровый капитан…

Не скончыўшы куплета, яна ўсхапілася і пабегла ўніз. Я збег за ёю. Тут ужо канчаўся высокі бераг і пачынаўся нізкі, але сухі луг. Трава на лузе была густая і высокая, прасілася пад касу. Дзе-нідзе ў самых нізінках бародкамі ўсхопліваўся шыракалісты плюшнік. Люба падбягала да яго, зрывала кароткую пласцінку ліста і, палажыўшы яе паміж пальцамі, пачынала іграць.

Каля хутара Тамарына нам давялося перабірацца на другі бераг ракі: два рукавы Случы тут зліваліся і далей ісці ўжо нельга было. У гэтым месцы рака была вузкая і глыбакаватая. Мы паздзіралі з сябе верхняе адзенне і кінуліся ў ваду. Накупаўшыся, пераправілі адзенне на другі бераг.

— Колька, вартуй, каб ніхто не бачыў, — сказала Люба і завярнула мяне не глядзець. Потым ускінула на сябе плацце. — Выкручвай, я не буду глядзець, — адвярнулася і пахапала ў губы заколкі, пачала згортваць, скручваць у куклачку пасмы сваіх танюсенькіх валасоў.

Мяне дзівіла, як у Любы ўсё гэта шчыра, проста і зусім не вульгарна рабілася, без воднай капялюткі пошласці, без ілжывай сарамлівасці. Не, не пала яна ў маіх вачах, яна ўзвысілася.

Мы абышлі Навадворцы каля чыгуначных пуцей і ўвайшлі ў шырокае жытняе поле. Жыта было праменькае, стаяла каласамі ўверх, сама красавала і пахла хлебам. Не, не мог я дачакацца цемені. Яна, ідучы паперадзе, спынілася

на сцежцы, каб сарваць глыбока паміж сцяблінкамі васілёк. Я падумаў, што якраз цяпер узяць яе абняць, з сілай закінуць галаву і зверху пацалаваць, адзін раз, другі раз, трэці раз, чацвёрты, пяты. Здыхаўшыся, Люба мне шапнула:

— Доўга не будзем хадзіць, міленькі? Добра? Мама ў мяне кручаная: будзе бегаць па беразе ракі, прыглядацца ці не ўтапілася я дзе. — І ўхапілася за шыю і пацалавала: раз табе можна, то і мне можна.

Думаць пра тое, што вот зараз трэба ісці дадому, мне не хацелася. Для мяне вечар толькі пачынаўся, яшчэ толькі-толькі прайграў каля палкавой школы горн і абяссіленае халоднае сонца ніяк не магло схавацца ў навадворскіх ліпах.

За гэту ноч мы абышлі паўказачнага царства паміж лугоў і лясоў, рэк і гор. Я пачынаў ужо другі мільён пацалункаў, ужо ў тысячны раз хапаў яе на рукі, каб закінуць на месяц ці проста праглынуць. А яна хоць бы нарокам пужалася, была спакойная і даверлівая.

Раніца злавіла нас на Валадарскай. Мы ішлі, абняўшыся, і раптам заўважылі, што стала зусім светла. Было такое ўражанне, быццам нас хто падпільноўваў і ў самы пікантны момант узяў і чыркнуў запалку, каб сказаць — ага! Мы ішлі, як з вялікага крадзяжу, азіраліся. Люба хвалявалася: мне ў-ю-ю як будзе! Цмокнула ў губы і пабегла наперад. Я сачыў, як яна аддалялася. Дом іх ужо быў недалёка.

Я яшчэ не ведаў, куды пайду, дзе прабуду гэтыя некалькі ранішніх гадзін. Але якая розніца, дзе іх прабыць, калі ўся ноч была адно каханне?

Радасна было на душы. Спаць зусім не хацелася, і я зноў спусціўся да ракі. Узнімалася сонца, вясёлае, маладое, пякучае. Дымок лашчыў учарашні рай ракі, на ўсё горла драліся пеўні. Мяне пацягнула на тую сцежку, па якой мы ішлі ўчора вечарам. Я сеў на тое самае месца, дзе мы ўчора сядзелі на кручы пад шыпшынавым кустом. Мне здавалася, што Люба толькі-толькі ўстала з гэтага месца, яшчэ трава была прымятая і пахла ёю. Я адчуваў яе прысутнасць, мне здавалася, што яна нібы стаяла ў мяне за спінаю. Я нават азірнуўся, каб праверыць, ці няма яе. Потым мне здалося, што яна ўсміхаецца мне з-за шыпшынавага куста. Куст навылёт не праглядваўся, і я ўстаў і абышоў яго наўкруга.

Я прачнуўся гадзін у адзінаццаць ад таго, што ў спіну прыпякала сонца. Напэўна, не адзін чалавек, прайшоўшы праз мяне, падумаў: п'яніца ці бяздомак ляжыць. Але ж ні на п'яніцу, ні на бяздомка я, здаецца, падобны не быў. А куды цяпер? У інтэрнат не хацелася ісці: прасачылі ж, што не начаваў. Адліванчык з Навумовічам недзе толькі і чакаюць, каб пакпіць: «Мо ў яе начаваў? Запісаліся? А да Кораня яна ад цябе не ўцячэ?» Пайшлі вон, зайздроснікі! Не дамся я вам языкамі памянціць! У мяне тут ёсць дзядзька. Харошы, мілы дзядзька Павел. Калі гэта я ў яго быў? Ці не месяц ужо мінулася. Якраз добра. Ды і пара такая, што ні пад снеданне, ні пад абед.

Дзядзька сустрэне мяне на калідоры. У руках яго будзе мокрая ануча, якой ён выцірае канцылярскія сталы. Убачыўшы мяне, скамячыць анучу і гэтым камяком правядзе сабе па вусах. А вусы ў яго, як некалі ў гарадавога, з кончыкамі, падкручанымі ўверх.

Але не, я памыляюся. Цяпер не восем, каб праціраць сталы. Цяпер ён сядзіць за сталом і крышыць на дошчачцы тытунь. У яго ёсць пляц, на якім ужо гадоў дзесяць ён збіраецца паставіць свой дамок. А пакуль што на гэтым пляцы расце бульба, тытунь і капуста з агуркамі. Тытунь у яго турэцкі, пахучы. Перш, чым пачаць крышыць, ён доўга разгортвае на тапчане вялыя жоўтыя лісты, накладвае іх адзін на адзін цэлую стопку і

затым скручвае ў трубку. Гэту трубку ён кладзе на зэдлік і на хвілін дзесяць садзіцца на яе. Потым бярэ гэту, ужо не трубку, а зляжалы камяк, раскавельвае яго, як пірог, на дзве палавіны і пачынае адрэзваць танюсенькія скрыдлікі. Нарэзаўшы гэтак цэлы вермішэлевы стажок скрыдлікаў,ператрэ далонямі іх, каб кожная лакшынка была па сабе, і пачне закурваць. Машок у яго атрымліваецца адмысловы: бярэ двума пальцамі, як на цыгарку, а цягнецца ўсё, што ў скрынцы ёсць.

Але наўрад ці і гэтым ён цяпер займаецца. Не той дзень. Тытунь ён крышыць па нядзелях, а сёння пятніца. Хутчэй за ўсё ён цяпер сядзіць за кухонным столікам і есць ячны мясны суп. Снедае ён позна, управіўшыся з канцылярскімі пакоямі, з коньмі. Замест мяса цётка Поля дастае яму з каструлі тры адвараныя з даўгаватымі чырвонымі хвастамі цыбуліны. Гэта яго ласунак. Ён бярэ цыбуліну за хвост і, як ігрушу з кампоту, апускае ў рот. Бачачы гэта, я звычайна адварочваўся, каб не знудзіла.

Нічога я не ўгадаў, дзядзька ні адно, ні другое, ні трэцяе не рабіў. Ён, запрогшы шэрую, у чорныя яблыкі, кабыліцу, выязджаў з двара. Я, чаго і што, узяў ды ўзбіўся да яго на пралётку, з’ездзіў на вакзал купіць білет некаму з райсаюзаўскага начальства.

Касцюм мы прасавалі з Валькай. Харошая была дзяўчынка Валька, разумненькая. Калі я папрасіў яе памагчы адпрасавацца, яна фыркнула:

— Пазнаюць і так. — Потым агледзела мяне ўсяго. — Гэта ты так ходзіш? Каб я была тваёю ўхажоркаю, то я б цябе і на кіламетр не падпусціла б на вочы. Раздзявайся!

Пакуль Валька раздзьмухвала і размахвала прас, я ўкладваў на століку свае месяц непрасаваныя штаны. Апрача Валькі і мяне больш нікога на кухні не было, і я вырашыў прызнацца ёй, што я з […] (у рукапісе старонка прапушчана або згублена. — **А. В.**)

Люба адсунулася ад краю і паказала мне сесці каля сябе. Яна зноў прылашчылася да маёй рукі. Потым яна пасадзіла мяне глядзець у кут, а на яе не глядзець.

— Зараз, дзетачкі, я вас накармлю, — гаварыла маці, клапоцячыся каля грубкі. — У Любкі ж у роце і расінкі не было. Будзіла з’есці чаго, то нізавошта. Кольку чакаць і ўсё. Вот ужо любіць! Некалі я свайго Ваню нашто ўжо любіла, а гэдак не было…

— Мамачка, цыц, не ўдавай маёй тайны.

— Якая ўжо тайна, ноч перабыўшы з кавалерам?

Падбіраліся да самага далікатнага. Люба зацокала языком, каб даць знаць, што ўжо можна і азірнуцца. А калі я азірнуўся, яна наківала мне пальцам — не гаварыць. А што не гаварыць? Мы так хораша любіліся гэту ноч, што толькі гаварыць. Але раз не, то і не. Упэўнены, што добра разумею Любу, я ўзяў і сказануў:

— А мы, Аляксандра Хрысанфаўна, і не былі разам.

Пачуўшы мяне, Люба аж зайшлася ад смеху. Значыць, я не патрапіў. Аказваецца, як я потым уведаў, Люба сказала маці, што ўжо ўсё паміж намі, што трэба думаць пра пялёнкі ды пра распашонкі, а не старацца адгаварыць ад такога ранняга замужу.

— Ай, хай вас! — рукі пацягнулі хвартук да вачэй.

Мы з Любай громка смяяліся, а яна громка наўрыд плакала. Выцершы рукамі слёзы і павесялеўшы, яна сказала:

— Не ўпасу я цябе. Трымаю, як варону за хвост. Вы ж ужо, даражэнькі, глядзіце яе. Не будзе ж там майго вока. А яна ж у мяне неданосак. Як нарадзі-

лася, то ў пуху трымала. На твары адны вочы ды нос. У бацьку ўдалася. Той быў худы і высокі. Каб яе хоць трошачкі падгладзіць. А то шкілет шкілетам.

— Хопіць табе галасіць! — узлавалася Люба. — Вот чаго не люблю!

— Ну ціха, ціха, не буду.

Я вярнуўся позненька. Рака спала. Нават светлячкоў не было. Каля Чортавага мастка нехта на агонь лавіў рыбу. Відна была лодка і дзве постаці круціліся на святле.

Стаяла гарачае лета трыццаць першага. У тэхнікуме ўсё ўжо скончылася, і заняткі, і размеркаванне на працу, а нас кожнага цягнула на яго калідоры, на знаёмыя вуліцы Слуцка. Размоў было многа: перад кожным адкрывалася нешта новае ў жыцці, кожны станавіўся на сваю самастойную, настаўніцкую дарогу.

Некаторыя з нашых аднакурснікаў патрапілі ўжо наведацца не толькі ў районы свайго раёна, але і ў школу і цяпер, сабраўшы каля сябе натоўп, расказвалі, што яны там сустрэлі, якія людзі, якія парадкі. Усё гэта ўспрымалася як экзотыка, з якой зараз і сам сутыкнешся. Вопыт першых крокаў, бадай, быў самы каштоўны.

Мы былі маладыя і ў нейкай ступені маглі лічыць сябе здаровымі. Што нам васямнаццаць кіламетраў ды яшчэ па сцежачцы паміж пасевамі напрасткі. Люба, босая, паперадзе са звязанымі сінімі прарызінкамі ў руках, я — за ёй з плашчом і туфлямі. А сцяжынка правяла-правяла па пасевах і на дарогу вывела, дзе трыпутнічак з рамонкам. Зелле глыбокае, пыльнае, ногі па костачкі хаваюцца. Ад Любіных ног след, як па расе, значыцца. Я цаляю след у след, каб менш узнімаць пылу.

Мы ідзём па невядомай палескай дарозе, ідзём у нейкі Пласток пачынаць жыццё. Самастойнае, дзе не будзе ні мацярынскага клопату, ні настаўніцкага вока. Мы ідзём самі быць настаўнікамі, самі вучыць і не толькі дзяцей. «Настаўнік у вёсцы — вялікая сіла» — так, здаецца, пішуць у газетах? Адчуванне такое, быццам перасталі трымаць цябе за руку. Хопіць, сказалі, ідзі сам. А перад табою — мора, велічнае мора жыцця. І ты да яго не дужа падрыхтаваны, у заплечным ранцы тваім вецер пагульвае.

## Каментарыі

[27] Цімох Крысько — Васіль Вітка (1911—1996) — беларускі паэт, пісьменнік, драматург, літаратурны крытык, заслужаны дзеяч культуры БССР (1970), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972) за кнігі «Беларуская калыханка», «Казкі», «Чытанка-маляванка».

[28] Водруб — участак зямлі, які атрымліваў селянін (у 1906—1916 гг.) у асабістую ўласнасць пры выхадзе з абшчыны.

[29] Алешка Антон Антонавіч (1913—1971) — беларускі пісьменнік. Нарадзіўся ў вёсцы Балотчыцы Слуцкага раёна ў сялянскай сям’і. Скончыў двухгадовыя педагагічныя курсы пры Слуцкім педтэхнікуме, Ваенна-медыцынскую Акадэмію (1941). Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, Знак Пашаны, медалямі. Пакінуў ваенныя дзённікі. Першыя апавяданні надрукаваў у 1932 годзе. Выйшлі кнігі аповесцей і апавяданняў «Раніца» (1949), «Іх першых вітае сонца» (1957), «Пяць сутак» (1951), «Над намі мільён вышыні» (1965), раман «Дарогі без лядоў» (1969) і інш.

[30] Шынклер Хвядос (1903—1942) — беларускі пісьменнік. Нарадзіўся ў сям’і чыгуначніка, вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. Быў удзельнікам літаратурнага аб’яднання «Маладняк». Асобнымі выданнямі выйшлі апавяданні «Ічэ» (1929), зборнік апавяданняў «Стрэлачнік Мігай» (1930), апавяданне «Блок» (1933), аповесці «Сонца на

шпалах» (1933), «Запіскі інструктара Томана» (1934). Загінуў на фронце пад Сталінградам.

[31] Бэндэ Лукаш (1903—1961) — беларускі літаратурны крытык і літаратуразнавец. З вульгарызатарскіх і нігілістычных пазіцый разглядаў гісторыю беларускай літаратуры і нацыянальнай культуры. Імкнуўся палітычна дыскрэдытаваць творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Гаруна, З. Бядулі, М. Гарэцкага і іншых пісьменнікаў.

[32] Кучар Алесь — сапраўднае імя Айзік Евелевіч Кучар — беларускі драматург, кінасцэнарыст, крытык.

[33] Мікуліч Барыс (1912—1954) — беларускі пісьменнік. нарадзіўся ў горадзе Бабруйску ў сям'і фельчара. У 1929 г. скончыў сярэднюю школу і стаў працаваць у рэдакцыі бабруйскай акруговай газеты «Камуніст». Быў сябрам «Маладняка». У 1930 г. пераехаў у Мінск. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Вучыўся на літаратурных курсах у Маскве (1934—1935). У 1936 г. рэпрэсіраваны. Асуджаны да 10 год пазбаўлення волі. У 1943 г. пераведзены ў катэгорыю ссыльнага. У чэрвені 1947 г. вярнуўся на Беларусь, у лістападзе была знята судзімасць. У красавіку 1949 г. арыштаваны паўторна, высланы ў Сібір. Апошнія гады жыцця прайшлі ў сяле Машукоўка Тасееўскага раёна Краснаярскага краю. Рэабілітаваны ў 1945 г. Сябра СП СССР з 1934 г. Першыя празаічныя творы надрукаваў у 1927 г. у газеце «Камуніст» (Бабруйск). Аўтар зборнікаў апавяданняў «Удар» (1931), «Чорная вірня» (1931), «Яхант» (1935), аповесцей «Наша сонца» (1932), «Дужасць» (1934), «Дружба» (1936), «Адвечнае» (часопіс «Полымя», 1972), эцюда «Ускраіна» (1932). У «Выбранае» (1959) увайшлі і творы, якія не ўключаліся ў папярэднія кнігі, — аповесці «Цяжкая гадзіна», «Развітанне», «Жыццяпіс Вінцэся Шастака», навела «Гадзюка ў кароне» і апавяданне «Зорка». У 1985 г. выйшлі «Аповесці». У 1987—1988 гг. часопіс «Неман» апублікаваў яго «Повесть для себя». Пераклаў на беларускую мову раман А. Вясёлага «Краіна родная» (з Р. Вахтам, 1932), аповесць У. Лідзіна «Магіла невядомага салдата» (1934).

[34] Звонак Алесь (1907—1996) — беларускі паэт, драматург, перакладчык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1992), заслужаны дзеяч культуры РБ. Узначальваў полацкі філіял літаратурнага аб'яднання «Маладняк» (1925—1927), з 1929 года працаваў у часопісе «Маладняк». У 1936 годзе арыштаваны і асуджаны на 10 год зняволення, якое адбываў у Магадансай вобласці. У 1954 годзе рэабілітаваны. З 1955 года жыў у Мінску.

[35] БелАПП — беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў — літаратурнае аб'яднанне. Створана ў 1928 годзе пасля другога распаду (рэарганізацыі) «Маладняка». Спыніла дзейнасць у 1932 годзе.

[36] Міхась Ціханавіч — Лынькоў (1899—1975) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Беларусі (1962).

***Апрацоўка тэксту і каментарыі Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

# БЯСКОНЦАЯ АПОВЕСЦЬ МАЛЕНСТВА

***«Аповесць майго маленства» стала адкрыццём не толькі для чытачоў, але і для самых блізкіх людзей Міколы Лобана. Дочкі пісьменніка — мастачкі Ірына Лобан і Людміла Ганчарова — упершыню прачыталі гэты твор некалькі гадоў таму, падчас парадкавання сямейнага архіву. Мікалай Паўлавіч не меў звычкі прыгадваць і распавядаць дамашнім пра нейкія выпадкі, уражанні са свайго дзяцінства, а таксама звяртаць увагу на тое, што ён напісаў, таму для Ірыны і Людмілы «Аповесць майго маленства» стала не толькі знаёмствам з невядомым творам, а яшчэ і выяўленнем невядомай грані асобы роднага чалавека. Аповесць іх маленства была ўжо зусім іншай…***

І пачалася яна з сямейна-літаратурнай легенды. З раддома першынца — дачушку — прынеслі ў пакой інтэрната на вуліцы Маскоўскай, які не так даўно атрымалі ад Акадэміі навук маладыя бацькі Мікалай і Браніслава Лобаны. Немаўлятка паклалі ў чамадан — ложка не было. Праз колькі дзён маладых бацькоў зазірнуў праведаць Пятро Глебка. Ён нахіліўся над гэтым чорным чамаданчыкам і сказаў: «Ой, якая Ірынця ляжыць!» Бацькі прынялі пад увагу назіранне Глебкі і назвалі старэйшую дачку Ірынай.

Вялікую ролю ў гэтай аповесці заўсёды адыгрывала месца. Мастак Алена Уцянкова-Ціханава сцвярджае, што назва горада, дзе пачалося дзяцінства і пейзаж за тваім першым акном, дастаюцца нам у пасаг. Дзвюм дзяўчынкам Іры і Людзе дастаўся від на вуліцу Маскоўскую з акна таямнічага дома. «Не ведаю, як цябе, Люда, а мяне таямніца атуляла з дзяцінства», — звяртаецца да сястры Ірына Мікалаеўна. «І мяне», — згаджаецца тая. На Маскоўскай дзяўчаты рабілі сакрэцікі са шкельцаў, лавілі шпіёнаў, якія нібыта спускаліся на парашутах на пустку за домам, сачылі за людзьмі з партфелямі і выкрывалі культ асобы Сталіна. У шэсць год Іра вырашыла «адкрыць сястрычцы праўду», падрыхтавалася і сказала: «Сталін дурак!» «Гэта ў 1956 годзе было, — смяецца Людміла Мікалаеўна, — тады ўсе выкрывалі». Ірына Мікалаеўна працягвае: «А я яшчэ памятаю, што калі да нас прыязджаў наш дзядька (муж мацерынай сястры), то за сталом гаворка абавязкова вялася пра розныя забароненыя рэчы: пра тое, што адбываецца ў ЦК КПСС, у Маскве. Абавязкова пра палітыку. І так мы, дзеці, спакваля дазнаваліся пра нейкія рэчы. Адчувалася такая ўнутраная апазіцыя ў сям'і».

Але вернемся да месца. Тры кватэры за час свайго сямейнага жыцця змянілі Мікола і Браніслава Лобаны — на Маскоўскай, на Кірава ды на праспекце Пушкіна — і кожнае з гэтых месцаў становіцца адпраўной кропкай успамінаў.



*Сям'я Лобанаў. Сядзяць: Мікола Лобан (у цэнтры), дачка Ірына з мужам Віктарам Кліменкам. Стаяць: жонка Браніслава і дачка Людміла.*

**Людміла Ганчарова:** *«Часцей за ўсё я бычыла бацьку са спіны. Мы жылі на праспекце Пушкіна, там у яго быў асобны пакой са шклянымі дзвярыма, праз якія была бачна яго спіна: тата сядзіць, нешта піша, цюкае на машынцы».*

**Ірына Лобан:** *«А я памятаю яго профіль за машынкай на фоне акна. Тады мы яшчэ жылі на Кірава. Ён увесь час працаваў. Усё яго жыццё — гэта праца. Дзень шчыруе ў Акадэміі навук, а потым прыходзіць і піша: вечарам піша, у выходныя піша. А калі яшчэ? Здаецца, ён увесь час быў дома, але пры гэтым тата быў не вельмі дамашнім».*

**Людміла Ганчарова:** *«Ён нават у краму не хадзіў. І канечне ж, мала займаўся нашым жыццём, адукацыяй: гэта ўсё клалася на плечы мамы».*

**Ірына Лобан:** *«Але, нягледзячы на гэта, нейкія лёсавызначальныя рэчы сыходзілі менавіта ад яго. Ён, а не мама, прывёў мяне ў студыю Сяргея Пятровіча Каткова, дзе я пачала маляваць. Тата, а не хто іншы, раіў мне паступаць у Маскоўскі паліграфічны інстытут і, як ні дзіўна, сам ездзіў са мной на іспыты».*

Мы сядзім на кухні той самай кватэры на Кірава, якая ўжо даўно стала домам Ірыны Лобан і яе ўласнай сям'і. Ужо не адно дзесяцігоддзе тут усё інакш, чым у дзяцінстве, але месца захоўвае памяць. І неяк асабліва гойдаецца бежавая фіранка, хаваючы спякотны летні дзень за паўкруглым акном, каля якога некалі Мікола Лобан працаваў над чарговай старонкай. Размова так ці інакш адштурхоўваецца ад таго, што трапляецца на вочы: вось тут вісела радыё, на гэтыя дзверы прычапілі сценгазету з віншаваннямі да бацькавага пяцідзесяцігоддзя…

**Людміла Ганчарова:** *«Бацька быў на адзінаццаць гадоў старэйшы за маму. Я памятаю, як упершыню дазналася пра яго ўзрост, мне тады было недзе шэсць гадоў, і я ўсвядоміла, што бацьку сорак пяць. Мне падалося, што ён зусім стары. І, дарэчы, я пасля яшчэ досыць доўга лічыла, што яму сорак пяць, нягледзячы на святкаванні дзён нараджэння».*

**Ірына Лобан:** *«А калі бацьку споўнілася пяцьдзясят, я глядзела на яго і думала, які ён хударлявы, стройны, нават сумнявалася: няўжо яму пяцьдзясят?»*

**Людміла Ганчарова:** *«Так, ён быў вельмі худы, высокі. Маці заўсёды сачыла за тым, як ён выглядае, што апранае. Нешта ён прымаў, нечаму супраціўляўся. Памятаю, як яна прымусіла тату пастрыгчыся (у яго заўсёды былі даўгаватыя валасы). «Ну што гэта ў цябе за прычоска такая нямодная?» Спачатку ён супраціўляўся, а потым усё ж такі пастрыгся і яму спадабалася. Я ніколі не лічыла тату прыгожым, але цяпер я гляджу на яго фотаздымкі і думаю: «Які ж ён прыгожы!»*

Часам прага Міколы Лобана да падарожжаў, вандровак выводзіць нашую размову па-за сцены дома. Найчасцей у Каралішчавічы.

**Людміла Ганчарова:** *«Бацька вельмі любіў Кактэбель і Каралішчавічы. Як ён любіў збіраць грыбы! У Каралішчавічах, дарэчы, была легендарная паварыха, якая гатавала ўсё, што ёй прыносілі: грыбы, рыбу. А нас, я памятаю, яна звыш меню карміла маннай кашай. «Дзецям неабходна есці манку!» Бацька вельмі любіў прайсціся па лесе: у грыбы ці проста так. Браў палку і ішоў — у Каралішчавічах усе выразалі сабе палкі, і яны стаялі ў кутах, нібы парасоны. Не таму, што нехта кульгаў, а таму, што з палкай больш зручна хадзіць, грыб пашукаць, лісток адгарнуць. І яшчэ выхваляліся адзін перад адным гэтымі «простачкамі»: у мяне з набалдашнікам, а ў мяне такая, а ў мяне разгэткая... Памятаю, як мы гулялі з ім па Каралішчавічах, і ён вучыў мяне: вось гэта трава цімафееўка, а вось гэта трыпутнік».*



*У грыбах.*

**Ірына Лобан:** *«Нам перадалася яго неверагодная любоў да прыроды, і Дзянісу, майму сыну, перадалася, а вось унукам ужо не...»*

Так у аповесці з’яўляецца яшчэ адзін герой — унук Дзяніс, цяпер ужо сам бацька, кінааператар Дзяніс Кліменка. Ён ведае тое, чаго не ведаюць маці і цётка.

**Ірына Лобан:** *«Бацька амаль не расказваў нам пра вайну, але многае распавядаў Дзянісу. Можа, адчуў большую еднасць — вядома ж, хлопчык. Да ўнукаў мужчыны больш уважліва ставяцца, чым да ўласных дзяцей: пра дзяцей яны яшчэ не ўсё разумеюць, а да ўнукаў адчуваюць нейкую асаблівую пяшчоту. У Дзяніса засталіся вельмі цёплыя ўспаміны, яны з дзедам шмат часу бавілі разам, ездзілі некуды».*



*З жонкай і дачкой Ірынай на моры.*

Свае першыя ўражанні ад размоў і вандровак з дзядулем Дзяніс паспрабаваў зафіксаваць недзе ў шэсць гадоў. Маці са смехам узгадвае фразы з замалёўкі: «На фронце наступленне… танкі ідуць». Расповеды дзеда надта ўразілі хлопца, а яго першых чытачоў здорава пасмяшылі. Пазней, да стогадовага юбілею Міколы Лобана, Дзяніс напіша вельмі кранальны тэкст.

**З успамінаў Дзяніса Кліменкі:**

*«…Для мяне ўся гэтая літаратура пачынаецца з цьмяных успамінаў ранняга дзяцінства, калі раніца ў бабулінай кватэры, на праспекце Пушкіна, увахodзіла ў маю свядомасць, якая яшчэ цалкам не паспела прачнуцца, прыглушаным размераным стукам друкарскай машынкі і пахам кавы з пакоя дзеда…*

*Дзед, чалавек замкнёны, можна нават сказаць, закрыты, вельмі любіў прыроду і змог перадаць гэта мне — першыя ў жыцці ўспаміны пра лес, рэчку, звязаныя з яго асобай. Ён даў мне паслухаць на забалочаных лугах Случчыны песню «нябеснага баранчыка» з маёй любімай дзіцячай кніжкі В. Біянкі «Хто чым спявае?», пад уплывам яго прыроднай, сузіральніцкай натуры я стаў заўзятым рыбаком.*

*У дадатак да свайго цудадзейнага выратавання падчас вайны, напэўна, для нумералагічнай завершанасці, як мінімум яшчэ два цуды здзейсніў для мяне дзед, падчас нашых вандровак па прыгарадных лясах і палях.*

*Ён дастаў рэпку з зямлі. Мы ішлі па зямлі, дакладней пад нагамі была звычайная глеба, па якой і прынята хадзіць. А ён спыніўся і сказаў: «Зараз я табе нешта пакажу». І дастаў з шэрага пылу жоўты круглы плод. Нешта заварожвала ў гэтай з'яве, як заварожваюць нараджэнне ці смерць. Гэта з'яўленне з небыцця запомнілася мне на ўсё жыццё. Але ж гэта была і «здабыча», таму мы аднеслі рэпку дадому і, здаецца, з'елі.*

*Другі выпадак быў звязаны з разбурэннем культурнай парадыгмы гарадского дзіцяці, якое вырасла ва ўмовах чысціні і стэрыльнасці. Мы пайшлі ў лес. У лесе дзіцё захацела піць. Дзядуля знайшоў пад кустом старую іржавую бляшанку з-пад тушонкі, нажом прабіў дзве дзіркі, каб прымацаваць ручку*

*з алюмініевага дроту, загартаваў яе на вогнішчы і — жах! — набраў вады з возера. Закіпяціў, дачакаўся, каб астыла, напаіў. Я быў у шоку, але выпіў ды застаўся жывым. Больш за тое, праз 25 год я стаў практыкаваць нешта такое на сваіх дзецях».*

Пра бацькава і дзедава дзяцінства родныя даведаліся, толькі прачытаўшы «Аповесць майго маленства». Сціплы, замкнёны Мікалай Лобан не лічыў гэта надта цікавай тэмай для размоў, не спадзяваўся, што дочкам, якія выраслі зусім у іншым асяродку будзе гэта цікава. Таму шмат што да і пасля прачытання Ірыне і Людміле давялося адкрываць і спазнаваць самім. Напрыклад, паехаць у родныя бацькавы Чаплічы.

**Ірына Лобан:** *«Хата, дзе нарадзіўся бацька ў Чаплічах, на жаль, не захавалася, але на тым месцы стаіць хата бацькавага брата дзядзькі Валодзі. Застаўся сад, нават некаторыя грушы ад дзеда Паўла. Ёсць пень ад грушыны, пад якой па сямейнай легендзе быў закапаны татаў паслед. Гэтая хата ўжо не належыць сям'і, але жанчына, якая яе набыла, нам як родная.*

*Калі мы прыехалі ў Чаплічы, пайшлі па вёсцы шукаць Лобанаў. Сустрэлі чалавека з касой, а ён пытаецца: «Вы якіх Лобанаў шукаеце, Манахавых?» А мы не ведаем. І тады ён распавёў нам пра тое, што нібыта татаў дзядуля Васіль быў незаконнароджаным сынам нейкага пана, і той пан адправіў яго ў манастыр, каб радзей трапляўся на вочы. Васіль жыў пры манастыры гадоў да трыццаці, а потым яму надакучыла і ён вярнуўся ў вёску. Пан сказаў, што, маўляў, раз ты не шляхецкай крыві, будзеш не Лабановіч, як я, а Лобан. Так Васіль стаў Лобанам, а ў вёсцы яго яшчэ называлі Манахавым, бо памяталі, што жыў пры манастыры. Праўда, у аповесці тата расказаў іншую гісторыю пра наша прозвішча. Але ж тады не ўсё можна было напісаць».*

**Людміла Ганчарова:** *«У некаторых экзэмплярах аповесці выкраслены асобныя кавалкі: пра кулакоў, пра дзеда Паўла, які даваў прышчэпы па ўсёй Случчыне. Магчыма, тата зрабіў гэта, улічваючы свой папярэдні пісьменніцкі вопыт. Цалкам бязвінны тэкст маглі скрэсліць, чапляючыся ледзь не да кожнага радка. Я памятаю, як ён распавядаў маме пра праўку «Шэметаў».*

Пра творчасць з дочкамі Мікола Лобан таксама гаварыў мала. Тут яго субяседнікамі былі калегі — Сяргей Грахоўскі, Васіль Вітка, Ніл Гілевіч. Замкнёны, працавіты Мікола Лобан не ўхваляў гасцей і застолляў, але заўсёды быў рады самым блізкім сябрам, любіў згуляць з імі партыю ў шахматы.

**Людміла Ганчарова:** *«Бацька ніколі не акцэнтаваў увагу: «У мяне выйшла кніжка». Не памятаю, каб я адразу кідалася яе чытаць. Ну, потым як-небудзь…*

*Калі збіраліся ўсёй сям'ёй, мы гаварылі пра чужыя новыя кнігі, пра новыя фільмы. Бацькі выпісвалі неверагодную колькасць газет і часопісаў. Перад Новым годам заўсёды казалі: «Ой, так дорага стала… Але ж мы без «Нового мира» не можам, без «Иностранной литературы» не можам,«Декоративное искусство» — абавязкова. І ўсё выпісвалі. Бацька чытаў з алоўкам, нешта пазначаў, падкрэсліваў — гэта таксама паўплывала на фарміраванне нашага светапогляду: калі мы чыталі і бачылі, што ён адзначыў.*

*А калі я падрасла, бацька любіў са мной пафіласофстваваць: пра космас, пра бясконцасць. У той перыяд ён якраз працаваў над кнігай эсэ «Пяць раніц тыдня».*



*З дачкой Людмілай.*

Кніга «Пяць раніц тыдня» выйшла ў 1984 годзе. І стала ўнікальным выпадкам перасячэння творчых сусветаў бацькі і дачкі — аформіла выданне мастачка Ірына Лобан.

**Ірына Лобан:** *«Гэта была не сумесная работа. Тым больш, што я афармляла толькі вокладку, не ілюстравала. Бацьку, здаецца, спадабалася. Ён мне давяраў, лічыў спецыялістам. Аформіць кнігу, дарэчы, мне прапанаваў мастацкі рэдактар. Бацька быў вельмі тактоўны чалавек, нічога ніколі не прасіў, мог прапанаваць у выдавецтве, але не адстойваў, калі б рэдактар, напрыклад, сказаў, што ў іх ёсць свой мастак.*

*А яшчэ бацька ніколі не ўмешваўся ў нашыя справы, калі мы выраслі. Запытае: што? як? Але, каб павучаць — не. І, мне здаецца, гэта правільна. Таму што выхаваць, паўплываць можна толькі ўласным прыкладам. Чалавек выхоўваецца не словам, а паводзінамі таго, хто яго сказаў».*

Прыклад бацькі выхаваў і выявіў у сёстрах асаблівы стан душы, адносіны да жыцця, любоў да прыроды, непахісную сумленнасць і часам нават празмерную сціпласць. «Які ёсць, такі быў, — падсумоўвае Ірына Мікалаеўна. — Вельмі харошы. Але крыху нефарматны». І потым дадае: «Ведаеце, вось я прачытала «Аповесць майго маленства» і ўсё думаю: чаму ж так адбываецца, што адны шмат распавядаюць пра сябе, пакуль яны жывыя, а пра іншых усё адкрываецца толькі тады, калі яны сыходзяць у лепшы свет?»

***Фота з сямейнага архіва Ірыны Лобан і Людмілы Ганчаровай.***



Валерый КАЛІНІЧЭНКА

# МАЯ ДУША ПЯШЧОТАЮ ПАЛАЕ...

## КРЫНІЦА

Прытомлены спёкай паўдзённай,
Суцішыўся ў мораку дзень.
У хвалях крыніцы сцюдзёнай
Згасае апошні прамень.

Струменіць раўчак і спявае,
Бруіцца паток з глыбіні,
Бы сутнасць зямлі ў ім жывая,
Надзей і трывог карані.

Здарожыўся: стома і смага.
Змарылі легенды-шляхі.
Ваду п'ю з далоняў я прагна,
Прашу даравaць за грахі.

Пітво — ад заганаў збавенне.
У дні перамог і пакут
Я чэрпаю годнасць, натхненне
З крыніц тваіх, бацькаўскі кут.

---

***Калінічэнка Валерый Іванавіч*** *нарадзіўся 21 жніўня 1949 года ў вёсцы Уборкі Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум (1969), факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1981). Служыў у Савецкай Арміі (1969—1971). Працаваў у буда-кашалёўскай раённай газеце «Авангард». У 1990 годзе пераехаў у падмаскоўную Шатуру. Быў галоўным рэдактарам раённай газеты «Ленинская Шатура». З 2001 года жыве ў Маскве. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Русский инженер».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Зорны дазор» (2008), «На залатым ганку» (2010), «Роднасць» (2012), рамана «Обреченные на счастье» (1996), аповесці «Тайное голосование».*

Душу з кожнай кропляй гаючай
Узносяць спагада палёў,
Быліны дубоў па-над кручай,
Вясновы мажор салаўёў.

Світанне ў тумане клубіцца,
Дурманіць настой баравы,
Малюе між дрэваў крыніца
Сардэчных сустрэч астравы.

## ВІКТОРЫЯ

Здаўна мы заручыліся з трывогай,
Як выйшлі за былінным жураўлём.
Праз ростані, курганы і парогі
З тае пары за небакрай ідзём.

Вячэрні змрок заблытаўся ў адгор'і.
Далей ляжыць дарога на Каўказ.
У небе разгараюцца сузор'і,
Святлом свяшчэнным бласлаўляюць нас.

Іх боскасць — бы натхненне, дапамога.
Яшчэ б спагады крышачку зямной,
Пасланай нам з бацькоўскага парога,
Са сноў каханай, назаўжды адной.

І не стрымаюць нас лавіны, скалы,
Цясніны, паланіўшыя вякі.
Вяршыні гор, сівыя аксакалы,
Пад ногі сцелюць нам ледавікі.

Тут стрэнем пераможнае світанне —
Прытуліць да аголенай душы
Вікторыя, анёл наш і спагнанне.
А журавель зноў кружыць у вышы…

## ВЯСНА КАХАННЯ

Неба засінена маем,
Поўніць прастор санцапад.
Гоман птушыны вітае
Яблынь вясновы парад.

Кружыць у водары белым,
Кветкамі ўспенены сад.
Марыць, як яблыкам спелым
Ён пачастуе дзяўчат.

Пад пералівамі фарбаў,
Гукаў і пахаў зямлі
Мы сярод казачных скарбаў
Наша каханне знайшлі.

Ты — бы дрыготкае ранне,
Зорка, пасланная ў дар,
Дзіўная ява, чаканне,
Служка мая і ўладар.

Сад прыгадае ў нягоду
Сплыўшыя вйсны ў нябыт.
Знойдзе праз спёку і слоту
Шлях да лагоды наш плыт.

## ЛІХТАРШЧЫКІ

Наша яхта згубілася ў моры.
Вецер з ветразем спрэчку вядуць:
Што нам трэба ў блакітным прасторы,
На які курс ім судна вярнуць?

Недзе бераг скалісты чакае,
Віла белая-белая там.
На разгалістых соснах спявае
Хор птушыны яе жыхарам.

Яхта ў бухце аднойчы прычаліць
У праменях вячэрняй зары.
Ды не нас хвалі пляскам страчаюць,
І не з намі прыбой гаварыў.

Экіпаж рамантычны згубіўся,
На міжземнай прапаў шырасе:
Ён з палаючым захадам зліўся,
Зацугляў само сонца ў вадзе.

Дзіва-дзіўнае хутка здарожыць,
А нам — вахту ля зорак стаяць:
Што ліхтаршчыкаў марна трывожыць,
Калі ў сэрцах агонь не суняць.

## СОНЕЧНЫ ПРАГНОЗ

Я да каханкі сёння завітаю —
Для стрэчы сонечнай няма пагроз.
Мая душа пяшчотаю палае,
Хоць на дварэ лютуе Дзед Мароз.

У валасах яе хачу згубіцца,
Бы ў водары чаромхавых начэй,
Да суджанай душою прытуліцца
І патануць у сіняве вачэй.

Але, гляджу, на твары тваім слёзы.
Ад шчасця, кажаш. Як не даражыць?
Давай адкінем горшыя прагнозы
І станем проста — радавацца, жыць.

Навошта плакаць, калі мілы блізка.
Яго пакратаць можаш ты рукой,
Хоць на сцяжынцы будзе часта слізка,
І крочым мы над бурнаю ракой.

Слязамі не трывож блакіт кахання.
Цябе зара вітае праз акно:
Расквеціла брыльянтамі спатканне,
Паслала шчасце на дваіх адно.

# СУЧАСНЫЯ ЎКРАІНСКІЯ АПАВЯДАННІ

## Узьмінь

*Кажуць, што блізкае лепш відаць з адлегласці. Аднак далёка не ва ўсіх хапае мудрасці і жадання адысці на неабходную адлегласць і як бы збоку паглядзець на тое, што знаходзіцца ў непасрэдным суседстве. Беларускую і ўкраінскую літаратуры заўсёды звязвала нейкая своеасаблівая, нават у некаторых выпадках няўлоўная, еднасць. Нягледзячы на гэта, у размовах пра беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі і ўзаемаўплывы часта гучаць толькі штампы пра выключнасць ролі ў культурным развіцці братніх краін Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі, пра трагізм беларускага і ўкраінскага «расстралянага адраджэння», маштабнасць мыслення ўкраінскіх «шасцідзясятнікаў» і прадстаўнікоў беларускага «філалагічнага пакалення». А што ж наконт сучаснага ўкраінскага літаратурнага працэсу? Якія фактары прадвызначаюць яго развіццё? Чым падобны і чым выразна адрозніваецца ён ад беларускага? Даць цалкам аб'ектыўную карціну, зразумела, можна будзе толькі праз пэўны перыяд, калі творы пройдуць выпрабаванне часам, памножаць ці, наадварот, страцяць сваю каштоўнасць. Але ўжо зараз паспрабуем даць некаторую ацэнку існуючаму стану рэчаў.*

*Агульнасць у развіцці літаратур украінскай і беларускай праяўляецца на пачатку 90-х у стварэнні авангардысцкіх літаратурных таварystваў (назва нашага «Бум-Бам-Літа» выразна сугучная з украінскім «Бу-Ба-Бу»). Раздрай паміж маладымі-дзёрзкімі і старэйшым пакаленнем не абмінуў Украіну. Створаная ў 1997 г. Асацыяцыя ўкраінскіх пісьменнікаў на чале з Тарасам Федзюком пачала змаганне супраць «састарэлых літаратурных прыпадабненняў». Аднак і зараз ніхто не аспрэчвае аўтарытэтнасць у значнай ступені знаёмых беларускаму чытачу Васіля Парцяка, Паўло Маўчана, Любові Галоты, Уладзіміра Даніленкі, Васіля Герасімюка і інш. І ўсё ж такі складана перакладаемы ўкраінскі архаізм «узьмінь», які абазначае хуткасць, зменлівасць воднай плыні, напэўна, найлепшым чынам характарызуе стан сучаснай украінскай літаратуры. Прычым шакіруюць і правакуюць публіку як маладыя, так і старэйшыя. Напрыклад, у 2010 годзе прыцягнула ўвагу грамадскасці класік Ліна Кастэнка раманам «Запіскі ўкраінскага вар'ята», напісанага ад асобы 35-гадовага праграміста. Не так даўно шырокі рэзанас меў і раман «Чорны груган» Васіля Шкляра, які адны крытыкі прылічылі да найбольш яркіх і цікавых падзей літаратурнага жыцця, а іншыя – да безгустоўнай палітычнай прапаганды. А чаго толькі вартая, напрыклад, адмова Юрыя Андруховіча ад Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі ці падпісанне ўласнай крывёй кантракта з выдавецтвам «Фоліа» Ладай Лузінай?*

*Адна з вядомых украінскіх пісьменніц Галіна Тарасюк кажа: «Я пішу пра сённяшнюю Украіну. Гэта складана, цяжка, часам невыносна, але гэта мой крыж». І з гэтым выслоўем нельга не пагадзіцца. Цяжка пісаць пра сучаснасць, не ўздымаючы найбольш вострыя і скандальныя тэмы. А яшчэ больш складана ў «час вялікай прозы» пісаць маладым, якія, валодаючы значным арсеналам прагрэсіўных ідэй, яшчэ не прайшлі ў пэўнай меры стадыю мастацкага накаплення. Але як бы там ні было, сфарміравалі ўжо сваю чытацкую аўдыторыю Сяргей Жадан, Ірэна Карпа, Наталка Сняданка, Святлана Пыркала, Любка Дэрэш, Люко Дашвар (Ірына Чарнова). Раман апошняй «Макар», напрыклад, быў прададзены ў колькасці 45 000 экзэмпляраў толькі за першыя два месяцы свайго з'яўлення ў 2012 г. Аднак ці заўсёды колькасць пераходзіць у якасць? Пытанне неадназначнае, кожны вырашае яго сам сабе. Узгадаем хаця б амаль тысячастаронкавы твор Аксаны Забужка «Палявыя даследаванні ўкраінскага сексу»...*

*Безумоўна, такі неўтаймаваны вір новага і раней нязведанага сустракае на сваім шляху перашкоды. Надзённыя праблемы, характэрныя для сучаснай украінскай літаратуры, вельмі падобныя і блізкія да нашых, беларускіх. Датычацца яны найперш моўнай сітуацыі. На паліцах украінскіх кнігарняў на дзве кнігі айчынных пісьменнікаў прыпадае ў сярэднім восем замежных выданняў. Аднак назіраюцца і пазітыўныя зрухі. Па словах прэзідэнта Украінскай асацыяцыі выдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў Аляксандра Афоніна, у людзей, сталенне якіх прыпадае на канец 90-х, украінская мова не выклікае непрыняцця, і яны зусім па-іншаму ўспрымаюць украінскую кнігу.*

*Другой важнай праблемай можна назваць праблему перакладу, культурнага дыялогу паміж Украінай і светам. Але і тут усё, вядома, не безнадзейна. Актыўна перакладаюцца на англійскую мову Юрый Андруховіч, Аксана Забужка. Кнігі Андрэя Куркова перакладзены больш чым на 30 моў. Але шматлікія аўтары яшчэ чакаюць сваёй прэзентацыі для чытачоў іншых краін. Толькі ці не перакладаецца часам масавае, кідкае, тое, што не лепшым чынам характарызуе стан развіцця літаратуры?*

*Нельга абысці і праблему літаратурных часопісаў. З-за складанай сітуацыі некаторыя з іх спынілі сваё існаванне, а цікавыя выданні «Березіль», «Всесвіт», «Київ», «Літературна Україна» маюць патрэбу ў падтрымцы.*

*Як бачым, «узьмінь» украінскай літаратуры (дарэчы, так дальнабачна назваў свой паэтычны зборнік Платон Варанько яшчэ ў 1979 г.) віруе, спрабуе прабіць шлях да мора лепшых сусветных здабыткаў. Не заўсёды гэты шлях лёгкі і сонечны, але, перафразуючы беларускага класіка, простага шчасця не варта зычыць нікому.*

*Доктар філалагічных навук Саламія Дзмітрыеўна Паўлычка аднойчы слушна заўважыла: «Якое месца я адводжу ўкраінскай літаратуры сярод літаратур свету? На жаль, невялікае, яна вельмі мала вядомая нават у славянскіх краінах, яшчэ менш у германскіх, раманскіх. Хоць зараз адбываецца шмат перамен... і ў перспектыве лепшыя ўкраінскія творы стануць вядомымі. Нельга спадзявацца, што яны стануць такімі ж уплывовымі, як творы, скажам, Талстога, ці Марселя Пруста, ці Томаса Мана. Гэта вельмі значныя постаці, такіх у нас няма. Пакуль яшчэ. Але гісторыя не скончылася. У нас яшчэ ўсё наперадзе». І цалкам верыцца, што так яно і будзе.*

*Прапануем увазе чытачоў падборку перакладаў апавяданняў пісьменнікаў, якія шмат у чым прадвызначаюць плённае развіццё літаратурнага працэсу ва Украіне сёння і спадзяёмся на шчырую зацікаўленасць.*

***Юлія АЛЕЙЧАНКА***

**Анатоль ДЗІМАРАЎ**

# ПОЛАЗ

Адбылося гэта на Паміры, у такім глухім закутку, куды нават птушкі паказацца баяліся.

Адбылося гэта ў адным з саяў самых дзікіх, назва якога, калі перакласці, гучыць прыкладна так: «Пойдзеш — не вернешся». Бо смерць тут хапае за пяткі амаль на кожным кроку.

Сай гэты, даўжынёй каля сотні кіламетраў, рассякаў напалову шасцітысячнікі, пакрытыя вечнымі снягамі. І ўдзень, пад пякучым сонцам, што плавіць тыя снягі, раве такім патокам вар'яцкім, што халадзее на сэрцы. Не ўтрымаешся, скоцішся — размажа па валунах, вадой аблізаных. А ноччу, пасярод касмічнага холаду, ледзь цурчыць пяшчотным струменьчыкам — пераходзь уброд, дзе захочаш.

Адбылося гэта рана-раненька, калі снегавікі ўгары палыхалі такімі агнямі, што хацелася на іх памаліцца, а тут, унізе, яшчэ варушылася цемра і кожны крок трэба было намацваць, каб не скруціць сабе голаў.

Адбылося гэта на другі дзень, пасля трывожнага сну ў альпійскай пальчатцы — намёце, які мы ледзь прымасцілі пад скалой, на адносна пляскатым пляцы: крок назад — галавой у струмень, крок наперад — грудзямі аб скалу… З глыбай шматтоннага граніту на верхавіне, якая аж пахістваецца, разважаючы: упасці ўніз і раздушыць дваіх вар'ятаў, што не знайшлі лепшага месца для сну, ці патрымацца яшчэ трохі.

Не знайшлі.

Хоць не адну гадзіну шукалі… Тут прыпыніцца?.. Тут?..

Мы, двое фанатыкаў, двое шукальнікаў каштоўных камянёў, накіраваліся ў гэты негасцінны сай, у гэты самы дзікі з саяў, куды і нага людская не ступала, бо таджыкі, якім яшчэ не надакучыла жыццё, абыходзілі яго. А мы, бач, адважыліся: нас вабілі нястрымна каштоўныя камяні, рассыпаныя ў самым канцы бакавога саю, які ўпадаў у гэты, асноўны. Скарнавае поле, узнятае на пяць тысяч метраў да нябёсаў, было разведана ў свой час Скрыгіцелем (аповесць «Вяршыні»), і на полі тым — агатавыя міндаліны рэдкіх колераў і малюнкаў.

Оніксы, сардэры, сапфіры.

Запаветная мара антычных мастакоў, што выразалі камеі і гемы.

Адна камея Ганзага вартая зараз усіх скарбаў свету!

Шлях насамрэч быў знішчальны. Смерць насамрэч часта хапала за пяткі.

Велізарная лабаціна, на якой павіс, ледзь не сарваўшыся ўніз. Ускараскаўся — цела агідна дрыжэла. Сэрца білася так, што цямнела ўвачччу…

Горы рухомага шчэбню, якія трэба толькі горным казлам-кійкам пераадольваць.

Забавішся, скочыш не на той камень — развітвайся з жыццём!..

Нітачкай палічка прымацавалася да скалы над безданню: альпініст маму пакліча, калі ступіць на яе!..

Раз'ятраны вецер, што налятае знянацку, калі ты балансуеш над абрывам.

Колькі ў той дзень пераадолелі кіламетраў, ведалі толькі набрынялыя ногі… Ведалі толькі трыконі, растаптаныя на вострым каменні… Ведала цела, набрынялае смяротнай стомаю… У крывацёках і драпінах…

Скрыгіцель яшчэ мірна пасопваў, а я ўжо яшчаркай выслізнуў са спальніка. Гюрзою выпаўз з намёта. На кукішках!.. На кукішках!.. Далей ад абрыву!

І ўжо там, прыгадаўшы, што я хомо сапіенс, узняўся на ногі.

Так і знерухомеў, так і анямеў прад вечнасцю. Прад урачыстай дзеяй прыроды.

Палымнелі снягі на шасцітысячніках, святло нясцерпна імкліва сцякала ўніз, на вачах раставала, здаецца, назаўсёды застылая цемра.

Я, каб хаця б трохі сагрэцца (холад хапаў яшчэ моцна за спіну), вырашыў, пакуль спіць Скрыгіцель, прайсціся да таго вунь выгіну: а раптам за ім бакавы сай. Мэта нашага цяжкога падарожжа.

Пайшоў, асцярожна ступаючы (зламаць нагу — раз плюнуць), абмінуў і знерухомеў: праз дзесяць метраў наперадзе чарнеў трохметровы полаз.

Паляўнічы са сталёвымі мышцамі, што абдымае насмерць усіх істот. На чалавека, казалі таджыкі, і то нападае, не вагаючыся.

Я ажно здрыгануўся ад агіды, ад жаху. Гэтыя пачуцці перадаліся мне на генным узроўні ад далёкіх продкаў, якія тысячы, а то і мільёны гадоў таму пакутавалі ад атрутных змей.

Яшчэ да спадчынных агіды і жаху дадалася нянавісць: вырашыў забіць змяю.

Тым больш, што забіць яе можна было проста: полаз ляжаў нерухома, полаз толькі што выпаўз са сховы, дзе цягам жорсткай паморскай ночы яго люта скоўваў холад. Выпаўз, магчыма, сустрэць сонца, што могло вярнуць яго да жыцця…

Падняў цяжкі камень, заціснуў у правай руцэ. І пачаў красціся да полаза.

Крок за крокам… крок за крокам… утаропіўшыся ў пляскатую галаву.

«Цэль у галаву… Толькі ў галаву!» — напружана звінела ўва мне.

І калі засталося некалькі крокаў, калі я ўжо ўзняў руку, галава зварухнулася раптам, з напругай, з шоргатам пачала паварочвацца да мяне…

Павярнулася, знясілена ўпала. Ляжала, застылая, — свяціліся толькі вочы.

Утаропілася ў мяне поглядам жывых тых вачэй. Яны гіпнатызавалі мяне, прапякаючы наскрозь, яны такім немым крыкам галасілі да мяне, што голас той пранізаў сэрца: «Не забівай! Не забівай! Дай мне перад смерцю пагрэцца на сонцы!»

І дзясніца мая супраць волі ўздрыгнула… І камень пакаціўся долу…

Прапаў жах, прапала агіда… Я быццам наноў глянуў на дасканае цела, якое ажывала пад ласкавым паглядам сонца. Нешта падказвала мне, што я магу без жаху да яго наблізіцца… нават побач прысесці… І я прысеў, і наблізіўся, і рука мая міжволі пацягнулася да яго галавы.

Ён узняў галаву насустрач, даверліва прыхіліўся да маёй далоні…

І мы ўжо былі не чалавек і змяя… Не змяя і чалавек, бясконцай барацьбой раз’яднаныя, а дзве найдаражэйшыя адна адной істоты, узаемнай любоўю пабратаныя.

Адзінокія… На ўвесь свет — адзінокія. На ўсю зямлю дашчэнту спустошаную, без адзінай прыкметы жыцця…

І для кожнага з нас было б найвялікшай трагедыяй страціць адзін аднаго…

Мы, народжаныя сонцам, з’яднаныя сонцам…

***Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА.***

## Галіна ТАРАСЮК

# ТЭАТР НАСУПРАЦЬ «ВАРЭНІЧНАЙ»

*Навела*

Хоць і з’явіўся ён у іх мястэчку ўжо добры год таму, але з’яўленне яго абмяркоўваюць тут дагэтуль. Вядома, і яго асобу таксама. Бо хіба не дзіўна, што гэты прадстаўнічы, і нават імпазантны мужчына за пяцьдзясят, са слядамі былой прыгажосці і славы на арыстакратычным абліччы і ў паставе, раптам ні з таго ні з сяго пакідае сталіцу, пасяляецца ў глухім занядбаным гарадку, дзе і водаправода няма, і становіцца (што ўжо зусім падазрона) кіраўніком неіснуючага яшчэ моладзевага тэатра?

Ясна, што спачатку дзіўным прыхаднем займаліся заінтрыгаваныя местачковыя дамы і нават дзяўчаты, бо не пераживаць было проста немагчыма, вось жа, па-першае, такія прыемныя па ўсіх параметрах мужчыны заўсёды і ўсюды на ўліку ў мясцовых дам, акрамя таго, іх, зазвычай, ніхто ніколі нікуды не адпускае, нават за межы кватэры, не тое што горада, па-другое, мужчыны ў такім... ну, шаноўным узросце па ідэі павінны б мець важную пасаду, хоць бы і пенсію дэпутацкую, а не швэндацца па перыферыі ў пошуках убогіх заробкаў, якіх дастаткова ў самой сталіцы, па-трэцяе, каму цяпер, тым больш у іхнім мястэчку, патрэбны той моладзевы тэатр, калі моладзь з мястэчка даўно з'ехала за мяжу, і калі б не школьнікі адзінай у мястэчку школы, то ўвогуле было б яно падобнае да забытага ўладай і Богам герыятрычнага пансіянату, па-чацвёртае, з такім імем (альбо Зараслаў Светазаравіч, альбо Святазар Багадаравіч) жыць у правінцыйным гарадку... Не, тут нешта не тое...

Спачатку так лічылі толькі местачковыя жанчыны, а ад нядаўніх часоў так пачаў думаць і адзін з самых паважаных мужчын у мястэчку, уладальнік маленечкай (два сталы, восем крэслаў) «Варэнічнай» і добрапрыстойны сем'янін Ратушняк. І зусім не таму, што па жыцці дзелавы чалавек Ратушняк недалюбліваў люмпенаў. А з-за таго, што... Але пра ўсё — па парадку. Трэба ж было, каб пад той нікому не патрэбны моладзевы тэатр мясцовыя ўлады аддалі закінутую разваліну праз вуліцу, якраз насупраць яго «Варэнічнай», а таму дробны прадпрымальнік Ратушняк мімаволі вымушаны быў дзень і ноч назіраць за росквітам тэатральнага мастацтва ў іх мястэчку. Далёкаму ад усякага мастацтва Ратушняку цяжка было ўгледзець, куды яно развіваецца, але ягоны ўласны варэнічны бізнес пайшоў крута ўверх, ад тых часоў, як той прыблудны стары дзівак Барыслаў або Багадар, а карацей — Артыст, узяў сабе за звычку штодня абедаць у «спадара Ратушняка порцыйкаю-другою варэнікаў». Гэта была нядрэнная рэклама, і хутка за галоўным сталі бегаць па варэнікі і дробныя артысты — вучні старэйшых класаў, якіх настаўнікі гвалтам запісалі ў тэатр, і тыя цяпер замест таго, каб гарод палоць або жывёлу глядзець, так вычвараліся ды гарлалі не сваімі галасамі, што нават вокны ў той халупе звінелі. Накрычаўшыся, згаладалыя школьнікі наляталі на варэнікі, як саранча на Кітай. Таму, любуючыся іх апетытам, прадпрымальнік Ратушняк пачаў быў ужо сур'ёзна думаць аб трэцім століку на чатыры пасадачныя месцы, як тут...

За грандыёзнымі бізнес-планамі і будзённымі клопатамі Ратушняк не ўбачыў, як яго адзіная дачушка, ягонае бязвіннае дзіця, якое ён так песціў, не дазваляў нават посуд мыць на кухні, яго «залатая Лілія» зачасціла, а потым і перавандравала з роднай «Варэнічнай», дзе яна часам расстаўляла па вазах на сталах кветкі і палівала вазоны, у халупу насупраць. Калі дробны прадпрымальнік і добрапрыстойны сем'янін Ратушняк убачыў, як сярод белага дня, на вачах у роднага бацькі Ліля адчыніла і зачыніла за сабой дзверы «Моладзевага тэатра», ён упершыню ўласным вачам не паверыў, падумаў, што здалося. Але калі Ліля выйшла з тэатра позна ўвечары, да таго ж — пасля ўсіх ды яшчэ і ў суправаджэнні Святазара-Багадара, а карацей — Артыста, і, абмінуўшы «Варэнічную», пайшла з ім невядома куды, міла размаўляючы на вачах усяго мястэчка, ён пабег на варыўню, дзе абцярушаная мукой жонка ляпіла варэнікі, і доўга там тупаў нагамі і крычаў, што «не дазволіць, што выставіць старога распусніка за межы, што яна, матка яе, ва ўсім вінаватая!..»

Такая бурлівая рэакцыя на тэатр зазвычай прагрэсіўнага і памяркоўнага Ратушняка здзівіла жонку, але дарэмна жанчына спрабавала растлумачыць мужу, што ні яна, матка, ні тым больш дачка — не вінаватыя, што тую запісалі разам з цэлым класам у тэатр, што ёй, дачцэ, як самай прыгожай і таленавітай у горадзе дзяўчыне, далі ролю самой Джульеты, што...

Ратушняк не слухаў. Ён як шалёны і далей тупаў нагамі і крычаў, але не столькі ад злосці, а ад страху. У апошні час Ратушняку здавалася, што дачка, якая нечакана расквітнела небывалай для іх роду прыгажосцю, пакіне іх з жонкай, і

дом, і «Варэнічную», і ніколі больш не вернецца ў роднае мястэчка, падобнае да забытага ўсімі герыятрычнага пансіяната, што...

І раптам Ратушняк горка заплакаў, быццам гэта адбылося ўжо, сёння. І нарэшце да яго дайшло, што жонка ўсё ведае, горш — гэтаму спрыяе, што яны з дачкой яго падманваюць, у той час як ён жылы ірве дзеля іх, што...

Ад той хвіліны жыццё ўладальніка «Варэнічнай» ператварылася ў суцэльныя пакуты. Ён пачаў сачыць за дачкой, няветліва сустракаць Артыста, калі той прыходзіў за сваімі варэнікамі. Некалькі разоў нават парываўся з тым адкрыта пагаварыць, а то і проста ляснуць перад яго носам дзвярыма, але інтарэсы бізнесу бралі верх над бацькоўскімі перажываннямі, і Ратушняк адкладваў размову на потым.

Між тым Лілія зусім расквітнела, ператварыўшыся на вачах з няўклюднага дзяўчаняці ў даўганогае, золатавалосае, фіялкавокае, незвычайнае для гэтых месцаў, стварэнне. Асабліва яе экзатычная прыгажосць і дасканаласць вылучаліся на фоне родных бацькоў, падобных да вялізных гарбузоў. Таму нядзіўна, што ўсіх цікавіла, як гэта ім, гэта значыць Ратушняку з жонкай, удалося спарадзіць такі цуд незямны? Найбольш нахабныя і нявыхаваныя пыталіся ў Ратушняка пра гэта ўслых, даводзячы яго да роспачы, змяшанай з гонарам і страхам.

Але самым трагічным было тое, што сама Лілія пачынала здагадвацца аб сваёй нетутэйшасці: усё часцей заглядалася ў люстэрка, пагардліва мерала поглядам аднагодкаў і не зводзіла захопленых вачэй з таго старога фацэта нават тады, калі ён еў свае варэнікі з такім выглядам, быццам нейкія анчоўсы або вустрыцы ў дарагім сталічным рэстаране. І дарма дачка апускала перад бацькам вочы, а сама хавалася за занавескай на дзвярах наварыўню, Ратушняк усё гэта бачыў і быў сам не свой ад роспачы. Яго пакуты сталі проста-такі невыноснымі, калі ўбачыў, як той стары распуснік, выяўляючы з сябе галантнага кавалера, прагна цалуе дачцэ ручку, адначасова абшнарваючы яе анёльскі тварык мутнымі, як здавалася Ратушняку, ад юрлівасці вачыма. І гэта сярод белага дня, перад яго, бацькоўскім, носам (дакладней, за некалькі метраў), каля дзвярэй свайго пагарэлага тэатра! А яна — аж млее, аж выпростваецца, ззяе!

Усё часцей прачынаўся Ратушняк ноччу ад страху, што дачку выкрадуць і згвалцяць нягоднікі ў чорных акулярах, якія раз’язджаюць ужо і па іх мястэчку ў чорных лімузінах, або спакусіць гэты прыблуда, гэты незразумелы стары прайдзісвет, таму што па ім бачна, што ён вялікі майстар круціць галовы кабетам...

Усё часцей вярталася дачка з тэатра летуценнай, задуменнай, далёкай ад «Варэнічнай» і абаіх сваіх таўсманых, падобных да пераспелых гарбузоў, бацькоў. Снаўдалася, як лунацік, па варыўні, грэбліва азіраючы россыпы варэнікаў на сталах і рондалі з кіпенем, а потым рэзка і злосна ляскала дзвярыма і замыкалася ў сваім пакоі ў другой палове дома.

А аднойчы ўвечары Лілія дадому не вярнулася.

Ратушняк спахапіўся, калі гадзіннік у «Варэнічнай» бомкнуў поўнач. Кінуўся на тую палову дома, дзе месціліся жылыя пакоі, але дачкі там не было. Не было яе ў двары, і ў садзе. Выбег на вуліцу — вокны ў тэатры не свяціліся. І ён усё зразумеў. І закрычаў жонцы, якая за трыма дзвярыма, на варыўні, дамывала посуд:

— Дзе яна? Я пытаюся ў цябе, дзе Ліля?

— Адкуль мне ведаць, дзе Ліля? — здзівілася жонка. — З сяброўкамі дзесьці...

— У дванаццаць ночы?

— Яшчэ толькі палова дванаццатай... Не перабольшвай.

Ратушняка ўразіў яе спакой, і ён закрычаў, як вар’ят:

— Гэта я перабольшваю? Ёй шаснаццаць... І ты ведаеш, з кім яна... Ведаеш, што яна зноў з тым... Я забараняю ёй хадзіць у гэты тэатр, да таго распусніка! Забараняю крыўляцца! Гэта не прафесія! Мне самадаек дома не трэба! З мяне хопіць!

Абуджаныя крыкам суседзі адчынялі спалохана вокны, круцілі галовамі і, убачыўшы на тратуары звар’яцелага ўладальніка «Варэнічнай», настройваліся з цікавасцю слухаць.

— Дзеля Бога, суніміся... Людзі чуюць... — намагалася закаціць Ратушняка ў «Варэнічную» кабета, але ён адбіваўся, благаючы:

— Няхай чуюць! Хай усё чуюць! Таму што бачылі, усе бачаць... як яна ходзіць з ім! …за ручкі ўзяўшыся! Як глядзіць яму ў вочы! І ён жа ёй у дзяды падыходзіць! Мярзотнік! Стары распуснік! Я... я застрэлю яго! Задушу вось гэтымі рукамі! Я...

— За што? — жахнулася жонка, страціўшы асцярогу. — Дзіцяці проста цікава з ім... І ты гэтага не можаш пераджыць. Ты раўнуеш яе да чужога чалавека. Вось што!

Словы жонкі разанулі Ратушняка па самым сэрцы, ад чаго ён канчаткова страціў над сабой кантроль, працягваючы выкрыкваць у цёмную ноч усе свае крыўды і страхі.

— Цяпер я ведаю, хто яе навучыў вешацца на шыю чужым дзядам: ты! Гэта ты! Ты! Навучыла яе. Сама такая была! Думаеш, я забыўся, не памятаю! Як ты!.. З тым прыгажунчыкам! І я... Я заб’ю яго! Задушу вось гэтымі рукамі...

Раптам сварка сціхла: міма бацькі-маці прабегла заплаканая Ліля, праскочыла праз «Варэнічную», варыўню і зачынілася ў сваім пакоі. Ратушняк кінуўся ўслед, гарлаючы сваё:

— Дзе ты была? Чуеш, дзе ты была, я заб’ю яго, таго падонка!

Цёмная вуліца і надалей здзіўлена адчыняла вокны, прыслухоўвалася, дзе гэта лаюцца. Але Ратушняку было ўсё адно. Наадварот, ён хацеў, каб усе чулі, таму што больш не мог бачыць, як на яго глядзяць, як на бацьку малалетняй самадайкі. Таму ён біў кулаком у дзверы Лілінага пакоя і крычаў, каб усе ведалі, што ён добрапрыстойны сем’янін і строгі бацька. І раптам дзверы рэзка адчыніліся, і апухлая ад слёз Ліля, стаўшы на парозе, сказала:

— Ён памёр...

— Хто — памёр? — разгубіўся строгі бацька.

— Ён, Святазар Багадаравіч...

— Калі?

— Толькі што.

— Дзе?

— У сябе дома.

— А ты... ты адкуль ведаеш?..

— Я там была...

— Ты? Там? Што-о ты-ы та-ам ра-бі-ла?

— Нічога. Мы прайгравалі сцэну смерці Рамэа і Джульеты.

— І — што?..

— І ён... памёр, захроп і – па-а-мё-ор... — Ліля зараўла ад страху і гора.

Строгі бацька ачмурэў:

— Хто яшчэ быў пры гэтым?

— Ніко-о-о-ога. Толькі я-а-а ... — рыдала Ліля.

— Закрый рот, — нечакана рашуча загадала легкадумная маці. — Закрый зараз жа рот! Тут ужо адзін крычаў, што заб’е, задушыць, задушыць сваімі рукамі... І людзі чулі гэта! І зараз мы нікому нічога не давядзем. Нікому і нічога.

У кватэры наступіла такая цішыня, што было чуваць, як у суседнім доме сапе, наваліўшыся грудзьмі на падаконне, усёвідушчая і заўсёды слушная Клаўдзія Іванаўна.

— Нехта бачыў, як ты туды заходзіла? — нарэшце ачомаўся і добрапрыстойны сем’янін Ратушняк.

— Суседка, баба Зоя, і яшчэ адна баба, і яшчэ...

— Так, я прапаў! Я прапаў, як швед пад Палтавай! Мяне пасадзілі ў турму ўласныя дачка і кабета... — зноў запанікаваў напалоханы неспадзяванай сітуацыяй Ратушняк. — З мяне хопіць! Дастаткова! Значыць так, я паехаў... цяпер жа! На станцыю — у тры цягнік на Маскву... Мяне няма. Я ў Расіі. Чулі? Я ў Расіі! І што

хочаце, тое і рабіце. Пакуль яго знойдуць, я ўжо буду далёка. Вам напішу... пад чужым прозвішчам... Давайце дамовімся: Васіль Пугаўкін...

— Які Пугаўкін?

— Пугаўкін — і ўсё. Хіба вам не ўсё адно, што са мной цяпер будзе? Пугаўкін. І скончана! Я пайшоў!

Зазваніў тэлефон. Усе замітусіліся, зашапталіся:

— Бяры трубку... не бяры трубкі... мяне няма... нас няма... святло... выключце святло!..

Праз хвіліну пазванілі ў дзверы... Таму, хто званіў, ніхто не адчыніў. У «Варэнічнай» — як вымерлі.

Раніцай Клаўдзія Іванаўна, якая нібыта прыйшла па варэнікі, убачыла на зачыненых дзвярах шыльду: «Пераўлік». На трэці дзень да «Варэнічнай» пад'ехала міліцэйская машына, дзверы адчыніліся, выпускаючы вонкі трох міліцыянтаў і двух у цывільным. Хутка ўсе выйшлі разам з Ліляй і маці. Як заўважыла Клаўдзія Іванаўна, Ратушняка з імі не было. Пад вечар маці з дачкой вярнуліся самі і пешшу. Але яшчэ да іх вяртання вуліца, а з ёй усё мястэчка — ведалі, што непадалёк ад чыгуначнай станцыі, у кустоўі, знайшлі труп мужчыны, нібыта падобнага да Ратушняка. Цела маці і дачка нібыта пазналі, але хаваць яго будуць не тут, а ў суседнім раёне, адкуль яны ўсе родам.

За апошні тыдзень гэта была другая дрэнная навіна: тры дні таму ў шпіталь з інфарктам трапіў кіраўнік моладзевага тэатра, так, так, той самы імпазантны, пастарэлы прыгажун, які за цэлы год свайго бытавання ў мястэчку не кінуў погляду ні на адну жанчыну, а ўсё таптаў сцежку праз вуліцу да «Варэнічнай» Ратушняка, маючы, вядома, на прыкмеце яго жонку, або, яшчэ горш, непаўнагадовую дачку, пакуль Ратушняк не выгнаў яго, але, мабыць, позна, бо чаго б тады таму Ратушняку накладаць на сябе рукі і яшчэ і ў кустах каля станцыі?.. А можа, і не так усё было? І не вядома як... Словам, міліцыя разбярэцца...

Добры месяц вуліца, а з ёй і гарадок мэнчыліся ў невядомасці. А праз месяц вярнуліся Ратушняковы кабета і дачка, прадалі «Варэнічную» разам з домам і ўсім, што ў ім было, і некуды з'ехалі. Паехаў у сваю сталіцу, выйшаўшы з бальніцы, і адразу пастарэлы, як казала Клаўдзія Іванаўна, Зорадар-Багадар, ці як там яго, таго Артыста.

Мястэчка пагаварыла, паразважала-паваражыла над гэтай дзіўнай гісторыяй, і забылася. Прыгадала толькі праз год, калі тая самая ўсёведная Клаўдзія Іванаўна распавяла, што нібыта яе знаёмая бачыла ў «Варэнічнай» на Хрышчаціку ў Кіеве дачку і жонку Ратушняка разам з тым старым прыгажунчыкам, тым прыблукалым калісьці ў мястэчка Артыстам — Святаславам ці як там яго, таго Багадара?.. Знаёмая казала, што калі б не дзяўчына і той Артыст, старую Ратушнячку яна б ні за што не пазнала — так схуднела, і яшчэ капялюш начапіла на сябе, а яшчэ, распавядала Клаўдзія Іванаўна, знаёмая казала, што нібыта ўсе трое былі вельмі вясёлыя, елі варэнікі і, што яе (г.зн. знаёмую, і саму Клаўдзію Іванаўну) мацней здзівіла, паводзілі сябе так, як адна сям'я і як у сябе дома.

Але Клаўдзія Іванаўна не ўсё расказала. Прынамсі пра тое, што ўжо цягам года на імя Ратушняковай жонкі прыходзяць лісты ад нейкага Васіля Пугаўкіна, у якіх той скупа перадае «дарагой сяброўцы, што жывы-здаровы, чаго і ёй жадае». А паколькі Васіль Пугаўкін адраса свайго не згадвае, а паштальёнка Люся не ведае новага адраса Ратушнячкі (і не хоча клопатаў лішніх), дык і аддае лісты ўсёвідушчай Клаўдзіі Іванаўне, нібыта для перадачы былой суседцы. Клаўдзія Іванаўна лісты прымае, акуратна чытае і захоўвае, як зрэнку вока, з надзеяй, што, можа, калісьці і перадасць іх Ратушняковай, калі тая абзавецца, або Клаўдзія Іванаўна сама калісьці, дай Бог, выберацца ў Кіеў і сустрэне тую на Хрышчаціку ў «Варэнічнай».

***Пераклад Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ.***

**Васіль ПАРЦЯК**

# У СНЯГАХ

Вайна зазімавала ў Чарнагоры. Адкуль яна прыйшла, Ануфрый не ведаў. Аднекуль са свету, а вядомы яму свет сягаў Каламыі, зразумелы — Станіслаў і Львоў са службоўцамі, судамі і вязніцай, ну і Вена — там сядзеў сам імператар. Пра астатняе думаў мала. Чуў, што недзе жывуць на свеце чорныя людзі — мурыны, і жоўтыя — хінцы, але яго нават не клапаціла, наколькі яны далёка і ў якім баку ад Каламыі жывуць. Ён ведаў свае горы, сваю зямлю, якую скупляў усё жыццё надзел за надзелам, жывёліну на ёй, ведаў пра казу на Каляды, паску на Вялікдзень, пра выган худобы на Юр'я. Пра маскалёў Ануфрый не ведаў.

Яны з'явіліся з Усходу, адцяснілі царскае войска на хрыбет Чарнагоры і там сталі на зіму. Але вайна, як пошасць, не трымаецца аднаго месца. Частка той арміі сядзіць на вяршынях у акопах, а астатнія салдаты — у даліне па вёсках, па людскіх паселішчах.

Засталіся на пастой і ў Ануфрыя. А што — хата вялікая, на дзве паловы, з прыбудовамі, з клеццю. Дазволу ніхто не пытаўся, прыйшлі кватаранты, агледзеліся, а ўжо праз колькі гадзін прыслалі дзесяць салдат з маладым унтэрам, падстаршыною. Вайна і ёсць вайна… Дык яно адразу такой бяды і не было, хлопцы-ваяры выявіліся ветлівымі і гаварылі амаль зразумела, казалі, што самі з берагоў Дняпра і што там таксама ёсць нашы людзі, але неяк аднойчы прыйшоў з праверкай іхні афіцэр, і Ануфрый заспеў, як той у сенцах заціснуў у кут нявестку. У Ануфрыя ў вачах пацямнела. Згроб маскаля і шпурнуў яго праз сенцы ажно пад парог. Іншы грымнуўся б косткамі і ці здолеў бы падняцца, але гэты, сухі і цыбаты, лёгка падскочыў, адным выдыхам прыгадаўшы Бога, душу і Ануфрыеву маці, выхапіў рэвальвер. Гучна бліснула, і трэска з вушака тонка дзёўбнула Ануфрыя ў вуха. Другі раз стрэліць афіцэр не паспеў, бо з'явіўся малады унтэр і схапіў яго за руку, салдаты трохі павалтузіліся, неяк дзіўна павіталіся… Афіцэр, сыходзячы, усё яшчэ сыпаў праклёнамі і люта бліскаў вачыма, а ўвечары Ануфрыеў выратавальнік — таксама, як і салдаты, з тых далёкіх «нашых» — парадзіў, каб Ануфрый на пэўны час схаваўся.

— Зробяць з вас, бацька, аўстрыйскага агента, палявы суд — і праз хвіліну будзеце на яблыні вісець. У нас гэта хутка…

Вялікага выбару не было, ды і патрэбы ў ім — Ануфрый падаўся да свайго зімоўя, схаванага сярод лясоў на высокай Чузе. Служку, які там зімаваў з худобай, адаслаў, загадаўшы маўчаць. Яно б, вядома, надзейней было служку каля сябе прытрымаць, але бязлітасная вайна забрала з хаты дваіх старэйшых унукаў і меншага сына, старэйшыя дзеці на ўласных гаспадарках. Таму пара мужчынскіх рук дома не зашкодзіць.

Ануфрый зайшоў знадворку, цяжка ступіў да лаўкі і хутчэй упаў, чым сеў. Дровы ў печы дагаралі, кідаючы збляклыя пры ясным надвор'і агеньчыкі. Трэба было б яшчэ падкінуць колькі паленцаў, каб нагрэлася ў выстуджанай за ноч хаце, падумаў Ануфрый, але вырашыў пачакаць. Хай трохі адпусціць, надта ўжо баліць, халера…

Трохгадовая Фасулька, яго любіміца, з нейкага дзіва раптоўна матнула галавой, акурат калі ён схіліўся над яслямі, і ўдарыла рогам у грудзі. З левага боку. Якраз там, дзе яго калісьці выцяла галінай у лесе…

Тады таксама быў зусім дурны выпадак. Ануфрый пілаваў хваіну, усё ішло добра, яна «пайшла» ў належны бок, у прагал, каб нічога сабой не зламаць, з грукатам і трэскам звалілася, ён пайшоў па сякеру, каб абцерабіць галлё, і толькі першы раз замахнуўся, як пачуў рэзкі, нібы стрэл, гук і — незразумелы, нібы нешта выскачыла з-пад зямлі, удар. Таўшчэзная галіна, выгнуўшыся дугою, нейкі час утрымлівала вагу камля — і вось, не вытрымаўшы, трэснула і рэзка адпружыніла адломкам. Ён тыдні два ляжаў, але і потым доўга яшчэ нагадвала пра сябе… І гэтаксама тое было ўзімку.

Гэты родны, грудны голас! Ануфрый азірнуўся. На зэдліку ля стала, паклаўшы на калені рукі ва ўзорыстых ваўняных рукавічках, сядзела яна. Заплюшчыў на імгненне вочы, расплюшчыў зноў — сядзіць.

— Ты… даўно тут? — спытаў.

Яе рукі варухнуліся, вывязаныя на рукавічках ружовыя алені хіснулі галінастымі рагамі.

— Ты не рады?

— Рады…

— Дык нашто пытаешся? Я тут, з табой. Астатняе неістотна.

Яна развяла рукамі па поясе, распраўляючы бліскучую аблямоўку, — боль перастаў быць калючым, цяпло разлілося па грудзях і дасягнула жывата, — затым зноў сашчапіла іх разам на каленях. Алені з разгону кінуліся адно аднаму насустрач, нібы хацелі сплесціся рогамі ў бойцы.

— Ты такая ж маладая і прыгожая.

— Як той зімой? — па-змоўніцку ўсміхнулася.

— Як заўсёды. Толькі той зімой была найпрыгажэйшая.

— Бо была твая?

І хітры позірк з-пад броваў.

— Ты вялікі самалюб, стары Букавен!

Ануфрый падхапіўся з лаўкі і ледзь не ўскрыкнуў. Відаць, Фасулька такі пашкодзіла рогам рабрыну.

— Як ты сказала? — спытаў, падышоўшы вельмі блізка.

У тую зіму ён спяваў ёй пра высокі Букавен, на якім пас у дзяцінстве ягнят, і яна яго так называла. Цяпер пазірала на яго і маўчала. Потым выняла руку з рукавічкі, дакранулася пальчыкамі грудзей.

— Баліць?

— Ужо не, — сказаў, зноў прыгадаўшы тую даўнюю зіму.

— Ты кажаш, як тады, — пасміхнулася яна.

— Тады ў лесе мяне знайшлі твае служкі…

— Цяпер я сама прыйшла.

З-за Сініц вызірнула сонца, кінула на Чугу чырвоныя прамяні, закрывавіла шапкі снегу на елках. Адзін праменьчык, праслізгнуўшы ў акно, малінава бліснуў на срэбнай завушніцы пад яе вухам — яна вызваліла з рукавічкі другую руку і шляхетным рухам расправіла і скінула хустку.

— Ты заўсёды любіла срэбра.

— Яно простае, але мае гонар. Золата — вычварнае.

— Але ж ты — залатая?

Яна ўсміхнулася і прытуліла палец да яго вуснаў.

Ануфрый асцярожна ўзяў яе далонь у сваю, кранууўся шурпатымі пальцамі пярсцёнка-змейкі.

— Той самы, што тады згубіла?

— Нядаўна знайшла. Праз столькі гадоў… Але сядай, табе цяжка!

Сама перасела на лаву. Ануфрый — побач.

— Чаму ты не прыйшла сённяшняй? Я бачыў цябе ўлетку, ты ўсё такая ж… такая…

— Кажы проста — цудоўная! Бо цудоўная ж?

Не адказваючы, правёў далоняй па шаўковым валоссі, кранууўся белай шыі.

— Цяперашняя — не зусім я, — сказала яна. — Я — толькі тая, якую ты кахаў.

— А чаму сёння?

— Бо сёння да цябе вярнулася найдаражэйшая твая зіма.

Печ ужо зусім згасла. Ануфрый хацеў падняцца, каб падкінуць трэсак і напаліць у хаце, але яна спыніла яго:

— Не трэба!

— Чаму?

— Так лепей будзе.

— Але ж ты змерзнеш!

— Ты ведаеш, што — не. Пасядзім. У нас небагата часу.

— Мне заўжды яго з табой бракавала. А болей за ўсё, калі дазваляла сябе кахаць. І толькі ўзімку я даведаўся, як можаш кахаць ты.

— Хочаш спазнаць яшчэ раз?

Алені на рукавічках, што ляжалі цяпер паміж імі на лаўцы, сталі цёмна-барвовага колеру.

Ануфрый моўчкі кіўнуў.

— Дык кладзіся!

Ён нахіліўся ўбок, але яна асцярожна паклала яго на лаўку тварам дагары, расшпіліла камізэльку і, прасунуўшы пад кашулю далонь, прытуліла да грудзей.

— Як тады, — прашаптаў Ануфрый.

— Як тады.

— Скажы, Княгінька!..

— Што, Букавен?

— Ты мяне тады пакахала, бо пашкадавала?

— Букавен! Мужчыны дурныя і ніколі нічога не ведаюць! Спі!

Толькі падстаршына прынёс да Ануфрыевай сядзібы вестку, што афіцэр супакоіўся і не заявіў у палявы суд, а потым яго наогул адклікалі некуды далёка ў тыл, служку адразу паслалі на Чугу, замяніць газу ў зімоўцы. Яшчэ на падыходзе служка пачуў, як з галодным адчаем раве ў стайні худоба, а з парога хаты на яго дыхнула холадам нятопленага жытла.

Калі войт і вайсковы лекар ступілі праз усходнюю браму на падвор'е, пад заходняй, каля дрывотні, разам падняліся і моўчкі павіталіся з імі двое сівых, ажно белых, дзядоў з люлькамі ў руках. Дыхнуўшы сінім дымам, таксама разам зноў селі на свежапагабляваныя дошкі.

— Забрала вайна хлопцаў, мусяць дзяды рабіць дзеравішча, — сказаў войт.

— Дзеравішча — дамавіна? — спытаў лекар.

— Так, труна.

Ануфрый ляжаў ужо на дамашняй лаве.

— Як жывы, — шапталіся жанчыны, якіх была поўная хата.

— Што хочаце, быў у холадзе…

— Затое такі прыгожы.

Мімаходзь агледзеўшы для парадку цела, лекар прыкмеціў, як нешта бліснула ў сціснутым кулацэ нябожчыка. Расціснуўшы пальцы, забраў і, дапытліва зірнуўшы на войта, аддаў яму. Войт азірнуўся было да некага з хатніх, але штосьці падумаў сабе і паклаў знаходку ў кішэньку Ануфрыевай камізэлькі.

Гаспадыня маёнтка пад Сініцамі, багацейка, хоць і паважнага веку, але красуня, хоць з твару напіся, празваная яшчэ ў дзявоцтве Княгіняй, ад самых Калядаў зачынілася ў сваім пакоі і пускала да сябе адну толькі сястру-падлетка, якую ўдачарыла. Праз яе кіравала служкамі і нават размаўляла з інтэндантамі-маскалямі, якія ўжо двойчы наведваліся па сена для коней.

Калі дзяўчо ўвечары ўвайшло ў пакой, Княгіня сядзела за сталом, высыпаўшы перад сабою на абрус каралі і срэбра з разьбяной скрыначкі.

Малая падышла, цікаўнымі вачыма глянула на стол і ўражана запытала:

— Што — пярсцёнак-вужака? Зноў знік?

Княгіня пацерла пальцамі скроні, потым глянула на дзяўчыну:

— Што чуваць у вёсцы?

— Ануфрый памёр. Той, што пад Букавенам. Кажуць…

Княгіня махнула рукой:

— Не трэба, я ведаю. Ён памёр яшчэ ў суботу.

А перахапіўшы напалоханы і здзіўлены позірк дзяўчыны, адвяла вочы і кіўнула на міску з вадою і агарак свечкі ў канцы лавы:

— Прыбяры гэта! Ваду вынесі праз заднія дзверы і вылій пад яварам.

Армія Брусілава стаяла ў Чарнагоры да красавіка, да вялікага адступлення.

***Пераклад Наталлі ЛУНОВІЧ.***

Уладзімір ДАНІЛЕНКА

# СЛЕД У ГАРЛАЧЫКАХ

Гадзюка з'явілася перад заходам сонца. Марка сядзеў, звесіўшы галаву, на лаўцы пад грушай. Яго доўгія вузлаватыя пальцы ў рабацінні, нібы адпаліраваныя вадой і ветрам карані дрэў, звісалі з каленяў.

— Сядзіш? — спытала Эла.

Яна загрымела ланцугом ля калодзежа, і корба, павіскваючы, закруцілася, бухнула ў ваду вядро, і зноў працяжна і натужна зарыпела. Расплюхваючы ваду, жанчына прайшла міма мужчыны, і пад яе сукенкай выпнуліся цяжкія сцёгны.

— Ты б чаго-небудь дала пад'есці, — папрасіў Марка. — Ужо сонца садзіцца.

Жанчына не адказала, і праз некаторы час, калі ён назіраў за хрушчом, які кружыў над квітнеючай слівай, паклікала з ганка:

— Ідзі вячэраць.

Быў Наўскі Вялікдзень[1], у вёсцы не было іх магіл, і Марка з Элай не хадзілі на цвінтар. Раніцай Эла спякла ў печы кулічы і пафарбавала яйкі, а ён глядзеў тэлевізар і забаўляўся з дзіцём. І пакуль жанчына ўсё падрыхтавала, наступіў абед, яны выпілі па чарцы хатняй слівянкі, паабедалі, і Марка бадзяўся па двары, таму што ў гэты дзень нельга было працаваць.

Эла накрыла стол новым абрусам, паставіла яйкі, куліч, вяндліну, квашаную капусту, бульбу ў мундзірах і графін слівянкі. Яны выпілі слівянкі, пачокаліся велікоднымі яйкамі, Марка абчысціў бульбіну і дзьмухаў на гарачую картофлю, а Эла карміла дачку, якая сядзела ў яе на руках і матляла ножкамі. Падцёкі малочнай кашы сцякалі з яе падбародка на фартушок, калі Эла спалохана ўскрыкнула, прыціскаючы дзіця да грудзей:

— Глядзі, гадзюка!

Марка азірнуўся, куды паказвала жанчына, і ўбачыў пад печчу гадзюку, якая ляжала каля прыпечка. Змяя была чорная, з шырокім целам і маленькай ахайнай галоўкай. На нейкі час мужчына здранцвеў, а потым выйшаў на двор, выцягнуў з веніка дрэўка і вярнуўся ў хату, каб забіць гадзюку, але яна ўжо ўцякла.

— Ты б яшчэ даўжэй шукаў палку! — сярдзіта ўсклікнула Эла.

Марка пагледзеў пад печ і ўбачыў прагрызеную мышамі дзірку, праз якую збегла змяя. Знайшоў на двары даўгаваты каменьчык, забіў дзірку і замазаў глінай.

— Не забіў, дык будзеш мець дома гадзюку! — папракнуў Эла, і на яе руках заплакала дзіця.

Марка адвязаў сабаку Жука і пайшоў у поле. З'яўленне змяі сапсавала свята, і ён уважліва глядзеў пад ногі, баючыся наступіць на гадзюку. Сонца яшчэ не схавалася і вісела над лесам. Каля Маркі снаваў сабака, чорны, нібы графічны малюнак, радасна скуголіў і заглядаў у мышыныя норы. Пад нагамі глейкая сапрэлая леташняя трава. Над галавой трапятаў і заліваўся жаўрук. У балоце гайдаліся на ветры маладыя парасткі жоўтых касачоў і пускалі па вадзе кругі, калі аб іх церлася рыба. Сярод абуджаных раслін, насякомых, дзікіх птушак і звяроў Марка адчуў, як недзе глыбока ўнутры зарадзілася трывожнае перажыванне, якое насоўвалася на яго разам з надвячоркавымі аблокамі, якія выпаўзалі з-за лесу. У сажалцы плавалі два белыя лебедзі і з вады тырчалі шыльды з папярэджаннем, што гэты вадаём — прыватная маёмасць. Пранізліва гудзеў бык, быццам хтосьці дзьмуў у пустую бутэльку. Цямнелі кратавіны, цвілі фіялкі. Пад кваканне жаб і чырыканне вераб'ёў Марка рваў дзікае шчаўе. Над ім з цяжкім свістам і выцягнутымі шыямі праляцелі лебедзі. Высунуўшы язык, за імі прабегся Жук і спыніўся перад балотам.

---

[1] Свята памерлых.

З Элай Брыжук ён пазнаёміўся на вечарыне ў даўняга прыяцеля Мацея Пазынюка. Гэта адбылося больш за тры гады таму ў Жылавы панядзелак[1], які адзначалі з кампаніяй студэнтак, кожнай з якіх Пазынюк паднёс абліты бурачным квасам корань хрэна з пажаданнямі, каб дзяўчына ўсё жыццё мела такі пякучы і пругкі корань, і прымусіў яго надкусіць, запіваючы віном або гарэлкай.

Эла Брыжук тады якраз перажывала разрыў віртуальнага рамана. Яна расла ў сям'і, у якой бацька гуляў і штодня вяртаўся дадому позна ў памадзе і з пахам жаночай парфумы. Дома яго чакаў скандал з крыкам, біццём посуду і плясканнем дзвярэй, таму Эла вырасла інфантыльнай і баялася мужчын. Калі ўсе дзяўчаты ўлюбляліся, яна ўключала камп'ютар і ўцякала ў свет іншай рэальнасці. Жыццё ў сеціве здавалася ёй цікавейшым, чым размовы з сяброўкай пра тое, як ёй здрадзіў хлопец. У адзінаццатым класе Эла страціла нявіннасць на дні нараджэння сваёй школьнай сяброўкі Лялі Нягоды, дзе яе спакусіў старэйшы на два гады Міраслаў Кодзій. Але той першы інтымны досвед не пакінуў яскравых уражанняў. Пасля дня нараджэння Лялі яны сустрэліся ў горадзе, і Кодзій запрапанаваў ёй прыйсці да яго днём, калі нікога не будзе дома, але Эла адмовілася, а Міраслаў працадзіў праз зубы:

— У цябе маленькія грудзі.

— Аднак у мяне вялікая душа! — усклікнула яна, вырываючыся з яго рук.

Пасля гэтага яна ні з кім больш не сустракалася, таму што лічыла, што ў яе рыбіна кроў. А на трэцім курсе пазнаёмілася ў інтэрнэце з Косцікам, з якім амаль год перапісвалася. Спачатку харкаўскі студэнт пісаў ёй прыемныя словы, а потым пачаліся прызнанні ў каханні. Яна сядзела ў сеціве да трох ночы, а праз некалькі гадзін уставала і йшла ва ўніверсітэт. Аднойчы Косцік тры дні ёй не адказваў, і яна не знаходзіла сабе месца. Яна вячэрала, мылася ў ваннай і спала са сваім мабільным тэлефонам. Косцік пісаў, што пра Элу ведаюць яго сябры, неўзабаве ён прыедзе да яе ў госці, і Эла страціла галаву ад свайго віртуальнага кахання. Ды аднойчы ёй прыйшоў доўгі электронны ліст, у якім Косцік напісаў, што знайшоў дзяўчыну і збіраецца з ёй ажаніцца. У адчаі Эла кінула заняткі ва ўніверсітэце і днямі сядзела за камп'ютарам, блукаючы ў сеціве. У такім стане яе ўбачыла ўніверсітэцкая сяброўка Ціна.

— Табе патрэбна вясёлая кампанія, — зашчабятала Ціна, забіраючы яе на вечарынку да Мацея Пазынюка.

І можа б Эла Брыжук і прасядзела адна на вечарыне са шклянкай віна, але трапілася на вочы Марку Янкевічу, і паміж імі праскочыла іскра. Ён адыграў у яе жыцці ролю выратавальніка, які вярнуў Элу ў рэальны свет. Яны сядзелі на вечарыне ў розных кутах, а потым апынуліся побач. Марка прынёс ёй шклянку глінтвейну, яны выпілі, і нечакана яна адчула, як захапляецца фліртам з гэтым старэйшым за яе мужчынам. Эла закінула нагу на нагу і гулліва круціла туфлікам. У той вечар яна спалучала нахабства вульгарнай дзеўкі з сарамлівасцю цнатлівай дзяўчынкі. А ён быў просты, як чорна-белая фатаграфія. Спачатку яны сядзелі ў куце, сплёўшы пальцы, і яна адчула, як прагна просяць яе яго рукі, якія гаварылі больш за вусны, і яны апынуліся ў маленькім пакойчыку, які быў завалены кнігамі, дзе ён падсунуў да дзвярэй стол, на якім Эла спачатку цалавалася, а потым не заўважыла, як аддалася яму, а ў дзверы грукала і весела крычала п'яная кампанія.

Ёй падабалася яго прастата, за якой хавалася глыбіня яго ўнутранага свету, дна якой яна не магла адчуць, баючыся патануць у бездані.

Марка быў старэйшы за яе на пятнаццаць гадоў. Ён застаўся ў васьмідзясятых гадах з іх танным партвейнам і наіўнай прастатой. За яго плячамі быў няўдалы шлюб і бізнес, але Марка не быў у роспачы, таму што лічыў: каб абудзіцца, трэба спыніцца. Ён хацеў вярнуцца да жывой прыроды, і ў гэтае падарожжа ўзяў

[1] Жылавы панядзелак – ва Украіне першы дзень Вялікага посту.

за правы людзей,
за пакрыўджаных,
за паніжаных,
за пагарджаных
рэвалюцiя
узнімаецца.

Пачалася яна ў самой сталіцы «Російскай імперіі» — у Петраградзе цывільных, а закончылася ваеннымі... Народ шчырага сэрца добрага не зцярпеў вайны — супрацівіўся і пасылаў «далой!» уладу царскую...

Бачыў, як у апошні раз, як прамчаўся ноччы цар сваім царскім поездам праз Вышні Валачок — на Петраград, а ў Балагім яго завярнулі чыгункай на Старую Руссу... Я тады саправаджаў з В. Вал. у Маскву на камісію хворых салдат. Вяду я іх на станцію, а станція кругом на адлегласці ацэпляна паліціяй, гарадавымі, не прапускаюць, кажуць «падаждаць», пакуль поезд праедзець. Нядоўга, праз некалькі мінут, на чыгунцы замігціліся ясна асветленыя царскага поезду вокны, а ў душы маёй адчуваліся гукі выразу: «у паследні раз»...

У Маскве, здаўшы ў шпіталь хворых, маючы цэлы дзень вольнага часу, адведаў Трэтьякоўскую галерэю, Гістарычны музэй, Музэй Аляксандра III, а вечарэючы — Сабор Хрыста Спасіцеля і Крэмль, злазіў (за 5 капеек) на званіцу Івана Вялікага. У Маскве, як відалася, аніякай яшчэ рэвалюцыі не адчувалася. Атданіе чэсці салдатамі афіцэрам ішло пэўным парадкам. Афіцэры, «гуляючы» па хадніках вуліц старой сталіцы, рабілі від бодрых і харабраватых воінаў глыбокага тылу, дзе бяспэчна, ніштo ні трывожыць. Ссадзіўшы хворых з трамваю на хаднік, падтрымліваючы праваю рукой за падпаху аднаго з хворых, кульгавага на нагу, спаткаўся нам насустрэч нейкі малады афіцэр у новенькай шынэлі, відаць ніколі на фронце ні бывалы. Салдаты мае пачалі яму казыраць, афіцэр жа, заўважыўшы, што я яму, як падафіцэр і не казыраю, звярнуўся да мяне:

— Ты что?!.

— Бальнога вяду! — адказаў я яму без ніякіх тытулаў.

І гэта было паследняе замечаніе, зробленае мне яго благародзіем як «ніжняму чыну». Бо ўжо калі я вярнуўся з Масквы ў Вышні Валачок, тытул «іх благародзіе» пачаў абертацца ў звычайнага «гаспадіна», а «атданія честі» — у звычайны «прывет», а грубае, пагардлівае «ты» («ты что?!.) абярнулася ў ветлівае «вы».

Вертаючыся цягніком з Масквы, мне давялося ўважна бяседаваць з двума маладымі, чыста адзетымі салдацікамі. Адзін, як відалася, быў гараджанінам Масквы, а другі — тэлеграфіст на бяздротным тэлефоне, сын дробнага памешчыка з губэрніі Цвярской. Разгаварыліся, расталкаваліся, пачынаючы з мяйсцовай тутэйшай гаспадаркі, а гутарку закончылі, укладаючыся спаць, «гісторыяй Масквы»:

— Я удзіўляюсь, как мог рускій народ терпець такога жестокага царя-тырана, Івана Грознага[1], — сказаў я.

— А как это мы тепер терпім? — вазразіў мне цвярак.

— Да ведзь тепер такіх жэстокастей мы не відзім, — адказаў я яму.

— Не відзім іх лішь патаму, что ане атбываюцца в тайне, — засупярэчыў масквіч, дадаючы: — Іван Грозный казніл людей на плашчадях аткрыта. А наш-та теперешній казніт іх в падвор’ях тюрэм, скрывая казнь на пазастаню... Но ведь Іван — это был дзікун і сумасшэдшый — нет і діва. А этат ведь образованный, інастраннымі языкамі владеет, а что он делает?..

[1] Іван IV(за дэспатычны характар празваны Грозным; 1530—1584), вялікі князь маскоўскі і ўсея Русі, першы рускі цар.

«Добра ён вас (рускіх) паказніў і ў адкрытую на зімнедварэцкай плошчадзі, як даверчывых, пад харугвамі Гапона»[1], — падумаў я, укладаючыся спаць, уздыхнуўшы.

## Загрымела пара...

Праз пару дзён распрасторыліся слухі, што царскі цягнік затрыман і не дапушчан да Петраграду і швэндаецца з канца ў канец чыгункі між Старой Руссай і ст. Балагое, а ў самім Петраградзе грыміць рэвалюцыя. А яшчэ праз пару дзён атрымліваем весткі, што рэвалюцыя змагла і што сам цар адрокся ад прэстолу і ад'язджаець як зрэдугованы ў Крым, у свае Ореанды на адпачынак... А як пазней аказалася, паехаў ён не ў Ореанды, а ўзноў у «Ставку Верховнага главнокомандуюшчага». Відаць што хацеў паспрабаваць зламаць сваю абдыкцію і сваё «царскае слова»: «Паеду в Крым, там цветы, а я люблю цветы, і там останусь» — і павёў сябе інач ы, знаць спадзяючыся на «вернаподданіческае чувство і верность прысягі» забітага вайной і дыстыплінаю нявольнага салдата. Ды напрасна... На што ўжо тут спадзявацца, калі лічны, з адборных «дворянскага проісхождения» салдатаў, «пачотный караул» для «отданія чэсті Его імператарскому Велічеству» пры «Ставке Верховнаго главнокомандованія» — ня выстраіўся і прыняў ягонае «Здаровы, рэбята!» замейсц «Здравія желаем Ваша імператарскае велічество!» вясёлаю ўсмешкаю.

Гэтак закончыў у Магілёве сваё істнаванне — Маестат царскай велічы — «імператора і самодержца Всероссійскаго», як і кожнага, штучна ўзвялічанага праз грош-пэнсіі і дыстыпліну на дэспотычным становішчы дыктатара, за якім жаўнер і народ ісці адказаліся.

Но ня доўга цар пабыў, вярнуўшыся ў «Ставку», — яго адтуль «адставілі к семье» ў Царскае Сяло, у няволю. А па ўсёй «стране і окраінам», як бытцам на Пасху, у Вялікдзень: «Хрыстос Васкрос!» загрымела «Да здравствует Свабода!»

## Выбары начальства

У Вышнім Валачку абезаружаваюць паліцію, знімаюць з пастоў гарадавых, без ніякага супраціву з боку апошніх. На мейсца паліціі, дзеля парадку, выбіраюць народную міліцію з белымі павязкамі на левым рукаве. Прыезджаець з Петраграду дэлегіраваным ад Гасударственнай Думы салдат у новым шынялі, змяняць, выбіраць і перавыбіраць у вайсковых часцях камандзіраў і фельдфебялёў, у прысутнасці міліціянэра. А вось ён і абразок гэтых выбараў.

Круглалікі, поўнатвары, з акруглістым носам, сярэдняга росту, маладжавагдаровага выгляду салдат, з дабрадушным выразам міны — гэта дэлегат. Прыехаў к нам у Паўлаўскае начальства наша нам перавыбіраць, хоць яго тут у нас і нішмат — два афіцэры, два фельдфебялі і два ўрача-ветэрынары, а ўрач медыцынскі жывець ня тута, а ў горадзе і выбары яго не касаюцца. «Найбольшым» начальнікам на нашыя каманды са «страявых» — гэта камандзір 1-га «отделенія» — сын нейкага купца з Паволжжа, які найбольш трэбаваў ад салдат «атданія чесці», — гэта «генерал Кашчанка» — прапаршчык па чыну і майстра «матушку загнуць». А найменшым — камандзір 2-га «отделенія» паручык з запасу, быўшый «гарадзкім галавой» гораду Вялікіх Лук, які, будучы з памешчыкаў, ба-

---

[1] Гапон (сапр. Гапон-Новых) Георгій Апалонавіч (1870—1906), праваслаўны святар, ініцыятар петыцыі пецярбургскіх рабочых да імператара Мікалая II і шэсця да Зімняга палаца 9 студзеня 1905 г., якое закончылася расстрэлам дэманстрантаў.

чыўшы заграніцу і заграніčную культуру, зусім ні находзіў патрэбным гардзіцца тым, што ён афіцэр і з бедакамі-салдатамі быў ветліў і лагодзен — часамі чуць ні за «пана брація».

З «нестраявых» жа над усіх, які ўсім найбольш у памяці астаўся як «бешанный», — гэта старшы ветэрынарны ўрач Ражноў — «Ражон-паповіч», які ў «срэдзе» сваіх падчынённых «чалавека за чалавека не імел» — за малейшую прычыну крычаў, ругаў, бадзяў, мацюгаў.

А вось яны і перавыбары: у 1-м бараку з двухстольнымі нарамі, перапоўненымі сідзячымі на кортачках салдатамі, узіраюцца і прыслухоўваюцца, што ім скажаць «прыезжый с Пітера депутат». «Депутат» адкашліваецца і сіліцца, каб ім сказаць як найкарацей, як найпрасцей і як найпанятлявей, але «красноречія» ў яго не хапаець.

— Меня прыслала сюда к вам Гасударственная дума, што ўжэ царя нет... Он жывёт, он есть, но ево нет... Да і... как тут выразіцца папрошчэ... что і дістіпліны тепер нет... Ана-та есть, но её нет... Пазавіте сюда свайво камандіра... Сменіть ево ілі нет?..

У прамежутку часу, пакуль з'явіцца камандзір, выступаець с «речью» міліцианэр і красамоўна апісваець салдатам, як прымкнулі да рэвалюціанэраў у Петраградзе казакі і салдаты і як яны гэта падтрымалі рэвалюціанэраў, «сражаясь с фараонамі».

Небаўна з'яўляецца ў барак і русабароды камандзір, сам «генерал-прапарщык» Кашчанка, ліцо яго бледна, куды-та румянец уцёк, але бадзёрага выгляду не губляець. А побач з ім у сваёй таўставатай прысядзістай фігуры — круглалікі Смаленіц, фельдфебель.

— Ну вот, таварішчі! — заявіў дэлегат, аглядаючыся на камандзіра і фельдфебеля, — еслі, так сказать... как бы тут папрошчэ выразіцца... еслі камандір ваш нехарошый, то можэте сменіть ево... А еслі он вам харош, то аставіть і... пакачать...

— Сменіть! сменіть! — крыкнула некалькі галасоў. Але бальшыня чамусьці маўчала...

— Ну так как, таварішчі, сменіть ілі аставіть, значіт выбрать?!

— Да хрэн с нім!.. Пусть будет... Пушчай астаёцца... — адазвалася некалькі галасоў з верхніх нар.

— А то прышлют нам взамен какую-нібудь дрянь, пахуже этава... — падцвярдзіў стары вусач з цемнаватага куту нар.

— Ну так как, таварішчі? Выбіраем ево?!.

— Выбіраем, — адказалі салдаты спакойным голасам.

— Ну, а тепера покачать ево, на «ўра!»...

Але сам «генерал», бачучы, што ніхто з нар і не шавяльнуўся, каб саскочыць па «качанне», пачаў аднекавацца:

— Не нада, не нада, у мяне парок сэрца.

Кончыўся выбар камандзіра — чарада за фельдфебелем. Но фельдфебель не даў часу на крытыку сябе і выступіў з прамовай, пачынаючы з прабачэння:

— Ізвіняюсь, таварышы, я перад вамі. Можа калі дзе каторага нялюдзкім словам абазваў, накрычаў. Прасціце мне! Не за сябе, не за сябе, а за гэтых бедных, хворых, бальных конікаў, лашадак кароставых. Яны ж, бедныя, яны ж хворыя, яны ж дагляду, яны ж уходу патрабуюць, трэбуюць...

— Давольна, давольна, аставайся, аставайся! — адгукнуліся яму з нар.

Но фельдфебель не ўнімаўся, яму рупіла, каб і надаль было добра ды не прыхадзілася за няспраўную чыстку кароставых коні із салдатамі апрыкрацца. Ён мітусіўся, размахаваў кулакамі і шчыра, сэрдэчна пацвярджаў сваё:

— Вы можа думаеце, што мне і вас ні жаль? Жаль мне й вас, жаль мне й конікаў... Яны ж бедныя, яны ж хворыя, яны ж страдаюць. Я сам іх пайду чысціць!.. Вы можа думаеце, што з мяне плахой чысцільшчык? Я па дванаццаць коняў у дзень буду вычышчаць!..

— Харош, харош, харош! — адгукнулі яму поўным баракам.

## У 2-м бараку

І тут пачынаецца з таго самага:

— У нас тепер дістіпліны нет! Ана есть, но её нет!..

Камандзір, паручык Дворнікаў ня бледзен, а румян, затое даўгавязы рязанец фельдфебель бледнават і панурліў, стаіць на пагатове к выбару. Салдаты на нарах сцясніліся ў кучу, бадзёра ловючы вухам кожнае слова прыбыўшага «аж з самага Пітера» дэлегата.

— Ну как у вас камандзір?

— Да лучшава і не нада! — усе гукнулі як адзін: — Толькі вот этую шкуру стоіла бы вытряхнуть... прагнать... вышвырнуть! Зануздать его! Не дать ему ходу! Натерпеліся мы ад яво! Он нас всех пазаездіт! — пасыпаліся «нелестныя камплімэнты» па адрасу свайго даўгавязага, даўганосага, з калючай рэдкай барадой фельдфебеля.

А фельдфебель стаіць, слухаець ды маўчыць, патупіўшы вочы.

— Ну как, камандзіра-та выбіраем?

— Выбіраем!..

— Ну так пакачать ево!..

— Уррра! — крыкнулі салдаты, саскакваючы з нар і акружаючы сабой воступ’ю свайго камандзіра ды падхапліваючы яго на рукі.

— Ура! Ура! Ура! — грымелі салдаты, падкідаючы ўгору свайго камандзіра, у якога ад расчулінасці аж слёзы з воч пасыпаліся і пацяклі па ягонаму акруглястаму, вечна ўсмехаючаму румянаму твару.

— Другой раз меня выбірают. Первый раз — на гарадскова галаву, а тепер — на камандзіра, — сказаў камандзір дэлегату, абцераючы з твару слёзы белай хустачкай.

Што тварылася далей з выбарам фельдфебеля — ня быў сведкай, быў на гэтый час выйшаўшы з бараку, толькі ведаю, што пазаставілі і яго.

Найгарэй было ў выбарах начальніка ветэрынарнага лазарэту — «Ражну-паповічу». Як толькі з’явіўся ў лазарэце дэлегат і аб’явіў выбары старшага ўрача, увесь ветэрынарны персанал закрычаў:

— Араштаваць яго, араштаваць!

Ухапілі фельчарскія вучні з піраміды вінтоўкі, якімі разстрэльваліся «неізлечымыя» кароставыя коні, і ўзялі пад стражу начальніка лазарэту. Як усё адбывалася — я не быў пры гэтым, але, як расказвалі: «Ражон-паповіч, калі ўвідал себя арестованным, сразу пал на калені, слажіл рукі как на малітву, начал біть перад всемі паклоны, ізвінятца да прасіцца — прася прашчэнія... раскаялся, чуть ні заплакал і дал слова, что нікагда нікаму худога сквернага слова не скажэт — ну і прастілі... Астался тем, кем і был...»

## Дзень Свята свабоды

Быў вызначаны 10 марца на гарадзкім пляцы ў Вышнім Валачку дзень Свята свабоды, куды мусілі сайсціся ўсе вайсковыя часці, належачыя да мясцовага гарнізону, у тым ліку і наш Паўлаўскі конскі запас, які знаходзіўся ў асадзьбе калісь заможнага двору Паўлаўскае, у паўтары мілі за горадам.

Да гэтага свята падгатаўляліся ня толькі вайсковыя, але і цывільныя, у крамах гораду былі раскуплены ўсе чырвоныя тканіны, а асабліва шаўковыя.

Гатовіўся спешна і наш Паўлаўскі запас, было закуплена падвойнае палотнішча, даўжынёю каля двух метраў, ярка-чырвонае палотнішча запраўднага шоўку. Свае сталяры зрабілі-вытачылі да яго даўжэзныя «дрэўцы». Праўцы прыняліся абрубліваць і нашываць, а мяне запрасілі нарысаваць на ім прыгожую напіс «Свабода», якія яны ўжо паспелі бачыць на ўжо гатовенькіх штандарах часцей гарадзкога гарнізону.

— А ці няможна было б нам напісаць гэта самае ды па-свойму? — звярнуўся я да салдат.

— Прыдумайце, мы вам дапаможам... Как прыдумаете, так і ладна... лішь бы слова «свабода» не ўпустіть, — адказалі мне салдаты.

Я напісаў:

«С нами народъ,

И мы съ народомъ».

«Да здравствуетъ свобода!»

— Харашо! — адобрылі салдаты.

А на заўтра я выйшаў палюбавацца з поля, як падчышчаныя, падбодраныя, пастроіўшыся ў рады, салдаты паняслі маё знамя па дворнай бярозавай алеі ў горад на Свята свабоды. У душы маей ускалыхнулася нейкая таёмная радасць, уцеха, гледзючы на высока падняты з (?) штандар, які выплыў з бярозавай алеі на поле, вядучы за сабой сотні бодрых, адчуўшых сябе за людзей...

А праз пару гадзін штандар красаваўся побач з іншымі штандарамі на перапоўненым калоннамі войска і публікі цывільных пляцу Свабоды, на якім узвышалася дэкар. трыумфальная арка з раскутаю ад ланцугоў дзеваю на версе, а пабапал асвабоджанай дзевы — работнік з молатам і салдат з вінтоўкай. А пад брамаю той быў устроен аўтар, пры якім тры ў залачоных рызах духоўнікі адпраўлялі малебен, які закончыўся троекратным прыпевам «Хрыстос Васкрэсе!» І ў запраўднасці гэтый радасны дзень прыпамінаў для ўсіх «Вялікдзень» — дзень пабеды ўваскросшых правоў чалавечых. Нават прырода і тая пайшла на спатканне свабодзе, на спатканне правам чалавечым. І ціха, і цёпла і сонца свяціла ў гэтый дзень, як на дзіва. А на тварах як вайсковых, так і цывільных свяцілася нейкая радасць. Парадак на пляцу быў абразцовы, ні было ні суталак, ні гоману. Гэта сведчыла аб даспеласці вышавалоцкага грамадзянства, якое ў гэтый дзень апранулася, прыбралася ні па будняму, а як на вялікае свята, і кожны з іх меў на грудзях сваіх прышпіленай чырвоную лентачку, у мужчын банцікам, а ў кабет — бутончыкам. Усё кругом было красіва і атрадна...

А калі нашыя паўлаўцы верталіся са Свята свабоды дамоў, у сваё Паўлаўскае, то начальнік вышавалоцкіх конскіх запасаў, палкоўнік з украінскай фаміліяй (чалавек добрый і далікатный) дагнаў конна нашых паўлаўцаў аж за горадам, каб падзякаваць ім за «соблюденіе порядка», крыкнуў ім на прашчанне: «Не нада нам царя!.. Абыйдзёмся і без яго!»...

С паўдня, па абедзе, у залі вышавалоцкага народнага дому зыйшоўся, абраўся мітынг (веч) пад кіраўніцтвам павятовага агранома... На мітынгу выступіў урач з гарадзкой бальніцы доктар Папоў, які ў дзень Свята свабоды на пляцу кіраваў парадкам, які моцна дзякаваў публіцы так сама за «соблюденіе порядку», а між іншым аб’явіў, што вярнуўся з заграніцы «Вождь соціал-демакратіческой партіі таварішч Ленін», дадаючы: «Это велікій деятель!..»

Там жа пазней паказаўся на залявай сцэне ў адзежы выпушчаны з цюрмы арыштант, які ўжо днём выступаў з прамоваю на вуліцы, крытыкуючы цара Мікалая, называючы яго «Мікалашкай» і лісліва заявіўшага: «Ему мала адной смерті, ему надо сто смертей», — цяпер ён тут на сцэне ўжо ні выступаў сам, а перадаў праз кіраўніцтва, што «вышневалоцкія граждане очень холодно встретілі нас, выпушчэных із тюрем».

— Аткуда мы знаем, кто за что сідзел, — загаварыў з публікі нехта ззаду, шопатам.

— А может быть другой проста за крадёж, — заўторыў яму, так сама шопатам, другі.

Выступаў адзін малады неблагі гаварун і ад работнікаў, але з публікі ніхто ні заахвоціўся забераць голас, узлезаць на трыбуну, затое праз тыдзень, у наступную нядзелю тут было гаваруноў.

Петраград і Вышній Валачок аказаліся найпершымі «закріпітелямі свободы», толькі з той розніцай, што Петраграду дасталася свабоды з напружанага крывавага бою, Вышняму ж Валачку дасталася яна без аднэй каплі крыві, без ніякага бою.

Нездарма ж у Петраградзе распрасторыліся слухі «в печаті», што высланыя мяйсцовым вайсковым гарнізонам на павет агітатары творуць нейкую «Вышневалоцкую рэспубліку». Нават паявілася на гэтый час свая ўласная мяйсцовая штодзённая газэта «Вышневолоцкое эхо» і г. д. Калі б Масква не паддалася пад уплыў адваёванага рэвалюціяй Петраграда, Вышневалоцкая краінка ўжо гатовілася зрабіцца аванпостам на карысць апошняга.

Не пайшла б так лёгка, так адразу насустрэч пабеданоснаму рэвалюціянэру — Петраграду такая вялікая краіна, як «Российская імперія», каб нязмучаны вайной салдат ды Государственная Дума, якая, яшчэ загаддзя прадчуваючы гібель царызму, падгатовіла сама сабе грунт пад кіраўніцтва вынікамі спадзеванай рэвалюціі, каб заслужыць ад усіх к сабе любоў і павагу на доўгія часы, калі б ня гэтая сусветная вайна безканечная, якая падобна Дамоклаву мячу вісела над усімі «састаяшчымі на учоту» ды замейсц возгласу «Да здравствует свобода!» ні паявіўся «неожиданный возглас: «Долой бойню!..»

Як ні міла была для ўсіх жадаючых свабода, спароджаная феўральскай рэвалюціяй свабода, але для нас, беларусоў, як і для многіх іншых «інародцаў», яна мала для нас чаго абецала, і ніхто са спадковічаў улады па загінуўшым царызме, каб аддаць нашае нам без бою, не згаджаўся, і калі пры «Временном правітельстве»[1] сабралася ў Маскве «Государственное совешчаніе» ды выступіў на ім прадстаўнік ад беларусаў, «разложил свои тетрадки», як гэта пісала адна са сталічных газэт, грамадзянін Варонка[2], усё «Государственное совешчаніе» зашумела і затупала нагамі, каб не даць яму гаварыць. І з таго часу сымпатыі да «Государственной Думы» пачалі астываць, і калі прыйшлі на іх больш сільныя і здэтронізавалі іх, не даючы ім пасля гэтага месца нават і «тетрадок разложить», аднаму з беларусаў прыпомнілася крылоўская прыказка: «Хоць вы былі і ў новай кожы да сердца в вас было одно і то же». І нам, белорусам, як «іншародцам», спадзевацца ад вас на поўнае «самооопределеніе» бяз бою было нечага...

Свабода. Свабода — гэта брама з няволі, якую адчыніў нам вялікі феўраль, ды не надоўга...

А вось і мае «стіхі», якія я пісаў пад уражаннем расейска-японскай вайны ў 1904—1905 гг., будучы падуросткам, ужо тады жадаючы для ўсіх міру і свабоды:

Да стихнет гроза боевая,
Да воцарится мир у нас,
Да воцарится тишь святая
Межъ бело-желтых племень-расъ.

Настанет время тишины,
Народъ забудет век тревоги,
Только кровавый следъ войны
Ожесточитъ людямъ дороги.

---

[1] Часовы ўрад у Расіі, цэнтральны орган дзяржаўнай улады пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Скінуты ў лістападзе 1917 г. пасля кастрычніцкага перавароту.

[2] Язэп Варонка (1891—1952), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, журналіст, публіцыст. Прымаў актыўны ўдзел у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. У лютым — ліпені 1918 г. старшыня Народнага сакратарыята Беларусі, адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пройдут, промчатся временъ годы,
Когда въ стране нашей Отчизны
Засветить ясный первый луч свободы
Предъ книгой новой нашей жизни.
Папраўляючы:
У входа новой нашей жизни…

## Канец службы…

Весну 1917 г. праводжу ў тым самым Паўлаўскім у войску. У пачатках лета пачынаю сябе адчуваць на здароўі і надта рэзка худзею. Стараюся падлечаваць сябе шпацiроўкамі па вольнаму паветру, наносючы сабе ў памяшканне ў старым мурку двору дзеля чыстаты паветра рознай зеляніны, а найболей смалістых лапак сасновых, якія я што дзень хадзіў ламаць тут з дзвюх бухоністых сосен, якія тут раслі на Іваноўскім полі, адкуль адкрывалася панарама акружаючых лясоў, цераз якія красаваліся вярхі пяцікупальнай царквы Вышневалоцкага манастыра, якая мне за чатыры гады паказалася ў васне на загаданае мною пытанне, «дзе я кончу ваенную службу?»

Аднойчы падхаджу я да гэных дзвюх хвой і што я бачу: учора тут быў і бачыў іх абедзве роўна зялёнымі, а сягодня адна з іх, як бытцам ад полымя агню, праз адну ноч, засохла, усе іголкі на ей зжоўклі, парудзелі і высахлі. Засохла, загібла сасна, ад якой я часамі ламаў сабе веткі — прыйдзецца і мне тут, на чужой старане, засохнуць, загібнуць і гэтым закончыць тут сваю ваенную службу. І пасля гэтага назаўтра ж я звярнуўся да свайго доктара, Янзона, які наведаваў тут нас з гораду — раз на тыдзень. Доктар прызнаў у мяне нэўрастэнію і паслаў мяне ў Маскву на лекарскую камісію, дзе я атрымаў два месяцы звальнення дамоў на адпачынак.

Карыстаючыся з гэтай паездкі я меў можнасць агледзіць старадаўнейшую расейскую сталіцу і Крэмль з яго цеснымі ды цьмянымі царквамі і нізкастольнымі «распіснымі» палатамі ды яшчэ раз галлерэі і музеі, ні прамінуў, каб ня з’ездзіць трамваем і на Вераб’інныя горы, каб адтуль глянуць на прыгожы абраз з Першапрыстольнай праз падзорную трубу.

## «Парад рэвалюціі»

Вярнуўшыся з Масквы ў сваё Паўлаўскае, упарадкоўваю тут свае справы, забіраю свой «бюст Гарыславы» ды скрынку з калекціяй сабраных мною акамянеласцяў, адважу іх, карыстаючыся з часу і недалёкасці, у Петраград для «Загляне...»[1] на заховы і пападаю там якраз на вялічэзны «парад рэалюціі», які адбываўся 28 іюня, паходам ад самага маскоўскага вакзалу па Неўскаму праспекту, па Садовай цераз Марсавае поле.

Заставіўшы свой цяжкаважкі багаж у «ручным багажы» на вакзалі ды зрабіўшы сабе невялічкае снеданне ў нейкім небагатым «трактірчыку» непадалёку Пушкінскага скверу, дзе бюст Пушкіна стаіць, вярнуўся на Неўскі, у канцы якога на воддалі блішчэла залатым шпілем на версе «Адміральтейская ігла»... Напраўляюся Неўскім у цэнтр горада... На дарозе то там, то сям, на асяродку шырачэзнай з васьмігранных дзераўляных калодак маставой Неўскага ўжо стаялі напагатове к паходу шчыльна пастроенныя калонны параднікаў, маніфэстантаў, з белымі транспарантамі, на якіх чарнавацелі многаслоўныя напісі, між якімі першай кінулася ў вочы, пазастаючыся ў памяці «парад рэвалюціі», які пачынаўся са слоў: «Не мир,

[1] «Загляне сонца і ў наша аконца».

не мир с Вильгельмом, а…», далей цэлая «дюжіна» слоў, якіх найпэўні што апроч мяне ніхто і не перачытаваў. «І многаслоўна і нясклёпіста», — падумаў я. Іду далей, чытаю іншыя, і там тое самае. Чытаў, чытаў, ужо надаела і чытаць — усе яны адно і тое самае — «жадаюць міру бедакі», — сказаў я ўслух, напраўляючыся з Неўскага Садовай на Марсавае поле магілу паўшых рэвалюціянэраў агледзець, якія здабывалі свабоду для нас, жыццё сваё тут палажылі.

Магіла змагароў за свабоду ў той час была яшчэ неабстроена — кучкі выкапанай зямлі, дашчаная абойка, над магілаю чырваніцеў агромны шоўкавы штандар з апракінутым уніз галовамі двуглавым арлом, з галоў якога валіліся ўніз залатая карона і каронкі, а ў версе штандару абазначалася напісь: «Академія художеств». А каля магілы стаяў з маладых вайсковых у элеганцкіх зашчытнага колеру вопратках пачотны караул.

Па аглядзе штандару Акадэміі мастацтваў я адыйшоўся у бок, на панэль Садовага і пачаў прыглядацца к рушыўшаму ў паход параду рэвалюцыі. Я прыхіліўся да зялёнага тыну, на якім пабліскавалі залачоныя голкі ў версе, і мне прыпомніліся аднашкольнага калегі Поля словы, чутыя ім ад нейкага француза ў Парыжы, дзе ён бываў, якія ён мне ні раз паўтараў на пазагародных прагулках г. Саратава, парасейску: «Вот рэвалюцыя, так эта красата!», — як зараз, небаўна, крануўся нехта майго пляча і загаварыў:

— Какімі судьбамі вы тут?..

Глядзь я направа, на зачапіўшага мяне прылічна апранутага ў штацкім гаспадзіна, прыгледзіўся ў дэлікатныя рысы ягонага твару і як на дзіва абазнаў у ім толькі што ўспомненага Поля.

— А вы ж якімі?..

— Служу віц-лекарам у тутэйшым лазарэце Георгіеўскіх кавалераў, за Нявой...

Мы абменяліся «рукопожатіем», ды паправіўшы сваю чорную шынэль у накідку, пачалі агледаць паход.

Над магілаю Афяр лютаўскай рэвалюцыі ўзабраўся з апаратам фатограф, які знімаў (ці фільмаваў) кожную групу паходнікаў са штандарамі ды транспарантамі і белымі, і чорнымі, і чырвонымі. А выгукаў колькі і розных — і «Далой десять міністров, капіталістов!» і «Далой капиталистическій строй», і «Смерть капитализму!», і «Да здравствует анархізм», і «Да здравствует анархистическое общество!» на чорных экранах.

Вось ідуць пад чорным штандарам анархісты трымя калонамі, адна за аднэй. У першай калоне народ малады, апрануты бедна, твары печальныя і многа худых. Пры астаноўках азіраюцца на акружаючую публіку недаверчыва, як бытцам сцеражучыся, каб яна на іх не напала, глядзяць на яе з падлоб'я. У аднаго відаўся пад палою цаўё пісталета, а ў другога — штылет у похве. А навокал іх ездзіць на коніку-пашнічку, без седла, круглалікі, караністы, з досыць бодраю мінай ахраняч, які сваім сыценькім гнядзьком адціраець ад калонны сваіх таварышаў налегаючую публіку «любопытных».

У другой калонне, так сама пад чорным штандарам, паходнікі больш нармальнага выгляду і без ахароны. У трэцей жа калонне пад чорным штандарам — зусім нармальныя, бодрыя, вясёлыя твары, між якімі ў задніх радах, сіяючы радасцю мінай, побач з круглалікаю, румянаю, чыста рускага тыпу дамай, досыць плотны, сярэдняга росту, сівабароды, з серабрыстаю грываю валос, румяны і бодры старычок — сам князь Крапоткін[1].

Прайшлі... Ідуць яшчэ і яшчэ калонны за калоннай, ня робючы моцнага ўражання. Пад астатак надходзіць і адзін за адным з вайсковых эскадрон кавалерыі на конях гнядых, а наперадзе адзін круглалікі, з чыста рускім ліцом камандзір. Астаноўка.

---

[1] Пётр Крапоткін (1842—1921), дзеяч расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху, тэарэтык анархізму.

— А ведь это всё рэвалюціанеры, — заўважыў мне Поль, звертаючы маю ўвагу на буйнарослых, у гімнясцёрках «зашчытнага цвета», сідзячых на конях маладцоў.

— Кабы жа рэвалюціанеры, а то большевікі... — заўважыў яму нехта з незнаёмых побач, з публікі.

Працэссія ўзноў рушыла ў бок Нявы, маршыруючы цераз Марсавае поле, за якім ухмыляючыся панурліва пагледалі на бадзёрыя рухі паходу ўгрумыя цёмныя сцены «інжэнернага замку», як быццам сабою хаваючы нейкія гістарычныя тайны ад вока людзкога.

Дзень Свята «Параду Свабоды» (28 іюня 1917 г.) здарэнна саўпаў з днём звальнення майго назаўсёды ад ваеннае службы ў арміі расейскай, якая пратрымала мяне ад восені 1910 году без пярэрвы ў запасе аж каля сямі гадоў, а гэта ўжо спорны кавалак часу, адорваны ад майго жыцця маладога на волі. 7 гадоў жыцця ў падняволлі аддаць «за веру» чужую, за «царя чужога» і за «Отечество», у якой «Беларусь», на якой я ўроджан, была паднявольнай, а я сам у ёй «яко пасынак» ня меў нават і ўласнае хаты, каб дзе мець на старасці лет галаву прытуліць — балюча...

Нездарма я й так цешыўся з доўгажданнай у няволі — Свабодай.

Мячты мае, хоць не надоўга, ды збыліся:

І засвяціўся ясны луч свабоды,
Скрозь браму нашага жыцця...

## У Эрмітажы і Зімнім дварцы

У Петраградзе я прыбываю ўсяго тры дні часу з афяраваннага мною на агляд што ёсць лепшага, цікавейшага ў гэтым праслаўленным Пушкіным горадзе, пачынаючы з агляду Эрмітажу, «дзе каменны Вальтэр як жывы жывых гасцей вітаець». Агледзіў часць нутра і Зімняга дварца, пачынаючы ад бронзавай вазы з кітайскім драконам скрозь зал-рэтонду, дзе «самодержцы Всероссійскія» міністраў сваіх прынімалі, і спальню Аляксандра другога[1], абязвечанага нашым земляком з Віленшчыны Грынівіцкім[2], заканчваючы царскаю сталовай з «падаркам» ад прусскага караля загаддзя вяшчуючай «на добры апэтыт» зялезнаю гарматкай ды ўвешанымі так сама «на добры апэтыт» карцінамі ваенных подвігаў з «жывым мастом» на чале, дзе людзі корчуцца ад болі пад цежарам конскіх капытоў і колаў гарматы. Тут жа «салдат петровскаго времені» з адарванай гранатаю рукой як «верный прісягі» яшчэ запаліваець фітіль у зараджанай гармаце, з аборваным акрываўленым плячом, якраз пад густ «ради апетиту» державного «вождя» з наследнікам.

У Эрмітажы стаяла многа мольбэртаў з экранчыкамі, на якіх відаліся картачкі і сургучныя печаткі хто і што капіруець. К аднаму з пасівелаю бародкай художніку, які перазнімаў старынны партрэт ангельцкіх мастакоў работы, я падыйшоў і, прыкмеціўшы, што ў ягонай копіі залішне феолетавага тону, звертаюся:

— Слішком красочно...

— Значіт не совсем харашо, — адказаў ён мне прыветлівым тонам.

— Какое множество старіннава іскусства, — заўважыў я ўслух, азіраючыся навокал.

— А ведь всё это «таварішчі» хатят унічтожыть, — заўважыў мне старык.

---

[1] Аляксандр II (1818—1881), расійскі імператар з дынастыі Раманавых. Забіты народавольцам Ігнатам Грынявіцкім у Санкт-Пецярбургу.

[2] Ігнат Грынявіцкі (1855—1881), рэвалюцыянер-народаволец, член партыі «Народная воля», адзін з заснавальнікаў яе беларускай фракцыі. Выканаў смяротны прысуд над расійскім імператарам Аляксандрам II, кінуўшы яму пад ногі бомбу і смяротна параніўшы сябе.

— Не думаю, чтобы оне все былі такімі уж дікарямі... А впрочем неужто нету более беспечнага места, куда бы можна было б всё эта перенесті на сахраненія? — адказаў я яму, бяручы пад увагу «імслівую чэрнь» з вуліцы — з варамі і хуліганамі, для якіх «всё равно» і «нядорага нішто», — тым болей, што гэтый Эрмітаж непадалёку, хоць і быўшага, але царскага дварца... узераючыся ў скрозьстольныя асветляючыя залю вокны зверху.

— Самі вы, как умный человек, відете, что тут не дуракі строілі, — заўважыў мне старык, душа якога, як художніка, моцна скарбіла за захаванне векамі сабранае працы старадаўнейшых мастакоў і ў асобе маей, як салдата, ён спадзеваўся аднайсці абараніцеля гэтае працы.

— І між «таварышчамі» знойдуцца культурнейшыя людзі, што абаронюць, — сказаў я на развітанне старыку, мастаку з раз’ясняючаю мінай.

А ў «Зімнім дварцы» (з «трубачыстамі» на страсе), праходзючы адным з ягоных бакавых з вокнамі калідораў, дзе стаяла канапа з прадзёртаю спіной, на на якой скрозь прадзёрты цёнкі чырвоны шоўк рудавацела джутавая мяшына. Адна з «пасітітельніц» звярнула ўвагу:

— Сматріте, сматріте, кто-та діван абезабразіл.

— А кто бы ево тут мог абезабразіть, как ні с царіцаю Распутін[1], — «падастріл» адзін з «пасітітелей».

## За Нараўскай заставай

З’ездзіў аж за Нараўскую заставу з аднайджанымі тут пляменнікамі аглядаць завод-фабрыку плавучых мін, дзе яны працавалі, адзін як токар, а другі як слёсар — спеціаліст па абработцы халоднага зялеза, свердлаваў дзіры ў нейкіх клямках для плавучых мін. Абвялі мяне ўвесь завод з цэлымі калідорамі станкоў, якія ў гэтый час паражнавалі, толькі два з іх, аўтаматы, працавалі без пастаяннага наглядчыка. Адзін стругая зялезных пліт, а другі наразая крайзавых піл рабром наждачнага тачыла. Но самае цікавае, як пры дапамозе струі кіслярода спаявалі агромністыя палукулі адціснутых пад прэсам катлавін — брыж да брыжу. Бадзялая, іржаватая зялезная драціна так і топіцца, сцікаючы як воск, заліваючы сабою міжбрыжную шчыліну.

Бачыў тут іхныя напальныя нафтаю для напалівання зялезных часцін печы, а побач з адной з успомненых печаў і свярдла, пры якім працаваў мой пляменнік, Ян Талят-Калыш, як уцекач з Лібавы, састаючы тут на ваенным учоце, як ваеннаабязаны, і ў кожную хвіліну мог быць пазваным, разам з іншымі, на фронт, праз падмену іх інвалідамі...

— Па сколькі плоцюць вам ад дзіркі? — узцікавіла мяне.

— Па дзве з паловай капейкі, а за пару дзірак, разам, пяць капеек.

— А па колькі іх за дзень можна высвердліць?

— Па дзесяць пар у гадзіну, а разам за цэлы дзень працы пар восемдзесят.

— А каб болей за сотню?

— Магу зрабіць, управіцца і штук па двесця, але не раблю. Не раблю за тое раз, што не аплоціцца, бо прыйдзець інжэнер, які увідзець, то зменшыць мне плату паштучна, так што я ўзноў больш пяці рублей за дзень не зараблю, а ў абавязак мне паставіць рабіць па двесця штук. А другое, самае важнае, што я гэтым сваіх таварышаў па фаху падвяду, і яны так сама па столькі сама мусяць выраблять...

Пасля гэтага пляменнік павёў мяне к сабе на кватэру.

---

[1] Рыгор Распуцін (сапр. Новых; 1864 ці 1872—1916), фаварыт расійскага імператара Мікалая II і імператрыцы Аляксандры Фёдараўны. Сібірскі селянін, які мянушку Распуцін атрымаў за разгульнае жыццё. Забіты ў выніку змовы прыдворнай знаці.

— Ідзём чайку пап'ём на маёй «дачы» на сваях, дзе замейсц траўкі-мураўкі зялёная ціна пад падлогай.

Ну і праўда. Як падыйшоў я да ягонае хаты, аж мяне і скаланула. Перада мной зазеленавацела глыбокае гнілаводнае ціновае балота, а на ім як бытцам на нейкіх Малайскіх астравах тарчэла ўся на сваях дашчаная хата, унутры якой як у нейкі «зачараваны замак» вела кладка-дошчатка, якую ў любы момант можна было зняць і аказацца з усіх бакоў непрыступным. Але для здароўя, здароўя?..

## «10 тысяч пленных»

Ідучы назаўтрае з раніцы праз цэнтр гораду, я наткнууся на таўпу, якая хто з энтузіязмам, а хто «так сабе» стаяла і чытала-перачытавала аграмадны плакат з тэлеграммай з фронту «Действующей арміі» над дзвярамі рэдакцыі нейкай газэты, на якім красавалася буйнымі чырвонымі літэрамі напісь: «10 тысяч германцев захвачено в плен».

Адзін нейкі даўгавязы, рыжаваты ў твары, англіцкага тыпу гаспадзін адважыўся сказаць:

— Это всё неправда, это всё врют!

Ох як ушчухаліся некатарыя з публікі:

— Вы как смеете так гаварыть!..

А даўгавязы сваё:

— Неправда, неправда!.. Ані врут!

— Ареставать ево, ареставать, пазвать міліціанера! — загаманіў нехта з публікі.

Небыўна з'явіўся і міліціанер у выпалаваўшай гімнасцёрцы з белай павязкай на левым рукаве і з рэвальвэрчыкам пры боку.

— Віш ты какой, віш ты какой, победы не жэлаеш! Машэннік этакій, — пачала лаяць даўгавязага побач са мной стаяўшая на шырокай панэлі, прылічна адзетая, з мілавідным, маладжавым акруглястым ліцом грудавастая дама.

— Аставте, мадам, стоіт лі расстраівацца, — заўважыў я гэнай даме.

— Да вы прісматрітесь, да у него і фізіономія та не руская, — заўважыла дама мне, усміхаючыся.

Як зараз прэцца ды й астанаўліваецца прынізісты таўсты з абалдавястым, таўстым, мясістым круглым носам, сівавусы, у серабрыстых эпалетах генерал з белымі бакенбардамі. А дама генералу:

— Вон тот гаваріт «неправда!», что нашi в плен берют.

— Негадяй! Падлец! Мерзавіц! — пачаў сыпаць, сярдзіта гаркаючы, генерал, аж таўсты нос ягоны тросся, па адрэсу сказаўшага «непраўда», вылупіўшы на яго сярдзітыя вочы. А даўгавязы стаяў і выслухаваў ругань генерала з нейкаю скрытаю ўсмешкаю на твары, аж пакуль ні падбег к яму міліціант ды, дакрануўшыся ягонага локця рукою, ні павёў яго «па предпісанію».

Я паглядзеў на рассерджанага генерала дый падумаў: «Ці варта табе, старычок у мундзіры генерала, пры сівой галаве ды тым болей у цяперашні час неспакойны, выліваць сваю злосць з такой руганню, якой пара даўно ўжо мінавала і цяпер на руганях далёка не заедзіш — яна адыйшла дуракам-хуліганам, а на ейнае мейсца прыйшлі цярплівая стойкасць і розум з асцярогаю. А гэты, якога ты толькі што зараз ні з таго, ні з сяго, ні разабраўшыся з дзелам, «харобра» выругаў, найпэўні што нейкі партыец, у задачах якога — «ня трэба вайны!» Калі дама стыдзіла яго, ён краснеў-чырванеў, а на ругань тваю адазваўся з пацехай, «с улыбкай», не страшася тваіх эпалет. Сягодня яго павялі пад арэшт, а заўтра ён волен і, карыстаючыся з права вольнага слова, у помсту за ругань тваю пойдзець разам з другімі крычаць: «Далой бойню!.. Даві генералов!»

Не раззыбавай дрыгвы пад нагамі, бо на дрыгве стаіш.

## У суполцы «Загляне сонца і ў наша ваконца»

Трымя нарошчамі наведаў я нашую беларускую выдавецкую суполку, у часы майго побыту ў Петраградзе, з дабрадушным і сымпатычным, адзыўчывым і бодрым старычком, прафэсарам (лінгвістам) Броніславам Ігнатавічам Эпімахам-Шыпілам, нямала з якім яшчэ з мінулага (1916) году меў прыемнасць вясці перапіску і ад якога я меў две фатаграфічных картачкі з ягонай адабаю, з вусамі. З'явіўся я туды, у Петраград, вечарам, мяне сустрэў невялікага сярэдняга росту, у цёмна-карычнівым начным халаце з мяккаватымі туфлямі на нагах, паўнаваты, з лагоднаю мінаю брытавусы старычок.

— Ці ні магу павідзецца з Броніславам Ігнатавічам? — спытаўся я яго, дабаўляючы хто я.

— Я сам за яго, — адказаў мне Бр. Ігн. жартаўлівым тонам, паціскаючы мне руку.

— А куды ж дзеліся вашыя вусы?

— Сягодня мяне напаткалі дзве нячывелі: адна нячывель у сваей бібліатэцы, хацеў дастаць кнігу, нага самкнулася з падстаўленай драбінкі, упаў. А другая — прыкурываў ад свечкі папяроску, узяў ды адзін вус спаліў, а з адным вусом хадзіць, як ведама, няспрытна, узяў ды зусім згаліў...

Сказаў і павёў мяне ў другі пакой з пакрытым саматканным белым абрусом, доўгім сталом, на асяродку якога стаяў падхлебны тазік з перасохшымі скібкамі ды скарынкамі сітняга хлеба. А каля сцен гэтага пакою стаялі шырокія, з ашкленнымі рамавымі дзвярамі цёмна-карычневыя шафы з паліцамі тоўстых кніг у скураных цёмных пераплётах. На аднэй сцяне вольнай вісеў малёваны партрэт нейкага прафэсара індуса і фотаграфічная картачка студэнта каталіцкай Духоўнай акадэміі кз. Гадлеўскага[1], а на другой — малюнкі мастака-самавука Галубка[2] і тры мае, у самадзельных рамках, сымбалістычнага зместу, абразкі: «Дух усходу» (раскол), «Скрозь агністую браму» (падзелы) і «Брама на волю» або «1917 г.» (пяці... лучня). А ў адным з куткоў каля акна стаяў столік і этажэрка з альбомамі фотаграфіяў беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, дзеячоў і калекцыя маіх рысункаў, перасланых сюды ў мінулым годзе.

Бр. Ігнатавіч усадзіў мяне каля столу і пачаў жаліцца:

— Вы ня ведаеце, што тут у нас дзеецца... Сядзіш ды й баішся, каб на кватэру тваю ні напаў, ні прысабечыў ды гэтую маю праз усё маё жыццё збіраную бібліатэчку ні разбурыў... Анархістаў у нас тут неспарылася, дамы захапліваюць...

— Напрыклад?..

— Ну вось... Дварэц артысткі Кшэсінскай[3] захапілі... Ну ніхай сабе захапілі для Дурнаво[4], дык гэта благі чалавек, але нашто Кшэсінскай? Што яна каму зрабіла благога?..

«Ды ж для такіх як цар Мікалай, апрача добрага, нічога благога, хіба ж толькі для ягонай царыцы, калі рэўнавала», — падумаў я сабе, дабаўляючы:

— І на што ёй ды аднэй дварэц салёнаў? І анархістам трэба ж дзе-небудзь жыць.

---

[1] Вікенцій Гадлеўскі (1888—1942), адзін з кіраўнікоў беларускага хрысціянскага і незалежнага руху. Закатаваны гестапаўцамі ў снежні 1942 г.

[2] Уладзіслаў Галубок (сапр. Голуб; 1882—1937), беларускі тэатральны дзеяч, драматург, рэжысёр, мастак, першы народны артыст Беларусі (1928).

[3] Мацільда (Марыя) Кшасінская (1872—1971), артыстка балета, педагог, заслужаная артыстка імператарскіх тэатраў. Выступала ў Марыінскім тэатры ў Санкт-Пецярбургу, а таксама ў Монтэ-Карла, Варшаве, Вене, Парыжы.

[4] Напэўна, размова ідзе пра Пятра Дурнаво (1845—1915), расійскага дзяржаўнага дзеяча, дырэктара дэпартамента паліцыі, міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі з кастрычніка 1905 па красавік 1906 года. У перыяд рэвалюцыі 1905 г. з'яўляўся прыхільнікам жорсткіх мер у барацьбе з іншадумцамі і бунтаўшчыкамі.

— Каб жа анархісты ды з анархістаў, а то з сышчыкаў, якім цяпер німа куды дзевацца, да і туды панабівалася...

— А князь Крапоткін? — заўважаю.

— Вось жа ён якраз да іх і не лучаецца!.. — заўважыў мне прафэсар нейкім асаблівым добрым тонам, як бы ўзцешыўшыся слаўным іменем Крапоткіна, ня толькі як знамянітага расейскага анархіста, але як і паважнага высокакультурнага чалавека, чалавека навукі.

— І анархісты цяпер патрэбныя людзі дзеля палітычнай раўнавагі, — заўважыў я прафэсару-старычку, які быў напуджаны анархістамі праз рэакцыйную сталічную прэссу, якая ўсцяж трубіла аб «захвате анархістамі дачы генерала Дурнаво».

— Будзьце спакойны за вашую кватэру, — успакоіваў я старычка, — такіх кватэр, як ваша, у Петраградзе дзесяткі тысяч, німа чаго баяцца... ёсць лепшыя за вашу...

Браніслаў Ігнатавіч усміхнуўся і перайшоў на іншую гаворку. Паказаў мне падарак ад паэта Янкі Купалы[1], нейкую брожку з белым профілем кабеты ў медальёне. Паказаваў і цешыўся з нейкай альховінкай разьбаванай галоўкі, работы вясковага пастушка. А нарэшце, падаўшы мне альбом фатаграфічных партрэцікаў беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў, пачалі мы разглядаць. Між партрэтамі я абазнаў нашых ужо здаўна мне асабіста знаёмых з часоў нашаніўскае пары Янку Купалу, Ластоўскага[2], Уласава[3], Ігната Буйніцкага[4] і двух братоў Луцкевічаў[5].

— А вось гэтага вы ці знаеце? Гэта ж наш жыдок, запраўдны жыдок з Даўгінава, вучыўся на рабіна, а выйшаў на здольнага беларускага паэта, прыглеДзьціся к яму, — цешыўся Браніслаў Ігнатавіч, што ўжо і жыдкі робюцца шчырымі беларусамі, а нават і здольнымі беларускімі пісьменнікамі[6].

А на астатку чытаў мне аршынавай даўжыні рукапісь гумарыстычнага зместу верш-паэму на тэму першага паседжання ў Петраградзкім беларускім камітэце[7] нейкага беларуса-старычка, які к яму тут часта прыходзіў ды няведама дзе дзеўся.

— І куды б ён дзеваўся... — бедаваў Б. Іг., — ужо больш тыдня як да мяне сюды не заходзіцца.

Назаўтрае, заўважыўшы, што у Браніслава Ігнатавіча вельмі бедна з прадуктамі на абед, бо вельмі трудна было іх набыць, я запрапанаваў Б. Ігн-чу паслаць са мной пляменніцу сваю ў прадуктовыя крамы.

— Калі вам трудна прабівацца праз хвасты за прадуктамі, то мне як салдату спадзяюся, што будзе лягчэй.

Ну і праўда. Куды мы ў крамы не захадзіліся, перад якімі стаялі даўжэзныя хвасты з цывільных, ніхто з хваста мне не заўважыў: «Куда прёш!» або «Станавісь ззаду і в очередь!», а наадварот, з нейкай асаблівао любоўю і «вніманіем» цяпер глядзелі цывільныя на «салдата». «Прапусціте, прапусціте салдатіка!» — разда-

---

[1] Янка Купала (сапр. Луцэвіч; 1882—1942), класік беларускай літаратуры, народны паэт Беларусі.

[2] Вацлаў Ластоўскі (1883—1938), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік.

[3] Аляксандр Уласаў (1874—1941), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст, рэдактар выдавец газеты «Наша Ніва».

[4] Ігнат Буйніцкі (1861—1917), беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, пачынальнік нацыянальнага прафесійнага тэатра.

[5] Маюцца на ўвазе браты Іван (1881—1919) і Антон (1884—1942) Луцкевічы, пачынальнікі беларускага нацыянальнага адраджэння, заснавальнікі газеты «Наша Ніва».

[6] Размова вядзецца пра Змітрака Бядулю (С. Я. Плаўніка) (1886—1941), класіка беларускай літаратуры, аднаго з пачынальнікаў беларускай мастацкай паэзіі і прозы.

[7] Магчыма, размова ідзе пра Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам) пры Наркамнацы РСФСР, што дзейнічаў у Петраградзе ў 1917—1918 гг.

валіся з хвастоў галасы. А адна з кабет, знаць, думала, што я як салдат зусім безграшовы, аддавала мне часць картачак сваіх на прадукты.

— Нате, салдатік, вазьміте там для себя! — дастаючы мне грошы на гэта.

Но я адмовіўся, падзякаваў і паказаў, што я з грашымі.

Яшчэ паўгода часу перад гэтым цывільныя глядзелі на салдата: адны як на паднявольнага халопа, а другія як на ворага, «зашчытніка царя». А цяпер: адны як на поўнапраўнага «воіна-гражданіна», а другія як на друга свайго, асвабадзіцеля.

Назаўтрае, пасля аглядзін некаторых «достопримечательностей» сталіцы, іду яшчэ раз на «Васильевский островъ» наведаць нашага любімага пісьменніка беларускага руху, Душы беларускай акадэміцкай моладзі — старыка прафэсара Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілу — старшыню беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», якая знаходзілася не помню на якой лініі, толькі помню, што ў адным высокім чатырохстольным доме, з памешканнем у тры пакоі, на другім ці на трэцім этажы, з вокнамі на поўнач у панадвор'і.

Прыбываю. Званю. Мяне спатыкаець пакаёўка, а за пакаёўкай сам прафэсар, а за ім і яшчэ нехта, прыстойна апрануты па цывільнаму малады чалавек — госць. У абодвух іх сіяюць радасцяй вясёлыя прыветлівыя твары. Яны хапаюць мяне за падпахі і вядуць мяне скрозь іншыя пакоі ў гасцінную, дзе поўна застоліца гасцей, аглашаючы:

— Іосіф Нарцызавіч! Іосіф Нарцызавіч! Давно мы вас ждалі!..

«Вось, — думаю сабе, — чаго мой салдат дачакаў».

Браніслаў Ігнатавіч пераznaёміў мяне са сваімі гасцямі, між якімі аказаліся і ягоныя сваякі — прыстойнага выгляду дама і дзве стройныя паненкі, гэта братавіха і пляменніцы, па нябожчыку брату, арганізатару Беларускага тэатру калісь у Пецярбурзе[1]. Перад гасцямі сярод столу стаяла фляшка недапітая аптэчнага спірту, а перад кожным з гасцей — талерка зеленавацеючага цыбульнікам ды кропам засмятаненага халадніку, бяз хлеба, які служыў тут прахладнаю закускаю.

Хлябнуўшы даўным-даўно спрабаванага спірту, я так сама пачуўся нігарэй ад рэшты жыццярадасным.

— А знаете, Іосіф Нарцызавіч, што я убеждённый монархіст, — звярнуўся ка мне адзін сымпатычны маладжавы госць, які, як пасля я даведаўся ад Бр. Ігн., быў з унівэрсітэцкай адукацыяй афіцэр-авіятар, на папраўцы здароўя пасля кантузіі ад сшыблянага самалёту — вялікі любіцель і знаўца геральдыкі.

— А раз убеждённый монархіст, то значіт і староннік самодержавія, — адказаў я яму і пад уплывам чаркі выказаў цэлую прамову проціў самадзержавія, аргумэнтуючы цэлым шэрагам довадаў, узятых з гісторыі рознахарактарнасцю і ўмысловымі здольнасцямі цароў і іхных наступнікаў, даводзючы — адно «ліцо», без учасця прадстаўнікоў ад працуючага народу «едінолічна правіть такім коллосальным государством не может!»

І ў майго геральдыка нахмурыліся бровы, на ягоным сымпатычным твары знікла бадзёрая вясёласць, і ён мімалётна, звярнуўшыся да прафэсара, ад якога, магчыма, што таксама, як і, чуваўшы «страх» перад анархістамі, прамовіў:

— Анархісты — эта добрыя, безврэдныя парні, — і крута павярнуўся цераз стол да мілавіднай пляменніцы прафэсара, якая служыла ў адным з дэпартамэнтаў міністэрства Керэнскага[2].

---

[1] Размова вядзецца пра Уладзіслава Эпімах-Шыпілу (1864—1914), роднага брата Б. Эпімах-Шыпілы, удзельніка культурна-асветнага руху беларусаў у Санкт-Пецяргбургу, арганізатара беларускага тэатральнага студэнцкага гуртка. Спрычыніўся да пастаноўкі 9 лютага 1913 г. камедыі Я. Купалы «Паўлінка», дзе выконваў ролю Пустарэвіча.

[2] Аляксандр Керанскі (1881—1970), расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч, кіраўнік Часовага ўрада з сакавіка па лістапад 1917 года.

— А вот такія гаспада с міністерскімі партфелямі, как ваш гаспадзін Керенскій, что сразу на некалькі стульев садяцца, падтачылі старую власть, чтобы самім ею воспользавацца і весті страну в неопределённом направленіі, к неізвестності, на гібель, — вот кто вредітелі!..

— О, не гаваріте, Керенскій — это мая сімпатія, — адказала яму паненка, усміхаючыся, дадаючы, — он не ведёт страну на гібель.

— Не ведёт? А вот я прымкну к бальшэвікам, а патом пасмотрім, что с этого выйдет, пасмотрім.

— А вот что с этого выйдет, — адзыўнуўся адзін з гасцей, кладучы руку на лежаўшую сярод столу сінім бокам кверху запальчаную пушку, — бальшавікі сваё возьмут і вернецца самадзержавіе, толькі в обратном направленіі. Вот вам в прімер эта каробачка — лежала сінім бокам кверху, а красным на ніз, так было раньшэ, а тепер ана стаіт ребрём, сіняя с красной стараной на равновесіі, — а тагда ана с однем і тем же садяржымым снова ляжет, но ляжэт сінім вніз, а красным кверху, короче говоря, займёт место сіняга краснае самадержавіе.

— Ня можэць быць самадзержавія! — заявіў прафэсар, падсоўваючы гасцям альбомы, каб хоць гэтым перарваць супярэчныя між імі адносіны і звясьці іх як гасцей да агульнае згоды.

Браніслаў Ігнатавіч — гэта быў чалавек ні палітыкі, а культуры і гуманізму. Для яго хто б сабе ні правіў, абы справядліва, ня крыўдуючы нікога, ня дзелючы на праўных і няпраўных, на лепшых і горшых, як гэта было пры царызме, — расейцы былі адны лепшымі, а другія горшымі, аднак жа ўсе разам да найпраўнейшых залічаліся ў параўнанні да іншых заваёваных народаў, а такія, як беларусы, былі горшымі і безпраўнымі. Нездарма ж і Браніслаў Ігнатавіч, як адзін з найпершых, нягледзячы на тое, што сам належаў да найпраўнейшых, бо меў па заслугах ня толькі чын прафэсара, але і чын штацкага (цывільнага) генэрала, стаў на старану горшых, безпраўных, на старану так званых пры царызьме «інородцев», з пераконаннем, што «кожны народ — ёсць добрым і кожнага народу язык ёсць прыгожым», — пазастаючыся ў радах апошніх аж да апошняга дня жыцця ў паджылым веку, як шчыры і верны сын сваей бацькаўшчыны Беларусі.

«Кожны народ ёсць добрым і кожнага народу язык ёсць прыгожым», — гэтый выраз Браніславу Ігнатавічу дадаю я ад сябе, бо ў бяседах із ім мне даводзілася ад яго чуць:

«Нягледзючы на свой век паджылы, я ні пакідаю вывучаваць мовы малаведамых свету народаў. Вось, напрыклад, гадоў пару таму я ўзцікавіўся мілюцкаю мовай і вывучыў яе і ейную граматыку. А побач з намі, у пабліжжу, жывуць людзі, якіх мовы ні знаю, гэта мова чухонцаў, якія прывозюць сюды ў Піцер малако і разносюць яго па кватэрах. І вось я рашыў вывучыць эстонскую мову, а праз эстонскую я магу цяпер гаварыць і з чухонцамі «па-чухонску». Ні адчуваючы любві і пашаны да таго ці іншага народу, ні ўшануеш і ягонае мовы, як гэта рабілі паны, папы, ксяндзы і featureрознае чынавенства ў адносінах да нас, беларусаў, у часы царскае Расеі, пагарджаючы беларускую мову ды навязываючы нам свае языкі, языкі запанаваўшых над намі імпер’ялістаў, цесна звязаных з духам царскага самадзержавія, якім імя з часоў 1905 году надана «чарнасоценіц» і «чорная сотня».

На адвячорак мы з Браніславам Ігнатавічам праводзілі гасцей на трамвай, папрашчаўшыся з імі як найлюбезней.

На бульвары, усаджаным рэдкімі дрэвамі, таўпілася таўпа, знаць з фабрычных, над якою ўзвышалася фігура прамоўцы, у зашчытнага колеру гімнасцёрцы з «тылавымі» чырвонымі пры белых басончыках унцер-афіцэра, «абецаючага» «скорее пакончыть с войною» і «перейті на мірнае палаженія».

— Скора сказка сказаваецца ды няскора дзела дзелаецца, — сказаў я Браніславу Ігнатавічу, адыходзючы, — лёгка вайну распачаць ды ні так лёгка з яе перайсці на мірнае палажэньне...

Вечарам Браніслаў Ігнатавіч дастаў з купэрта ліст паперы, на якім было азагалоўлена:

«Усходня-эўропейскія злучаныя штаты:
Архангельск — сталіца «Сивира»
Ноўгарад — сталіца «Старой Русі»
Масква — сталіца «Расеі»
Казань — сталіца «Камы»
Саратаў — сталіца «Средней Волгі»
Астрахань — сталіца «Ніжняй Волгі»
Н. Ноўгарад — сталіца «Верхняй Волгі»
Пермь — сталіца «Верхняга Урала»
Оренбург — сталіца «Ніжняга Урала»
Омск — сталіца «Западной Сібірі»
Томск — сталіца «Средней Сібірі»
Іркуцк — сталіца «Усходняй Сібірі»
Ташкент — сталіца штатаў «Средней Азіі»
Тыфліс — сталіца штатаў «Южн. Каўказа» і «Грузіі»
Владзікаўказ — сталіца «Пярэдняга Каўказа»
Растоў на Д. — сталіца «Дону і Кубані»
Адэсса — сталіца «Новарасіі»
Кіеў — сталіца «Украіны»
Мінск — сталіца «Беларусі»
Коўна — сталіца «Літвы»
Вільня — сталіца «Беларускай Літвы»
Варшава — сталіца «Польшчы»
Рыга — сталіца «Латвіі»
Дзвінск — сталіца «Латгаліі»
Рэвель — сталіца «Эстоніі»
Гэльсінфорс — сталіца «Фінляндыі».

І я, абазнаўшы ў гэтым «праэкце» свой почырк, зачырваніўся, прыпомніўшы расейскую і польскую пагаворкі: «Рана пташачка запела, кабы кошачка ні с’ела». Браніслаў Ігнатавіч глядзіць мне з вясёлаю мінай у вочы ды і кажэць:

— Ну і пабілі ж вы Расею на кавалкі... А праз наш Піцер так і пазабыліся, пазаставілі яго без ніякага штату...

— Добра яму, — кажу, — будзець быць агульнаю сталіцай і на зямлі старога вечавага Ноўгарада.

А разам з гэнаю паперкай вываліліся з купэрту так сама здарэнна папаўшы ў мой ліст і яшчэ адзін праэкт «Антываенныя лігі народаў», у якім усе дзержавы цэлага свету былі падзелены на чатыры кляссы, і да кожнай кляссы была дастаўлена лічба войска, якое павінна была кожная дзяржава даваць у распараджэнне Лігі: клясса 1-я — 600 000; кл. 2-я — 250 000; кл. 3-я — 100 000; кл. 4-я — 40 000. А галоўнае, што ні адна з дзержаў ня мела права дзержаць свайго ўласнага войска на сваёй уласнай тэррыторыі, з якой магла б пачаць вайну з другімі, бо на ейнай тэррыторыі знаходзілася не свая і толькі ўласная, а міжнародная армія пад загадамі міжнароднае Антываеннае лігі.

Так, гэта быў такі час. Час вольнасці на featnародныя праэкты. І той, хто ня меў за сабой анікога, як кажуць: «Адзін сам з сабою ў полі», бо «Адзін у полі ня воін», — мы так сама пачуваць сябе военамі ў гэтую пару.

Назаўтрае, з раніцы, Браніслаў Ігнатавіч прынёс на стол каллекцыю маіх рысункаў, з якіх адабраўшы сымбалістычныя абразкі і разлажыўшы іх як карты на стале, звярнуўся да мяне:

— Аб’ясніце мне калі ласка, што абазначаюць гэтыя, прысланыя мне летась на заховы абразкі? Што тут за крыга-лавіна такая, а па-за ею дамы-палацы?

— Гэта лавіна паўторнай рэвалюцыі, якая будзець налегаць на ўсё раней пабудаванае.

— А нашто гэта дзіра, пролапка нейкая ў ёй?

— А гэта тое, што ў кожны час ёй будзець пагражаць «раскол», пагроза рашчапіцца.

— А што гэта за пачвара такая з разінутай ляпай плаваець на моры, карабель ні карабель... А тут бліжэй нейкая белая фігурка чалавечака, якая прысланілася к сцяне на нейкай тэррасе?

— А гэта, гэта Японія гразіць, пагражаець нам у будучыні.

— А што гэта?.. Два нейкіх беленькіх шкілецікі?

— Гэта гібель цара і з наследнікам. А калі — няведама.

— А гэтае фалістае мора са скалой, на якой нешта свеціцца?

— Фалістае мора — гэта массавы рух часу будучыні, які змыець, спалошчыць усё старое, толькі вера людзей на ніразмытай скале пазастанецца адна неразрушанай. Вытрымаець...

— А што гэта, абазначаныя «7», «5»? Нейкія здані брыдуць па крызе, а над імі сіянне... А тут, пяць нейкіх туманных фігур, схіліліся над нейкай свяцячаю куляй з кругамі...

Апошнія два абразкі, якія зрабіў па натхненню, я і сам ня ўмеў аб'ясніць і аграпічыўся толькі:

— Лічбы «7» і «5» — у будучым будуць мець нейкае асаблівае значэнне.

Ці захаваліся, дзе яны — няведама...

Пасля гэтага Браніслаў Ігнатавіч, разглядаючы мае рысункі пярком, моцна здзівіўся:

— Мне проста вачам ня верыцца, каб можна было так рабіць далікатна і без ніякусенькіх памарак. Ніхай алоўкам або пэндзлям, але ж пяром, чуць-чуць дзе ні так чыркнуў, то ўжо ні паправіш, так і пазастанецца. Як гэта вы робіце? — дзівуваўся прафэсар, паглядаючы на мае з таўставатымі пальцамі рукі, як бытцам няверучы, што імі можна зрабіць нешта далікатнае.

— А цяпер гляньце ж і на маю работу, — сказаў Браніслаў Ігнатавіч, дастаючы і падаючы мне сымпатычнага ідылістычнага зместу рысунак — хлопчык іграець на жалейцы, на вокладцы выдання «Жалейкі Янука Купалы»[1].

Назаўтрае, перад ад'ездам з Піцеру, я забегся ў суполку папрашчацца з Браніславам Ігнатавічам (застаў там нейкага буйнарослага вусатага госця ў форме страявога афіцэра ў чыне капітана. А раззнаёміўшыся, аказалася, што гэта быў наш вядомы збіральнік беларускай народнай музыкі Антон Антонавіч Грыневіч[2], які прыбыў сюды, у Піцер са станціі Балагое, дзе занімаў пасаду у Земскім саюзе зусім «цывільнага» супрацоўніка і ня быў аніякім афіцэрам, а толькі апранаўся ў новазаведзенную пры свабодзе у Земскім саюзе ваенна-капітанскую форму, форму т. зв. «земгусараў».

Антон Антонавіч тады быў маладзейшым і зусім не падобным як па выгляду, так і па характару, якім ён пазней стаў у Менску, выбрытым як ксёндз, а яшчэ пазней у Вільні — з даўгою серабрыстаю грывай шэвелюры і пасівелаю раскошнай барадой, з характарам жывым і бодрым, да жартаў-гумару гатовым.

Тут Антон Антонавіч не прамінуў, як і заўсёды пры кожным спатканні з беларусам, запісаць ад мяне мэлёдыю некалькіх песень народных і ад гэтага часу мы пазасталіся на шмат гадоў як добрыя знаёмцы-землякі і прыяцелі па ратаванню ад загубы беларускай народнай старой мастацкай творчасці.

Браніслаў Ігнатавіч у гэтую хвіліну паднёсся к нам з нейкаю газэтай і палажыў яе на стол перад намі.

— А вось такую навіну паглядзіце. Ці даводзілася калі яе відзіць?

І ў запраўднасьці была навіной неспадзеванай, бо паходзіла аж з-за ваеннага

---

[1] Гаворка пра першы зборнік Я. Купалы «Жалейка», што выйшаў у Санкт-Пецярбургу ў 1908 годзе.

[2] Антон Грыневіч (1877—1937), збіральнік беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар, член выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца».

фронту. Гэта быў беларускі тыднёвік аж самага забранага гэрманцамі Вільні — газэты «Homan»[1].

— А гляньце, хто рэдактарам. Гэта ж наш землячок, з Дзісеншчыны — Ластоўскі.

І праўда, што мы тут сабраўшыся — тры на ліцо, а чацвёрты на паперы, былі напраўду землякамі, з адных і тых самых знаёмых, адна ат аднэй блізка распаложаных мясцін. Дзед Браніслава Ігнатавіча паходзіў с-пад Дворнава на Дзісеншчыне, а сам ён з Залесся, каля Ветрына на Гомельшчыне. Прадзед жа мой паходзіў з Арэхаўны каля Загацця, пад Полацак, а я сам з Пунік — Галубіцкая пушча. Антон Антонавіч паходзіў дзесь там каля Палюдовіч — на граніцах Дзісеншчыны з Полаччынай. А Вацлаў Ластоўскі — з Калеснікава паміж Мнютай і Аутай, так сама на Дзісеншчыне, а гадаваўся ў Старым Пагосце і Гармановічах.

Кругом мы землячкі — адна крывінка.

Любезна разстаўшыся са сваімі аднакраінцамі ды набыўшы сабе ў запас маляўніцкія фарбы на Гарохавай, адпраўляюся на Маскоўскі вакзал і ад’язджаю...

Па пэронах бегаюць мальцы — прадаўцы рознародных брашур і газэтак, крычучы нараспеў:

— Забавная сказка про Грышку, про Сашку і царя Міколашку!

А цягнік наш пад гэныя гукі ляніва крануўся і рушыўся ў свет, пакідаючы ззаду сталіцу колішніх «вялікіх, магутных і грозных цароў».

## На радзіме

Вертаюся з Піцера ў Вышнявалоччыну, забераю свае рэчы з дакумэнтамі, прашчаюся з Паўлаўскім, а разам з гэтым і з ваеншчынай. Вертаюся на сваю родную Дісеншчыну да сваей радні, маткі, братоў, сястры Леакадзіі — самай найстаршай пасля маткі ў нашай сям’і, якая да вайны жыла ў Лібаве, а цяпер я спатыкаю яе з дочкамі, зяцямі, унукамі і ўнучкамі як бежанцаў ад вайны пры матцы ў Красоўшчыне каля Гармановіч, дзе мая матка трымала зямлю на арэндзе і вяла хоць і беззямельніцкую, але досыць буйную да гэтуль гаспадарку, дзе можна было пагасціць, аддыхаючы. Праўда, ад ранейшай гаспадаркі буйной пазаставаліся толькі рэшткі. Яшчэ год перад гэтым, у Міорах, калі каля сарака штук кароў даілася, калі для гасцей уцекачоў муку на хлеб на млыне не малолі, а пітлівалі, як для гарадзкіх, якія непрывыкшы есці хлеб з простага памолу, калі малако было, для ўсіх хапала, як вады, дойкі цэбрамі насілі. Цяпер жа, праз прошлагоднюю аддачу пад рэквізыцію (пад страхам вайны, пад напорам ваеннага фронту) чуць ня ўсей гаспадаркі, ад былой заможнай гаспадаркі пазаставалася ўсяго сем штук кароў дойных, з якіх тры былі падораны маткай на ўласнасць сем’яў, пражываючых у Красоўшчыне уцекачоў (бежанцаў). Хоць і ні відалася ўжо на агульным стале пітліваніка, але матка мая ўсё ж такі старалася не пакідаць свайго добрага старасвецкага фасону гасціннасці «для падарожных здалёку», а разам з імі і я як падарожнік здалёку, з доўгай сямілетняй дарогі па чужых краінах на ваеншчыне, мог так сама гасціць, аддыхаючы. І аддыхнуўшы з нейкі месяц часу, тое ды сёе малюючы, пакуль не пачаў упрагацца, пад уплывам Свабоды, у працу супольства.

Здароўе маё пачало папраўляцца, неяк стыдна мне стала, што людзі нават і з горшым здароўем страдаюць на фронце, а я, як вольны ад фронта, пагуляваю як нейкі гультай — эгаіст буржуазнага духу і стану, і рашыў аддавацца супольніцкай працы на карысць людзей незаможных. І вось карыстаючы з вольнага і з каня-гадунца сваей уласнай гадоўлі, які мне выпаў між братамі з падзелу, прымімаюся за афярную працу: безвазмездна арганізую ў Гармановічах районны прадавольственны (харчовы) камітэт, у якім выбіраюць мяне старшынёй. А побач

[1] Газета «Гоман» выходзіла лацінкай на беларускай мове ў Вільні ў 1916—1918 гг. Яе арганізатарам і рэдактарам быў Вацлаў Ластоўскі.

з гэтым таксама згуртоўваю коопэратыўнае таварыства «Беларус»[1], якое ў працягу некалькіх тыдняў арганізацыйнае працы вырастаець у найбольшы ў той час на тагачаснай Віленшчыне коопэратыў з васьмісот пайшчыкамі пры шаснаццаці тысячах рублей паявога капіталу, аб чым не дасьць салгаць і брат нашага гісторыка коопэратар Юстын Ластоўскі[2] і вядомы коопэратар Эдвард Буцько[3], які тады, з адрошчанай чорнаю бародкаю, працаваў у Дзісне, у губэранскай харчовай управе, дзе я зацверджаў свой «Беларус». І ён сам, удзівіўшыся, сказаў:

— Такога вялікага коопэратыва мы яшчэ ня мелі. Ваш коопэратыў самы найбольшы ў ва ўсей нашай (Віленскай) губэрніі.

— Няўжо німа багацейшага за наш? — пытаюся.

— Ні па грашах, а па чыслу пайшчыкаў. Бо ёсць у нас адзін у Міорах, які аж дваццаць тысяч рублей паседаець, аж на чатыры тысячы багацей вашага. Але па лічбе ўчаснікаў німа вашаму раўні.

Па сарганізаванню коопэратыва «Беларус» прынімаюся за адраджэнне паўсотні гадоў перад гэтым расфармераванай паміж пяццю суседнімі валасцямі «Гарманоўскай воласці», дзе нават само мястэчка Гармановічы было падзеленым на тры часці між валасцямі Стафанпольскай, Новапагосцкай і Лужэцкай, сымбалізуючы сабою ранейшую Польшчу, а цяперашнюю Беларусь, разарваную на кавалкі. І даконаваю сваю, адцінаючы палавіну Стафанпольскай, трацціну Лужэцкай і Новапагосцкай, кавалак Залескай і чуць ня ўсю Ігуменскую са Шкунцікамі — разам.

Перад астаўленнем фронту расейскай арміей і прыходам гэрманцаў сабіраю вялікі сход і і перадаю яму ўсё, а сам іду на супачынак. Досыць з мяне з аднаго і гэтага. Хай і другія папрацуюць толькі, колькі я. Воласць станула на ногі. А каапэратыў мой «Беларус» праістнаваў аж да 1922 году і закончыў без мяне сваё істнаванне ўжо не пад прыгожым, па-мастацку выкананым шыльдам «Беларус», а пад зменены, партацкім — «Bialorus».

## Абразкі з «недаваёванага»

Давялося мне быць сведкаю, як «доблестная» расейская армія, зняўшыся са свайго старога, «устарэўшага» фронту, верталася «бяз міру і бою» дамоў, да хаты. Вуліцы, пляцы і мост цераз Дзісенку ў Гармановічах былі перапоўнены салдатамі. На высокім масце праз Дзісенку адкрыўся настаяшчы «базар оружія», салдаты хадзілі і прадавалі «па сходнай цэне» мірным жыхарам свае вінтоўкі.

— Кто хотіт амеріканку?!. Недарага прошу...

— А у меня руская трохлінейная, без всякой порчі!.. Вот сматріте — і затвор і прыцэльная рямка в порядке... І патрянташ дажа в прідаток.

І людзі, маючы грошы, куплялі.

— Купіў сабе чапялу...

— Што ж, жывучы пры лесе і гэта трэба...

— Часам ваўка пастрашыць...

Прадавалі салдаты вінтоўкі як зусім для іх непатрэбную рэч. Не прадаваўся толькі адзін, унесены ў пярэднюю школьнага памешкання, кулямёт і грамафон у чачоткавай аправе, якія як відалася належалі штабу «отступаюшчэй часті».

Перад ганкам школы на касцельным пляцы, дзе закватараваў на днёўку гэный «штаб», таўпілася таўпа цывільных з-пад мястачковых вёсак і сяліб, пакураваючы ды пагутараваючы. Як зараз выходзіць на ганак са школьнага дому у новым сівым суконным шынялі маладжавага выгляду салдат, трымаючы на абшлагах рукавоў вялікі кавалак, фунтаў як на дзесяць, чырвонага мяса, і звяртаецца к таўпе:

---

[35] Кааператыў «Беларус» быў арганізаваны Язэпам Драздовічам у 1918 г. на сваёй радзіме. Зачынены польскімі ўладамі ў 1922 годзе.

[36] Юстын Ластоўскі (каля 1870 — пасля 1931), родны брат Вацлава Ластоўскага, беларускі нацыянальны дзеяч.

[37] Эдвард Буцько (Будзька) (1882—1958), беларускі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч.

— Хто хатіт мяса?!. Кто хатіт мяса?!.

Людзі ўталопіліся на стаяўшага з мясам салдата і ніхто к яму нядзыўноўся.

Салдат, пастаяўшы з мясам нейкай паўмінуты, сказаў:

— Значіт нікто із вас мяса не желает? — і з гэтымі словамі шматануў ад сябе гэнае мяса на асяродак голай выезджанай дарогі. Мяса шлёпнула, абрабляючыся ў брудны пясок, пазастаючыся ляжаць на дарозе як нейкая здохлая кошка.

Людзі стаялі, глядзелі і маўчалі, толькі адзін з таўпы, нізкарослы вусаты старык прашаптаў:

— Распуста... Відаць голаду не знаець... Распуста...

## Першыя немцы-гэрманцы

Паехалі мы з братам-старшаком у Дрыссу, я — купіць сабе лякеру на малюнкі, а брат — гумавых падашвоў пад боты. Пагода стаяла ясная і марозная, снег пад санкамі скрыпеў. Пад'езджаючы пад самую Дрыссу, над намі высока-высока прафурчэў самалёт, лятучы знаць з ранейшага знятага ваеннага фронту ў бок на Задзвінне.

— І ні баіцца такога марозу, на такім вятру ў такой вышыні, — уздзівіўся мой брат, дадаючы: — Гэта найпэўні ні наш, а гэрманскі...

Ужо адвячорак, вечарэіць, уезжаем у горад, глядзім, пара немцаў салдат-гэрманцаў у сініх шапачках без казыркоў з двюмя гузікамі на ілбе, са стрэльбамі цераз плячо, нам насустрэч, але прайшлі міма. Едзем далей на другую вуліцу, і там такія самыя папарна. Невялічкія, таўстаклубныя, круглалікія і вясёлыя міны.

Заезджаемся да знаёмага барадатага жыдка, у якога заўсёды станавіліся на кватэры. Брат пытаецца:

— Як гэта сюды к вам германцы папалі?

— І што, мы іх самі паклікалі, горад бараніць...

— Ды ад каго ж бараніць, хто тут на вас адкуль нападаець?

— Мужыкі... Яны ж цяпер усе са стрэльбамі... «Мы, — кажуць, — вас прыйдзем трасці, ві, — кажуць, — ад нас тавары пахавалі». Было, як збіраецца кірмаш, дык у нас і душы німа, баімся... Проста рады ні было, узялі ды немцаў пазвалі...

— Ну а як цяпер?..

— Цяпер? Уууу! Цяпер мы з немцамі заадно, цяпер мы ўжо нікога ні баімся.

А пазней, вечарам, калі ўжо зусім пацямнела, гаспадар нашае кватэры нам запрапанаваў:

— Калі маеце ахвоту схадзіць, сходзім у нашую гарадзкую «думу» на «германскае сабранне». Тут недалёка....

Ідзём. Цікава, што там скажуць. Прыходзім. Узабраўшыся на верхні этаж нейкай мураванкі, мы спынуліся на нейкай прасторнай, з бар'ернымі загародкамі ўздоўж двух сцен напоўасветленай карасінаваю лямпай, стаячай на адным з бар'ераў, за каторым стаялі калісь урадовецкія сталы і шафа, у якой капашыўся ў паношанай чыноўніцкай тужурцы нейкі, знаць былы горадапраўскі чыноўнік і парадкаваў, выймаючы з шафы на стол аграмадныя рэгістрацыйныя кнігі, халодна азіраючыся на прыйшоўшых.

На залі акрамя нас траіх, знаходзілася і яшчэ каля дзесятка паўтара гараджан, якія стаялі і напоўшопатам адзін аднаго пыталіся:

— І вы на гэрманскае сабранне?

— А ці скора яно распачнецца, гэтае сабранне? — звярнуўся гаспадар нашае кватэры да парадкаваўшага кнігі ўрадоўца.

Урадовіц, паставіўшы тры кнігі на стол рабром, заявіў громкім выразным голасам:

— Мы пабеждзённы народ і далжны іспалняць все прыказаніі германскага каменданта!.. — сказаў вельмі коратка, але ясна і для кожнага зразумела «хто мы і дзе мы».

На гэтым усё і закончылася. Мы панаціскалі сабе на галовы свае зімовыя шапкі і пайшлі да хаты. А ў вушах нашых так і пазасталіся гнятушчыя дух словы: «Мы пабеждзённы народ...»

А праз некаторы час паявіўся гэрманскі камэндант і ў нашых Гармановічах, які абвясціў аб сваім прыбыцці па акалічным вёскам беленькімі, с-пад пішучай машынкі афішкамі: «Прыказываю здать оружія. Явіться всем военным... При встрече с г. комендантом отдавать честь», а знізу дапісана: «Неисполнённый приказъ будетъ расстреленъ».

Людзі чыталі і смеяліся: «Гэтый прыказ будзець разстрэлен». Смех смехам, а дзела дзелам. І ў Гармановічы пацягнуліся тоўпы ваенных, бальшына апрануўшыся ў шэрых шынэлях. Іду і я, апрануўшыся ў чорны кажух.

На Дзісенскім масце стаяў германскі салдат у жалезным шлеме, а перад ім кучка зданых расейскіх і амэрыканскіх вінтовак. На рынкавым жа пляцы ў куце, ля кучы бярвення таўпілася сініватая кучка ў чвэрць капы каранастых, нізавіднага росту, абаружаных гэрманскіх салдат у шлемах. А каля іх сам камэндант з падкамэндантам у шапках-фуражках са стаячым у версе брылём. А побач з імі высокага росту сам быўшый «председатель» валаснога савета, якога падкамэндант завець «комісажэм».

— Пане комісажу! Прошэнь зволаць войсковых, оту, до шэрэгу...

«Комісаж» выйшаў на асяродак пляцу, у доўгіх рыбацкіх, аж па самыя вілы, чорных ботах і заглаголіў:

— Сабраться вот сюда, построіться в ряд і паказать себя маладцамі!

Стройныя, рослыя, бодрага вясёлага выгляду ваенныя з дому, лікам каля некалькіх сот, рушылі на пляц у сваіх сівых неданошаных вайсковых шынэлях, і я разам з імі ў сваім чорным кажуху, але немец загарадзіў мне дарогу і не пусціў на пляц, бо не ў шынэлі.

— Форвэрц, форвэрц, форвэрц! — загукаў падкамэндант на сваю кучку абаружаных жаўнераў, выпраўляючы іх у хадзячы каравул кругом пляцу, папіхаючы кожнага з іх пааддзельна рукою ў плечы.

Жаўнеры горбіліся, бытцам упіраючыся, ішлі ніахвотна. А на іхных пад халоднымі цяжкаватымі пэльмамі тварах рысавалася незадаволенасць сваім палажэннем і завістліва азіраліся на вясёлых, баспечных, сазваных на пляц дзеля зняцця вайсковых пятліц і дзяжных блях з арламі — сваіх «пабеждзённых», якія адчуваюць сябе ў сто раз счастлівейшымі, седзючы дома, за сваіх «пабедзіцеляў».

## На землях «передышкі»

Вялі сябе немцы ў нашай краіне хоць і «доючы», але ні найгарэй. Мейсцамі здараліся на некаторых валасцях шалёныя камэнданты. А раз шалёныя, то і дурнаватыя. Напрыклад, адзін са зменеваных камэндантаў у Гармановічах, бачучы, што берагі нашай ракі Дзісенкі багата зеленавацеюць кустоўем белай вольхі і ніцае лазы, пробаваў рабіць загад насельніцтву выпраўляць дзяцей-падуросткаў абсмаргаваць лісцё з гэтага кустоўя і сабіраць дзеля эканоміі сена на корм для быдла. Але ніхто яго ў гэтым не паслухаў.

Салдаты ж гэрманцы, якія тут адчувалі сябе як госці на выпачынку, вялі сябе ў адносінах да нашых людзей досыць па-людзку і ветліва і шмат дзе спагадліва для нашых...

Завяла ў нас тадышняя Гэрманія для падтрымання арміі сваей на французкім фронце фармальную дойку. У кожнай воласці сядзеў з паўтара дзесяткамі салдат камэндант і да іх нас праз прымусовы кірмаш з даставаю ім на гэты кірмаш і коні, і авец, і падцёлкаў. Плацілі «остамі» і па досыць добрай цане. Але што ж калі за гэтыя грошы мы ня мелі чаго ад іх закупляць. Яны рабілі толькі вываз, а прывозу тавараў аніякага. Вывозілі ад нас і быдла (са скурай і з воўнай, на мяса). Апроч свае малачарні пры кожным такім камэнданце і масла, і твораг, і яйкі, а што мы

мелі ад іх, апроч грош-паперак — анічога. І як не падкармлівала іх тагачасная Расея, аддаўшы ім «на подкрепленіе протів французкого фронта» і пшанічную Украіну і малочна-мясную Беларусь з Прыбалтыкай, аднак жа усё гэта пайшло на марна. Лішыўшыся саюзнікаў сваіх з паўдня, гэрманцы самі пакінулі фронт, пайшлі дамоў, вярнуліся толькі на сваю бацькаўшчыну і разыйшліся па сваіх хатах. А ўслед за імі былі змушаны пакінуць свае «сыценькія» становішчы і нашыя, як няпрошаныя «апекуны»-камэнданты, на ўсход.

## На адлёце

Гэта было па восені ў васімнаццатым годзе, калі гэрманцы пакідалі наш край, вярталіся на родзіну сваю. Прыезджаю я ў Гармановічы да брата. А ў Гармановічах «адступаючыя» немцы. Стаіць бранявік на гарэ непадалёку касцёлу, у адным сялібным панадвор'і. А каля бранявіка курыцца дымам паходная кухня.

Заганяю каня із лінейкай у панадворак. Заходжуся да брата ў хату. Ужо вечарэла. Глядзь я ў акно, аж ну на гародах два нямецкіх салдаты мітусяцца, то адзін, то другі забегаючы, гонючы перад сабою пару белых свіней у бок кухні паходнай сваей. Як зараз адкуль ні вазьміся дзяўчонка ў чырвонай з белымі кропкамі сукенцы, з дубцом-розгаю ў руках і з плачам пачала бараніць сваіх свінак, сцебаючы розгаю іх, каб тыя беглі дамоў.

Як толькі салдаты забягуць свіням наперад і звернуць іх у бок сваей кухні пагнаць, у той жа момэнт са плачам падуростак-дзяўчынка сцебанець іх дубцом і заверніць дадому. І так яны круціліся, вярцеліся каля паўгадзіны. Мне моцны жаль узяў за дзяўчынку, дачку небагатых тут суседзяў беззямельных, якая так старанна і спрытна бараніла з плачам ад двух абаружаных салдатаў часціну сваей трудавой гаспадаркі. Праўда, немцы не выказавалі аніякага зверства ў адносінах гэнай дзяўчынкі, не крычалі, не суваліся к ей, не пужалі яе, зусім як бы ня мелі да яе аніякіх прэтэнзій. Ім толькі хадзіла аб адно — каб як-небудзь загнаць гэную пару напоўаткормленых свіней у свой бок, на сваю паходную кухню, а там ім нажом пад лапатку.

Я ня вытрымаў, не сцярпеў. Мяне пацягнула памагчы на зоў плачу гэнай дзяўчынцы. Но як памагчы? Но як памагчы? Я мужчына, а яны абаружаныя людзі, ды тым болей у такую пару — ваеннага паходнага часу. Могуць кульбай у лоб засвяціць. Но ў мяне прамількнула прыгожая мысль: не звяры ж яны, на якіх немагчыма ніякім словам падзеіць.

І я выйшаў на двор і тры разы гукнуў ім, падняўшы руку ўгору да неба, з разстаноўкай:

— God! god! god!

Падзеяла. Салдаты астанавіліся і, узняўшы вочы да неба, пачалі ўгледацца, што я ім там на небе паказаваю. І прастаяўшы гэтак на мейсцы каля мінуты часу, выпусцілі з віду загортаваных імі парсючкоў. А дзяўчынка тым часам угнала сваіх парсючкоў у захлеўе.

А я тым часам усеўшыся ў запрэжаную каньком-бегунком лёгкакатную лінейку, яздануў, пажадаўшы гэрманцам счасліва дабрацца да граніц сваей роднай Пруссіі, ня робючы крыўды нікому.

Варта адмеціць, што немцы ў нас тут задарма нічога ні рыквізыравалі, за ўсё як след «остамі» плацілі. А калі каго бралі з канём у падводы, то шанавалі падводнага каня. Мне самому даводзілася на свае ўласныя вочы бачыць, як вязомыя немцы ахвотна саскакавалі з воза, каб гэтым аблягчыць каню воз на горшай дарозе. Гэрманцы каня шанавалі.

***Каментарыі Міхася КАЗЛОЎСКАГА,***
***публікацыя Арсена ЛІСА.***

Алеся ШАМЯКІНА

# ЖЫЦЦЁ Ў ЛІСТАХ ПІСЬМЕННІКАЎ

*У творчасці любога пісьменніка ёсць жанр, які амаль не вядомы шырокаму колу чытачоў. Гэта — эпісталярны жанр. Такое становішча звязана з некалькімі прычынамі: як правіла, пры жыцці ўдзельнікаў перапіскі эпісталярый не абнародваецца, не становіцца набыткам шырокага кола чытачоў. Многія даследчыкі разглядаюць эпісталярый як другарадны жанр у творчасці любога пісьменніка. Але між тым лісты, паштоўкі, тэлеграмы з'яўляюцца самастойным і раўнапраўным жанрам у пісьменніцкай творчасці. Эпісталярый дае магчымасць узнавіць канкрэтныя падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця, творчую атмасферу, у якой жыў і працаваў пісьменнік. Акрамя таго, перапіска дае звесткі пра творчыя інтарэсы пісьменніка, кола яго сувязей і ўзаемаадносін, сямейны побыт, грамадскую дзейнасць і г. д.*

*У часопісе «Полымя» ўжо неаднойчы друкаваліся лісты І. Шамякіна да беларускіх пісьменнікаў і рускіх перакладчыкаў, а таксама калег па літаратурным цэху да І. Шамякіна. Зараз жа чытачам у адной публікацыі прапаноўваецца падборка лістоў І. Шамякіна да пісьменнікаў, перакладчыкаў, грамадскіх і партыйных дзеячаў, а таксама лісты калег-літаратараў, рэжысёраў і перакладчыкаў да І. Шамякіна. Безумоўна, гэтыя лісты неаднолькавыя як па насычанасці фактычным матэрыялам, так і па аб'ёме, манеры напісання. Такая розніца вызначаецца тым, каму адрасаваны і кім напісаны ліст, родам дзейнасці чалавека, колам тых пытанняў і праблем, якія ставяцца і вырашаюцца ў лісце. Але незалежна ад аб'ёму лістоў і пэўнай долі суб'ектыўнасці ў іх, яны цікавы менавіта тым, што напісаны непасрэднымі ўдзельнікамі-сведкамі падзей, што адбываюцца ў свеце. Але ад гэтага не зніжаецца каштоўнасць дакументаў.*

*Акрамя таго, перапіска кожнага пісьменніка дае магчымасць прасачыць ідэйна-творчую эвалюцыю мастака слова. Гэтаму ў многім садзейнічае і своеасаблівы стыль, які ўласцівы лістам. Адзначаныя рысы яскрава сведчаць: эпісталярый кожнага пісьменніка — гэта самастойны, раўнапраўны з іншымі жанр творчасці. Нельга супрацьпастаўляць перапіску пісьменніка іншым жанрам яго творчасці або адводзіць ёй толькі службовую ролю — як крыніцы пэўных звестак пра самога пісьменніка, яго асяроддзе, пра падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця.*

**І. П. Шамякін — С. В. Марцалеву**

Дарагі Станіслаў Віктаравіч!

Адчуваю сябе няёмка, што да апошняга дня не ведаў аб набліжэнні знамянальнай даты ў жыцці свайго кіраўніка і сябра. Дрэнна працуе служба інфармацыі ў СП! Але ўсё ж працуе…

Не вельмі верыцца, што і табе ўжо 50. Але паколькі з юбілейных дат гэта першая ў жыцці чалавека самая «маладая», то дазволь шчыра і сардэчна павіншаваць цябе з гэтым радасным юбілеем. Вынікі першага паўстагоддзя твайго жыцця

і працы вельмі плённыя. Доктар навук, кіраўнік важнейшага ідэалагічнага аддзела ЦК, вядомы грамадскі дзеяч, добры шчыры чалавек, бацька, дзед… Цяжка пералічыць усе твае пачэсныя званні і пасады. Няхай яны множацца, паднімаюцца на новыя ступені! Няхай заўсёды верна служыць здароўе і ўся энергія розуму і волі, дужасць рук скіроўваецца на карысць нашай культуры, на карысць народу, на здзяйсненне ўсіх добрых планаў асабістага, сямейнага жыцця.

Не стану пісаць многа гучных юбілейных слоў. Проста хачу сардэчна падзякаваць за шчырасць, уважлівасць, дабрату, якую ты заўсёды праяўляў да мяне асабіста і да ўсіх нашых пісьменніцкіх патрэб, спраў, клопатаў. Хораша, прыемна працаваць пры такім кіраўніцтве і кантакце! Упэўнены, што гэта скажуць многія з маіх калег і ўсе тыя работнікі мастацтва, культуры, якім часта, як мне, прыходзіцца вырашаць шматлікія, вялікія і малыя, справы ў кабінеце на чацвёртым паверсе штаба нашай партыі.

Няхай у цябе будзе яшчэ больш верных сяброў!

Самыя палымяныя віншаванні Аляксандры Іванаўне і дзецям.

Нашы юбілеі — гэта юбілеі нашых жонак, бо многае з таго, чаго дасягнулі мы, належыць ім — іх любові, клопатам, цярпенню, іх штодзённай працы дзеля таго, каб нам спакойна працавалася, утульна адпачывалася. Нізкі паклон Аляксандры Іванаўне. Мая жонка далучае свой голас да маіх віншаванняў!

Яшчэ раз зычу ўсяго найлепшага.

Па-сяброўску абдымаю.

*Ліст адрасаваны доктару гістарычных навук (1972), члену-карэспандэнту АН БССР (1980) Станіславу Віктаравічу Марцалеву (1925—2003) у сувязі з яго 50-годдзем, якое адзначалася 1 студзеня 1975 года. У 1965—1976 гг. С. В. Марцалеў — загадчык аддзела культуры ЦК КПБ.*

*Ліст напісаны да 1 студзеня 1975 года, датуецца па змесце.*

*…у кабінеце на чацвёртым паверсе штаба нашай партыі.* — У ЦК КПБ.

*Аляксандра Іванаўна — жонка С. В. Марцалева.*

**І. П. Шамякін — М. В. Гарбачову**

Дарагі Міхаіл Васільевіч!

Я мушу пісаць табе і паведаміць пра тое, за што ты, напэўна, вылаеш мяне. Схіляю вінавата галаву, але спадзяюся, што ты, добры псіхолаг і гуманіст, чалавек дабрэйшай душы, зразумееш мяне.

Але, я абяцаў свой новы раман даць табе на пераклад і меў намер зрабіць гэта.

Але на сімпозіум прыехаў А. Г. Астроўскі і прыйшоў да мяне яшчэ да твайго прыезду. І ён папрасіў мяне даць раман яму. І папрасіў так, як не прасіў ніколі. Ён сказаў дакладна наступнае: «Я хачу перакласці Ваш раман. З удзячнасцю за прысваенне мне ганаровага звання я абяцаю перакласці лепш, чым усё іншае, што я перакладаў дагэтуль. Я прылажу ўсе свае сілы, усё сваё ўменне і ўвесь час, бо нічым іншым не заняты і не хачу занімацца. Відаць, гэта будзе мая апошняя праца. Я хачу спець сваю лебядзіную песню».

Калі чалавеку 76 гадоў, калі ён больш за дваццаць гадоў перакладаў мяне і перакладаў — ніхто гэтага не стане аспрэчваць — добра, такія словы не маглі не крануць маё чуллівае сэрца.

За дабрату я плачу дабратой, за удзячнасць я плачу ўдзячнасцю…

Я упэўнены, што ў такой сітуацыі і ты, і любы іншы сумленны чалавек не здолеў бы пакрыўдзіць старога. Калі нам будзе па 76, я хацеў бы, каб да нас ставіліся з належнай павагай і ўвагай.

Ведаючы тваю тыпова беларускую велікадушнасць, твой заўсёдны клопат пра тое, каб кола перакладчыкаў з беларускай не толькі не звужалася, а няспынна расшыралася, тваю кіраўнічую і перакладчыцкую занятасць, я ўпэўнены, што ты, наш добры пасол і старэйшына перакладчыцкага корпусу, без крыўды на мяне і на Астроўскага, прабачыш, што я парушыў сваё абяцанне.

Каб у цябе не ўзніклі ніякія іншыя думкі — мы, мастакі, людзі ўражлівыя і часам, бывае, мніцельныя — хачу цябе запэўніць, што я высока цаню твае пераклады маіх твораў і многіх іншых беларускіх пісьменнікаў і заўсёды даю сваім калегам найлепшыя рэкамендацыі твайму перакладчыцкаму таленту. Я першы праявіў ініцыятыву і пэўным чынам пастараўся, каб твая плённая і шчырая дзейнасць па прапагандзе беларускай літаратуры была высока адзначана ЦК Кампартыі і Урадам рэспублікі. Думаю, што пры маім становішчы ў пісьменніцкай арганізацыі ў мяне будзе магчымасць і ў будучым сказаць сваё слова пра тваю працу. Калі маё і тваё здароўе нас не падвядуць, то я і ў будучым не бачу іншага перакладчыка сваіх твораў, акрамя цябе.

Спадзяюся, што маё рашэнне не адаб’ецца на нашым шматгадовым шчырым сяброўстве і сумеснай працы на карысць роднай літаратуры.

Перадай, калі ласка, маю любоў і глыбокую павагу Таццяне Якаўлеўне. Яна чалавек асабліва разважлівы, спакойны, сардэчны і я не сумняваюся, што яна зразумее маю ўступку старасці і дружбе.

Далібог, інакш паступіць было немагчыма. Тым больш, што я ўпэўнены, што стары не падвядзе і зробіць сапраўды добры пераклад. А ў гэтым зацікаўлены не толькі я, аўтар, але ў пэўным сэнсе і ты, фактычны кіраўнік Савета па беларускай літаратуры. Хіба не так?

Шлю Вам з Таццянай найлепшыя пажаданні ад сябе і ад Марыі Філатаўны.

З любоўю і самымі сардэчнымі сяброўскімі пачуццямі.

Ваш

*Ліст адрасаваны рускаму перакладчыку Міхаілу Васільевічу Гарбачову (1921—1981). Датуецца прыкладна 1973 годам паводле зместу ліста, у якім гаворка ідзе пра пераклад рамана «Атланты і карыятыды» (1973) на рускую мову.*

*Астроўскі Арсеній Георгіевіч (1897—1989) — рускі літаратуразнавец і перакладчык. Пераклаў на рускую мову многія апавяданні І. Шамякіна, а таксама раманы «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», пенталогію «Трывожнае шчасце» (разам з П. Кабзарэўскім) і аповесць «Першы генерал» (разам з П. Кабзарэўскім).*

*Таццяна — Гарбачова Таццяна Якаўлеўна, рускі перакладчык, жонка М. В. Гарбачова.*

*Марыя Філатаўна — Шамякіна Марыя Філатаўна (1921—1998), жонка І. Шамякіна.*

**І. Шамякін — Вацлаву Жыдліцкаму**

Дарагі таварыш Вацлаў Жыдліцкі!

Перш за ўсё прашу прабачыць, што не адказаў на Ваша мінулагодняе пісьмо. Меў на ўвазе напісаць Вам, але здарылася няшчасце — я трапіў пад нож хірургаў, перанёс цяжкую аперацыю і пасля доўга ачуняў. Вы добра ведаеце, калі чалавеку нездаровіцца, тады яму не да спраў і не да творчасці. Дзякую богу, зараз усё наладзілася, працую па-ранейшаму многа і за рабочым сталом, і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў Вярхоўным Савеце.

Вы мне пісалі, што ў Празе мае выйсці мой раман «Сэрца на далоні». Пасля пра гэта ж казалі вашы таварышы, якія былі нашымі гасцямі. Але больш ніякіх звестак не маю. Калі кніга выйшла, быў бы глыбока ўдзячны Вам, каб Вы папрасілі выдавецтва выслаць мне якія два экзэмпляры.

У канцы мінулага года ў нас выйшаў мой новы раман «Атланты і карыятыды». Высылаю Вам кнігу, можа, знойдзіце час пачытаць. Раман у нас прыняты вельмі добра, тыраж у 40 тыс. экзэмпляраў (для беларускага выдання гэта амаль рэкордны тыраж) разышоўся за два тыдні.

Ці атрымоўваеце Вы «Полымя»? У № 1 за 1975 год надрукавана мая аповесць «Шлюбная ноч». Рэч гэта героіка-рамантычная і ўсяго шэсць аркушаў.

Нашы таварышы расказалі мне, што здароўе Ваша цяпер палепшылася і Вы па-ранейшаму многа робіце для прапаганды беларускай літаратуры ў Чэхіі. За гэта дзякуй Вам.

Прыміце самыя найлепшыя пажаданні.

З павагай

Іван Шамякін

*Ліст адрасаваны чэшскаму літаратуразнаўцу і перакладчыку Вацлаву Жыдліцкаму (1931—2002). Датуецца пачаткам 1975 года па змесце ліста: «У № 1 за 1975 год надрукавана мая аповесць «Шлюбная ноч».*

*...я трапіў пад нож хірургаў, перанёс цяжкую аперацыю... — у студзені 1974 года І. Шамякіну быў выразаны жоўцевы пухір.*

*...што ў Празе мае выйсці мой раман «Сэрца на далоні». — На чэшскай мове выйшаў у 1975 г.*

*У канцы мінулага года ў нас выйшаў мой новы раман «Атланты і карыятыды». — Выйшаў у 1974 г.*

*...Вы па-ранейшаму многа робіце для прапаганды беларускай літаратуры ў Чэхіі. — Вацлаў Жыдліцкі адзін з асноўных перакладчыкаў беларускай літаратуры на чэшскую мову.*

**І. Шамякін — Сімеону Уладзіміраву**

Паважаны Сімеон Уладзіміраў!

Я прасіў Ванкарэма Нікіфаровіча, пасля Найдзіна Вылчава і Андрэя Германава передаць Вам маю глыбокую ўдзячнасць за пераклад «Шлюбнай ночы». Сёння я атрымаў Ваша пісьмо, з якога даведаўся, што Вы перакладаеце і «Гандлярку». Дзякую Вам яшчэ раз за ўсю Вашу вялікую работу па прапагандзе нашай літаратуры ў Балгарыі.

Кніжка выйшла, і я пасылаю яе Вам. На рускай мове абедзве гэтыя аповесці выходзяць у «Роман-газете».

Адначасова пасылаю кніжачку маёй драматургіі. «І змоўклі птушкі» магу прыслаць у рускім перакладзе, каб можна было пазнаёміць Вашы тэатры. «І змоўклі птушкі» лічу лепшай сваёй п’есай, вартай увагі сур’ёзных рэжысёраў і акцёраў. Безумоўна, я быў бы рады, каб у год савецкай драматургіі хаця б адзін з балгарскіх тэатраў праявіў цікавасць да драматычных твораў беларускага аўтара.

Жадаю Вам пасяховай працы.

З сяброўскім прыветам

Іван Шамякін

*Ліст адрасаваны балгарскаму журналісту, выдаўцу і перакладчыку Сімеону Уладзіміраву (1925—2008) і з’яўляецца адказам на наступны ліст балгарскага перакладчыка:*

*«София, 8.11. 1977 г.*

*Уважаемый Иван Петрович,*

*У меня опять к Вам просьба. Я уже договорился с издательством «Хр. Г. Данов» в Пловдиве перевести повесть «Гандлярка і паэт». Но не знаю вышла ли повесть в отдельную книгу. Если она вышла, прошу Вас послать мне книгу. Сожалею, что не успел найти издательства для Ваших атлантов. Роман мне нравится своей актуальностью и смелостью, но объем книги оказался роковым. Все издательства хотят издавать хорошие, но маленькие книги.*

*Я читал тоже Вашу пьесу «І змоўклі птушкі». Пьеса мне понравилась, но мне хочется шире познакомиться с Вашей драматургией. У нас в этом году будет год советской драматургии, и я надеюсь, что в репертуар театров войдут некоторые белорусские пьесы.*

*Желаю Вам всего хорошего*

*Ваш Симеон Владимиров»*

*Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934—2011) — беларускі літаратуразнавец, журналіст, перакладчык.*

*Вылчаў Найдзін (нар. 1927) — балгарскі пісьменнік і перакладчык.*

*Германаў Андрэй (1932—1981) — балгарскі паэт і перакладчык.*

*...за пераклад «Шлюбнай ночы». — Аповесць «Шлюбная ноч» выйшла на балгарскай мове ў 1975 г.*

*...што Вы перакладаеце і «Гандлярку». — Аповесць «Гандлярка і паэт». Выйшла на балгарскай мове ў 1978 г.*

*Кніжка выйшла... — відаць, маецца на ўвазе кніга «Гандлярка і паэт; Шлюбная ноч: Аповесці» (Мінск, 1976).*

*На рускай мове абедзве гэтыя аповесці выходзяць у «Роман-газете». — Аповесці «Гандлярка і паэт» і «Шлюбная ноч» выйшлі ў «Роман-газете» ў 1977 г. «Роман-газета» — савецкі і расійскі літаратурны часопіс, які выходзіць у Маскве з 1927 года штомесячна і два разы на месяц з 1957 г.*

*Адначасова пасылаю кніжачку маёй драматургіі. — «Экзамен на восень» (Мінск, 1975).*

**І. Шамякін — В. Шауру**

Сакратару ЦК КПБ

тав. ШАУРА В. Ф.

Паважаны Васіль Філімонавіч!

Выдавецтва Асвета ў Браціславе выдала на славацкай мове мой раман «Крыніцы». Дырэктар выдавецтва т. Само Фалцян паведамляе мне, што кніга мая спадабалася славацкім чытачам, і многія з іх просяць наладзіць сустрэчу з аўтарам. Выдавецтва ўжо двойчы запрашае мяне прыехаць да іх. У апошнім пісьме т. Фалцян далікатна дае зразумець, што расходы па майму прабыванню ў Чэхаславакіі на працягу 7—10 дзён яны бяруць на сябе.

Нядаўна я атрымаў пісьмо ад народнай бібліятэкі г. Банская Быстрыцы. Таварышы паведамляюць, што правялі акруговую чытацкую канферэнцыю па маім рамане і таксама запрашаюць наведаць іх.

Мне здаецца, сам факт такой формы літаратурных сувязей заслугоўвае ўвагі. І, прызнаюся шчыра, мне хацелася б ажыццявіць такую паездку. Дарожныя і іншыя расходы я магу аплаціць з уласных сродкаў.

Прашу Вас вырашыць пытанне аб маёй паездцы ў Чэхаславакію тэрмінам на 10—12 дзён.

З павагай (Іван Шамякін)

*Ліст адрасаваны савецкаму партыйнаму і дзяржаўнаму дзеячу Шауру Васілію Філімонавічу (1912—2007). Датуецца 1961 годам па даце выхаду рамана «Крыніцы» на славацкай мове (выйшаў у 1961 г.). Звестак пра паездку І. Шамякіна ў Чэхаславакію ў 1961 г. на сённяшні дзень не выяўлена.*

**І. Шамякін — Максіму Танку**

СТАРШЫНІ ПРАЎЛЕННЯ СП БССР

тав. ТАНКУ М.

Камісія па ўшанаванні памяці Андрэя Макаёнка на сваім першым пасяджэнні вырашыла ўвайсці ў дырэктыўныя органы з наступнымі просьбамі:

1. Прысвоіць імя Андрэя Макаёнка:

а) Мінскаму тэатральна-мастацкаму інстытуту;

б) Журавіцкай сярэдняй школе Рагачоўскага раёна, якую закончыў А. Макаёнак;

в) перайменаваць Вайсковы завулак у г. Мінску ў вуліцу імя Андрэя Макаёнка.

2. Устанавіць помнік на магіле драматурга.

3. Устанавіць мемарыяльную дошку на доме № 10 па Вайсковым завулку.

4. Выдаць поўны Збор твораў Андрэя Макаёнка.

5. Назаўсёды захаваць у рэпертуары тэатра імя Янкі Купалы спектаклі «Трыбунал» і «Зацюканы апостал».

6. Ажыццявіць пастаноўку апошняй камедыі драматурга «Дыхайце эканомна» ў Мінску — у Дзяржаўным акадэмічным рускім драматычным тэатры імя М. Горкага і ва ўсіх абласных тэатрах.

7. Хадайнічаць перад Міністэрствам марскога і рачнога флоту аб прысваенні імя Андрэя Макаёнка аднаму з новых марскіх суднаў.

8. Хадайнічаць перад выдавецтвам «Искусство» аб выданні пасмяротнага аднатомніка п'ес А. Макаёнка ў перакладзе на рускую мову.

9. Устанавіць стыпендыю імя Андрэя Макаёнка ў Мінскім інстытуце культуры.

10. Устанавіць прэмію СП БССР імя Андрэя Макаёнка.

11. Прысвоіць імя Макаёнка скверу каля тэатра імя Янкі Купалы.

12. Прысвоіць імя Андрэя Макаёнка адной з бібліятэк у г. Гомелі.

13. Адкрыць музей Андрэя Макаёнка на яго дачы ў Ждановічах.

14. Выдаць кнігу ўспамінаў пра Андрэя Макаёнка.

Старшыня камісіі па ўшанаванні
памяці Андрэя Макаёнка І. П. Шамякін

*Ліст адрасаваны народнаму паэту Беларусі Максіму Танку (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995). Ліст напісаны ў канцы 1982 г. — пасля смерці 16 лістапада 1982 г. Андрэя Макаёнка.*

*У 1983 г. Саветам Міністраў Беларусі была прынята пастанова па ўшанаванні памяці народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Макаёнка. З прапанаваных мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці Андрэя Макаёнка былі выкананы наступныя: прысвоена імя Андрэя Макаёнка Журавіцкай сярэдняй школе; у 1986 г. у Журавічах быў адкрыты музей пісьменніка і ўстаноўлены помнік; у Мінску і Гомелі названы імем А. Макаёнка вуліцы; імя А. Макаёнка прысвоена Гродзенскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы; на магіле пісьменніка ўстаноўлены помнік; выдадзены Збор твораў у пяці тамах; у выдавецтве «Искусство» ў 1984 г. выдадзены зборнік п'ес А. Макаёнка «Избранное»; на доме № 10 па Вайсковым завулку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.*

*«Искусство» — адно са старэйшых савецкіх выдавецтваў, якое выдавала кнігі па мастацтве і эстэтыцы, гісторыі і тэорыі выяўленчага мастацтва і архітэктуры, тэатры і драматургіі, кіно і фатаграфіі, тэлебачанні і радыё, зборнікі для мастацкай самадзейнасці, п'есы, кінасцэнарыі, альбомы. Заснавана ў 1936 г. у Маскве і Ленінградзе.*

**І. Шамякін — Г. Карпаву**

10.ІІІ.1987 г.

Старшыні выканкама
Бабруйскага гарадскога
Савета народных дэпутатаў
т. КАРПАВУ Г. В.

Паважаны Генадзій Васільевіч!

Да мяне звярнулася з просьбай аб дапамозе паэтэса Святлана Басуматрава. Харошая паэтэса, аўтар некалькіх кніг. У яе цяжкія жыллёвыя ўмовы, далёка непаэтычныя. Тварыць у такіх умовах — подзвіг.

Памажыце ёй, адзінаму члену Саюза пісьменнікаў на 200 тысяч бабруйчан, аматараў паэзіі. Гэта будзе практычнае выкананне Вамі нядаўняй Пастановы ЦК КПСС аб паляпшэнні ўмоў творчых работнікаў.

Поспехаў Вам на новай пасадзе!

Іван Шамякін

*Ліст накіраваны кіраўніку Бабруйскага гарвыканкама Г. В. Карпаву аб паляпшэнні жыллёвых умоў беларускай пісьменніцы Святланы Міхайлаўны Басу-*

*атравай (нар. 1946), аўтару паэтычных зборнікаў «Белая Бярэзіна» (1981), «Кветкі палявыя» (1985) і інш.*

**Фёдар Янкоўскі — Івану Шамякіну**

2.1.1976 г.

Шаноўны Іван Пятровіч!

Шчыра дзякую за віншаванні і пажаданні, за дарагі дарунак!

Здароўя Вам, Вашым блізкім!

Спору і плёну ў працы — вялікай, нястомнай, прыгожай — на ніве літаратурнай.

Шчыра Ф. Янкоўскі

P.S. Шкадую, але нічога не зробіш: не маю чаго паслаць, свайго —зразумела. Пасылаю дзве нядаўнія кніжачкі маіх падапечных — маіх былых студэнтаў і аспірантаў — К. М. Панюціч і І. Я. Лепешава.

*Ліст І. Шамякіну ад беларускага пісьменніка і мовазнаўцы Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага (1918—1989).*

*Лепешаў Іван Якаўлевіч (нар. 1924) — беларускі мовазнавец.*

*Панюціч К. М. — беларускі мовазнавец.*

**Якуб Усікаў — Івану Шамякіну**

20/І-75

Дарагі Іван Пятровіч!

Шчыра дзякую за падарунак — новы раман. Мы ўсёй сям'ёй прачыталі яго ў часопісе і захапляліся тым, як гэта Шамякін пранік і ў наша жыццё, ведае яго да дэталяў. Вельмі сучасны раман — шматпраблемны, шматгранны, з універсальным ахопам жыццёвых з'яў. Аўтар — дыялектык. Ёсць філасофскі струмень. Ёсць маштабныя характары. Ёсць многае-многае. Але каб напісаць пра яго, трэба многа-многа думаць. Раман нялёгкі для [нрзб]. Магчыма, таму не з'явіўся яшчэ пра яго грунтоўны артыкул.

Я ж асабіста больш за ўсё закаханы ў «Сэрца на далоні» — як раман, як мастацкі твор, як надзвычай цэласнае збудаванне. «Атл.[анты] і кар.[ыятыды]», мне здаецца, уступаюць «Сэрцу» ў цэласнасці раманнай кампазіцыі.

Новых поспехаў, новых удач!

Па-ранейшаму застаюся тваім самым шчырым, самым адданым паклоннікам — Якуб Усікаў

*Ліст І. Шамякіну ад беларускага крытыка Якуба (Якава Кірылавіча) Усікава (1919—1995). Размова ў лісце ідзе пра раман І. Шамякіна «Атланты і карыятыды», які асобнай кнігай выйшаў у канцы 1974 г., а ў перыядычным друку апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1974, № 1—3.*

**Сцяпан Майхровіч — Івану Шамякіну**

Дарагі Іван Пятровіч!

Даўно адважваўся пагутарыць з табою, але неяк сарамліва «не адважваўся». Хвароба дапамагла, — і Лечкамісія: «Няма, як кажуць, — худа без дабра».

Але што я магу сказаць свайму любімаму раманісту?!

Я магу толькі прасіць, — і няхай мая просьба не здаецца, часам, не сціплай… Самае цяжкае было б для мяне…

Я магу толькі апеліраваць да Івана Шамякіна, да яго шчырага сумлення і чыстага сэрца, да яго чалавечай схільнасці адгукацца на чалавечыя просьбы… Тым больш, што знаходзімся на крытычным схіле гадоў.

І гэта, відаць, не жарты: пражыць амаль 70 гадоў, 63 з якіх — працоўная дзейнасць, у тым ліку 13 год чорнарабочым і майстрам на шклогуце, яшчэ з 1915 года, — шклогуты — дарэчы — да рэвалюцыі не маглі абысціся без дзіцячай працы, і аб гэтым адзначана ў маіх партыйных справах.

І вось зараз, калі я стаю на рубяжы свайго 70-годдзя і 50-годдзя з дня ўступлення ў бальшавіцкую Партыю, калі спаўняецца больш як 40 гадоў працы ў нашым друку і беларускай літаратуры, — як не прасіць Івана Пятровіча Шамякіна — адгукнуцца на голас «чыстага сумлення» і, як уплывовага кіраўніка беларускай пісьменніцкай арганізацыі, прасіць нейкім чым вырашыць пытанне аб выданні збору двухтомніка маіх навуковых літаратуразнаўчых твораў з нагоды гэтага «юбілею»?

Магчыма, зноў-такі не сціпла будзе, але хочацца сказаць, што за сваю шматгадовую літаратурную працу я напісаў ухваленую спецыялістамі-прафесарамі «Гісторыю беларускай літаратуры XI—XX стагоддзяў» — акрамя шматлікіх манаграфій: «Іван Шамякін», «Георгі Скарына», «Янка Брыль», «Слова аб палку Ігаравым і беларуская літаратура», «Францішак Багушэвіч» (18 арк., на рускай мове), травесційныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» і мн., мн. іншыя (каля 100) манаграфічных нарысаў, за што, у сукупнасці, мне прысвоена навуковая ступень.

І колькі, нарэшце, засталося таго жыцця чалавеку з надарваным сэрцам… і як хацелася б убачыць — у выглядзе выдання — убачыць плёны рук сваіх! А што я зрабіў нешта карыснае, — ці не гаворыць аб гэтым двухразовае (гэта ж «Не сэрца на далоні»!) выданне маёй «Гісторыі белар. літ. XIX стагоддзя», па якой ужо 20 гадоў навучаюцца студэнты філалогіі, як сведчыць праф. Усікаў і інш.

І я прасіў бы, нарэшце, мець адпаведную пастанову Прэзідыума СП і просьбу на імя сакратара ЦК КПБ аб адпаведнай дырэктыве Камітэта па справах друку і выдавецтваў наконт прасімага мною выдання. Бо тое «хадайніцтва», якое бяздумна было даручана вырашаць маю просьбу Рыбаку, — абярнулася іроніяй на так важную, ужо, відаць, грамадскую справу, — але далёка, думаю, не асабістую.

Перакананы, што калі Іван Шамякін і Максім Танк умяшаюцца ў «маю справу», дык ёй напэўна — суджана будзе здзейсніцца.

З самым шчырым прывітаннем Сцяпан Майхровіч

12 сакав. 1977

*Ліст І. Шамякіну ад беларускага крытыка і літаратуразнаўцы Сцяпана Казіміравіча Майхровіча (1908—1981).*

*...пражыць амаль 70 гадоў, 63 з якіх — працоўная дзейнасць... — з дзіцячых гадоў С. Майхровіч працаваў на гуце.*

*...да рэвалюцыі... — да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.*

*...калі споўніцца больш як 40 гадоў працы ў нашым друку і беларускай літаратуры... — Літаратурнай працай С. Майхровіч пачаў займацца ў 1930 г.*

*«Іван Шамякін» — «Іван Шамякін: Нарыс жыцця і творчасці» (1978).*

*«Георгі Скарына» — выйшла ў 1966 г.*

*«Янка Брыль» — «Янка Брыль: Жыццё і творчасць» (1961).*

*«Слова аб палку Ігаравым і беларуская літаратура» — «Слова аб палку Ігаравым» (1968).*

*«Францішак Багушэвіч» — «Жизнь и творчество Ф. Богушевича» (1961).*

*Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995) — беларускі паэт. Народны паэт БССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1948). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966). Акадэмік АН БССР ().*

**Асвяцінскі — І. Шамякіну**

Дарагі Іван Пятровіч!

Я вельмі Вас паважаю, каб знарок не адказваць. Гэта шчыра.

Па-першае, у гэтым годзе мне «нашкодзіла» хвароба. (Перанёс аперацыю). Вашу п’есу атрымалі ў тэатры без мяне. Зараз п’еса «Залаты медаль» ляжыць на маім стале. Праўда, другі месяц.

Каб я хацеў адмахнуцца ад Вас, то даўно адказаў бы па тэлефоне.

У мяне зараз складаныя абставіны. Рэжысёры нашага тэатра не схіляюцца да пастаноўкі гэтай п’есы.

У мяне зараз задача: прачытаць Вашу п’есу на калектыве.

Яшчэ раз прыміце маё прабачэнне.

Жадаю Вам моцнага здароўя, шчасця.

Асвяцінскі

15.Х.79 г.

*Ліст І. Шамякіну ад галоўнага рэжысёра тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск) Асвяцінскага.*

**І. Шамякіну — ад родных Е. Лось**

Добры дзень, паважаны Іван Пятровіч!

Шчыра просім яшчэ раз напісаць успаміны аб Еўдакіі Лось.

Мы іх вельмі чакаем, бо як жа без Вашых успамінаў?! Яны будуць для нас самымі дарагімі і важнымі. Знайдзіце, калі ласка, час і магчымасць, каб выканаць нашу просьбу.

Ёсць у нас ужо напісанае, дасланае таварышамі. Некаторыя таварышы друкавалі свае ўспаміны.

У выдавецтве сказалі, каб прыносілі матэрыял. Вельмі просім напісаць хоць бы да 1 сакавіка 1981 г.

Добрага Вам здароўя, радасці і шчасця ў працы і жыцці.

Родныя Еўдакіі Лось

30 лістапада 1981 г. 220047, Мінск,

Томская, 35, кв. 2

Ярашэвіч Марыі Якаўлеўне

*Ліст напісаны Івану Шамякіну роднай сястрой беларускай пісьменніцы Еўдакіі Якаўлеўны Лось (1929—1977) з просьбай напісаць успаміны. На сённяшні дзень звестак аб тым, ці былі напісаны І. Шамякіным успаміны пра Е. Лось не выяўлена.*

**Ул. Сяўрук — І. Шамякіну**

Дарагі Іван Пятровіч!

Закончыўся мой адпачынак і тэрміновая камандзіроўка. Атрымаў я часопіс і рукапіс і зараз прымаюся за чытанне. Дзесяцерык (Уладзімір Ільіч) зараз у адпачынку, але мы паспелі з ім перагаварыць перад нядзеляй да яго ад’езду з Масквы, і ён цвёрда плануе ўключыць раман у план выдавецтва.

Аб ходзе працы над перакладам буду Вам паведамляць.

Жадаю Вам усяго добрага.

Як буду ў Мінску, то пазваню.

З павагай

Ул. Сяўрук

*Ліст напісаны маскоўскім перакладчыкам і грамадскім дзеячам Уладзімірам Сеўруком. Размова ідзе пра пераклад на рускую мову рамана І. Шамякіна «Петраград—Брэст». Ул. Сяўрук спачатку згадзіўся перакласці раман на рускую мову і атрымаў ад пісьменніка рукапіс і нумары часопіса «Полымя», у якіх друкаваўся твор. Але праз нейкі час Ул. Сяўрук адмовіўся перакладаць раман. На рускай мове раман «Петраград—Брэст» выйшаў у перакладзе Таццяны Шамякінай.*

**М. Стральцоў — І. Шамякіну**

Паважаны Іван Пятровіч!

З бояззю душэўнай і не без трапятлівасці прыступаю я да пачатку апавядальнай аповесці сваёй…

Так, мусіць, пісалі ў старыя добрыя часы, пачынаючы споведзь пра душэўныя крушэнні, пра нечакана-трагічныя перамены лёсу, пра злыбеду, пакутлівыя расчараванні і г. д. А што рабіць сучасным спавядальнікам?

Сучасны спавядальнік, як дзіця свайго часу, павінен быць прагматыкам і пачынаць з фактаў і толькі фактаў. А хто не ведае, што сённяшні факт робіцца фактам толькі праз рэнамэ заявы ці міліцэйскага пратакола, адным словам, пад пяром новых і мусіць-такі бессмяротных акакіяў акакіевічаў. Не прыніжаных, не, бо яны гэтага не адчуваюць, як не адчуваюць сябе прыніжанымі (наадварот!) і ўсе тыя «эмансіпэ» і навейшыя Жорж Санд, што завалілі міліцэйскія сталы (і не толькі міліцэйскія) аднастайна-паклёпніцкімі паперамі на ўласных мужыкоў (прымайце меры і выхоўвайце!), школу — клопатамі пра ўласных чадаў (выхоўвайце!), дзіцячыя сады — тож (выхоўвайце!), уласных матак — таксама (выхоўвайце!), а сабе пакінулі адно права патрабаваць і кіраваць, і пісаць, пісаць, пісаць — у парыве зноў жа навейшага «жоржсандызму». І гэта нічога, калі каторая «жоржсандыстка», як, напрыклад, мая, піша ў заяве, здесь праз «с» — так «культурней»; не страшна, калі — каторая Дунька крычыць, як на кірмашы, і просіцца ў Еўропу — там бы яна навучыла, каго трэба, нашым яраслаўскім і халопеніцкім парадкам! «Пусціце, Дуньку, пусціце!» — чуецца жыццярадасны і бадзёры покліч і ў будзень і на блаславёнае свята 8 Сакавіка.

Але гэта не так і смешна і, бадай што, не мне гаварыць гэта вам, пісьменніку і сацыяльнаму псіхолагу, які раней за іншых адчуў нейкія парушэнні ў размеркаванні «цяжару» паміж «атлантамі» і «карыятыдамі» — праблему надзённую і балючую, якую ніякімі спрошчанымі фільмамі і раманамі пра т.зв. «дзелавую жанчыну» не вырашыць і нават не высветліць — калі мы будзем «умиляться» гэтай «дзелавітасцю», а не возьмем усур'ёз у літаратуры за гэты «паўднёва-амерыканскі варыянт». Калі не будзем усур'ёз змагацца за Міхаліну, а за тых «дзекабрыстак», мужоў якіх я тут бачу кожны дзень і ў развале сямей, якія вінаватыя, думаю, не больш за сваіх жонак. Вядома, я, можа, перабольшваю, але без гэтага і ў крытыцы, хоць і літаратуразнаўчая, таксама нельга. І «сацыялізм» тут таксама, па-мойму, дарэчы.

Што там думаюць наконт гэтага цяпер такія далёкія ад мяне крытыкі?

Вось як бы пагаварыў з вамі, задаволіў прафесійнага «чарвяка», і не хочацца пасля гэтага ўспамінаць пра сваю ўласную «канкрэтыку». Дальбог. А яна ёсць, існуе, і, як кажуць, — ні ў зуб нагой!

Я тут, Іван Пятровіч, з 27 жніўня 1981 г. Здагадваўся ўнутрана, што «благоверная» можа «заделать козу» (як любіць казаць Чыгрынаў), але мусіць дурная памяркоўнасць ды звычка думаць заўсёды пра чалавека лепш — не дазваляла даць веры.

Было — у нас справа даходзіла да разводу (першы раз, у пачатку 1981 г., — адклалі ў судзе). Цяпер, вядома, шкадую, што згадзіўся. Мог бы здагадацца, куды ўсё ішло. Развод усё ж адбыўся сёлета ў маі, без мяне. Пра што даведаўся ўжо тут, напісаўшы ў Фрунзенскі народны суд. Значыцца, у жніўні, калі мяне забралі па жончынай заяве, я быў ужо нежанаты. Але справа, урэшце, не толькі ў тым.

Восенню 1979 г. я ляжаў 2 мес. у бальніцы і, вярнуўшыся дахаты, апынуўся, як кажуць, перад фактам, што ў адным пакоі паселены кватаранты (сям'я), што грошы забраныя наперад за год і патрачаны і г. д. Што робяць у такіх выпадках? Абураюцца? Абурыўся. Убачыў, што найбольш каштоўныя хатнія рэчы, кнігі і г. д. перавезены некуды. Абурыўся і сцярпеў. Што дачка пераведзена з мясцовага садзіка ў сад да цешчы і г. д. Зацяўся і сцярпеў. Змірыўся. І мір, праўда, калі-некалі быў, перамір'е. І як бы забыўся пра тое, што той жа восенню 1979 (даведаўся толькі пасля), калі ляжаў у бальніцы, была праведзена і другая «аперацыя»: Фрунз.[енскім] судом мне прызначана выплата аліментаў у суме 50 руб. у месяц. Паверыў, дурань, запэўненню, што гэта, маўляў, усё адно не мае значэння, усё адно ў сям'ю. Не пайшоў на абвастрэнне — сцярпеў. Колькі ўжо разоў, дурны?

Значыцца, так: кватаранты, што зваліліся як снег на галаву, жывуць (не выганяць жа іх на зіму!), грошыкі патрачаны — не мной, праўда, — а можа, і не патрачаны, справа не ў гэтым, — аліментны мой доўг расце (у агульны ж «кацёл»!).

І нават неяк суцяшае (а спытаць чаму?), што разлік адбываецца (ці будзе адбывацца) праз бухг.[алтэрыю] «Маст.[ацкай] літ.[аратуры]». Грошыкамі, атрыманымі ў іншых бухг.[алтэрыях], дзялюся — чаму не? Між іншым, развод, адкладзены, адбываецца 5 мая без мяне, а я сабе яшчэ хаджу і жыву жанаты. Летам жонка едзе з малой на 2 месяцы на поўдзень. У жніўні, прыехаўшы, напускае літаральна на трэці дзень на мяне каго трэба — пад белы ронічкі — і сюды. Заява, значыцца, была пададзена яшчэ да ад’езду на поўдзень ці раней. Мяне, значыцца, — сюды, а ў хату — новых кватарантаў — аж сям’ю з 5 чалавек. Жывуць. І грошыкі плацяць. І доўг мой расце таксама. Пра кватарантаў пішуць чужыя людзі, жонка ў пісьме, куды дзенешся, таксама пацвярджае.

Ужо адсюль прашу зняць з мяне хоць частку аліментнай запазычанасці, у адказ — нічога, а праз нейкі час — прапанова размяняць кватэру. Мне — адзін пакой (16,5 м.), ёй — два. Моцна чухаў я патыліцу, але згадзіўся, бо, сказаць праўду, не было ўжо ні ахвоты, ні магчымасці дабівацца праўды адсюль. Размен як быццам робіцца (прывозіла сюды дакументы, і я падпісаў), хоць, зноў жа, упарта навязваецца думка, каб у двухпакаёвай кватэры жылі кватаранты, а самой ёй жыць у прызначанай мне. Мая ўмова, каб скасаваны былі аліменты (запазычанасць) — без увагі. Маўчок. Адным словам — ні туды і ні сюды (для мяне), хоць справа там нейкая ёю робіцца, пэўна, — толькі невядома якая, але ж, вядома, не ў маю карысць.

А доўг тым часам расце. Для мяне хоць нейкім выйсцем было б, каб суд, улічваючы маё знаходжанне тут, перагледзеў справу аб аліментах, каб знізіў суму выплат (цвёрдую) ці прызначыў у працэнтах — і пераслаў выканаўчы ліст сюды. Пры маім цвёрдым заробку ў 70 руб., я здолеў бы (пры ўмове, што сума будзе перагледжана ці прызначана працэнтная) хоць нешта плаціць і зменшыць сваю запазычанасць.

Вядома, плаціць мала, але «жоначцы» трэба было думаць раней, куды і ў якія заробкі мяне выпраўляла.

Іншых заробкаў у мяне тут няма, бо адзіны мой сродак зарабіць грошы — пісаць — тут непрыдатны: няма для гэтага ні часу, ні ўмоў. Час — рэгламентаваны і прызначаны для іншага, умовы — таксама.

Вось такое маё цяперашняе становішча.

Я вас вельмі прашу дапамагчы мне, бо стаянне на той «мёртвай кропцы», як у маім выпадку, колькі б яно ні працягвалася, не вырашыць ніякіх маіх праблем, — ні літаратурных, ні сямейных, ні фінансавых, ні кватэрных.

Усё можа паправіць толькі магчымасць літаратурнай працы. Гэта для мяне галоўнае — і не толькі як сродак выйсці з маіх матэрыяльных цяжкасцей, а найперш як магчымасць аддаць сябе занятку, ад якога меў бы маральнае задавальненне, а праз гэта — і ўсведамленне той карысці, якая, магчыма, магла б быць ад гэтага — для самой літаратуры і для грамадства.

Калі трэба нейкае маё маральнае абавязацельства ці проста мужчынскае слова, то добрыя адносіны да мяне і давер я не пастаўлю на шкоду справе, я іх даю з усведамленнем усёй адказнасці за свае слова — як чэсны чалавек і літаратар. Паверце, я ўмею цаніць высакародства даверу і высакародства ўчынку.

Міхась Стральцоў

6.03. 82 г.

P.S. Прабачце за доўгі ліст. М. С.

* У Круменскі суд я ўжо больш як 2 мес. напісаў: адказу пакуль няма. — М. С.

247760

Мозыр-11, ЛТП-2,

М. С.

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Міхасём (Міхаілам Лявонцьевічам) Стральцовым (1937—1987) і адлюстроўвае не вельмі прыемны і складаны этап у жыцці таленавітага творцы.*

**М. Стральцоў — І. Шамякіну**

Дарагі Іван Пятровіч!

Ва ўсіх нас, мусіць, ёсць трохі дзіцячая звычка — як мага доўжыць нашу харошую радасць, нібы дражнячыся гэтак з ёю і самім сабой. Ці не гэтак пачуваў сябе і я, атрымаўшы Ваша добрае, важка-спагадлівае і клапатлівае пісьмо? Дзякую, што не ўсумніліся ў маёй шчырасці, — для мяне гэта ўжо само па сабе як бы ўзнагарода. Кажу сур'ёзна.

У маладосці мы часта нібы саромеемся слоў падзякі людзям старэйшым, часткова, можа, і таму, што і самі, як нам здаецца, робім вунь колькі дабра, ды яшчэ раскідваючыся цэлымі бярэмамі і кошыкамі. Толькі з гадамі разумееш, што рабіць дабро — гэта не адна толькі размашыстаць натуры, не хвілінная чуллівасць там нейкая, тым больш не тая паблажлівая дабрачыннасць, якая ў нас, славян, часта ад ляноты рознай, у тым ліку і душэўнай, — ад абыякавасці ў канчатковым выніку, калі сказаць проста. Гэта рыса сапраўды славянская, ці не праўда?

Я ўсё гэта да таго, каб сказаць Вам, наколькі па-чалавечы, па-мужчынску кранула мяне і надало моцы душэўнай Ваша пісьмо — у маім, ужо не такім і малым, дзякуй богу, узросце. Я зноў шчаслíва адчуў харошую, дзейсную сілу дабра, дабраты, сапраўднай далікатнасці,ураўненасці ў перажыванні чужой бяды (о, гэта важна!) — я буду старацца быць вартым гэтага высакароднага ўрока і буду шчыра верыць, што чалавек у такім усведамленні не можа быць адзінокім. Мне перападала трохі ў жыцці па частцы «скорбей» розных, і Вы зразумееце мяне, калі я скажу, што гэта не так і лёгка, што не лёгка засцерагчыся ад гіпертрафацыі крыўды, скрухі, расчаравання. Пакуту можна рэкамендаваць як маральны стымулятар — у гэтым няма нічога дзіўнага, — але, мусіць, у пэўных і абмежаваных дозах. «Дастаеўскі, але ў меру» — так, здаецца, назваў некалі Томас Ман артыкул пра нашага «празарліўцу» — і меў, мусіць, рацыю, як кажуць, хоць у «Докт. Фаустусе» і даў выдатную сцэну размовы Леверкюна са сваім «чортам» — без ценю пародыі, між іншым, на Дастаеўскага. А меру ведаць трэба, гэта праўда.

Думаю я тут тое-сёе і пра пісаніну. Напачатку, у цяжкаватым стане псіхалагічным, перасільваючы сябе і ачышчаючыся, так сказаць, спрабаваў пісаць вершы — здаецца, дапамагала. Вось чаму да гэтай маёй літаратурнай слабасці і другая ўжо, душэўная слабасць, накшталт бацькоўскай любві да свайго нягеглага дзіцяці. Але прозу, прозу хочацца пісаць, так даўно не пісаў яе, і, сказаць праўду, думаю цяпер пра гэта са спадзяваннем і страхам. Загуляўся мой конь па творчай волі, па вяселлях ды па папасах, — ды ці не пара яму ў плуг!

Усяго добрага Вам, дарагі Іван Пятровіч! І шчыры, вялікі дзякуй.

Ваш

М. Стральцоў

5.04.82

*Гэты ліст напісаны М. Стральцовым ў адказ на пісьмо І. Шамякіна, якое на сённяшні дзень выявіць не ўдалося. Тут М. Стральцоў паўстае больш заспакоеным і накіраваным на творчую працу.*

*«Дастаеўскі, але ў меру» — так, здаецца, назваў некалі Томас Ман артыкул… — эсэ Томаса Мана «Достоевский — но в меру» (1946). Ман Пауль Томас (1875—1955) – нямецкі пісьменнік, эсэіст, майстра эпічнага рамана. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1929). Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821—1881) — адзін з самых значных і вядомых у свеце рускіх пісьменнікаў.*

*…у «Докт. Фаустусе» — раман (1947) Томаса Мана.*

*Леверкюн Адрыян — герой рамана Томаса Мана «Доктор Фаустус».*

***Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыяў***
***Алесі ШАМЯКІНАЙ.***

**Наталля ПАХОМЧЫК**

# БЕЛАРУСКАЯ ВЯСКОВАЯ ПРОЗА НА МЯЖЫ 1920—1930-Х ГГ.
## (Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Змітрок Бядуля): наратыўны аспект

«Вясковае — адсталае, гарадское — перадавое»: пабудова пралетарскай дзяржавы ў БССР з самага пачатку суправаджаецца карэннай трансфармацыяй сацыяльнай сістэмы на карысць «гарадской ідэнтычнасці як сацыяльнага ідэалу дзяржаўнай улады» [11, с. 10]. «Вясковасць», «вясковая ідэнтычнасць» знутры гэтага ідэалагічнага дыскурсу выглядае непрывабна — як прыклад слабаразвітага «пачуцця пралетарскай салідарнасці» [11, с. 7]. А на мяжы 1920—1930-х гг. — з разгортваннем мерапрыемстваў па суцэльнай калектывізацыі — гэтая ідэалагічная ўстаноўка-апазіцыя набывае яшчэ большую вастрыню і, перанесеная на самі вясковыя рэаліі, пераназывае маёмасную дыферэнцыяцыю на вёсцы як апазіцыю, груба кажучы, «перадавой» беднаты і «адсталых» заможных сялян.

Як карэлююць гэтыя ідэалагічныя ўстаноўкі з паэталагічным узроўнем беларускай вясковай прозы на мяжы 1920—1930-х гг. — цікавае пытанне і перспектыўнае ў сэнсе выяўлення магчымых стратэгій аўтанамізацыі[1] ў тагачаснай беларускай літаратуры.

*Іншымі словамі — ці здольныя былі пісьменнікі «пераварочваць», падвяргаць крытыцы, ігнараваць гэтыя ідэалагічныя ўстаноўкі ў сваіх творах? І калі здольныя — то як?*

У дадзеным артыкуле ў святле гэтых агульных пытанняў аналізуецца аповесць Кузьмы Чорнага «Лявон Бушмар» (1929), раманы «Мядзведзічы» (1932) Кандрата Крапівы і «Язэп Крушынскі» (1929—1932) Змітрака Бядулі з пункту гледжання таго, як у гэтых творах рэгулюецца ідэалагічна рэлевантная інфармацыя (перадусім — адносна ўжо агучаных вышэй дыхатамічна зарыентаваных ідэалагічных установак): гэта найперш пытанні, звязаныя з тым, што і як адбіраецца ў творы як падзея і якім чынам арганізаваны сам аповед.

У адносінах да тэарэтыка-метадалагічнага грунту адзначым, што адносна сюжэталогіі — гэта найперш праца Вольфа Шміда «Нараталогія», перадусім яе раздзел «Наратыўныя трансфармацыі: падзеі — гісторыя — нарацыя — прэзентацыя нарацыі». Адносна ж перспектывалогіі твораў звярнемся да наратыўных катэгорый, распрацаваных у «Апавядальным дыскурсе» Жэрарам Жэнетам.

Адпраўным пунктам стануць наступныя развагі Шміда: «Без пункту гледжання няма гісторыі. Гісторыі самой па сабе не існуе, пакуль наратыўны матэрыял не становіцца аб'ектам «гледжання» ці «перспектывы». Гісторыя ствараецца

---

[1] Упершыню на сістэматычнай аснове гэтае пытанне разглядалася ў артыкуле Г. Б. Колер і П. І. Навуменкі «Аспекты і стратэгіі інстытуцыянальнай і эстэтычнай аўтанамізацыі ў «малых» літаратурах (на матэрыяле беларускай літаратуры першай трэці XX ст.)» (2013). Пад аўтаномнасцю тут «разумеецца не незалежнасць адной літаратуры ад іншых, а «самазаконнасць» самой літаратурнай сістэмы ў рамках сістэмы грамадскай — інакш кажучы, незалежнасць літаратурнай сістэмы (ці яе часткі) ад таго, што П. Бурдзьё называў «полем улады»: ад той сістэмы іерархізацыі, якая робіць магчымым доступ да капіталу, прэстыжу і ўлады ў іншых грамадскіх сферах (у палітыцы, у рэлігіі, у эканоміцы і г. д.)» [6, с. 19—20].

толькі адборам асобных элементаў з прынцыпова бязмежнага мноства элементаў, прыналежных падзеям. А адбор заўсёды кіруецца пэўным пунктам гледжання» [16, с. 122].

Думаецца, крытэрыі рэлевантнасці пры адборы наратыўнага матэрыялу праз структуру твора будуць усталёўваць і крытэрыі значнасці ў адносінах да самога апавядаемага (гэта можа шмат у чым паўплываць і на ацэнку чытача) — на закладзеную ў творы ацэначную пазіцыю таго, пра што апавядаецца. Дапасаванне да вясковага матэрыялу пэўных ідэалагем («кулак», «класавы вораг» і інш.) магло ісці шляхам расстаноўкі адпаведных крытэрыяў рэлевантнасці ў адносінах да таго, што будзе адабрана як *падзея*, а што — не.

Разгляд жа праз прызму такіх параметраў, як, напрыклад, час, мадальнасць (паводле Жэнета), можа выявіць і больш тонкія механізмы рэгулявання ў мастацкім творы ідэалагічна рэлеватнай інфармацыі.

*Менавіта зыходзячы з гэтага і будзем шукаць адказ, наколькі глыбока дазволіць Кузьма Чорны пусціць карэнне ідэалагічным устаноўкам у сваёй аповесці, ці стане прыкметным у «Лявоне Бушмары» след ад нядаўна завершаных «Вераснёвых начэй» — творы-перакананні ў самадастатковасці і самакаштоўнасці вясковага сялянскага свету.*

## «Лявон Бушмар» Кузьмы Чорнага

Ставячы ў цэнтр аповесці героя, які ў межах тагачаснага ідэалагічнага дыскурсу класіфікуецца як «кулак», Кузьма Чорны займае дастаткова ўразлівую перад ідэалагічна заангажаванай крытыкай пазіцыю. Нездарма ў творы, першапачаткова надрукаваным у часопісе «Узвышша» (1929, № 7—10), пры перавыданні праз год асобнай кнігай зроблены шэраг змен-пасведчанняў таго, «як рашуча выкрэслівае аўтар з тэксту ўсё, што супярэчыць яго ўяўленню пра чалавека-ўласніка» [12, с. 54][1].

Зрух ацэначнай пазіцыі ў адносінах да вобраза галоўнага героя можна прасачыць не толькі ў аўтарскіх праўках — паміж першай і другой рэдакцыямі аповесці, але і на больш глыбінным — наратыўным узроўні твора ўжо ў яго першапачатковым варыянце, перадусім — паміж яго першымі дзвюма і трэцяй часткамі.

Паводле вылучаных Жэнетам чатырох асноўных формаў наратыўнага руху — суадносін паміж часам гісторыі і часам аповеду[2], якія ўтвараюць яго тэмп, у першых дзвюх частках «Лявона Бушмара» ў параўнанні з заключнай трэцяй больш значнае месца займае сцэна. Гэта і сцэна з армейскага жыцця Бушмара, і сцэны яго ўзаемаадносін спачатку з Аміляй (сустрэча, нараджэнне кахання, спрэчкі і г.д.), потым з Галенай і інш. Сцэны тут найчасцей — дыялагічныя. Гэта ў сваю

---

[1] Так Міхась Тычына вылучае, напрыклад, наступныя шэрагі скасаванняў: «Думаць ён не прывык», — вызначае аўтар адну з важных рыс героя і паслядоўна выкрэслівае ўсё, што не адпавядае гэтай характарыстыцы. «Ён стаяў над загіністым берагам каламутнай рэчачкі і кудысьці глядзеў, або *быў у моцным задуменні*» (Узвышша. 1929. № 7. С. 13). «*Бушмар пачаў ужо думаць*» (Узвышша. 1929. № 7. С. 15)... Яго пачуцці — пачуцці звера, які бачыць перад сабой ахвяру. Таму ўсё, што супярэчыць такому разуменню, апускаецца: «Бушмар маўчаў. *У яго заныла сэрца*». «Ён рабіўся больш ужо жорсткім, хоць часамі находзіла на яго нейкае *чалавечае* прасвятленне» (Узвышша. 1929. № 7. С. 6)» (курсіў. — Тычыны М. А.) [12, с. 54—55] .

[2] Жэрарам Жэнетам яны апісваюцца ў выглядзе наступных формул:

1 **паўза**: ЧА = n, ЧГ=0. Адпаведна: ЧА°° > ЧГ (дзе ЧА — гэта час аповеду, а ЧГ — час гісторыі);
2. **сцэна**: ЧА=ЧГ;
3. **рэзюмэ**: ЧА < ЧГ;
4. **эліпсіс**: ЧА=0, ЧГ=n. Адпаведна: ЧА < °°ЧГ [4, с. 126].

чаргу — рэлевантны паказнік і паводле катэгорыі наратыўнай мадальнасці[1]. Паводле ступені апасродкаванасці такія сцэны максімальна набліжаны да самога апавядаемага, найбольш непасрэдныя.

Пачынаючы ж з трэцяй часткі аповесці Лявон Бушмар, вобраза кажучы, «сыходзіць са сцэны». Тэмп аповеду пры гэтым значна паскараецца, што шмат у чым забяспечваецца больш актыўнай роляй summary, або аповеду-рэзюмэ.

Нават дыялагізаваныя сцэны, напрыклад, — паміж Аміляй і яе братам Уладзем — разгортваюцца па іншых, далёкіх ад драматызацыі прынцыпах, абапіраючыся ізноў жа на элементы рэзюмэ: «Нашы дзеці ўжо не будуць гэтакімі, — зноў здагадалася яна. — Толькі нам трэба, можа, нават дзе й з цяжкасьцю, назаўсёды *адвязацца ад старога. Вырваць яго з сябе...* Я от табе скажу гэта адным словам — *забіць і вытруціць бушмараўшчыну...*» [15, с. 16—17][2].

Аповед, асабліва ў дачыненні да Лявона Бушмара, заўважна пераходзіць пад наратыўнае апякунства, паступова змяняючы полюс цытатнага дыскурсу на дыскурс найбольш дыстантны — наратавізаваны. У гэтым сэнсе, напрыклад, паказальныя напрыканцы другой часткі аповесці чуткі пра Бушмара, якія прыгадвае Вінцэнт: «Ён прыслухоўваўся і прыглядаўся, што робіць і дзе паварочваецца Бушмар. І чуў тут прыемныя навіны. Бушмар, казалі, бунтуецца. *Хтосьці недзе чуў*, як ён гразіўся *нейкаму, нібыта* гаварыў, што жывым у рукі ня дасца[3]. *Дакладна гэтага ніхто не сьцьвярджаў*, але гаворкі было...» [15, с. 27].

Так, двайное наратыўнае пасрэдніцтва — інтэрпрэтацыі іншых герояў, накладзеныя на аповед асноўнага наратара (у апошнім прыведзеным прыкладзе інтэрпрэтацыйная адлегласць падкрэсліваецца асабліва выразна — «*хтосьці недзе* чуў», «гразіўся *некаму*», «*нібыта* гаварыў») — павялічваюць дыстанцыю да самога апавядаемага; галоўны герой з дыскурсу ўласніцтва (гаспадарства на сваёй зямлі) паступова трапляе ў дыскурс тэрарызму, пры гэтым ацэначная пазіцыя ў адносінах да Лявона Бушмара напрыканцы твора схіляецца да адназначна негатыўнай, што, аднак, у кантэксце ў цэлым выглядае пэўным дысанансам.

Такім чынам, бачныя праз прызму такіх наратыўных катэгорый, як мадальнасць (дыстанцыя) і час (тэмп аповеду), змены ў аповедзе напрыканцы другой — трэцяй частак (паскарэнне яго з аддаленнем ад самога апавядаемага) сігналізуюць пра пэўны асноватапалеглы пералом у самім прынцыпе адбору мастацкага матэрыялу. Гэта адчувальна схіліла ацэначную пазіцыю ў творы галоўнага героя да негатыўнай.

Магчыма, гэты зрух матываваны імкненнем аўтара не супярэчыць — прынамсі, адкрыта, — вымагаемай на той час «клясавай выразнасьці і чоткасьці... літаратуры» [5, с. 93]; з іншага боку, — гэта можа быць успрынята таксама і як камуфляжная стратэгія — імкненне схаваць галоўнага героя за часта гіпербалізаванымі інтэрпрэтацыямі іншых персанажаў.

*На момант напісання рамана «Мядзведзічы» ў Крапівы, як і ў Чорнага, ужо быў дастаткова багаты вопыт працы з вясковым матэрыялам. Аднак, у адрозненне ад псіхалагічна заглыбленай творчасці Чорнага, ён мог працаваць з вясковай тэматыкай дастаткова «груба» (варта згадаць, напрыклад, яго «вершы, у*

---

[1] «Малюнак» ці, больш дакладна, — наратыўная інфармацыя бывае розных ступеней; аповед можа паведамляць чытачу больш ці менш падрабязнасцей, больш ці менш непасрэдным чынам, і тым самым... як такі, што знаходзіцца на большай ці меншай дыстанцыі ад апавядаемага; ён можа таксама рэгуляваць паведамляемую інфармацыю не шляхам аднастайнага фільтравання, а ў адпаведнасці з дасведчанасцю тых ці іншых дзеючых асоб» [4, с. 181—182].

[2] Тут і далей у цытатах захоўваюцца асаблівасці правапісу арыгінала (курсіў. — **Н. П.**).

[3] У асобным выданні твора за 1930-ы год зроблена прыпіска, якая захоўвалася ў наступных зборах твораў: «*...што страсяне ўсю акругу і вялікі след па сабе пакіне...*» [13, с. 68].

*якіх крытыкуецца адсталасць і цемрашальства, «ідыятызм» вясковага жыцця» [10, с. 11—12]). І адказ на пытанне адносна таго, якім чынам карэлююць тагачасныя ідэалагічныя ўстаноўкі з наратыўным узроўнем яго «вялікай» прозы (рамана), можа шмат у чым паглыбіць сумарны літаратуразнаўчы погляд на пазіцыю Крапівы ў тагачаснай літаратуры.*

## «Мядзведзічы» Кандрата Крапівы

Прынцып адбору мастацкага матэрыялу ў рамане «Мядзведзічы» шмат у чым блізкі таму, што назіраўся ў аповесці «Лявон Бушмар» Кузьмы Чорнага: героі, якія маюцца быць, напрыклад, «кулакамі-ворагамі», чым далей — тым больш паўстаюць негатыўнымі ў святле сваіх учынкаў[1]; гэта ў сваю чаргу робіць прымальнай і зразумелай палітыку калектывізацыі тым героям, якія маюцца быць станоўчымі, адпаведна карэктуе іх паводзіны[2].

Дрэнныя ўчынкі «ворагаў» паглыбляюць палярызацыю персанажаў, спрыяюць больш выразнаму вылучэнню «сваіх». Але ў «Мядзевічах» гэты прынцып адбору падзей, не ведае таго пераломy, што назіраўся ў аповесці Кузьмы Чорнага. Ідэалагічна рэлевантная інфармацыя рэгулюецца паводле іншых механізмаў: аповед з самага пачатку больш актыўна задзейнічае змену дыстанцыі ў адносінах да апавядаемага, тэмп аповеду пры гэтым істотна не змяняецца. Адбываецца гэта ў першую чаргу за кошт змены факалізацыі[3] — змене яе тыпу (нулявой, унутранай, знешняй), факальнага персанажа, адлюстраванні адной падзеі з розных пунктаў погляду і г. д.

Так, напрыклад, увядзенне першага ўжо адмоўнага персанажа ў твор — дэзерціра і злодзея Уладзіка — суправаджаецца неаднаразовай зменай факалізацыі: знешні фокус на апісанні («Па Бараўской дарозе ідзе чалавек» [7, с. 3]) паступова пераходзіць да ўнутранага, даючы чытачу кароткі доступ да думак героя («Нечы авёс яшчэ ў бабках стаіць» [там жа]), коратка, але выразна фіксуючы пэўны прагматызм («гаспадарскае вока») героя ў адносінах да знешніх рэалій, і ізноў пераходзіць пад апякунства стрыманага і варожа скіраванага ў адносінах да героя фіктыўнага апавядальніка («Чалавек лавіў гэтыя гукі, аж выцягваў шыю, здаецца, прынюхваўся да паветра, у якім яны разлягаліся, *як воўк, што падкрадаецца да вёскі, каб чым пажывіцца*» [7, с. 4]). Наступны пераход на ўнутраную факалізацыю праз увядзенне разгорнутай сцэны-ўспаміну з маленства (пачынаючы са слоў «На гэту елку яшчэ васьмігадовым хлапчуком ён залазіў, аж на самы вяршок, кукаваў там зязюляй і кідаўся шышкамі... » [там жа]), якая месцамі падаецца і праз рэтраспектыўны дзіцячы пункт гледжання («Ого-го-го-о-о! Зловіць яна мяне! Узьлезь, паспрабуй, дык і ляпнеш з елкі» [там жа]), набліжае персанаж, здаецца, занадта блізка да чытача для таго, каб ён мог захоўваць статус адна-

---

[1] Так, напрыклад, рэпутацыя Грамабоя як адназначна адмоўнага героя падмацоўваецца такім падзейным «фонам», як зрыў вяселля сына (пар. «Кнак» Платона Галавача), далёка не братэрскія ўчынкі ў адносінах да роднага брата, замах на забойства (пар. «Лявон Бушмар» Кузьмы Чорнага) і інш.; паступова раскрываецца заганнае дарэвалюцыйнае мінулае Соміка (пар. «Апошні зверыядавец» Міхася Лынькова) і г. д.

[2] Так, Рыгор Варанец піша заяву «ў камуніcцічаскую парцію» толькі пасля таго, як яму «гады і кулакі паламалі... ногі» [7, с. 204]; Каржакевіча пазбаўляюць права выбарчага голасу толькі пасля таго, як высветлілася, што той «злосна эксплёатаваў падросткаў» [7, с. 176]; Міколу (сына Грамабоя) кваліфікуюць як «таго самага клясавага ворага» [7, с. 106] пасля таго, як ён удзельнічае ў зрыве спектакля і г. д.

[3] «...Спосаб рэгулявання інфармацыі, які вынікае з выбару (ці ня-выбару) пэўнага абмежавальнага «пункту гледжання»» [4, с. 202]; «Каб пазбегнуць спецыфічных візуальных канатацый, уласцівых тэрмінам «погляд», «поле» і «пункт гледжання», я прымаю тут крыху больш абстрактны тэрмін факалізацыя...» [4, с. 205—206].

значна адмоўнага. Рэгуляванне такіх момантаў адбываецца за кошт пераходаў ад занадта блізкага ракурсу на больш аддалены: «Чалавек усьміхнуўся сам сабе... *Але ўсьмешка раптам зьбегла з твару, і ён ужо стаў жорсткім і настарожаным*» [7, с. 5].

Гэты рух-аддаленне найбольш заўважны пры пераходах да ўнутранай факалізацыі на Юзіку Верамейчыку (адзін з найбольш ідэалагічна вытрыманых герояў рамана), калі аповед набліжаецца да summary, або аповеду-рэзюмэ. Спробы гэтага персанажа пераадолець крытычны бар'ер і ўпісаць уласныя разважанні, разгорнутыя ў рамане як напружаная ўнутраная падзея, у рэчышча ідэалагічных установак найчасцей немагчымыя без апеляцыі да адцягнутых, часта метафарычна пераасэнсаваных паняццяў, далёкіх ад вымярэння побытавай практыкі: «...а вёска засталася па-ранейшаму, па-зьвярынаму прагавітая і цёмная. Юзік адчуваў, што *недзе на краі яго сьвядомасьці туліцца нешта ня зусім згоднае* з яго такімі разважаньнямі. Але ў гэту хвіліну ён у думках стараўся ня кротаць *гэтага нешта*. Гэта было *тое, новае* ў вёсцы, да чаго ён употай далучаў і сябе, што канкрэтна зьвязвалася з вобразамі Сьцёпкі, Шуры ды іншых некаторых, і яшчэ *тое, часта ня зусім для яго выразнае, што ня столькі бачылася, колькі адчувалася*; і *тое новае, хвалі якога патрошку, але ўсё сьмялей падмываюць грунт старога вясковага ўкладу, адрываюць ад яго кавалачкі і кавалкі...*» [7, с. 27][1].

Нагадаем, што ў такім жа абстрактным вымярэнні вымушаны тэматызаваць дыхатамічна зарыентаваныя ідэалагічныя ўстаноўкі і персанажы аповесці Кузьмы Чорнага: «Толькі нам трэба, можа, нават дзе й з цяжкасьцю, назаўсёды *адвязацца ад старога. Вырваць яго з сябе...* Я от табе скажу гэта адным словам — *забіць і вытруціць бушмараўшчыну...* » [15, с. 16—17].

Такім чынам, адбор наратарам «з прынцыпова бязмежнага мноства элементаў, прыналежным падзеям» [16, с. 122], што ў выніку і складаюць гісторыю (агаворымся — нясконачаную) вёскі Мядзведзічы, можа сведчыць пра наступнае: з аднаго боку, асноўны падзейны рад у творы блізкі да таго, каб упісацца ў рэчышча ідэалагічных установак, з другога — «зазямленне» гэтых падзей на побытавым вясковым матэрыяле (захаванне ў матывацыі ўчынкаў персанажаў устаноўкі на практычнасць і пэўны прагматызм) робіць такое ўпісванне даволі праблематычным і часта вымагае дадатковага рэгулявання аповеду (змены факалізацыі, звароту да аповеду-рэзюмэ).

Пракладаючы сваю «сэнсавую лінію, якая вылучае адны элементы і пакідае іншыя збоку» [16, с. 164], наратар, такім чынам, арганізоўвае і афармляе выніковы падзейны рад так, што той, застаючыся кампрамісным у дачыненні да многіх ідэалагічных установак, тым не менш шмат у чым уступае з ім у адносіны глыбокай канфрантацыі.

*Вызначыць больш дакладна, ці набліжаліся апісаныя вышэй прынцыпы наратыўнай пабудовы твораў да статусу тыпалагічных у кантэксце свайго часу, — шмат у чым можа зварот да рамана «Язэп Крушынскі» Змітрака Бядулі. Гэта твор іншай, не тыповай сялянскай дыспазіцыі (як, напрыклад, у Кузьмы Чорнага ці Кандрата Крапівы), пісьменніка з больш актыўным зваротам у папярэдняй творчасці да «пазіцыі інтэлігента, ва ўсялякім выпадку не чалавека сялянскага,*

[1] Пошукі аналогій з вайной могуць сведчыць пра імкненне перакадзіраваць падзеі паводле дыхатамічнай ацэначнай сістэмы (паводле апазіцыі «свой» — «вораг»), спрасціць іх. Іншыя прыклады: «Я думаю, што гэта правіла вайсковага статута для нас у даным выпадку цалкам падыходзіць...» [7, с. 138]; «Але самы яскравы момант, які надоўга застанецца ў памяці тых, хто там быў, пра які нельга забыцца, гэта калі сталі дзьве малатарні адна проці другой, як батарэі дзьвюх варожых армій» [7, с. 198]. Паказальная таксама і спроба параўнаць сітуацыю на вёсцы з гарадской як больш адназначнай: «У горадзе, там прасьцей: вытурылі буржуяў, забралі фабрыкі і заводы і цяпер толькі ўмей пусьціць іх у ход. А тут-жа людзей з зямлі ня згоніш, і нідзе ты іх ня дзенеш, і нікім ты іх не заменіш» [7, с. 87].

*мужыцкага асяроддзя...» [9, с. 243], што можа карэнным чынам уплываць і на зыходныя прынцыпы наратыўнай арганізацыі твора.*

*З другога боку, Бядуля больш «здольны да пераўвасаблення» [9, с. 251] ідэалагічнага складніка сваіх твораў (што выявілася, напрыклад, пры аўтарскіх рэдагаваннях аповесці «Салавей»): «Да з'яўлення «Язэпа Крушыскага» беларуская літаратура мела аповесць «Лявон Бушмар» Кузьмы Чорнага», крыху пазней яго ж «Трэцяе пакаленне», раман «Мядзведзічы» К. Крапівы, «Вязьмо» М. Зарэцкага, прысвечаныя вёсцы пярэдадня калектывізацыі. Тым часам ні ў адным з названых твораў няма такой прывязанасці палітыкі, ідэалогіі да рэальных падзей калектывізацыі, як гэта бачым у «Язэпе Крушынскім», хоць твор адлюстроўвае толькі паасобныя эпізоды стварэння калектыўных гаспадарак у 20-я гады» [9, с. 257]. Гэта таксама здольна значна адхіліць наратыўную стратэгію Бядулі ад таго, што назіралася ў папярэдніх выпадках.*

*Таму — разгляд «Язэпа Крушынскага» Змітрака Бядулі бачыцца важным і прынцыповым крокам у высвятленні таго, ці будуць паралелі ў наратыўнай арганізацыі вышэй пракаменціраваных твораў мець статус тыпалагічных, ці не.*

## «Язэп Крушынскі» Змітрака Бядулі

Вынясенне ў цэнтр твора героя-«кулака» як альтэрнатыўнага афіцыйнай уладзе крэатыўнага цэнтра на вёсцы найчасцей суправаджаецца і тэндэнцыяй адваротнага характару — наратыўная прастора арганізоўваецца так, што такія героі імкнуцца быць вынесенымі на перыферыю вёскі. Так адбываецца і ў рамане «Язэп Крушынскі»: ужо на ўзроўні хранатопа твора галоўны герой супрацьпастаўляецца астатняй сялянскай грамадзе. Аднак гэта не бінарная апазіцыя, як было, напрыклад, у «Лявоне Бушмары» ці «Мядзведзічах», а больш разгалінаваная сістэма супрацьпастаўленняў: у адносіны адназначнай ідэалагічна рэлевантнай апазіцыі ўступаюць па сутнасці толькі хутар Курганішчы (уключна з навакольнымі вёскамі Дразды і Дзятлы) і больш аддаленая вёска Гайдачаны, з якой у Крушынскага па сутнасці няма такіх кантактаў, як з Драздамі і Дзятламі.

Гэта, ізноў жа, дазваляе аддаліць такую апазіцыю ад унутры-вясковай ацэначнай сістэмы, дзе пад увагу бярэцца найперш практычнасць тых ці іншых пераўтварэнняў.




Паказальны, напрыклад, канфлікт ацэнкі ідэалагічна рэлевантнай навіны «сын паступіў у камсамол» старэйшымі сялянамі-гаспадарамі і маладым «передавым» чалавекам: «Глядзі, Цыпрук, твой Мікола туды-сюды і ў камісары выкруціцца! Цяпер лёгка, не царскія часы. О-го! Помні маё слова — камісарам будзе!» [3, с. 11]; «Тут можна і кароўку яшчэ адну набыць і каня лепшага, ды наогул... Будзе ён на гаспадарку грошы прысылаць» [3, с. 12]. Прагматызм вяскоўцаў выклікае абурэнне з боку маладога «перадавога» чалавека, які ў сваю чаргу імкнецца пераназваць гэтую навіну ізноў у межах афіцыйнага ідэалагічнага дыскурсу: «Хораша вы разумееце камсамол, няма чаго і казаць! Па-вашаму выходзіць, што ў комсамол паступаюць дзеля таго, каб зрабіцца камісарамі, а камісары толькі тое і робяць, што бацькоў грашмі абсыпаюць. Дзе вы такіх бачылі? Калі такія дзе і ёсць, дык вон іх выганяюць» [3, с. 12]. У выніку спрэчка заканчваецца досыць камічна, агаляючы адарванасць пераканання маладога чалавека ад побытавых рэалій:

«— Ага, а дзеля чаго?

— Для ідэі!

— Для яды? Мы-ж тое самае кажам...» [3, с. 13]

І ў такой, максімальна набліжанай да вымярэння побытавай практыкі сістэме ўзаемаадносін[1] Язэп Крушынскі не можа набыць статус «эксплуатататара», тут яшчэ занадта моцны асабісты фактар; а вось у сутыкненнях з Гайдачанамі гэта ўжо цалкам магчыма.

Падмацоўвае «эксплуататарскую» сутнасць Язэпа Крушынскага і больш яркі, чым, напрыклад, у «Лявоне Бушмары» ці «Мядзведзічах», негатыўны падзейны фон (асабліва гіпертрафіраваны ў другой частцы рамана): гвалт, кантрабанда, сімуляцыя хваробы і г. д.

І тым не менш, пры ўсёй пераважна вытрыманай дыстанцыі ў адносінах да апавядаемага, пры ўсёй заўважнай падпарадкаванасці крытэрыяў адбору мастацкага матэрыялу замацаванню дыхатамічна зарыентаваных ідэалагічных установак — Змітрок Бядуля вымушаны быў звярнуцца да дадатковага сродку выяўлення аўтарскай пазіцыі ў адносінах да персанажаў. У слове «Ад аўтара» ён апелюе да нефікцыянальнага статусу свайго галоўнага персанажа: «Я павінен зазначыць, што ўсе героі роману і іхнія учынкі ўзяты мною непасрэдна з жыцьця. Бадай усе натуршчыкі сябе пазнаюць. Цікава яшчэ тое, што пазнаюць сябе і такія, якіх я зусім не ведаў і ня меў на ўвазе. Таксама многія з чытачоў у провінцыі знаходзяць сваіх Язэпаў Крушынскіх і дзівяцца, скуль я іх ведаю... » [2, с. 3—4].

Гэта, у сваю чаргу, сведчыць пра асновапалеглыя змены ва ўзаемаадносінах паміж літаратурай і «полем улады»: пры патрабаваннях адназначнай, празрыстай падпарадкаванасці ідэалагічным установкам[2] наратыўныя стратэгіі кампраміснага дапасавання да іх ужо непрымальныя, што будзе вымушаць аўтараў звяртацца да дадатковага сродку звужэння магчымага кола інтэрпрэтацый свайго твора — аўтакрытыкі самім жа напісанага.

## Высновы

Як бачым, наратыўныя стратэгіі такіх адрозных па зыходных дыспазіцыях аўтараў, пры звароце да вясковай тэматыкі шмат у чым перасякаюцца. З аднаго боку, прынцыпы арганізацыі падзейнага раду ў разгледжаных творах могуць быць прачытаны як адзнака дапасавання да тагачасных дыхатамічна зарыентаваных ідэалагічных установак: палярызацыя герояў адпаведна іх, напрыклад, сацыяльнаму статусу цалкам упісваецца ў палітычную тэрміналогію калектывізацыі сельскай гаспадаркі; з другога, — спецыфічная арганізацыя самога аповеду пазбаўляе гэтае дапасаванне адназначнасці: «гуляючы» на мадальнасці аповеду,

---

[1] Характэрнае ў гэтых адносінах своеасаблівае ўвядзенне ў вясковую камунікатыўную і ацэначную сістэму на самым пачатку рамана: «Многа дзесяткаў гадоў ведае селянін гэту дарогу. Тут жыў яго бацька, дзед. Тое, што стары бачыў і чуў тутака да гэтага лета 1924 году, не змясцілася б у вялікай кнізе. І цяпер селянін чакае, можа хто паедзе, можа хто наведаецца... А то нуда, як моль, заела. Суседзі даўно ўжо надакучылі. У кожным з іх ён бачыць, як у люстэрцы, самога сябе. У іхняй гутарцы чуе подгаласак уласных слоў і думак» [2, с. 6].

[2] Прызнанне пэўнай устойлівасці вясковага матэрыялу перад знешнімі ідэалагічнымі ўстаноўкамі (тут на прыкладзе ідэалогіі каланізацыі) у Змітрака Бядулі можна знайсці і ў яго публіцыстыцы — напрыклад, артыкуле 1920-га года «Чаму яшчэ няма беларускага рамана?», ён зазначае: «Сялянскі быт, таксама, толькі зверху здаецца нецікавым. Але калі мы глянем на яго болей пільным вокам, дык знойдзем багатыя скарбы, моцны грунт для рамана... Убіванне свядомай нацыянальнай думкі праз русіфікацыю і паланізацыю цэлымі вякамі, аднак, да поўнай мэты моцных братоў нашых не давяло нашае сялянства, у сэрцы якога падсвядома жыве самабытны індывідуалізм...» [1, с. 439].

яго інтэрпрэтацыйнай дыстанцыі, такі аповед здольны пакідаць шырокую прастору і для альтэрнатыўных ацэнак апавядаемага, крытычных у адносінах да тых жа самых ідэалагічных установак, якія (нібыта) падтрымліваюцца падзейным радам твораў.

Ужо сама тэматызацыя вясковых рэалій здольная шмат у чым увесці ў твор пэўны «імунітэт» перад ідэалагічымі ўстаноўкамі: калі, напрыклад, для тагачаснага ідэалагічнага дыскурсу характэрная «стратэгія ўтрымлівання любога выказвання ў зоне нявызначанасці» [8, с. 30], то вясковыя дыскурсныя практыкі скіроўваюцца ў адваротным накірунку — да іх «агалення» ў вымярэнні побытавай практыкі.

## Літаратура


1. Бядуля, З. Выбраныя творы / Змітрок Бядуля. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 492 с.

2. Бядуля, З. Язэп Крушынскі / Змітрок Бядуля. — Выд. 2-е, папраўленае і дапоўненае аўтарам. — Менск [Мінск]: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1931. — Кн. 1. — 415 [1] с.

3. Бядуля, З. Язэп Крушынскі / Змітрок Бядуля. — Рэд. П. Галавач. — Мінск: Дзяржвыд Беларусі: ЛіМ, 1932. — Кн. 2. — 370 [1] с.

4. Женетт, Ж. Фигуры: в 2 т. / Ж. Женетт. — Пер. с фр. Е. Васильевой и др. — Москва: Изд-во им. Сабашниковых, 1998, — Т. 2. — 469 [1] с.

5. Кабакоў, Н. За клясавую выразнасьць і чоткасьць нашае літаратуры (Крытычныя нататкі) / Н. Кабакоў // Маладняк. — 1930. — №4. — С. 93—96.

6. Колер, Г.-Б., Науменко П. Аспекты и стратегии институциональной и эстетической автономизации в «малых» литературах (на материале белорусской литературы первой трети ХХ ст.) / Г.-Б. Колер, П. Науменко // Белорусская литература как модель развития «малых» (славянских) литератур: материалы к тематическому блоку на XV Международном съезде славистов (Минск, 20—27.08.2013 г.) / [составители и научные редакторы: Г.-Б. Колер, П. Науменко]. — Минск: Бизнесофсет, 2013. — С. 7—90.

7. Крапіва, К. Мядзведзічы / Кандрат Крапіва. — Менск [Мінск]: Дзяржвыд Беларусі. ЛіМ, 1932. — Кн. 1. — 203 [1] с.

8. Круглова, Т. А. Искусство соцреализма как культурно-антропологическая и художественно-коммуникативная система: исторические обоснования, специфика дискурса и социокультурная роль: автореф. дис. ... докт. филос. наук: 09.00.04 / Т. А. Круглова; [Уральский государственный университет им. А. М. Горького]. — Екатеринбург, 2005. — 59 с.

9. Навуменка, І. Я. Змітрок Бядуля / І. Я. Навуменка // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: У 4 т. / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — Т. 1. — С. 237—264.

10. Навуменка, П. Час вяртання даўгоў: Неюбілейныя нататкі з нагоды 100-гадовага юбілею / П. Навуменка // Роднае слова. — 1996. — № 3. — С. 3—15.

11. Рытаў, А. У. Сацыяльная мабільнасць насельніцтва БССР у 1920-я гады: аб'ектыўныя ўмовы і суб'ектыўныя фактары / А. У. Рытаў // Беларускі гістарычны часопіс. — 2012. — № 4. — С. 4—11.

12. Тычына, М. А. Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення / М. А. Тычына. — Мінск: Беларуская навука, 2004. — 168 с.

13. Чорны, К. Збор твораў: у 8 т. / К. Чорны. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1973. — Т. 4. — 483 [2] с.

14. Чорны, К. Лявон Бушмар / К. Чорны // Узвышша. — 1929. — № 8. — С. 5—29.

15. Чорны, К. Лявон Бушмар / К. Чорны // Узвышша. — 1929. — № 9—10. — С. 12—29.

16 Шмид, В. Нарратология / В. Шмид. — Москва: Языки славянской культуры, 2003. — 312 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 21 мая 2014 г.

**Наталля ПАХОМЧЫК**

## Беларуская вясковая проза на мяжы 1920—1930-х гг. (Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Змітрок Бядуля): наратыўны аспект

### Рэзюмэ

Артыкул прысвечаны аналізу беларускай вясковай прозы мяжы 1920—1930-х гг. з пункту гледжання таго, як наратыўная арганізацыя твораў карэлюе з тагачаснымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі. На аснове аналізу аповесці «Лявон Бушмар» Кузьмы Чорнага, раманаў «Мядзведзічы» Кандрата Крапівы і «Язэп Крушынскі» Змітрака Бядулі вядзецца гаворка пра зварот да спецыфічных наратыўных практык: наратыўна творы арганізаваныя такім чынам, што, з’яўляючыся кампраміснымі ў дачыненні да многіх ідэалагічных установак, яны, тым не менш, здольныя паставіць адназначнасць гэтага кампрамісу пад пытанне.

**Ключавыя словы:** наратыўныя стратэгіі, наратыўная арганізацыя, ідэалагічныя ўстаноўкі; час, мадальнасць, факалізацыя, дыстанцыя (жэнет).

**Natallia PAKHOMCHYK**

## Belarusian Country Prose at the Turn of the 1920—1930-s (Kuzma Chorny, Kandrat Krapiva, Zmitrok Biadulia): Narrative Aspect

### Summaru

The article deals with Belarusian country prose at the turn of the 1920—1930-s in the context of the correlation between the narrative organization of works and the ideological guidelines of the time. The analysis of the short novel «Liavon Bushmar» by Kuzma Chorny, the novels «Miadzvedzichy» by Kandrat Krapiva and «Yazep Krushynski» by Zmitrok Biadulia suggests the use of the specific narrative practices: the works are organized narratively in such a way that being of a compromise to many ideological guidelines, they are able to call the uniqueness of the compromise in question.

**Key words:** narrative strategies, narrative organization, ideological guidelines; time modality, focalization, distance (Genette).




Васіль Быкаў.
**Мёртвым не баліць.**
**Без цэнзуры.**
**Укладанне, пасляслоўе, каментарыі С. Шапрана.**
*Мн.: МЕДЫЯЛ, 2014.*

Мікола БЕРЛЕЖ

# «НАЙБОЛЬШ АЎТАБІЯГРАФІЧНАЯ» АПОВЕСЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Гісторыя аповесці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» (першая назва — «Ноч пасля свята») — гісторыя супрацьстаяння жыццёвай і мастацкай праўды з грамадска-палітычнымі рэаліямі, афіцыйнай савецкай ідэялогіяй. Напісаны ў 1964—1965 гг., твор упершыню быў надрукаваны ў часопісе «Маладосць». А пасля публікацыі ў «Новом мире» ў перакладзе на рускую мову аповесць трапіла пад рэзкую, у большыні сваёй аглабельную, безапеляцыйную крытыку і была забаронена, сямнаццаць гадоў не друкавалася. А на рускай мове дык і ўвогуле не выдавалася дваццаць тры гады.

Але ж і пры першых публікацыях, і пасля «вяртання» аповесць друкавалася ў «скалечаным» выглядзе, з улікам цэнзарскіх купюр. Лічылася, што мюнхенскае выданне 1965 г. (яно было зроблена па часопісе «Маладосць») — адзінае непадцэнзурнае выданне. Але гэта не так. Што цікава, і ў публікацыю 1982 г. былі ўнесены новыя купюры, зробленыя ўжо ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». У 1989 годзе ў «Литературной газете» ў артыкуле «Пад знакам перамен» Васіль Быкаў пісаў: «Мне, например, долгие годы не удавалось опубликовать ни одной вещи, которая бы не была испохаблена редактурой. Степень этой испохабленности зависела от многих причин, в том числе и от уступчивости автора тоже. Потому что, в конце концов, автор мог не издавать своей вещи, прекратить печатание. Но часто получалось так, что автор к моменту публикации был предельно истерзан, лишен сил и надежд, воля его была подавлена, все было немило — лишь бы закончилось поскорее…» Так і пасля «вяртання» «Мёртвым не баліць» друкавалася і друкуецца ў падцэнзурным выглядзе. Публікацыя ў 1983 г. у Зборы твораў з'яўляецца, так бы мовіць, эталоннай. А між тым, толькі па цэнзурна-рэдактарскіх меркаваннях у аповесці зроблена каля 200 купюр.

Выданне «Мёртвым не баліць. Без цэнзуры» прымеркавана да 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава, аднаўляе мастацкую і гістарычную справядлівасць. І адбылося гэта дзякуючы руплівасці ўважлівага даследчыка творчасці В. Быкава Сяргея Шапрана. Крыніцамі для яго бліскуча праведзенай працы сталі непадцэнзурны варыянт «Мёртвым не баліць» (лічылася, што ён згублены, насамрэч тэкст знаходзіцца на пастаянным захоўванні ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва) і чарнавая рэдакцыя аповесці, цудам знойдзеная малодшым сынам пісьменніка Васілём Быкавым у той кватэры ў Гродне, дзе некалі жыў Васіль Уладзіміравіч.

Што толькі не выкідвалася! Прывядзём прыклады некаторых купюр:

«І ў выніку вось — пасялковы культасветработнік. Сорак рублёў зарплата», «І культ, і яшчэ што-колечы» (гэта пасля наступных сказаў: «На вайне не дужа крывадушнічалі, гэта праўда. Але ўдарыць на поўны ўзмах не заўжды ўдавалася. Былі прычыны, якія трымалі за руку»), «З немцамі мы перажылі адно няшчасце — вайну», «Так, я ведаю, у чым тут справа. Я ўжо пачуўся аб гэтых высмактаных з пальцаў справах, якія могуць закончыцца штрафной». Амаль дзве старонкі выкрэслівання, на якіх сярод іншага і такія развагі: «Сахно быў наша няшчасце, наша кара, яго ніхто не любіў і многія баяліся. Але ў начальства, відаць па ўсім, ён карыстаўся даверам, як уедлівы спраўны службіст і, галоўнае, за сваю пастаянную жорсткасць у адносінах да людзей. У тыя часы гэтыя рысы характару лічыліся даволі каштоўнымі ў чалавеку. Начальства не дужа цікавілася, ці разумны той або іншы камандзір, ці справядлівы ён да падначаленых. Затое важнейшымі з ягоных якасцей былі патрабавальнасць і воля. Менавіта таму на вайне і цаніліся людзі жорсткія, характарныя, здольныя ў неверагодных умовах прымусіць падначаленых выканаць загад, не лічачыся ні з умовамі, ні з сабой, ні з падначаленымі…» І зноў пра Сахно: «Няўжо ён такі і павінен быць паводле ягонай пасады? Якая тады нялюдская тая пасада!», «Часы мяняюцца. Вы хацелі паесці сыта. А мы — жыць справядліва. Невялікая, але ўсё ж розніца», «Вядома, ён нахабнік і шкурнік, варты пакарання. Але калі б не той стрэл. Стрэл усё заблытаў. Гэта — забойства. А ці меў на яго права Сахно? Ці не ад бессардэчнасці тое? Ад жорсткасці? Толькі таму, што яму так зручней? Ці не заб'е ён так і мяне? І Юрку? Калі гэта спатрэбіцца?», «— А калі сволачы вынішчалі народ, вы таксама лічылі гэта справядлівым? — А гэта не нашага розуму справа! — трасе галавой Гарбацюк. І сам пачынае трэсціся. — То была дзяржаўная палітыка. Што ў ёй не так — партыя папраўіла».

Пагадзіцеся, нават пры цытаванні вырваныя з кантэксту гэтыя сказы і словы носяць шматзначны характар. Аповесцю «Мёртвым не баліць» Васіль Быкаў не проста ўскалыхнуў чытача 1960-х, пісьменнік зрабіў выклік сістэме кіравання, у якой чалавек, яго ўнутраны свет проста не браліся ва ўлік. Сістэма жорстка патрабавала выключнай выканальніцкай дысцыпліны. А ў час вайны гэтай жорсткасці яшчэ і знаходзілася апраўданне. І, зразумела, працiўнікаў у гэтай пазіцыі — і мастацкай, і грамадзянскай — знайшлося неверагодна шмат. Як і ў шэрагах гаспадароў улады, так і сярод розных сацыяльных груп у самім грамадстве. Сахно і яму падобныя — гэта не толькі асабісты, жорсткія камандзіры, «штабныя афіцэры». Сахно — сімвал беспакаранасці каманднa-адміністрацыйнага мыслення ў розных яго праявах.

Другую частку кнігі «Мёртвым не баліць. Без цэнзуры» складаюць пасляслоўі да аповесці «Там, дзе праўда» Сяргея Шапрана і яго ж каментарыі. Даследчык, які ўжо даўно зарэкамендаваў сябе дасведчаным знаўцам жыцця і творчасці Васіля Быкава, здолеў вымалеваць шырокі абсяг усіх падзей, якія справакавалі публікацыі аповесці ў «Маладосці» і «Новом мире» (найперш, зразумела, — у «Новом мире»). Чытаем у пасляслоўі Сяргея Шапрана: «Сам пісьменнік называў аповесць "найбольш аўтабіяграфічнай" з усяго створанага, а ў лісце да дырэктара музея ў вёсцы Вялікая Севярынка Лізаветы Сергіенкі пісаў у 1982 г.: "Мы освобождали Северинку (399 стрелковый полк III СД) в начале января 1944 г., помню, день провели на ее окраине, на кладбище, были бои, немцы вели огонь со стороны Кировограда. К вечеру мы свернули в степь, на гору, за реку, и ночью в степи столкнулись с немецкими танками, которые разгромили наш батальон. Я был ранен в ногу, случайно подобран своими, которые привезли меня в какое-то село (не знаю его названия), оставили в хате санчасти возле церкви, но назавтра оттуда всех нас выбили немцы, и я спасся в последнюю минуту — выполз из хаты и был подобран на последнюю повозку. Все это описано в моей повести

«Мёртвым не больно» до того места, где мои герои попадают в плен к немцам. В действительности в плен я не попал — зарылся в скирду соломы”».

Далей С. Шапран звяртае ўвагу чытача на гутарку А. Вярцінскага (дакладней, на яго артыкул) у «ЛіМе» ад 9 кастрычніка 1964 г.: «…Пытаюся пра новую аповесць.

— Пішу. Частка ўжо зроблена… Вось яна, — дастае Васіль Уладзіміравіч з шуфляды папку.

На першым лістку — план аповесці, накіданы дробным уборыстым почыркам. Асобныя тэзісы пранумараваны. На пытанне, ці ўся аповесць прадумана, вынашана, пісьменнік адказвае: “Уся”.

— І назва ўжо ёсць?

— Ёсць. “Мёртвым не баліць” — так, відаць, будзе называцца, калі не ўзнікне што-небудзь іншае…»

З прыходам да чытача аповесці «Мёртвым не баліць» пачаліся сапраўды драматычныя для Васіля Быкава гады. Сяргей Шапран падрабязна, дзень за днём, узнаўляе тыя часіны. Дарэчы, першыя водгукі (пасля «маладосцеўскай» публікацыі) былі ў цэлым станоўчыя. Васіль Буран у часопісе «Полымя» назваў аповесць «творам цікавым і хвалюючым»: «“Мёртвым не баліць” — мужнае і чэснае слова ў абарону чалавечнасці, слова ў імя памяці мёртвых і грамадзянскай смеласці і прынцыповасці жывых». Але пасля выхаду аповесці ў «Новом мире» пачалася літаральна «прапрацоўка» на мяжы з дзікунскім, напоўненым верхаглядства, цкаваннем пісьменніка. Варта зазначыць, што многія беларускія пісьменнікі вялі сябе ў дачыненні да В. Быкава прыстойна, імкнуліся шчыра выказаць свае сімпатыі да аповесці і яе аўтара. Былі і іншыя. Пра ўсё гэта ў даследаванні С. Шапрана распавядаецца досыць падрабязна. Як — і пра V з’езд Саюза пісьменнікаў БССР, які адбыўся 12—14 мая 1966 года. На прадстаўнічым творчым форуме старшыня СП Пятрусь Броўка сказаў у сваім дакладзе наступнае: «…Васіль Быкаў пісьменнік таленавіты, я ўпэўнены, зразумее сапраўдную сутнасць партыйнай крытыкі, перапрацуе свой апошні твор карэнным чынам і ў далейшым яшчэ не раз парадуе нас праўдзівымі, высокамастацкімі творамі і давядзе, што толькі творы, адзначаныя вялікаю праўдаю жыцця, усім сваім зместам служаць народу». Ад Васіля Быкава чакалі на з’ездзе пакаяння. Але дарэмна. Напрыканцы свайго грунтоўнага слова Васіль Уладзіміравіч зазначыў: «Магчыма, сказанае не ўсім падабаецца. Можа быць, замест яго каму-небудзь хацелася б пачуць ад мяне пакаянне ў духу Го Ма-жо, але ў наш час падобныя пакаянні, як гэта красамоўна засведчыў учора Макаёнак, танна каштуюць. Таму не будзем ліцамерыць. Мы не ворагі народа і не падрывальнікі асноў савецкай улады, адданасць якой у свой час засведчылі ўласнай крывёю. Да таго, мы не патрабуем незвычайнага, мы толькі просім больш цярпімасці. Пастаўце сябе на наша месца і вы зразумееце, што выбар у нас невялікі. Пытанне стаіць так: або літаратура, або нелітаратура. Сярэдзіны — няма».

Падрыхтаванае С. Шапранам бесцэнзурнае выданне «Мёртвым не баліць», самі каментарыі даследчыка выразна напамінаюць, што маштабы здзейсненага Васілём Быкавым у літаратуры вартыя ўвагі да кожнага штрыха, да кожнага дня жыцця і творчасці сапраўды народнага пісьменніка Беларусі.



*Махтумкулі.*
**З кубка вечнасці мёд.**
*Мн.: Ковчег, 2014.*

Раман БЕРАЗЕНКА

# РУЖА, ЯКАЯ НІКОЛІ НЕ ВЯНЕ

Туркменістан для Рэспублікі Беларусь стаў яшчэ бліжэй. Зразумела, маецца на ўвазе не скарачэнне адлегласці паміж дзвюма краінамі. Тут ніхто і ніколі не можа ўнесці змяненняў, удакладненняў, як было некалькі тысяч кіламетраў, так і застанецца. Гаворка ідзе пра далейшае пашырэнне творчых, а калі глядзець шырэй — культурных кантактаў, пачатак якім быў пакладзены яшчэ ў XIX стагоддзі. Спрычыніўся да гэтага, як вядома, ураджэнец Беларусі — паэт, фалькларыст, усходазнаўца Аляксандр Ходзька. Чалавек перадавы для свайго часу (уваходзіў, прынамсі, у таварыства філарэтаў), ён даследаваў туркменскі фальклор, эпас «Гёраглы», цікавіўся творчасцю пачынальніка туркменскай літаратуры Махтумкулі.

Пашырэнне ж туркменска-беларускія сувязі набылі ў савецкі час, калі ў нас выйшаў у перакладзе на беларускую мову шэраг кніг пісьменнікаў гэтай тады саюзнай рэспублікі. Сярод іх быў і томік выбранага Махтумкулі «Салавей шукае ружу», які пабачыў свет у 1983 годзе. Дарэчы, яшчэ пра Махтумкулі. Істотны такі момант: у 1970 годзе ў сталіцы Туркменскай ССР Ашхабадзе быў адкрыты яму помнік, аўтарам якога з'яўляецца беларускі скульптар Віктар Папоў.

І вось Махтумкулі чарговы раз «прыйшоў» да беларусаў: у перакладзе на беларускую мову выйшаў дыхтоўны том ягонай паэзіі «З кубка вечнасці мёд». З'явілася гэтая кніга дзякуючы туркменскаму боку, таму, думаецца, да месца сказаць, хто спрычыніўся да яе выхаду. Гэта амбасада Туркменістана ў Рэспубліцы Беларусь, Нацыянальны інстытут рукапісаў Акадэміі навук Туркменістана. Фундатар выдання — старшыня Рады дырэктараў холдынга «ЯРАВ» Эрнэст Аляксееў. З беларускага боку нямала намаганняў для таго, каб кніга з'явілася, прыклаў адказны за выданне Ганад Чарказян.

Сімптаматычна, што том выбранага Махтумкулі адкрываецца прадмовай Прэзідэнта Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедава «Махтумкулі — духоўны лекар чалавечай душы», у пачатку якой гаворыцца: «Вялікі паэт і мысліцель туркменскага народа Махтумкулі Фрагі сваёй бессмяротнай творчасцю і самім сваім імем вось ужо каля трохсот год праслаўляе туркменаў. Непераўзыдзеным застаецца аўтарытэт паэта, яго месца ў гістарычным, грамадска-палітычным і культурным жыцці нацыі. Махтумкулі сцвердзіўся ў душы народа найвялікшым спавядальнікам вечных духоўна-маральных каштоўнасцей, трывала ўвайшоў у яго свядомасць як арыенцір, які беспамылкова вызначыў, што ёсць у жыцці дабро і зло, і стаўся непагасным светачам вачэй туркменаў».

Хоць Махтумкулі і добра вядомы ў нашай краіне, як і вядома ягоная біяграфія, тым не менш да месца сказаць пра яго колькі слоў. Жыццёвы шлях Махтумкулі ўмяшчаецца ў такім прамежку часу: нарадзіўся каля 1733 года, памёр у 1780-я гады. Куды дакладней

можна сказаць пра ягоную творчасць. Захавалася больш за 10 тысяч паэтычных радкоў, а гэта вершы, паэмы, оды, элегіі. На фарміраванне светапогляду Махтумкулі, станаўленне яго як паэта немалы ўплыў аказаў ягоны бацька Даўлетмамед Азадзі — паэт і вучоны, пачынальнік туркменскай літаратуры, які, пры ўсім іншым, займаўся і тэорыяй верша. Развіццю таленту спрыяла і тое, што Махтумкулі шмат падарожнічаў, вывучаў літаратуру, фальклор Сярэдняй Азіі, Азербайджана, Ірана. А пры ўсім заставаўся патрыётам сваёй зямлі, свайго народа.

Жыў і пісаў Махтумкулі ў няпросты час, калі туркменскай дзяржавы яшчэ не было, а на гэтай тэрыторыі пражывала некалькі плямёнаў, паміж якімі існавала шмат рознагалоссяў. Замест таго, каб аб’ядноўвацца, яны яшчэ больш размяжоўваліся. Галоўнае, лічыў Махтумкулі, — «аб’яднанне туркменскіх плямёнаў». Стараўся давесці гэтую думку да свядомасці свайго народа, які ўспрымаў і называў цудоўным. Дзе толькі мог напамінаў, што толькі тады «будзе шчаслівым лёс туркменаў», калі з’явіцца ў іх свая дзяржава — моцная, непахісная, як моцныя і непахісны плямёны, якія тут жывуць. Дзяржава, якой нельга не ганарыцца.

Такую дзяржаву ён ужо бачыў у сваім уяўленні. Аднак хацеў, каб і іншыя маглі пераканацца ў тым, наколькі гэта цудоўна: Туркменія-краіна. Такая дзяржава, з якой не могуць не лічыцца іншыя дзяржавы, іншыя народы. Так у Махтумкулі нарадзіўся цудоўны верш «Будучыня Туркменіі», якім і адкрываецца кніга «З кубка вечнасці мёд»:

Ад стэпаў хазарскіх дыханнем вятроў
Авеяна ўся да Джэйхуна Туркменія.
Пяшчота вачэй маіх — ружа палёў,
Паток, дараваны гарамі Туркменіі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Плямёны жывуць тут адзінай сям’ёй,
Святкуючы свята сардэчнае «той».
Высокая доля ў Айчыны маёй,
І тлее граніт перад войскам Туркменіі.

*(Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ.)*

У XVIII—XIX стагоддзях гэты твор Махтумкулі ўспрымаўся туркменскім народам як нацыянальны Гімн. Іначай і быць не магло, бо ў ягоных радках знайшлі ўвасабленне даўнія мары і спадзяванні тых, хто хацеў дабра, справядлівасці, ладу і ўзаемаразумення з суайчыннікамі, але менавіта ў сваім дзяржаўным доме — тым доме, які можна пабудаваць толькі сумеснымі намаганнямі. Калі адпрэчыць усе рознагалоссі, зразумець, што сіла народа, нацыі толькі ў адзінстве. Туркменскі ж народ — такі народ, якім нельга не ганарыцца. З яго хочацца і трэба браць прыклад, каб і самому напоўніцца гэткай мужнасцю, адвагай і працавітасцю:

Туркмена знянацку не стрэне вайна,
І воі ўсе — ратнікі мужныя ў нас.
Тут ружы не вянуць — нідзе ні адна
Не ведае смутку пад небам Туркменіі.

Братэрства тут — звычай, а дружба — закон
Для кожнага роду, для мужных плямён,
А ворагу ўсюды — надзейны заслон,
Нязломная воля ў вояў Туркменіі.

На тое, як шмат зрабіў Махтумкулі для яднання туркменскіх плямёнаў, звяртаецца ўвага і ў прадмове Прэзідэнта Туркменістана: «Самая вялікая заслуга Махтумкулі Фрагі перад туркменскім народам — гэта яго барацьба за яднанне і асуджэнне разладу. Ужо на працягу доўгага часу шмат пакаленняў туркменскага народа выхоўвалася і выхоўваецца на яго ўроку адзінства. Жыццё сцвердзіла праўдзівасць светлых ідэй Махтумкулі, які марыў пра магутную дзяржаву».

Матывы адзінства, яднання гучаць не толькі ў вершы «Будучыня Туркменіі», а і ў іншых творах Махтумкулі. Для прыкладу, у «Птушцы шчасця»:

Хай разам дэрвішы здзяйсняюць свой намаз,
Харобрым воям хай адзін гучыць сааз.
Хай сыдзе вечная вясна на бедных нас,
Каб паквітацца нам з пакутнаю зімой!

*(Пераклад Міколы МЯТЛІЦКАГА.)*

Аднак вернемся да верша «Будучыня Туркменіі». Нават не ведаючы мовы арыгінала, лёгка ўпэўніцца, наколькі арганічна, натуральна гучыць ён пабеларуску ў перакладзе К. Камейшы. Інтуітыўна гэта адчуваеш. Дый для параўнання можна ўзяць рускамоўныя пераклады. Відочна, што планку мастацкасці К. Камейша ўтрымлівае на належнай вышыні. Дарэчы, у кнізе прадстаўлены пераклады многіх аўтараў. Сярод іх і зробленыя спецыяльна

для яе, а гэта пераўвасабленне вершаў, што па-беларуску гучаць упершыню. Значнае месца займаюць і ранейшыя пераўвасабленні. Сярод перакладчыкаў Рыгор Барадулін, Артур Вольскі, Хведар Жычка, Алесь Звонак, Анатоль Клышка, Валянціна Коўтун, Алег Лойка, Уладзімір Паўлаў, Пятро Прыходзька, Уладзімір Шахавец і іншыя.

Аднак дзеля таго, каб Махтумкулі «загаварыў» па-беларуску, асабліва парупіўся К. Камейша — ці не палова твораў у кнізе пададзена ў ягоным пераўвасабленні. Але колькасць ніколькі не нашкодзіла якасці, бо гэта зроблена пяром не толькі вядомага паэта, які добра адчувае слова, і вопытнага перакладчыка, які таксама напаўсілы працаваць не прывык. Ухвальна і тое, што К. Камейша пераўвасобіў па-беларуску living рознатэматычныя творы Махтумкулі. Гэта дазваляе добра адчуць шматграннасць яго таленту, хоць, безумоўна, у ягонай творчасці пераважаюць грамадзянскія і філасофскія творы. У тым ліку і такія, у якіх Махтумкулі задумваўся над прызначэннем паэзіі, літаратуры на зямлі.

Думкі пра гэта, зразумела, выказваў па-свойму, як у вершы «Зробяцца пяском», дзе такая доля чакае кветкі, якія апаліць віхура. Адна паэзія — вечная:

Хай вершы, як белыя Храмы, стварае паэт.  
На Храмах і вершах таксама трымаецца свет,  
Як напаўняецца нашым душэўным святлом.  
А душы святыя ніколі не будуць пяском.

*(Пераклад Віктара ШНІПА.)*

Але ніколькі не чужая Махтумкулі і лірыка кахання, у чым пераконвае, у прыватнасці, верш «Агонь каханай». Даўно напісана, а такое ўражанне, што свае пачуцці выказвае наш сучаснік:

Прыйшла — і ў сэрцы зноў цвіце вясна,  
Усмешкай, бы він ом, п’яніць яна,  
Не выпіць век мне чаркі той да дна,  
Дзе — мёд і яд адданасці каханай.

Яе вітанне — ветрыку павеў,  
Што прабягае па лістоце дрэў.  
Ці чуў калі ты больш лагодны спеў,  
Чым гэты знак пачцівасці каханай?

*(Пераклад Хведара ЖЫЧКІ.)*

Чытаючы Махтумкулі, пастаянна ловіш сябе на думцы, што так, як ён любіў свой народ, любіць яго можа толькі чалавек, які ўласным лёсам звязаны з суайчыннікамі, здатны не толькі напаўняцца іхнімі запатрабаваннямі і спадзяваннямі, а і ўспрымаць іх кроўна-блізкімі сабе. У рэшце рэшт, такія якасці ўласцівы ўсім па-сапраўднаму нацыянальным творцам, як, скажам, нашым Янку Купалу, Якубу Коласу. Яны, гэтаксама і як Махтумкулі, былі здатны выходзіць за межы свайго, нацыянальнага. У гэтым сэнсе Махтумкулі значны тым, што, будучы песняром туркменскага народа, аднолькава блізкі і зразумелы іншым народам. Гэта і адчуваеш, знаёмячыся з ягонымі творамі, у якіх, зразумела, прысутнічае туркменскі дух, адчуваецца туркменскі каларыт, але напісаны яны так, што ў многіх рэаліях пазнаеш і беларуса.

Не сённяшняга, а таго, які жыў у часы нацыянальнага станаўлення і, гэтаксама, як і лірычны герой Махтумкулі, марыў аб Беларусі будучай — свабоднай, незалежнай, шчаслівай. Таму, умоўна кажучы, творы Махтумкулі ў пэўнай ступені і пра Беларусь, а таксама пра беларусаў, беларускі народ. У такой паралелі ніякай нацяжкі. Гэта ўласцівасць паэзіі па-сапраўднаму нацыянальнай, якой аднак цесна ў нацыянальных рамках, бо яны вузкія ёй. Яна прагне выхаду на больш шырокі прастор, на новыя абсягі, што тычыцца як часавага, так і прасторавага вымярэння.

Заключная страфа верша «Будучыня Туркменіі» гучыць так:

Куды б нас шляхі пры жыцці ні вялі,  
Расступяцца горы, што ёсць на зямлі.  
Нашчадкам запомніцца Махтумкулі,  
Ён веснамі станецца роднай Туркменіі.

Гэтыя радкі ўзяты свайго роду эпіграфам да ўсёй кнігі «З кубка вечнасці мёд». Збылося пажаданне геніяльнага паэта. Сёння Туркменістан сапраўды, вобразна кажучы, прамаўляецца ягонымі вуснамі, а паэзія Махтумкулі і «з кубка вечнасці мёд», але адначасова можна сказаць, што яна — гэта і ружы, якія не вянуць ніколі. Харэством жа руж нельга не захапляцца. Застаецца толькі парадавацца, што па-беларуску выйшла такая выдатная кніга Махтумкулі, дзякуючы якой Туркменістан для нас, беларусаў, стаў яшчэ бліжэй.




*Ольга Никольская.*
**Приключения агентов «КолбаФирЖик».**
*Мн.: Пачатковая школа, 2014.*

Алесь МАРЦІНОВІЧ

## РАЗ КАЗКА, ДВА КАЗКА — ТАЛЕНТ

Няма сумнення ў тым, што маленькія чытачы, убачыўшы ў кнігарнях ці ў магазінах «Белсаюздруку» кнігу Вольгі Нікольскай «Приключения агентов «КолбаФирЖик», адразу ж звернуць на яе ўвагу. Дый як прайсці міма, калі з вокладкі пазіраюць такія добра знаёмыя хлопчыкам і дзяўчынкам па аповесці-казцы маладой пісьменніцы «Мы — агенты «КолбаФир» каты Каўбас і Кефір. Дзятва таму адразу і палюбіла гэтых чацвераногіх герояў, што, дзякуючы багатай творчай фантазіі В. Нікольскай, з імі адбываюцца на дзіва займальныя прыгоды. Адным словам, усё, як і ў казцы — нечакана, захапляльна, неверагодна. Аднак, разам з тым, як і ў жыцці. Катам гэтым таксама, як кажуць, нішто, прабачце, кацінае, не чужое. Тым больш, што Каўбас і Кефір, хоць па сваёй прыродзе каты і звычайныя, але разам з тым і незвычайныя, бо лёгка пераймаюць шмат якія людскія звычкі. Да ўсяго ўзяліся дапамагаць сваім суродзічам, якія трапілі ў бяду. Так і ўзнікла спецыяльнае Бюро, якое праз некаторы час змяніла сваю назву: было «КолбаФир», а стала «КолбаФирЖик». На гэта паўплывала тое, што ў ім з’явіўся «новый агент, спортивный, сильный, добродушный пёс Рыжик». Гэта, безумоўна, надало сябрам яшчэ большай упэўненасці ў патрэбнасці сваёй добрай справы. А пакуль яны пасяліліся ў дзядулі Цімафея Іванавіча, у якога быў вялікі і ўтульны дом. Знайшоўшы паразуменне з гаспадаром, і жылі з ім у згодзе.

Аповесць-казка «Мы — агенты «КолбаФир» мела такі вялікі поспех, што за кароткі час вытрымала два выданні. Спачатку яна выйшла асобнай кнігай у тагачаснай Рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва», а праз некалькі месяцаў пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Наклад складаў адпаведна дзве і тры тысячы экзэмпляраў, што, пагадзіцеся, для нашых дзён не так і мала. Папулярнасць аповесці была настолькі вялікая, што нават з’явіліся пірацкія асобнікі гэтага твора.

Але самім юным чытачам, безумоўна, не да гэтых нюансаў. Хлопчыкі і дзяўчынкі настолькі палюбілі персанажаў В. Нікольскай, што з нецярпеннем чакалі новай сустрэчы з імі, спадзяваліся, што ў аповесці-казкі «Мы — агенты «КолбаФир» будзе працяг. Як бачым, у сваіх спадзяваннях яны не памыліліся. Мілыя, абаяльныя каты Каўбас і Кефір, сабака Рыжык — і гэта без перабольшання, бо В. Нікольская падае сваіх персанажаў такімі, што імі проста нельга не захапляцца — ужо сваім выглядам з вокладкі (кнігу цудоўна

праілюстраваў вядомы мастак Сяргей Волкаў) упэўніваюць, што і цяпер з імі не засумуеш. Па іхніх тварах так і прачытваецца, што цікавага, неверагоднага будзе шмат. Толькі, што ніякі, нават самы «прасунуты» мультфільм не заменіць гэтую аповесцьказку, у якой, як і ў папярэдняй, усё, як і ў самім жыцці. Ды, па-ранейшаму, самая галоўная адметнасць у тым, што каты і сабака Рыжык шмат у якіх сітуацыях паводзяць сябе, як добрыя людзі. У тым сэнсе, што яны пастаянна памятаюць: як ты паставішся да іншых, так і да цябе тыя будуць адносіцца. Гэтае «ачалавечванне» галоўных персанажаў ідзе толькі на карысць. Аўтар твора напамінае дзеткам, што ў свеце ўсе мы роўныя: дзеці і дарослыя, людзі і жывёлы. І ўсім трэба жыць так, каб не сорамна было іншым глядзець у вочы.

З самага пачатку казкі В. Нікольская падкрэслівае тое, што яе героі — менавіта «браты нашы меншыя». Дый хіба можна ў гэтым засумнявацца, калі яшчэ больш даведваешся пра іхнія захапленні, пра якія ўжо згадвалася ў першай аповесці-казцы. Для прыкладу, Кефір, які захапляўся паэзіяй, сам пісаў вершы. Пры гэтым стараўся, каб усё атрымалася як мага лепш. Як той старанны школьнік, які валодае задаткамі таленту, ухіляўся ад простых рыфмаў, а падбіраў арыгінальныя, а метафарамі і рыфмамі карыстаўся складанымі. Каўбас жа, які, пры магчымасці, стараўся паказаць, што ён ні ў чым непадобны на іншых катоў, любіў, каб яго называлі містар Салямі, з задавальненнем бавіў вольны час за маляваннем. Нават марыў цягам часу стаць марыністам, каб маляваць, як Айвазоўскі, карціны якога з задавальненнем разглядаў у альбомах. Але, хоць і містарам Салямі ўспрымае сябе, не цураецца і звычайнай работы. Прынамсі, ахвотна прыбірае двор.

Гэта ўсё, па сутнасці, пралог да асноўнага аповяду ў творы. Дзеянне пачынае набіраць інтрыгу пасля таго, калі высвятляецца, што дзядуля Цімафей Іванавіч выйграў у латарэю джэкпот. Што рабіць з грашыма, што прывалілі, як тая манна нябесная, вырашалі на сямейным савеце. Усё выглядала па-боску. Не адмовіліся дапамагчы тым жыхарам гарадка Н., якія мелі ў гэтым патрэбу. Ды як жа іначай, калі жылі сябры з дзядулем непадалёку ад гэтага населенага пункта. Выдзелілі сродкі і на правядзенне рамонту ў Бюро, а таксама на падарункі сябрам. Пасля дружна прынялі не менш важнае рашэнне — сумесна адпачыць ля мора. Аб такой паездцы даўно марыў не адзін дзядуля Цімафей. Як будучаму марыністу, пабачыць мора хацелася і містару Салямі. Кефір жа гарэў жаданнем напісаць пра мора паэму. У Рыжыка быў свой інтарэс. Ён вычытаў у адным са спартыўных часопісаў пра тое, што вельмі карысныя прабежкі па марскім узбярэжжы. Апроч таго, як і кожны сабака, быў не супраць таго, каб паплаваць.

Чытаць аповесць-казку «Приключения агентов…» — адно задавальненне, хоць дзеянне спачатку разгортваецца, па сутнасці, звычайна, адбываецца тое, што і мусіць адбывацца, калі тыя, хто сабраўся адпачыць каля мора, збіраюцца ў гэтую паездку. Але ў любой звычайнасці можа быць незвычайнасць. Асабліва, калі ўсё адбываецца ў казцы, а да ўсяго аўтар твора не «вымучвае» сюжэт, а загадзя пракручвае ў памяці найбольш выйгрышныя разгортванні яго. Падбірае менавіта такія, што дазволяць унесці ў звыклы ход падзей штосьці незвычайнае.

Пачалося ўсё з таго, што дзядуля Цімафей, каб яго чацвераногія сябры ў дарозе адчувалі сябе вальней і ўтульней, вырашыў набыць кожнаму з іх білет. У выніку ўсе разам маглі пасяліцца ў адным купэ, што вельмі зручна: і ты нікому не перашкаджаеш, дый табе ніхто лішняга клопату не прыносіць. Але адразу ўзнікла неспадзеўка. Зайшоўшы ў купэ, яны ўбачылі ў ім дзяўчыну, якая сядзела і плакала. Дый не адна яна была, а з сабачкам. Ірыска, як звалі таго, аказаўся капрызным, крыклівым. Як высветліцца пазней, Ірыска і схаваў білет сваёй гаспадыні.

Выйсце знайшлі такое — каб нечаканыя «госці» ў купэ ехалі па адным з білетаў, што былі ў дзядулі Цімафея на яго сяброў.

Капрызлівасць Ірыскі і «падштурхнула» да з'яўлення ў творы эпізода, напісанага да таго па-мастацку, што майстэрству В. Нікольскай па-добраму зайздросціш. Героі казкі ў рэшце рэшт занепакоіліся, чаму Ірыска паводзіць неяк не адэкватна. Аказалася, у гаспадыні яго не было грошай, каб купіць для любімага сабачкі кансервы з ялавічыны, якія ён так упадабаў. Каб узняць настрой Ірыскі, сябры пайшлі па вагонах шукаць кансервы. У адным з іх убачылі, як адзін мужчына падхапіў з банкі апетытны кавалак ялавічыны. Але не паспеў яго праглынуць, як да яго падбег Рыжык:

«Гав-гав, гав, у-у, — пролаял он, что на собачьем языке означало: «Здравствуйте, уважаемый!»

Не медля ни секунды, за Рыжиком к мужчине поспешили Колбас с Кефиром и в один голос добавили к приветствию:

— Мя-у-у-мя, у-у-у- мяу, а-а-у-мяу…

На кошачьем языке это означало: «И мы приветствуем вас!»

Увидев пса и котов, дяденька опешил и, так не донеся вилку до рта, завыл:

— У-у… Помо…

Он еще не окончил, как друзья выстроились перед ним в шеренгу. Затем, взявшись за плечи, раскачиваясь из стороны в сторону, стали промяукивать и пролаивать мотив любимой песни Тимофея Ивановича: «Ой, цветёт калина…»

— В поле у ручья… — неожиданно подхватил басом дяденька и, выронив вилку, захлопал в ладоши».

Канечне ж, пасля такога выступлення паразуменне было знойдзена. Мужчына аддаў нечаканым «артыстам» не толькі пачатую кансерву, а і яшчэ дзве некранутыя банкі. Кансервамі падзяліліся і некаторыя іншыя пасажыры, а хтосьці даў сябрам нават вараную курыцу, нехта — цукеркі. «Ганарараў» набралася на цэлы рукзак. Дарэчы, яго таксама атрымалі ў дарунак.

Умее В. Нікольская будаваць сюжэт. Яшчэ як умее! Дый словам дасканала валодае. А яшчэ — добры псіхолаг. Ведае, чым можна зацікавіць чытачоў. Да ўсяго, што вельмі важна ў дзіцячай літаратуры, у адной асобе спалучае пісьменніка, псіхолага і педагога. Ды такога педагога, які, разумеючы, наколькі важны ў выхаванні дзяцей пэўны дыдактызм, адначасова вялікае значэнне надае даверлівасці ў гаворцы, што дапамае хутка знайсці з хлопчыкамі і дзяўчынкамі належны кантакт. А яшчэ, даводзячы важнасць пэўных маральных каштоўнасцей, ніколі не робіць гэта ў лоб. Пры неабходнасці важкая нагрузка ўскладаецца на падтэкст. Дый часам дастаткова пэўнага ўчынку, каб адчуць, хто перад табой. Як у раздзеле «Госпожа Чайкос и другие».

Адпачываючы ў гарадку, сябрам захацелася знайсці гаспадароў для беспрытульных сабак, з якімі пазнаёміліся. Каб хутчэй адкушаць новых сяброў, якія разбегліся, звярнуліся па дапамогу да белакрылых чаек. Адна з іх — Чайкос за гэта адразу паставіла ўмову: «Килограмм рыбы, подушка, золотое кольцо, одеяло и еще, и еще….» Нават забрала ў Рыжыка красоўкі «Абибас», нягледзячы на тое, што яны для яе, як кажуць, не па росце. Сквапнасць навідавоку і чытачы, безумоўна, гэта лёгка заўважаць, упэўняцца, што паводзіць сябе так нельга.

«Приключения агентов…» — твор, у падзагалоўку якога невыпадкова пазначана, што гэта не проста аповесць-казка, а «современная повесть-сказка». Усё, пра што расказваецца, цесна прывязана да сённяшняга дня. Гэта, зразумела, казачны свет, але ў ім пазнаюцца шмат якія сучасныя рэаліі. Хлопчыкі і дзяўчынкі, канечне ж, сутыкаюцца з тым, што магчыма толькі ў казцы, але адначасова і надта не адрываюцца ад рэальнасці. Безумоўна, шмат у чым гэтая аповесць-казка, як і папярэдняя, таму ўдалася, што В. Нікольская знайшла арыгінальных персанажаў. Каў-

бас, Кефір, Рыжык таму і палюбіліся дзеткам, што яны, па сутнасці, добрыя знаёмцы іх, але ў той жа час і непадобныя на іншых катоў і сабак. Прыемна і тое, што ёсць упэўненасць на новую сустрэчу з імі.

Так сцвярджаць можна, зыходзячы з завяршэння «Приключения агентов…». Калі сябры вярнуліся з Алты, дома іх чакала немалая пошта, у якой аказаўся і незвычайны ліст — ад «Агента 008 или просто кота Тимки», які хацеў уладкавацца ў Бюро «КолбаФирЖик» на работу. Хоць гэты «Агент» і зусім маленькі, але, па ягоным прызнанні, «уже сделал два добрых дела: спас птенцов от соседского кота и помог мышке найти новый дом…» Ужо гэтага сведчання — даверлівага, шчырага, непасрэднага — дастаткова для таго, каб паставіцца да ката Цімкі з сімпатыяй. Але В. Нікольская, як і ў шмат якіх іншых выпадках, не абыходзіцца і без лёгкай усмешкі. Гэтым разам яна прамаўляе вуснамі містара Салямі: «— Молодое поколение на хвост наступает, — задумчиво промяукал Колбас». Рыжык па-свойму зрэагаваў на гэта: «— Ну что, возьмем в качестве практиканта? — спытаў ён, маючы на ўвазе «Агента 008». Містар Каўбас і Кефір з такой прапановай згадзіліся, хоць іх усё ж не пакідала сумненне адносна ажыццяўлення такой задумы: як відаць было па зваротным адрасе на канверце, кот жыў недзе на Палессі. Але сумняваліся сябры нядоўга. Выхад падказаў Кефір, прапанаваўшы ў наступным годзе ажыццявіць разам з дзядулем Цімафеем новае падарожжа, гэтым разам па Беларусі. Новае ж падарожжа — і новыя прыгоды. Яны ж магчымы толькі тады, калі В. Нікольская напіша трэцюю аповесць-казку.

Што ж, застаецца толькі пажадаць таленавітай пісьменніцы далейшага творчага поспеху. Калі ж у В. Нікольскай з’явіцца яшчэ адна кніга пра чацвераногіх сяброў, то можна будзе гаварыць пра казку-трылогію для дзяцей, чаго, дарэчы, у беларускай літаратуры дагэтуль не было. Ды як у той прыказцы: лепш позна, чым ніколі. Асабліва ўхвальна тое, што такая задумка будзе ажыццёўлена прадстаўніцай маладога творчага пакалення. Гэта лішні раз сведчыць на карысць таго, што ёсць у нас каму пісаць цікавыя кнігі для хлопчыкаў і дзяўчынак.

# У ГАСЦЯХ У «КИЄВА»

Прастора беларуска-ўкраінскіх літаратурных стасункаў, на шчасце, доўжыцца. Як сведчанне гэтаму — новыя пераклады беларускай паэзіі і прозы на мову Тараса Шаўчэнкі. Вялікая падборка, у прыватнасці, надрукавана ў часопісе «Київ» (другі нумар за 2014 год). Некалькі слоў пра само літаратурна-мастацкае выданне. Часопіс выдаецца з 1983 года. Заснавальнікі — Кіеўская гарадская рада, Нацыянальны Саюз пісьменнікаў Украіны, таварыства з абмежаванай адказнасцю «Часопіс «Київ». Галоўны рэдактар — вядомы ўкраінскі паэт і празаік, старшыня Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны Віктар Баранаў. У рэдкалегію ўваходзяць Сяргей Грабар, Іван Дзюба, Іван Драч, Міхайла Камянюк, Юрый Мушкецік, Дзмітро Паўлычка, Міхайла Слабашпіцкі і іншыя аўтарытэтныя літаратары. Памер нумара — 12 умоўна-друкаваных аркушаў.

Прыблізна трэцюю частку другога за 2014 год нумара складае «беларускі сшытак» «У гасцях у «Києва» — пісьменнікі Беларусі». Адкрываецца «сшытак» гутаркай са старшынёю Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесем Карлюкевічам: назва — «З Украінаю ў сэрцы». Пытанні беларускаму літаратару задае ўкраінскі паэт, перакладчык, празаік, публіцыст Галіна Тарасюк. Друкуецца ў «беларускім сшытку» і аповесць Алеся Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца». Перакладчык — Міхайла Камянюк. Варта заўважыць, што яшчэ раней аповесць Алеся Бадака перакладзена на рускую, таджыкскую, венгерскую мовы. Вялікай падборкай з 12 вершаў прадстаўлена паэзія Навума Гальпяровіча. Ізноў жа перакладчыкам выступае Міхайла Камянюк. А Тэадэзія Зарыўна знаёміць украінскага чытача з вершамі Алега Салтука. Валянціна Давыдзенка пераклала вершы Мар'яна Дуксы. Гэтую падборку адкрывае яркі, надзвычай пранізлівы твор «Максім Багдановіч». Вось як гучыць яго пачатак па-ўкраінску: «В муках, знущаннях гвалтовних простерті, / вже від народження в горі марніють. / Де ж вона зникла — Само Милосердя, / аве Марія?/ Кволі й безсилі, з болем у грудях. / Та приголубили дитя своє мляве. / Що ж воно діэтся, що ж воно буде, / матінко аве?..» Гэтая публікацыя цікавая яшчэ і тым, што ўводзіць у кантэкст украінскай Багдановічаніяны, багдановічазнаўства новы цікавы твор. Дарэчы, што некалькі гадоў назад львоўскае выдавецтва выпусціла ёмісты багдановічаўскі том паўкраінску. Мо з часам адбудзецца яго перавыданне, дзе да месца акажацца і прысвячэнне М. Дуксы класіку беларускай літаратуры, пераўвасобленае на мову Т. Шаўчэнкі?.. Будзем вельмі на гэта спадзявацца. Тым болей, што Максім Багдановіч — не чужы Вялікаму Кабзару, Украіне мастак слова. Успомнім хаця б такія артыкулы аўтара «Вянка» — «Памяти Шевченко», «Краса і сила. Спроба дослідження вірша Т. Г. Шевченко».

У «беларускім сшытку» «Києва» — і вершы Віктара Шніпа, якія пераклала Галіна Тарасюк. Адзін з твораў — «Балада пра Тараса Шаўчэнку». «З боліт петербурзьких на Україну / він знову іде трактом білоруським. / І згадує невільну батьківщину, / і дивиться,

як янголами будзьки/ кружляють світло понад сірим полем…». Яшчэ раней — у 2004 годзе — «Балада пра Тараса Шаўчэнку» Віктара Шніпа была надрукавана ў кнізе «Шаўчэнкава дарога ў Беларусь» (выдадзена ў Львове; укладанне Рамана Лубкіўскага). Але ж тая публікацыя — у іншым перакладзе.

Для другога нумара «Києва» сем вершаў Таццяны Сівец пераклалі Алеся Сандыга і Галіна Тарасюк. Апавяданне Алены Брава «Спектакль у «Чорным тэатры» друкуецца ў пераўвасабленні Галіны Тарасюк. Уладзімір Даніленка пераклаў апавяданне Ягора Конева «Суддзя Станкевіч і Тарэза Феміды». Завяршаюць «беларускі сшытак» вершы маладой паэтэсы Ніны Шчарбачэвіч, якая яшчэ толькі пачынае свой шлях у літаратуру: дзесяць яе твораў пераклаў Пятро Сялецкі.

У тым, што склаўся такі «беларускі сшытак» «У гасцях у «Києва» значная роля належыць Галіне Тарасюк. Яна, як ніхто, уважлівая да сучаснай беларускай літаратуры. Сябруе з многімі беларускімі пісьменнікамі. Творы яе ці надрукаваны ці рыхтуюцца да друку ў «Літаратуры і мастацтве», «Полымі». Пісьменніца — адна з аўтараў беларуска-ўкраінскага тома «Золотая струна» ў серыі «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Украіна». Летась, у 2013 годзе, удзельнічала ў міжнародным «круглым стале» пісьменнікаў розных краін у пярэдадзень Дня беларускай пісьменнасці ў Быхаве, на Магілёўшчыне. Несумненна, «беларускі сшытак» «Києва» — праект, які будзе мець працяг. У апошнія месяцы толькі ў «ЛіМе» з расповедам пра сучасную ўкраінскую літаратуру, стан і перспектывы беларуска-ўкраінскіх мастацкіх стасункаў выступілі ўкраінскія пісьменнікі Аляксей Кананенка, Яраслава Паўлычка, Канстанцін Канавалаў, Галіна Тарасюк. У сваю чаргу газета «Літературная Україна» ахвотна прадаставіла свае старонкі беларускім аўтарам.

Так, сёння Украіна, украінскі народ перажываюць няпростыя часіны. Але ж прыйдзе той момант, калі ўсё супакоіцца, — і, несумненна, тады яшчэ з большай імклівасцю будуць пашырацца, развівацца стасункі нашых літаратур. Класікі беларускага прыгожага пісьменства Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч выклалі ў сваіх творах запаветы пабрацімства беларусаў і ўкраінцаў. І сёння нам проста нельга не следаваць у рэчышчы выкладзеных раней запаветаў, сімвалаў і вобразаў. А напрыканцы хацелася б прывесці такі факт. «Запавет» Тараса Шаўчэнкі пераклалі на беларускую мову Макар Краўцоў, Янка Купала, Змітрок Бядуля, Максім Танк, Рыгор Барадулін, Васіль Жуковіч, Вячаслаў Рагойша, Яўген Міклашэўскі, Валерый Стралко, Таіса Мельчанка. Упэўнены, што цягам часу «Запавет» загучыць у новых перакладах маладых творцаў Беларусі.

***Кастусь ХАДЫКА***

# ЖНІВЕНЬ



1

З. Сымона Музыкі

Бліснуць у [illegible] вячэрнія зоры,
Зямлю чуць абвее таемная ціша,
Імя тваё ў сэрцы мне думка напіша,
Імя тваё скажуць мне тыя прасторы,
Дзе срэбраны серп аглядае узвышша,
І вочы твае мне паказваюць зоры.

Калі ясным ранкам адвечнае сонца
Запаліць у росах мільёны вясёлак, —
Я чую твой голас у шолаху зёлак,
Я чую твой голас у спевах бясконцых
Траў прыбярэжных, дзе [illegible] волак,
І ўсмех твой ясны адсвечвае сонца.

І поўдзень, і вечар, і ззянне зарніцы,
Прасторы надзем'я, рачныя далі, —
І ломанцы [illegible] сустрэчаных хвалі
Пакінуць мне вобраз твой след бліскавіцы,
З табою я ў шчасці, з табою і ў жалю,
Ты ўсюды мне ззяеш бліскаваннем зарніцы.

Том чацвёрты, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1952 г.
„Сымон Музыка"
Стр. 423.

Якуб Колас

* * *

**У 1923 годзе** ў часопісе «Полымя» пачалася практыка здваення нумароў пры захаванні ранейшага аб'ёму. Трэці аб'ядналі з чацвёртым, пяты з шостым. Сёмы нумар стаў адначасова і **восьмым**. У ім, сярод іншых матэрыялаў, можна знайсці паведамленне пра тое, што Купала рэдагуе свае зборнікі «Жалейка» і «Гусляр» у сувязі з падрыхтоўкай да выдання першага Збору твораў, а Колас пачаў перарабляць сваю паэму «Сымон-музыка» (першая рэдакцыя твора была напісана ў 1911 — 1918 гадах). Прычым, як сведчыць «Полымя», «*паэт пакідае толькі канву паэмы, а ўсё іншае мяняе*». Трэба думаць, праца была напружанай, улічваючы і той факт, што выдавецтва «Савецкая Беларусь» ужо ўключыла яе ў свой план на 1924 год.

Па ходзе напісання паэмы Колас чытае ўрыўкі з яе сваім знаёмым, у прыватнасці, тагачаснаму рэдактару газеты «Беларуская вёска» Радзівону Шукевічу-Траццякову. Калі чарга даходзіць да страфы:

Раз сышла з нябёс вясёлка
І ступіла на зямельку
Ды ўраніла там кудзельку,
Кудры светлыя анёлка,
На зямлю-пасцельку,

у Шукавіча незадаволенасць выклікае ўжыванне царкоўнага слова «анёлак». У выніку гэты радок Колас перапрацоўвае на: «Кудры ранішняга золку», хоць першы варыянт, несумненна, гучыць больш вобразна і зрокава ўяўна.

8 ліпеня 1924 года Колас радасна піша сваёй жонцы Марыі Дзмітрыеўне з Кіславодска: «Учора я, Марусенька, закончыў «Сымона-музыку», і, здаецца, закончыў не кепска. Вось прыеду дадому і параюся з табою. Заўтра ўжо дам грошы, каб купілі мне білет. У сераду 16 выеду з Кіславодска. Буду ехаць цераз Маскву. У Маскве запынюся на дзень, на два. Можа хіба білет дастаць будзе трудна, то прыйдзецца счакаць. Але я думаю папрабаваць узяць да Мінска білет адгэтуль».

Аднак у Мінск Колас вярнуўся без паэмы. 14 жніўня 1924 года ён пісаў Якаву Бязмену, настаўніку Туміловіцкага народнага вучылішча Барысаўскага павета, разам з якім у 1908 годзе Віленскай судовай палатай быў асуджаны да трох гадоў турэмнага зняволення (між іншым, Якаў Бязмен стаў прататыпам Сымона Тургая з трылогіі «На ростанях»): «Дарагі Якубе! На ст. Ціхарэцкая мяне абакралі, укралі паміж іншым і маю паэму ў рукапісе «Сымон-музыка». Паэма перароблена, а ў мяне ніякіх слядоў ад яе не засталося. Мне пісалі з Растова-на-Д<оне> (агент ГПУ), што частка рэчаў і ў тым ліку і рукапіс знойдзена. Да гэтага часу ніякага адказу на мае запытанні і тэлеграмы няма. Вось я і прашу цябе, калі гэта не так далёка і зручна табе, навядзі ты спраўкі на ст. Растоў-на-Д<оне> у агента ГПУ Мажарава».

На жаль, на самай справе, рукапіс паэмы так і не быў знойдзены. «Памятаю, што ў нас дома ўсе ўспрынялі гэтую страту, як вялікае няшчасце, — прызнаваўся сын паэта Даніла Міцкевіч. — Бацька многае аднаўляў у памяці, часамі памагала і мама, якой першай чыталася паэма».

Нарэшце, да 2 чэрвеня 1925 года трэцяя рэдакцыя паэмы была закончана. У «Полымі» двойчы (№ 2 і № 4—5) друкаваліся ўрыўкі з яе, а ў канцы мая таго ж 1925 года паэт нарэшце здаў «Сымона-музыку ў выдавецтва.

* * *

У **жнівеньскім** нумары «Полымя» за **1931 год** дваццацішасцігадовы Юрка Гаўрук друкуе падборку вершаў Паўло Тычыны ў сваім перакладзе. Гэта яго творчы дэбют у часопісе, хоць на той час імя Гаўрука ўжо добра вядома ў літаратурных колах, ён аўтар першай у Беларусі кнігі паэтычных перакладаў «Кветкі з чужых палёў», якая выйшла ў 1928 годзе і змяшчала творы Байрана, Шылера, Бадлера, Міцкевіча, Гётэ і іншых славутых паэтаў. Прычым, у адрозненне ад пазнейшай практыкі, у нашай, ды і не толькі нашай літаратуры, калі пераклады з-за няведання мовы арыгінала часта рабіліся, у лепшым выпадку, з падрадкоўніка, у горшым — з гатовага перакладу на рускую мову, Юрка Гаўрук карыстаўся толькі арыгіналам. Французскую мову



*Кузьма Чорны і Юрка Гаўрук. 1927 г.*

ён няблага ведаў яшчэ са школы, іншыя вывучаў самастойна.

Пазней у сваёй аўтабіяграфіі Юрый Паўлавіч пісаў, прыгадваючы пачатак 20-х: «На гарышчы пакінутага панскага дома я знайшоў кучу французскіх і польскіх кніг, частку іх я забраў. Мне вельмі хацелася прачытаць гэтыя кнігі, і я пачаў вывучаць замежныя мовы, карыстаючыся слоўнікам. Граматычныя асновы французскае, нямецкае і польскае мовы мне былі вядомы, але, каб зразумець тое, што чытаеш, трэба было ўзбагаціць слоўны запас. З вялікім захапленнем я прачытаў у арыгінале раман Віктора Гюго «Сабор парыжскае божае маці». Кожнае незнаёмае слова падкрэсліваў, а яго значэнне выпісваў на палях кнігі, потым гэтыя мясціны па некалькі разоў перачытваў, пакуль не даходзіў да сэнсу, і тады слова само ўядалася ў памяць. Напружанне ўвагі было такім, што мне нават сніліся персанажы гэтага рамана і я чуў іх французскую гаворку. Раман Гюго я чытаў доўга, а калі нарэшце закончыў — гэта была перамога. Далей пайшло лёгка. Англійскую мову я вывучаў з дапамогай настаўніцы. Была ў Слуцку адна дзіўная бабуля, жонка кальвінскага пастара Курнатоўскага, яна ведала многія мовы і давала прыватныя ўрокі. Гады былі трудныя, плату яна брала невялікую, хто колькі дасць, і нейк да мяне вельмі прывыкла. Бывала, сядзе ў крэсла, пачне вязаць панчоху, а я чытаю ёй уголас Шылера ці які-небудзь англійскі тэкст, калі чаго не разумею, спыняюся. Яна мне тлумачыла, часцей па-французску альбо па-польску, рускую мову яна ведала слаба… Абудзілася ў мяне ў гэтыя гады і цяга да творчасці, лёгка пісаліся вершы на ўзор прачытаных, але я іх тады ж спаліў, саромеючыся каму-небудзь паказваць».

Вершы пісаць Юрка Гаўрук не кінуў. Аднак менавіта перакладчыцкая дзейнасць стала для яго сэнсам усяго жыцця.

* * *

У **№ 8** за **1947 год** «Полымя» друкуе даклад тагачаснага старшыні Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі Міхася Лынькова, з якім той выступіў на пісьменніцкім сходзе 12 чэрвеня. Гаворачы аб стане тагачаснай беларускай прозы, Лынькоў абышоўся без гучных слоў і камплiментаў: «*Алесь Стаховіч закончыў першую кнігу свайго рамана аб аднаўленні беларускай вёскі на новай, пашыранай аснове. Макар Паслядовіч напісаў аповесць аб будаўніках аўтамабільнага завода. Напісаны новыя творы, прысвечаныя аднаўленню калгаснай вёскі. Гэта аповесць «Станаўленне» Усевалада Краўчанкі, «Гарачы жнівень» і другія апавяданні Івана Мележа, апавяданні маладых празаікаў, якія толькі-толькі прыйшлі ў літаратуру: Аляксея Кулакоўскага, Івана Шамякіна, Міколы Лобана, Янкі Брыля, Міколы Лупсякова, Івана Грамовіча, Паўла Кавалёва — усёй гэтай здольнай літаратурнай моладзі, якая дае нам усе падставы спадзявацца, што яна ўзніме нашу мастацкую прозу на вышэйшую ступень, выведзе яе з пэўнага адставання, якое адбылося ў выніку вялікіх страт беларускай прозы, панесеных за параўнальна кароткі час. Я маю на ўвазе страту Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага, Эдуарда Самуйлёнка, Хвядоса Шынклера, асноўных празаічных кадраў нашай літаратуры ў нядаўні час*». Зразумела, Лынькоў меў на ўвазе, хоць пра гэта не мог сказаць з трыбуны, і іншыя імёны — рэпрэсіраваных празаікаў: Максіма Гарэцкага, Цішкі Гартнага, Міхася Зарэцкага, Андрэя Мрыя, Платона Галавача… А пра тое, што беларускай прозе вельмі не хапае цікавых твораў, яму даводзілася гаварыць не раз. Напрыклад, 27 снежня 1945 года на пашыраным пленуме Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі Міхась Лынькоў мусіў заявіць, што айчынная проза «небагатая сёння ні колькасна, ні якасна» і што «кадры празаікаў надзвычай мізэрныя».

Успамінаючы той час, Іван Шамякін прызнаваўся («Нёман», №1, 1995 год): «Нас, пісьменнікаў, членаў Саюза, было 70 чалавек, і «Полымя» зрэдку здвойвала нумары з-за адсутнасці рукапісаў».

Але пройдзе не так і шмат часу, і чарга з рукапісаў, прынятых да друку, пачне расцягвацца на доўгія месяцы…

* * *

У невялікай нататцы «Два юбілеі» часопіс «Полымя» за **жнівень 1965 года** расказвае аб тым, як у рэспубліцы адзначылі шасцідзесяцігадовыя юбілеі Петруся Броўкі і Пятра Глебкі. Абодва былі ўзнагароджаны ордэнам Леніна, ушанаванне абодвух праходзіла ў лепшых залах Мінска.

Вось што пісала «Полымя» пра вечарыну тады ўжо народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі: «*У памяшканні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбыўся вечар, прысвечаны юбіляру. У тэатры сабраліся рабочыя і студэнты, калгаснікі і вучоныя, пісьменнікі, артысты і мастакі… Сакратар ЦК КПБ С. О. Прытыцкі зачытаў прывітанне юбіляру ад Цэнтральнага камітэта КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў рэспублікі… Ад імя праўлення Саюза пісьменнікаў СССР да юбіляра з сяброўскім словам звярнуўся Георгій Маркаў. Віншаванні пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі перадаў Анатоль Сафронаў. З прачулым словам любві да гераічнай беларускай зямлі і яе сына-паэта выступіў лаўрэат Ленінскай прэміі ленінградзец Аляксандр Пракоф'еў… Віншаванні Петрусю Броўку прыслалі К. Т. Мазураў, Ш. Р. Рашыдаў, А. Ю. Снечкус, касманаўт Г. Цітоў, з Вешанскай прыйшла тэлеграма ад М. Шолахава*».

А вось — пра тое, як адзначалася 60-годдзе Пятра Глебкі: «*Грамадскасць рэспублікі шырока адзначыла юбілей выдатнага паэта і драматурга, грамадскага дзеяча, акадэміка АН БССР Пятра Фёдаравіча Глебкі. У памяшканні Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага адбыўся вечар… Сакратар ЦК КПБ Ф. А. Сурганаў зачытаў прывітанне юбіляру ад Цэнтральнага Камітэта КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў рэспублікі… З сардэчным віншаваннем у адрас юбіляра выступілі: сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Берды Кербабаеў… ад Саюза пісьменнікаў РСФСР Франц Таурын і Ягор Ісаеў, ад Саюза пісьменнікаў Украіны Васіль Казачэнка, ад пісьменнікаў Ленінграда Марыя Камісарава, ад пісьменнікаў Латвіі Еранім Стулпан і іншыя. Юбіляру даслалі віншавальныя тэлеграмы Канстанцін Федзін, Мікалай Ціханаў, Уладзімір Салаухін, Паўло Тычына, Цеафіліс Цільвіціс, Георгі Леанідзе, Андрэй Лупан*».

Пройдзе час, і Пятрусь Броўка атрымае званне Героя Сацыялістычнай Працы, будзе двойчы адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

Пятра Глебкі не стане ў 1969 годзе. Ён яшчэ паспее патрымаць у руках першы том свайго трохтомнага збору твораў.

Але больш чым за сорак гадоў актыўнага творчага жыцця Пятро Глебка так і не атрымае ніводнай літаратурнай прэміі ці звання. Праўда, некалькі пакаленняў беларускіх школьнікаў будзе вучыць на памяць яго верш «Пасылка», аналізаваць каля дошкі яго паэму «Мужнасць», аднак сёння імя Пятра Глебкі ў школьных падручніках увогуле знайсці вельмі цяжка.

Крыху больш пашанцавала ў гэтым плане Петрусю Броўку, хоць цяпер яго біяграфію і творчасць у школе вывучаюць у непараўнальна меншым аб'ёме.

Што ж, час прыходзіць і час сыходзіць, забіраючы з сабою тых, каго сам нядаўна ўзводзіў на вяршыню Алімпа. Іх месцы займаюць іншыя. І многія з іх нават не здагадваюцца, што займаюць — часова.

***Архіўныя нумары «Полымя» гартаў Алесь МАЛІНОЎСКІ.***